ГОД X СТУДЗЕНЬ-СЬНЕЖАНЬ № 70-75
1956 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



Касьцёл сьв. Казімера ў Вільні з XVII ст.

**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année X. № 70-75 Janvier - Decembre 1956
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup>e</sup>

**Гэты нумар выходзіць як гадавік і цана яго роўная падпісцы за цэлы год — 350 фр.**

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, Buenos Aires.

У БЭЛЬГІІ:

M. l'Abbé Czerniaüski François, Michelse 202. LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover. in Goslar,

## КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа! Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.
Карта Беларусі — 40 фр. 1 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Балота бяз чорта ня бывае.
Бацькаў клён (праклён) страху зрывае, а мацярын хату з карэньнем выварачае.
Бацькаўскае шчырае багаславеньне і ў агні не згарыць, і ў вадзе ня ўтопіцца.
Бачаньнем жорава ня зловіш. Дакор таму, хто ня дзейнічае.
Бачыць Бог з неба, чаго каму трэба.
Баючыся трэску і ў лес ня трэба хадзіць.
Баязьліваму і корч мадзьведзь.
Баязьліваму і свой цень страшан.
Баяцца няшчасьця і шчасьця ня пытаць.
Бедавальнікаў многа, а ратавальнікаў мала.
Бедны можа быць багачом, а багач бедным.
Без каманды войска гіне.
Б'емся сварэмся, але свайго берагу дзяржэмся.
Бі сароку і варону, даб'ешся да белага лебедзя.
Рада не легкаважыць нічога на пачатку.
Бога не забывай, чужых грахоў не перасуджвай.
Бог, будучы Богам, больш цярпеў за нас.
Бог бярэ, Бог дае.
Бог ведае, што робіць.
Бог зароджвае пшаніцу, а чорт куколь сее.
Бог засмуціць, Бог пацешыць.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год X. СТУДЗЕНЬ-СЬНЕЖАНЬ 1956 г. № 70-75


# Апостальскі Пасад

Кожны раз, калі азначаюцца ўгодкі каранацыі сусьветнага архірэя — Папы Рымскага, стаецца актуальнаю самая ўстанова папства. І тады ўва ўсім сьвеце можна назіраць, сьцьверджаны самым Хрыстом факт, што як калісь асоба Хрыста, так сёньня асоба Ягонага намесьніка, ўсьцяж астаецца тым каменем, аб які шмат хто спатыкаецца і разьбіваецца (Мат. XXI, 44). У дзень ўгодкаў Сьвяцейшага Айца адны ўзносяць свае малітвы да Усявышняга, каб захаваў кожначаснага папу на доўгія годы і каб узмацняў яго кіруючую руку; а іншыя — выкарыстаўваюць гэтыя ўгодкі на тое, каб знайсьці нейкую зачэпку для нападаў на самую ўстанову папства.



З гісторыі Царквы больш або менш пэўна ведама тыя япіскапскія пасады, якія заснавалі апосталы, а з царкоўнае традыцыі ведамыя гарады, дзе апосталы закончылі свае жыцьцё, аднак з усіх япіскапскіх пасадаў, заснаваных апосталамі толькі Рым — мейсца апошніх гадоў жыцьця і сьмерці апостала Пятра — завецца Апостальскім Пасадам. У Божых плянах кіраваньня сьветам нічога няма прыпадковага, тымбольш ня можа быць прыпадковасьці ў арганізацыйных формах збаўленьня людзкіх душаў.

Гэта змушае нас адсьвяжыць у памяці важнейшыя факты з устанаўленьня Хрыстовага Намесьніка і ўсьведаміць іх значэньне.

Падчас туземнага жыцьця Хрыстос ня толькі навучаў людзей, рабіў цуды, але так-жа рабіў усё неабходнае для таго, каб увекавечніць сваё дзела збаўленьня людзтва. Ён палажыў арганізацыйныя падваліны для тае ўстановы, якой пераказаў сваю навуку і перадаў усё неабходнае для збаўленьня людзкіх душаў — гэтаю ўстановаю ёсьць Каталіцкая (паўсюдная) Царква з намесьнікам Хрыста на чале.

Дзеля нязвычайнае важнасьці Царквы, яе Хрыстос арганізаваў так, каб зьвярнуць увагу ўсіх людзей прынамся на асабліва важныя дзейнікі. Такім дзейнікам у першую чаргу ёсьць кіраўніцтва Царквы дзеля яе ерархічнае арганізацыі.

Ужо на самым пачатку свае туземнае дзейнасьці Хрыстос вызначыў выразную іерархічную драбіну кіраўніцтва Царквы. Ён спачатку выбраў 12 апосталаў для спэцыяльнага пасланства, таму і назваў іх апосталамі г. зн. пасланцамі, а далей выбраў 70 іншых вучняў, так-жа апосталаў, але з меншым адказным заданьнем і з меншымі паўномоцтвамі.

Галавою і апосталаў і ўсіх сваіх пасьлядоўнікаў падчас туземнага жыцьця быў сам Хрыстос. У разьвітальнай мове Хрыстос зьвярнуў увагу апосталаў на гэты факт: «Ня вы Мяне выбралі, але я выбраў вас» (Ів. XV, 16). Наагул старшынства ў Царкве ў форме аднаго зьверхніка было для апосталаў на толькі самазразумелым, што яны агулам не ўяўлялі іншае формы арганізацыі Царквы. Дзеля гэтага некалькі

разоў між імі вырынала пытаньне, хто будзе старшым над імі пасьля таго, як ня стане Хрыста (Мат. XX, 27; Мар. IX, 34; Мар. X, 44). Таму Хрыстос адразу намячае свайго намесьніка і, каб зьвярнуць увагу на асаблівае становішча намесьніка, Хрыстос канчаткова ўстанаўляе яго не адразу, а паступова, і выбірае не таго, каго паклікаў першага — гэткім быў ап. Андрэй, і не таго, каго больш любіў — любімцам Хрыста быў ап. Іван, і не таго, хто азначаўся асаблівай асьветаю, а звычайнага рыбака — апостала Сымона сына Іоны. Хрыстос вырозьніў яго дразу тым, што перамяніў яму імя з Сымона на Пятра (пагрэцку гэта значыцы скала). Ад таго мамэнту ўва ўсіх сьпісках апосталаў ап. Пятро заўсёды знайходзіцца на першым мейсцы.

У трэцім і апошнім годзе свае публічнае дзейнасьці Хрыстос больш выразна вызначыў спаміж апосталаў свайго будучага намесьніка. Аднойчы Ён спытаў апосталаў, за каго Яго лічаць людзі. Апосталы пераказвалі Хрысту тое, што чулі. «А вы за каго Мяне маеце?». Ап. Пятро адказаў: «Ты Хрыстос, Сын Бога жывога». Тады Ісус сказаў яму ў адказ: «Шчасьлівы ты, Сымон сын Іоны, бо ня цела і кроў аб'явілі табе, але Айцец Мой, што ў нябёсах. І я кажу тебе, што ты ёсьць Пятро (скала) і на гэтай скале збудую Царкву Маю і вароты пякельныя не перамогуць яе. І дам табе ключы Валадарства нябеснага і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана і ў небе; і што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана і ў небе» (Мат. XVI, 15-19). Гэтую абяцанку перадачы ключоў Божага Валадарства ап. Пятру суправаджала вельмі вымоўная падзея. Адразу-ж пасьля тае размовы з апосталамі Хрыстос аб'явіў ім, што Ён будзе мусіць перацярпець мукі і сьмерць. Тады ап. Пятро, адвёўшы Хрыста, пачаў Яго намаўляць: «Пашкадуй сябе, Госпадзе, няхай ня станецца Табе гэта!» І Хрыстос адазваўся да свайго выбранага апостала, якому хвіліну перад тым абяцаў перадаць усю ўладу над Царквою: «Адыйдзі ад Мяне, шатан! Ты для Мяне спакуса, бо ня думаеш аб тым, што Божае, але што чалавечае» (Мат. XVI, 21-23).

Пасля гэтых слоў нехаця кожны сябе можа спытацца: як-жа можна абяцаць ключы нябеснага Валадарства такому апосталу, які з вуснаў Госпада заслужыў аж на так востры дакор!? Адказ на гэтае пытаньне ёсьць у самым-жа дакоры. Хрыстос дакарае ня толькі ап. Пятра, але агулам кожнага чалавека за тое, што ў сваіх меркаваньнях забываецца аб тым, што Божае, або яшчэ горш, калі нават аб тым што Божае думае толькі палюдзку. Дзеля гэтага потым Хрыстос паслаў спэцыяльную помач Сьвятога Духа ўсім апосталам, каб такіх памылак не рабілі. Хрыстос, як Бог, ведае добра ўсе людзкія слабасьці, але Ён так-жа добра ведае, што можа людзкая воля, узмоцненая боскаю ласкаю, таму Ён і пасьля дакору ап. Пятра вырозьніваў яго, каб уканцы споўніць сваю абяцанку і даручыць яму кіраўніцтва Царквою. У разуменьні, або лепш кажучы у неразуменьні гэтае дзейнасьці Хрыста для шмат каго пачынаецца тое раздарожжа, ад якога расходзяцца блудныя шляхі ўсіх расколаў і сэктаў. Людзі, якія нават і аб Божых справах думаюць толькі палюдзку, пачынаюць быццам дакараць Бога: як гэта магчыма, каб сьмяротнаму, слабому чалавеку даручыць такія боскія паўнамоцтвы, як кіраваньне ўсёю Царквою!? Шмат хто ня хоча зразумець тае праўды веры, што нават сам Бог, каб збавіць чалавека прыйшоў на зямлю ў гіпостатычным злучэньні Бога і чалавека, а калі дае чалавеку нейкае даручэньне, дык дае да таго адпаведную помач.

Пасьля дакору адносіны Хрыста да ап. Пятра не зьмяніліся. Калі зборшчыкі падаткаў зьвярталіся да Хрыста праз апосталаў з запытаньнем, ці Ён заплаціць падаткі, дык Хрыстос даручае ап. Пятру злавіць рыбу, выняць у яе з рота манэту і аддаць падатак за іх двох (Хрыста і ап. Пятра) (Мат. XVII, 27). Тут Хрыстос узьняў становішча ап. Пятра з праўнага гледзішча вельмі высока.

Збліжаўся час крыжовае мукі. Хрыстос падрыхтоўваў апосталаў да гэтае страшнае падзеі і тады першы раз зьвярнуўся да ап. Пятра з перасьцярогаю і адначасна з асаблівым даручэньнем: «Сымон, Сымон! вось шатан пажадаў, каб вас прасеяць як пшаніцу, але Я маліўся за цябе, каб не змалела вера твая і ты некалі навярнуўшыся, уцьвярджай братоў тваіх» (Лук. XXI., 31-32). У адказ ап. Пятро з характэрным для яго жарам запэўнавіў Хрыста, што каб нават меў умерці, дык Яго ня выраччацца. Але Хрыстовае прадсказаньне збылося: яшчэ тае-ж начы ап. Пятро тройчы адрокся ад Хрыста, аднак адразу апамятаўся і горка плакаў над сваім упадкам.

Пасьля ўваскрасеньня Хрыстос неаднойчы зьяўляўся апосталам, дадаткова навучаў іх, даў ім ласку разуменьня Божых рэчаў, даў уладу адпушчаць або затрымоўваць грахі, а ап. Пятра ўстанавіў ува ўсіх яго прывілеях, даручаючы яму кіраўніцтва над усёю Царквою, і зрабіў гэта ў такой форме, каб яшчэ раз зьвярнуць агульную ўвагу. Хрыстос тройчы пытаўся ап. Пятра, ці ён любіць Яго больш як іншыя і на сьцьвярджальныя адказы даручыў пасьвіць і «ягнят» і «авец» (Ів. XXI, 15-17). У гэтым даручэньні Хрыста ёсьць вельмі выразнае ўказаньне, што ап. Пятро мае заняць тое становішча вярхоўнага «добрага Пастыра», якое да гэтага часу займаў Ён сам, ня раз называючы сябе: «Я пастыр добры» (Ів. X. 11, 14). Вось-жа асаблівае становішча апостала Пятра, а тым самым і ягоных наступнікаў, ёсьць установаю Божаю і як такая яна мусіць успрыймацца людзьмі.

Спачатку нават сам ап. Пятро ня быў упоўні сьведамы ўсяе тае ўлады і адказнасьці, якую да-

ручыў яму Хрыстос і таму пасьля таго, як Хрыстос узьнёсься на неба ап. Пятро пачаў выконваць свае абавязкі з вялікаю асьцярожнасьцю. Ён прапануе выбраць дванаццатага апостала на мейсца Юды (Дзеян. Ап. 1, 20-26). Апосталу Пятру зьяўляецца выразны знак з неба, каб хрысьціць паганаў і ён першы пачаў іх хрысьціць (Дзеян. Ап. X.). Да яго зьвярнуўся Сауло-Паўло пасьля свайго наверненьня. Аб гэтым ён сам кажа: «Пасьля цераз тры гады я хадзіў у Ерузалім бачыцца з Пятром і прабыў у яго пятнаццаць дзён. Другога-ж з апосталаў я нікога ня бачыў, акрамя Якава, брата Гасподняга» (Галат. 1, 18-19). Вось-жа ап. Павал лічыў, што дзеля апостальскае дзейнасьці было зусім выстарчаючае тое, каб пабачыцца з ап. Пятром. Гэткаю-ж мусіла быць агульная думка ў першых хрысьціян.

Апошнія гады свайго жыцьця ап. Пятро правёў у Рыме і там памёр на крыжы ў 67 г., пахаваны на Ватыканскім узгорку, дзе цяпер стаіць базыліка ягонага імені.

Ад таго часу Рым стаўся сталіцаю наступнікаў вярхоўнага апостала — Апостальскім Пасадам. Нядаўныя раскопкі пад базылікаю ап. Пятра ў Рыме прынесьлі новыя доказы на пацьверджаньне хрысьціянскае традыцыі, што гроб вярхоўнага апостала сапраўды знаходзіцца пад базылікаю.

Вызначыўшы прынцып вярхоўнага кіраўніцтва свае Царквы і назначыўшы асобу свайго Намесьніка, Хрыстос не азначаў арганізацыйных формаў вярхоўнага кіраўніцтва, таму яно на працягу вякоў прымала формы адпаведныя да вымогаў часу — гэта ёсьць той людзкі элемэнт у Хрыстовай Царкве, які падлягае зьменам. Афіцыяльныя назовы Хрыстовага Намесьніка так-жа ня былі заўсёды аднолькавымі, а сёньня іх ёсьць некалькі: Сусьветны Архірэй — тытул, які выказвае ягонае становішча адносна іншых ерархаў; Сьвяцейшы Айцец — веліч і сьвятасьць становішча; Папа Рымскі — мяйсцовую традыцыю.

Ужо мінула больш дзевятнаццаці стагодзьдзяў ад часу заснаваньня Царквы і ўстанаўленьня папства. За гэты час да вышэйпералічаных доказаў ягонага боскага ўстанаўленьня дайшоў яшчэ адзін доказ з гісторыі, якая вымоўна сьведчыць, што Бог заўсёды ўспамагаў рымскіх папаў у кіраўніцтве Царквою незалежна ад іх прыродных здольнасьцяў і праведнасьці жыцьця: яны ня выдалі ніводнае энцыклікі, у якой-бы было штосьці супярэчнае ці хоць-бы нязгоднае з навукаю Хрыста. А яшчэ дзіўнейшы факт, што ў адпаведнасьці да агульнага палажэньня ў сьвеце на Апостальскім Пасадзе зьяўляюцца Архірэі быццам спэцыяльна пакліканыя Божым правідам. Ад калі зьявіліся ў Эўропе супрацьрэлігійныя арганізацыі, ад калі паведзена ўзмоцнены наступ супраць Хрыстовае Царквы, на Апостальскім Пасадзе зьявіліся Сьвяцейшыя Айцы, якія ёсьць сапраўднымі волатамі духа, і да якіх адносяцца з пашанаю ня толькі ўсе вернікі Каталіцкае Царквы, але нават і няверныя. Гэткім волатам духа ёсьць і сучасны Сьвяцейшы Айцец Пій XII. Таму што год дзень ягонае каранацыі азначаецца вернікамі на ўсім сьвеце з вялікаю ўрачыстасьцю і адначасна з радасьцю. Азначэньне ўгодкаў каранацыі Сьвяцейшага Айца можа быць тым больш радаснае чым больш неспакойныя часы мы перажываем. Бо як-жа ня мае цешыцца, той, хто ў сучасным бушуючым акіяне жыцьця знойдзецца на караблі, якім кіруе Хрыстос рукою Свайго Намесьніка!?

**а. Леў**

# Культ Багародзіцы на Беларусі

Марыйскі Год, які ўрачыста сьвяткована на ўсім сьвеце ў 1954 г., меў нямала дабрадзейных насьледкаў для духовага жыцьця вернікаў, якія належна выкарысталі той год. У радох беларускае эміграцыі Марыйскі Год даў нагоду ажывіць некаторыя векавыя традыцыі, якія ў эміграцыйных умовах ужо пачыналі адыходзіць у забыцьцё. Беларускія пэрыёдыкі ў сваю чаргу апублікавалі некалькі артыкулаў аб пашане Марыі ў беларускім народзе калісь і цяпер. У далейшым, дзякуючы паасобным студыям значна дапоўнена гістарычныя весткі аб культе Багародзіцы на Беларусі ў даўных часох. Але ўвесь гэты матэрыял расьцярушаны і паволі забываецца. Дзеля гэтага варта сабраць яго разам, каб выказаць у галоўных рысах, як беларускі народ славіў Бога ў сьвятых Яго, а ў даным выпадку ў асобе Яго выбранае слугі — Найсьвяцейшае Дзевы Марыі.

Беларускі народ прыняў хрысьціянства ў бізантыйскім абрадзе і дзеля гэтага спачатку фармаваў сваю пабожнасьць паводля бізантыйскіх рэлігійных традыцыяў, у якіх культ Багародзіцы, пасьля перамогі над іконаборчаю ерасьсю, быў моцна разьвіты. Дзеля гэтага асаблівая пашана да Багародзіцы на Беларусі так даўная, як і самое хрысьціянства. Пераважная большасьць першых цэркваў, пабудаваных у беларускіх гарадох, былі прысьвячаны Багародзіцы. Праўдападобна самая першая царква на Беларусі, якая была збудаваная ў Полацку дзесь уканцы X ст. была Багародзічная. Аб ёй у 1007 г. кажацца, што яна «старая». У Тураве пабудована першую царкву ўканцы X ст. у чэсьць сьв. Спаса, але хутка ў тым-жа X ст. пабудована другую царкву ў чэсьць Багародзіцы. У Пінску паводля мяйсцовае

традыцыі мела быць уканцы X ст. Багародзічная царква пры Ляшчынскім манастыры.

У наступным XI ст. першыя цэркві ў чэсьць Багародзіцы зьявіліся ў гарадох: Віцебску — Дабравешчанская, Драгічыне — Багародзічная, зруйнаваная ў XIII ст. мечаносцамі, Камянцы — Дабравешчанская, ў Мельніку — Багародзічная. У XII ст.: у Смаленку 1101 г. — Усьпеньня Багародзіцы і некалькі цэркваў няведамага прысьвячэньня, аб якіх нічога ня кажацца ані ў летапісах, ані ў пераказах, хоць яны былі збудаваныя ў XII ст. але аб якіх ведама толькі з археалягічных раскопкаў (Менск, Горадня, Драгічын).

Падчас заснаваньня япіскапскіх пасадаў князі звычайна выдавалі так званыя ўстаноўчыя граматы, якія зьяўляюцца вельмі вымоўнымі дакумантамі адносна культу Багародзіцы ў тых часох У грамаце князя Уладзімера з 1005 г. аб устанаўленьні Тураўскае епархіі, кажацца: «...и поставихъ первого епископа Ѳому, и придахъ села, винограды, земли бортныя, волости со всѣми придатки... Святому Спасу и Святей Богородицѣ». Гэтая грамата захавалася толькі ў Кіява-Пячэскім Патэрыку рэцэнзіі архім. Трызны (1647-1656). Устаноўчая грамата смаленскага князя Расьціслава Мсьціславіча з 1150 р. некалькі разоў падчырквае, што ўтрыманьне, якое князь забавязваецца даваць япіскапу, ёсьць быццам данінаю для Багародзіцы: «А се даю святеи Богородици и епископу десятину от всех даней Смоленских... Яз, грешны сын Мьстиславль, надеяся на матерь божью на святую Богородицу, уставляю сию епископью»(1).

Нажаль не захавалася ўстаноўчае граматы Полацкага князя, але можна дагадвацца, што яна была падобнаю да Тураўскае і магчыма нават служыла ўзорам для Смаленскага князя, паколькі была значна старэйшаю.

З боку вернікаў ад найдаўнейшых часоў праяўлялася вялікае зацікаўленьне да асобы Марыі. Дзеля гэтага калісь былі шырока распаўсюджаны розныя апокрыфы з жыцьця Багародзіцы, у якіх нашы продкі шукалі дапаўненьня тых скупых вестак з жыцьця Багародзіцы, якіх няма ў Эвангельлях. І так шырока былі ведамы ў старой беларускай літаратуры XII-XIV ст. апокрыфы: «Як хадзіла Багародзіца па муках», «Слова Івана Багаслова аб усьпеньні Багародзіцы», апокрыфічнае «Першаэвангельле Якава» аб дзяцінстве Багародзіцы і яе бацькох.

Сьледам за апокрыфамі зьявілася шмат чыста беларускіх вусных народных твораў адносна Багародзіцы, як: казак і лягэндаў, у якіх Марыя выступала галоўнаю дзеючаю асобаю або сама, або разам з Хрыстом. У гэтых казках адлюстроўваецца пагляд, што заступніцтва Марыі прычыняецца да ўласкаўленьня некаторых грэшнікаў. Напрыклад у адной казцы аб канцы сьвету кажацца, што на страшным судзе Багародзіца будзе аж тройчы прасіць свайго Сына, каб зьлітаваўся над меншымі грэшнікамі, і за кожным разам Ісус Хрыстос будзе выслухоўваць яе просьбу, мілаваць некаторую частку грэшнікаў. Толькі пасьля трэцяе просьбы пашле рэшту грэшнікаў на вечныя мукі. У іншай казцы гаворыцца, што Багародзіца аднойчы была зрабіла ў райскім агародзе бяздонную студню аж у пекла і праз яе тайком перацягвала пакутнікаў на неба. Асабліва прыгожая казка «Марка пякельны» апавядае, што аднойчы Хрыстос з Марыяю ў выглядзе старэнькіх падарожнікаў былі хрышчонымі бацькамі ў аднаго вельмі беднага селяніна і потым запрасілі свайго хросьніка — Марка да сябе ў госьці. Марка ехаў у госьці, сам ня ведаючы куды, праз пекла ў рай. Падарозе бачыў ўсялякія мукі, а ў раі шчасьлівае жыцьцё. Хрыстос і Багародзіца яго шчодра частавалі і выправілі назад на гэты сьвет з наказам, каб навучаў людзей жыць пахрысьціянску, каб яны не траплялі на вечныя мукі ў пекла(2). Нямала ёсьць іншых казак, у якіх Багародзіца прадстаўляецца як турботная Маці, якая ніколі не забываецца аб сваіх духовых дзецях на гэтым сьвеце.

Ёсьць так-жа шмат беларускіх загадкаў і прыказкаў, у якіх успамінаецца Багародзіца.

У абрадавых і бытавых беларускіх народных песьнях вельмі часта выступае Багародзіца ў вобразе Маці, якая сьпяшаецца на помач туды, дзе людзі самі ўжо нічога ня могуць. Дзеля гэтага амаль кожнае Багародзічнае сьвята на Беларусі суправаджалася нейкімі асаблівымі пазалітургічнымі абрадамі.

На Грамніцы (2. II.) у каталіцкіх і праваслаўных святынях сьвянцалі сьвечкі, якія потым запальвалі падчас розных хатніх урачыстасьцяў: падчас вячэры на Куцю, на Дзяды, а так-жа іх давалі ў рукі ўміраючым, як знак шчырага жаданьня пад апекаю Багародзіцы і з сьвятлом грамнічнае сьвечкі дайсьці непамыльна ў валадарства Багародзіцы — у неба.

На Дабравешчаньне (25. III.) ў некаторых ваколіцах Беларусі захоўваўся старадаўны звычай «клікаць вясну». Гэта звычай з дахрысьціянскіх часоў, які прыстасаваўся да ўслаўленьня Багародзіцы ў карагодных песьнях. Варта ўспомніць, што ў гэты дзень усюды ўстрымоўваліся ад працы, хоць звычайна якраз тады пачынаюцца гарачыя веснавыя работы ў полі. Прыказка кажа, што «На Дабравешчаньне нават і птушкі гнязда ня ўюць».

На Усьпеньне Багародзіцы, якое папулярна

1). Памятники русского права. Выпуск второй. Москва 1953, стар. 39-42.

2). Шейнъ П., Матеріалы для изученія быта и языка русского населенія Сѣверо-Западного края. Томъ 2. СПб 1894, стар. 376-386.




называецца «Першая Прычыстая» (15. VIII) пасьля Службы Божае ў цэрквах сьвянцалі розныя зёлкі разам з каласамі збожжа. Потым зёлкі ўжывалі як лекі, а каласы збожжа захоўвалі да часу сяўбы і тады іх выціралі ў сявеньку ды першаю жменяю сыпалі ў ральлю.

На Другую Прычыстую — Раство Багародзіцы (8. IX.) асаблівых абрадаў няма, але гэты дзень лічыцца пачаткам асеньняе сяўбы і да таго ў кліматычных умовах Беларусі звычайна тады пачынаецца масаваеападаньне лісьця. Таму і кажацца ў прыказцы: «Прышла Прычыстая, усё пацiснула».

На Пакровы (I. X.) апошні раз выганяюць на пашу каровы.

Амаль усе Багародзічныя сьвяты ўвайшлі ў беларускі народны календар і ў гаспадарчыя прыметы. Вось некаторыя з іх: «На Граманіцы палавіна зіміцы». «Калі на Граманіцы певень пад плотам нап'ецца вадзіцы, дык на Юр'я вол наесца травіцы». «Калі на Граманіцы капае з страхі, не спадзявайся ў леце пацехі». «Прыйшоў Багач (8. IX.), кідай рагач (саху), бяры сявеньку і сей памаленьку». «Прыйшоў Багач, рыкнуў рагач, прыйшла Пакрова, рыкнула карова». «На сьвятыя Пакровы будзь к зіме гатовы». «На Пакровы заганяй у хлеў каровы».

Падобна як у шматлікіх хрысьціянскіх краінах так і на Беларусі вернікі ўважаюць Багародзіцу за заступніцу і хадайніцу перад Богам у атрымоўваньні ласк, якіх ніхто іншы вымаліць ня можа. Праўда з гэтага гледзішча на Беларусі, як і ўва ўсім сьвеце вернікі найчасьцей зьвяртаюцца да Бога ў мамэнтах вялікага цярпеньня. Ведама, як трывога, дык да Бога. І ў гэтых выпадках плывуць асабліва гарачыя малітвы аб помачы праз пасрэдніцтва Багародзіцы. У часе эпідэміяў, пасухаў, пажараў, ці іншых стыхійных няшчасьцяў зьвяртаюцца да Багародзіцы, як да найлепшае Маці і апошняга ратунку. У некаторых няшча-

сьцях гэтыя малітвы суправаджаюцца асаблівымі абрадамі. Напрыклад у часе пажараў, калі да гэтага далучаецца вецер і паўстае пагроза пашырэньня пажару, абносіцца навокал загрожаных будынкаў ікону Багародзіцы, адмаўляючы пры гэтым багародзічныя малітвы.

У бізантыйскай рэлігійнай традыцыі пасьля іконаборчае ерасі (VIII-IX ст.) была моцна разьвіта пашана да іконаў. З гэткаю азнакаю хрысьціянства зьявілася на Беларускіх абшарах уканцы X ст. і мяйсцовая традыцыя кажа. што ў тым часе ўжо была цудотворная ікона Багародзіцы ў Заслаўі. А ў XII ст. ведамыя цудатворныя багародзічныя іконы былі ў: Смаленску — Годзігітрыя ад 1103 г., Умiленьне — ад 1103 г., Сьвірская — ад 1195 р., у Полацку — Корсунская ад 1128 г., у Купяцічах — ад 1182 г., у Пустыні каля Мсьціслаўя — Патрыяршая, у Бары каля Усьвяты — Цэзарская. У далейшым лік цудотворных іконаў Багародзіцы на Беларусі ўсьцяж павялічваўся і асабліва ўзрос пасьля таго, як амаль уся Беларусь стала каталіцкаю пасьля Берасьцейскае рэлігійнае Вуніі. У XVII ст. уславіліся цудамі багародзічныя іконы ў: Баркулабаве, Будславе, Вольнай, Гавязьне, у в. Забелы, Казіміраўцы, Каложы каля Горадні, Кодне, Кашубінцах, Лясной, на Крэстагорскім полі каля Менску, у Ракаве, Рудні, Старчыцы і Эйсмонтах. Да таго больш дваццаці старых цудатворных іконаў губляюць свой пачатак у сівай мінуўшчыне.

Агулам на Беларусі перад першаю сусьветнаю вайнаю было ведама шэсьцьдзесят цудатворных багародзічных іконаў і адна статуя(3). Некаторыя з іх былі шырока ведамы ня толькі на Беларусі, але і ў суседніх краінах. Шмат беларускіх цудатворных багародзічных іконаў было каранована. Жыровіцкая ікона Божае Маці была каранована 19 верасьня 1730 г. у прысутнасьці нарочнага пасланьніка папы Клімэнта XII на «Караleву Беларускага Народу».

Сьвятыні, дзе знайходзяцца цудатворныя іконы, ёсьць мейсцам прошчаў; туды сходзяцца паломнікі з блізкіх і далёкіх ваколіцаў. Асабліва годны ўвагі факт, што перад цудатворнымі іконамі можна было часта бачыць, як поруч моляцца і праваслаўныя і каталікі, незалежна ад таго, у якой сьвятыні гэтая ікона знайходзілася. У праваслаўных і ўсходне-каталіцкіх сьвятынях акрамя літургічна прыпісаных абразоў Багародзіцы быў яшчэ абраз Божае Маці, умацаваны стоцьма на невялічкім століку ў форме пераноснага аўтарыка. На адваротным баку была ікона Хрыста, або патрона царквы. Гэты пераносны аўтарык заўсёды насілі падчас працэсіяў на двох дручкох чатыры дзяўчыны і вернікі складалі на гэты столік перад абразом Багародзіцы свае ахвяры.

Ды ня толькі сьвятыні, але кожная беларуская хата перад 1917 г. мела шмат абразоў сьвятых і між імі абавязкава быў абраз Багародзіцы. З гэтага гледзішча і каталікі і праваслаўныя беларусы нічым ня розьніліся між сабою. Усюды абразы абавязкава завешваліся прыгожа вышытымі ручнікамі — набажнікамі, а ў некаторых ваколіцах, напрыклад на Случчыне, абраз устаўляўся ў мастацка выразьбленыя бажніцы.

Калі бацькі выпраўлялі дяцей да шлюбу, або ў вялікую дарогу ці на вайну, дык найчасьцей багаславілі іх іконаю Багародзіцы, сымбалічна выказваючы гэтым абрадам, што перадаюць сваіх дзяцей у апеку Нябеснае Маці. Гэта быў глыбока ўзрушаючы мамэнт, калі сын станавіўся на калені перад бацькамі, а маці здымала абраз з набожнікам, акружала ім тройчы галаву сына, вымаўляючы пры гэтым словы багаславенства, давала яму пацалаваць абраз і толькі пасьля гэтага самі бацькі цалавалі сваё дзіця.

З дагматычнага гледзішча культ Багародзіцы на Беларусі азначаўся тым, што ад даўных часоў была агульна распаўсюджаная вера ў непарочнае пачацьце Марыі. Праўда, гэтая вера была верным захаваньнем старых бізантыйскіх традыцыяў, паводля якіх у літургічных тэкстах Марыя называлася: Прачыстая, Прэнепарочная, Чэсьнейшая Хэрувім, Нескверная, Пронаречэнная, Едіна Непарочная, Новае Неба, Адзіна Бязгрэшная і пад. Паводля гэтае традыцыі Багародзіцу беларусы называлі проста Прачыстаю і гэтым словам азначалі сьвяты Усьпеньня Багародзіцы — Вялікая або Першая Прачыстая і Нараджэньня Багародзіцы — Малая або Другая Прачыстая. Беларускія багасловы захоўвалі верна гэтую традыцыю нават між праваслаўных і ў часе дагматычных спрэчак між каталікамі і праваслаўнымі. Напрыклад 2 лютага 1650 г. заснавалася ў Полацку праваслаўнае брацтва моладзі, якое ў сваім статуце вымагала ад братчыкаў, каб яны сябе **пасьвячалі Непарочнаму Зачацьцю Найсьвяцейшае Дзевы Марыі.** Варта зазначыць, што статут гэтага брацтва зацьвердзіў 10. VI. 1651 г. Магілёўскі праваслаўны япіскап Іосіф Канановіч-Гарбацкі (1650-1653), які перад тым быў нейкі час прафэсарам і рэктарам Магілянскае Акадэміі(4). І яшчэ што варта ўвагі: яп. Іосіф перад сваею хіратоніяю даў пісьмовае забабязаньне мітрапаліту «старацца аб тым, каб у нашым народзе расьцьвіталі навукі для асьветы моладзі, каб яна магла быць апірышчам і служыць сьв. Усходняй Царкве, распаўсюджваючы славу Божую і захоўваючы праваславіе»(5). Відавочна для асягненьня гэтае мэ-

3). Кароткія гістарычныя весткі аб беларускіх цудатворных іконах Багародзіцы падany ў «Божым шляхам» Нр. Нр. 58-60, 62.

4). Голубевъ С., Объяснительные параграфы по исторіи западно-русской Церкви. «Труды Кіевской Дух. Акад. III, ст. 464-467.

ты мела служыць новазаснаванае брацтва з культам непарочнага зачацьця Багародзіцы.

Калі ў Маскоўшчыну пад уплывам пратэстантызму пачалі пранікаць фальшывыя пагляды адносна Багародзіцы, дык у абароне непарочнага зачацьця выступіў выдатны беларускі вучоны, які працаваў у Маскве, Сымон Полацкі (1629-1680). Свае пагляды ён выказаў у кнігах: «Жезлъ правленія» і «Вечеря душевная», у якой між іншым чытаем: «Пречистая Дѣва Марія чиста есть... яко свободная отъ всякія вины грѣховныя, отъ всякого порока душевнаго, чиста отъ грѣха, иже волею Адамлею содѣяся, и въ насъ чрезъ рожденія приходитъ, и именуется грѣхъ первородный. И того бо, по нѣкиимъ умствованію прежде зачатія си очистися»(6). Нажаль у пазьнейшым жыцьці Праваслаўнае Царквы на Беларусі прасякнулі пратэстанцкія ўплывы адносна Непарочнага Зачацьця і іншых марыйскіх праўдаў веры. Праўда, гэта сталася пасьля прылучэньня Беларусі да Расеі. Аднак пакуль на Беларусі існавала Усходнекаталіцкая Царква, культ Багародзіцы ўвесь час праяўляўся вельмі моцна ў народным жыцьці. Тварыліся шматлікія багародзічныя песьні, якія сьпяваліся і ў сьвятынях і ў хатах. Некаторыя з іх былі надрукаваныя ў т. зв. Багагласьніках, а некаторыя распаўсюджваліся як вусная народная творчасьць.

Багародзічныя праўды веры ў Каталіцкай Царкве разьвіваюцца адпаведна з агульнымі прынцыпамі разьвіцьця догмаў і гэтае разьвіцьцё ў свой час знайходзіла вымоўнае адлюстраваньне ў беларускім рэлігійным жыцьці. З даўных часоў у цэрквах усходняга абраду на вялікіх іконастатах на цэнтральным мейсцы ў трэцім ярусе заўсёды ўмяшчалі Багародзіцу з Спрадвечным Дзіцям, а у XVIII ст. на гэтым мейсцы пачалі маляваць укаранаваньне Багародзіцы. Наагул ажыўлены культ Багародзіцы на Беларусі выяўляўся так-жа ў паявлічэньні колькасьці цэкрваў і капліцаў прысьвечаных Багародзіцы.

Скасаваньне Усходнекаталіцкае Царквы ў 1839 г. адбілася вельмі адмоўна на рэлігійным жыцьці беларускага народу наагул, а тым самым і на культе Багародзіцы, бо ў тым часе ў Расейскай Праваслаўнай Царкве моцна адчуваўся пратэстанцкі ўплыў. Характэрна напрыклад, што перад першаю сусьветнаю вайною трэцяя частка каталіцкіх сьвятыняў лацінскага абраду на Беларусі была прысьвечана Марыі, праваслаўных-жа сьвятыняў — менш чым чацьвёртая частка.

Уканцы варта зазначыць, што беларусы ў сваёй напобжнасьці да Найсьвяцейшае Дзевы Марыі лічаць Яе ня толькі пасрэдніцаю нявычарпальных Божых ласкаў, заўсёднаю заступніцаю, але так-жа глядзяць на Яе, як на найбольш велічны ўзор хрысьціянскага жыцьця. Калісь у дачасным жыцьці Марыя самааддана служыла Богу, ахвяроўваючы сябе самую для выконваньня Божае волі, а ўканцы ахвяравала свайго Боскага Сына для збаўленьня сьвету — так беларуская жанчына-маці, ідучы за прыкладам Марыі, лічыць ахвярнасьць неабходнаю ўмоваю суладнага сямейнага жыцьця, таму і малітвы да Багародзіцы суправаджае рознымі ахвярамі.

**а. Л. Гарошка**

5). Цытую паводля: Батюшковъ, Бѣлоруссія и Литва. С. Петербургъ 1890, стар. 250.

6). Цытую паводля: Свящ. кн. А. Волконскій, Католичество и священное преданіе Востока. Парижъ 1933, стар. 427.

# Айцец Міхаіл Красавіцкі

На працягу стагодзьдзяў узгадаваньне расейскага праваслаўнага духавенства вялося у тым кірунку, каб ім прышчапіць рабскую пакору перад расейскім царом, расейскі фанатызм і адчужэньне ад усяго беларускага. У большасьці выпадкаў намечаную мэту асягалі і праваслаўнае духавенства на Беларусі мела якраз такую азнаку. Аднак было нямала шчырых сыноў беларускага народу, якія нават і ў расейскіх духоўных сэмінарыях змаглі захаваць шчырую любоў да роднае Беларусі і да беларускае культуры. Характэрна прытым, што гэткія сьвятары ня былі варожа настроены да Каталіцкае Царквы. Адным з такіх беларускіх праваслаўных сьвятароў быў а. Міхаіл Красавіцкі Радзіўся ён у Смаленску ў саракавых гадох мінулага стагодзьдзя. Кончыў Полацкую Духоўную Сэмінарыю. Працаваў сьвятаром у Віцебску і Веліжы больш 50 гадоў. Быў ён вельмі плодным публіцыстам і апублікаваў шмат артыкулаў у: «Витебских Губернских Ведомостях», «Полоцких Епархиальных Ведомостях» і «Церковно-Общественном Вестнике».

За некоторыя артыкулы меў нямала прыкрасьцяў ад духоўнае ўлады, бо ў іх крытыкаваў духоўных і сьвецкіх мяйсцовых кіраўнікоў.

Некаторыя артыкулы а. Міхаіла маюць паважнае гістарычнае значэньне, але нажаль яны вельмі мала ведамыя нават у навуковых кругох. Асабліва вартасным для гісторыі царкоўнага беларускага мастацтва і рэлігійнага жыцьця на Беларусі ёсьць даклад а. Міхаіла, на тэму: «Памяткі царкоўнае старасьвеччыны Полацка-Віцебскага краю і іх ахова», які ён прачытаў у 1911 г. для сяброў Віцебскае Вучонае Архіўнае Камісіі. Даклад быў надрукаваны ў Кнізе № 1 «Полоцко-Витебской Старины», Віцебск 1911 г. Сёньня гэтая публікацыя зьяўляецца бібліяграфічнаю рэдкасьцю, дзеля гэтага лічым, што будзе

карысным апублікаваць гэны даклад у беларускім перакладзе з невялікімі скарачэньнямі. Гэты артыкул ніколі ня страціць свае гістарычнае актуальнасьці. Зьвяртаем толькі ўвагу чытачоў, што артыкул быў напісаны ў тым часе, калі трэба было рахавацца з царскаю цэнзураю.

**Рэдакцыя**

# Памяткі царкоўнае старасьвеччыны Полацка-Віцебскага краю і іх ахова

### Некалькі слоў аб гістарычных абставінах

Гістарычныя абставіны нашага краю ня спрыялі вытварэньню самабытных мастацкіх формаў у архітэктуры ні ў умовах рэлігійнага, сямейнага і грамадзкага жыцьця, ні ў зьбіраньню кніжных скарбаў і шырокага разьвіцьця пісьменства, ані тым больш аховы ўсяго гэтага культурнага багацьця. Бязупыннае жарстокае пляменнае і рэлігійнае змаганьне; векавое рэлігійнае, і культурнае, пляменнае, клясавае, сацыяльнае і эканамічнае гнобленьне, што цяжыла над Беларусамі, узаемнае змаганьне князёў Русі і Літвы, паўстаньні, амаль бязупынныя войны, у якіх узаемна аспрэчвалі права на ўладу ў краю Полацкае Княства, Літва, Лівонскі Чын, Масква і Польшча; войны, якія завяршыліся сто гадоў таму нашэсьцем Напалеона і з ім нязьлічаных плямёнаў — вось коратка гісторыя нашага краю. — Ведама, як у гэтай заўсёднай вайне гінулі пачаткі самабытнае культуры і яе выяўленьне ў літаратуры і мастацтве, калі тое, што захавалася ад агню і разбурэньня ў часе вайны, часткава разграблялася, і вывозілася пераможцам з краю, часткава ім-жа нішчылася і перараблялася, бо ў ягоных вачох яно насіла яўныя сьляды варожае культуры і рэлігіі. Дзеля гэтага нядзіўна, што мы маем нямнога памяткаў старасьвеччыны ў параўнаньні да краёў, на долю якіх выпала спакойнае жыцьцё на працягу доўгіх гадоў.

Але дзеля гэтага для нас повінна быць тым каштаўнейшае тое нямногае, што перажыло стыхійнае і сьвядомае разбурэньне і гаворыць нам аб мінуўшчыне нашага краю. Тым больш яно павінна спанукваць да зьбіраньня, апісваньня і захоўваньня памятнікаў мяйсцовае старасьвеччыны, якая мае аграмадны інтарэс і вартасьць, як матэрыял для гісторыка. археалёга і для мастака.

### Працаўнікі на ніве зьбіраньня роднае старасьвеччыны

Наш Полацка-Віцебскі Край ня можа наракаць на нястачу людзей, якія прычыніліся да зьбіраньня і апісваньня памятнікаў мяйсцовае старасьвеччыны. Даволі ўспомніць імёны А. П. Сапунова, якога капітальныя працы аб віцебскай старасьвеччыне добра ведамы ўсім сябром Віцебскае Вучонае Архіўнае Камісіі, Е. А. Раманава, які побач з працамі ў галіне роднага беларускага слова і другіх разнаякіх працаў нямала папрацаваў у справе раскопак разам з А. П. Сапуновым, каторы зрабіў пачатак Віцебскаму Царкоўна-Археалягічнаму Музэю, пакойнага Н. Я. Нікіфароўскага, аб якога працах ня так даўно зрабіў даклад Д. І. Даўгяло, які нямала папрацаваў на карысьць успомненага музэю і ў справе вывучэньня роднае старасьвеччыны, ды ў канцы пакойных незабыўных калекцыянэраў К. К. Бергнера, частка багатае калекцыі якога ўзбагаціла Віцебскую мужчынскую гімназію, і В. П. Федаровіча, якога багатыя калекцыі шмат каму добра ведамыя — даволі ўспомніць гэтыя імёны, каб сказаць, што наш край ня бедны людзьмі, якія любяць родную старасьвеччыну, стараюцца зьбіраць яе, ахоўваць, апісваць і разьвіваць у іншых любоў да роднае старасьвеччыны і яе ахароны.

Аб'еднаць гэтыя сілы і паадзіночныя спробы, прыцягнуць к гэтай справе ўвагу і супрацоўніцтва духоўных і грамадзкіх уладаў, мае за заданьне Віцебская Вучоная Архіўная Камісія, з ветлівае згоды якое выступіў перад вамі сёньнешні дакладчык.

Асьвяжыць у памяці паважных сяброў Архіўнае Камісіі гэтую частку мяйсцовага археалягічнага матэрыялу, каторая адносіцца да царкоўнае старасьвеччыны, парушыць сумную гісторыю нашых царкоўных памятнікаў у зьвязку з агульнымі культурнымі ўмовамі і асабліва мяйсцовымі абставінамі і, уканцы, паставіць на абмеркаваньне Камісіі тыя захады, якія ёй могуць быць даступныя ў дарагой для нас справе — гэткая ёсьць мэта нашага дакладу, хоць ён і не прэтандуе ані на паўнату, ані тымбольш на спэцыяльнасьць.

### Найстарэйшыя архітэктурныя памяткі

Пачынаючы агляд архітэктурных царкоўных памятак нашага краю, мусім сказаць, што з старадаўных часоў у межах нашае епархіі (Полацка-Віцебскае) захавалася ўсяго толькі дзьве сьвятыні. Першая з іх па даўнасьці гэта — Віцебская Дабравешчанская Царква «На ніжнім замку», якая ў старым Віцебску мела тое-ж значэньне, што ў Полацку і Ноўгарадзе сьв. Сафія, у Пскове Дом Сьв. Тройцы. Віцеблянін тых часоў, калі адходзіў на чужыну і вяртаўся дамоў, «біў чалом сьвятому Дабравешчаньню».

Паводля выснаўкаў пакойнага археалёга А. М. Паўлінава — тых, хто цікавіцца падрабязнасьцямі

адсылаем да яго артыкулу, надрукаванага ў 1-м томе прац 9-га Археалягічнага Зьезду ў Вільні, Дабравешчанская царква паводля яе кладкі і стылю адносіцца да XI, а магчыма на'т да X-га в. Кладка яе бізантыйскага характару, такая-ж, як кладка Кіеўскай і Ноўгарадзкай Сафіі і Чарнігаўскага Сабору (XI в.) і «складаецца з тонкае цэглы таўшчынёю 5/8 вяршка, (2,53 цм.) і даўжынёю 7/8 вяршка (3,89 цм.). Цэгла большаю часткаю падаўгастая, але ёсьць і квадратная; шво мулярскае заправы часам такое тоўстае, як цэгла, але бывае і таўшчэйшае. За двумя радамі цэглы ідзе сечаны камень таўшчынёю роўны чатыром радом цэглы, потым зноў цэгла і т. д. Часамі замест двох радоў цэглы спатыкаецца тры» (1).

У верхніх часьцях кладка часткова пазьнейшая. Да пазьнейшых часоў (XIV ст.) належыць так-жа скляпеньне. Верх сьвятыні дзеравяны, зроблены параўнаўча нядаўна, зьнізу закрыты. Няма сумніву, што калісьці сьвятыня мела каменны верх, і ён знайходзіўся над іканастасам. Пярэдняя частка сьвятыні, як выявілі досьледы Паўлінава, ёсьць пазьнейшаю прыбудоўкаю. Сьвятыня ў найстарэйшай сваёй часьці мела форму падоўжнага прастакутніка, падзеленага шасьцю чатырохкутнымі слупамі. Паміж заходнімі слупамі, апіраючыся на іх, і заходняю сьцяною былі каменныя хоры, ад якіх захаваліся бакавыя часткі. Аўтар трохчастковы. «Сярэдняя яго частка знутра і звонку мае форму паўкругу, а бакавыя часьці схаваныя ў таўшчыні сьцяны ў форме паўкруглых нішаў, звонку-ж паўкругаў яны ня маюць і твораць простыя куты з лапаткамі» (2). Вонкавы тынк пазьнейшы; у даўніне сьвятыня бяз сумніву была неатынкавваная, згодна з бізантыйскім узорам, і мела звонку «ўпрыгожаныя палосы чырвонае цэглы на полі чэсанага каменя» (3).

Першапачатковае пакрыцьцё сьвятыні, праўдападабна мела форму аркаў. Васьміпакатнае пакрыцьцё, як гэта паказана, ці лепш кажучы, як гэта мелася на ўвеце паказаць, на пляне Віцебску з 1664 г., ёсьць мала верагодным, бо пры гэткім пакрыцьці фасады з усіх бакоў маюць падзел на тры часьці, тады, як наша сьвятыня мае паўднёвы і паўночны фасады, падзеленыя на чатыры часьці. Да таго гэткі тып пакрыцьця сустракаецца ў нас толькі з канца XIII ст. (4).

Другая памятка глыбокае старажытнасьці — гэта царква Спаса-Прэабражэньне ў Полацкім Спаса-Еўфрасініскім манастыры, збудаваная ў XII веку заснавальніцаю манастыра, прэпадобнаю Еўфрасініяю, як аб гэтым гаворыць яе старое жыцьцяапісаньне. Гэтую царкву так-жа дасьледаваў акад. А. М. Паўлінаў і выявіў, што яна мае аднародную кладку з тонкае цэглы, «падобную да цэглы сьв. Сафіі (у Полацку — часьць сьцяны, што ўвайшла ў новую сьвятыню XVII ст.), Барысаглебскае (у Полацку — руіны), Дабравешчанскае ў Віцебску ды іншых цэркваў з таго часу (5), без дамешкі матэрыялу іншага роду — каменя, чэсаных каменных плытак. Такім чынам «гэтая царква ў сваім першапачатковым відзе была аднаколерная і тым самым вельмі розьнілася ад іншых старых цэркваў, якія мелі разнародную кладку і дзеля гэтага іхны фасад быў паласаты» (6). «Аднароднасьць кладкі, заўважвае А. М. Паўлінаў, у цэрквах XII ст. — зьявішча вельмі рэдкае» (7). Каля асновы і асабліва ў верхніх часьцях сьледныя пазьнейшыя папраўкі, там цэгла большая.

«Плян Спаскае царквы ў Еўфрасінінскім манастыры — піша А. М. Паўлінаў — мае вельмі шмат супольнага з плянам Дабравешчанскае царквы ў Віцебску. Ён так-жа падоўжны; усходні фасад мае адзін паўкруглы выступ сярэдняга аўтарнага паўкругу, а бакавыя заключаны ў простыя сьцены і гэткім чынам замаскаваныя фасадам галоўнае масы царквы... Унутры ён мае так-жа тры слупы з абодвых бакоў». (8). Ад сябе прыбавім, што ў адрозьненьне ад Дабравешчанскае царквы, тут слупы разьмешчаны на нароўнай адлегласьці адзін ад другога і ўсходняй ды заходняй сьценаў, і гэткім чынам царква ў даўжыню падзелена слупамі на няроўныя часьці, а часьці заходняя і асабліва сярэдняя пад купалам шырэйшая. Слупы, за выняткам двох усходніх, у сваёй ніжняй часьці маюць васьмікантовую форму, што іх зьбліжае да круглых слупоў у цэрквах Ноўгарад-Пскоўскае вобласьці (Сустракаюцца там ад пачатку XIII ст. (9) ).На заходнія слупы апіраюцца хоры з двумя келіямі па бакох (правая з іх — келія прэп. Еўфрасініі). Першапачатковае пакрыцьцё сьвятыні мела форму аркаў адпаведна да скляпеньня.

Вось коратка тое што азначана досьледамі А. М. Паўлінава. У канцовым выніку трэба прызнаць, што абедзьве гэтыя сьвятыні пабудаваны паводля тыпу бізантыйскіх цэркваў X-XII стагодзьдзяў, а ўспомненаю сваеасаблівасьцю будовы бакавых падзелаў аўтара зьбліжаюцца да цэркваў Ноўгарад-Пскоўскага краю, але там гэтая асаблівасьць зьяўляецца пазьней, ад XIII ст. (10). Вось-жа дзякуючы досьледам А. М. Паўлінава мы цяпер ведаем істотнае аб гэтых сьвятынях.

---

1. А. М. Павлиновъ. Древніе храмы Витебска и Полоцка. «Труды IX Ареологическаго Съѣзда в Вильнѣ» Т. I, ст. 4.
2. Ibid. ст. 4.
3. Ibid. ст. 5.
4. В. В. Сусловъ. Матеріалы къ Исторіи древней Новгородско-Псковской архитектуры. С.-Петербургъ 1888, ст. 10.

5 А. М. Павлиновъ. op. cit. ст, 15,
6. Ibid. ст. 16.
7. Ibid. ст. 16.
8. Ibid. ст. 11.
9. В. В. Сусловъ. op. cit, ст, 11,
10. Ibid. ст. 12-13.

Аднак асталіся недасьледжанымі некаторыя пытаньні, як: Першапачатковая форма, вялічыня і разьмяшчэньне вакон (бо-ж цяперашнія вокны — пазьнейшыя; — стары сьценапіс, каторы магчыма захаваўся пад верхнімі пластамі хварбы і тынку (прынамся адносна сьценапісу Спаскае царквы мы маем весткі з 1832 г., калі сьвятыня была перадана «ў распараджэньне грэка-расейскага духавенства»); няведамы ўзровень першапачаткавай падлогі (паясьню гэта прыкладам: у Ноўгарадзкай Сафіі падчас рэстаўрацыі выяўлена, што ўзровень першапачатковае падлогі быў на сажань ніжэй ад цяперашняга).

Няма патрэбы шмат гаварыць аб важнасьці досьледаў такіх пытаньняў. Калі-б удалося адкрыць сьценапіс у названых сьвятынях, дык якое аграмаднае археалягічнае і мастацкае значэньне мела-б гэтая знахадка! Адносна важнасьці ўстанаўленьня ўзроўню першапачаткавае падлогі я дазволю прыпомніць, што пры гэтым можна было-б атрымаць такія вартасныя знахадкі, як напр.: старыя пахаваньні, грабніцы, магчыма нават з надпісамі. Гэта асабліва цікава адносна Полацкае Спаскае сьвятыні. Як ведама, да часу асяленьня прэп. Еўфрасіні ў Сяльцы Сьв. Спаса, там было мейсца для пахаваньня Полацкіх япіскапаў. Напэўна іхныя магілы знайходзіліся каля папярэдняе царквы, а магчыма, што больш праўдападобна, у самой царкве. Вельмі магчыма, што прэп. Еўфрасіня будавала царкву ня толькі на старым мейсцы, але і на старым фундамэнце (як гэта ведама адносна некаторых сьвятыняў Ноўгарадзка-Пскоўскага краю) (11). Схаваныя цяпер пад зямлёю часьці сьвятыні могуць быць больш старымі і ў іх могуць быць магілы першых полацкіх япіскапаў!

Завяршэньне дасьледаваньня Віцебскае і Полацкае сьвятыняў, зразумела, павінна быць першым крокам турботаў любіцеляў старасьвеччыны. Другі крок — гэта рэстаўрацыя сьвятыняў.

Калі адносна Віцебскай Дабравешчанскай царквы, дзеля нястачы мяйсцовых сродкаў прыходзіцца чакаць помачы ад Археалягічнага Таварыства і другіх падобных установаў, а так-жа запамогі ад дзяржавы, дык зьдзейсьненьне нашых жаданьняў адносна Полацкае сьвятыні становіць сьвяшчэнны абавязак манастыра, які ў зьвязку з перанясеньнем мошчаў прэп. Еўфрасіні атрымаў багатую крыніцу ахвяраў і грашовых уплываў. Добра зрабіў-бы манастыр, каб замест дарагіх і, як гэта часта мае мейсца ў нашым царкоўным упрыгожваньні, бязгустоўных аздабленьняў, захацеў-бы з помаччу спэцыялістаў абсьледаваць і рэстаўраваць сваю сьвятыню, па магчымасьці прыблізіць яе вонкавы і нутраны выгляд да таго, які яна мела пры жыцьці прэпадобнае!

11. Гл. успомнены артыкул В. В. Суслова.

**Архітэктурныя памяткі XVII і пазьнейшых вякоў**

...Пасьля гэтых дзьвёх сьвятыняў, блізкіх да пачаткаў хрысьціянства ў краю, нашы даныя адносна царкоўнае архітэктуры краю абрываюцца і мы павінны перайсьці проста ў XVII ст.

Прычыны такога перарыву карэняцца, па першае, у тых разгромах, якія пераносіла краіна і ад якіх толькі нейкім цудам захаваліся ўспомненыя памяткі, а па другое, у тым, што архітэктура нашае краіны наагул была пераважна дзераўляная. Варта успомніць, што напрыклад сьцены і вежы старога Віцебску ў вялікай часьці былі дзераўляныя.

Калі ўспомненыя памяткі царкоўнае архітэктуры нашае краіны маюць выразна бізантыйскі характар будаўніцтва і, акрамя гэтага, некаторыя агульныя азнакі з Ноўгарадзка-Пскоўскаю краінаю, дык нешматлікія памяткі дзераўлянае архітэктуры з XVII ст., якія захаваліся, ці лепш сказаць, якія да нядаўна існавалі, паводля сваіх асноўных формаў і ў дэталях збліжаюць нашу краіну з Украінаю (у арыгінале: Малоросіею — ув. перакл.) і нават Галіцыяй з аднаго боку і Донскаю вобласьцю — з другога. Прычына такое агульнасьці ў архітэктуры ясная: супольнасьць палітычнага, культурнага і асабліва рэлігійнага жыцьця — адна і тая-ж Кіеўская мітраполія. І тут і там, хаця ў розней ступені, і з розным посьпехам імкненьне ўводзіць Вунію і лацінства і, як супрацьдзеяньне гэтым імкненьням, праваслаўныя брацтвы ў Кіяве, Львове, Магілёве, Вільні, Полацку і іншых гарадох, брацтвы, што мелі цесныя ўзаемныя зьвязкі пад апекаю Канстантынопальскага патрыярха.

Вось-жа ў XVII ст. мы бачым супольны з Маларасеяй (Украінаю — ув. перакл.) тып шатровых цэркваў з пяцю вярхамі. Іх плян мае форму крыжа. Заходняя канцавіна крыжа прастакутная, іншыя маюць косыя куты. Тут скарыстаем словы акадэміка Суслова аб блізкіх па тыпу пяцівежавых цэрквах Донскае вобласьці: «Цяцігаловыя цэрквы ў большасьці складаліся па пляну з двох падоўжных зрубаў, якія перасякаліся ў стоцьным кірунку, прычым кожны зруб меў даўжыню каля трох квадратаў... выступаючыя часьці зрубаў каля фундаманту абмяжоўваліся паўвасьмікутнымі сьценамі» (12).

Над цэнтральнаю часткаю крыжа і яго канцавінамі ўздымаюцца высокія шатры; з іх адпаведна да пляну царквы, заходні а часам і цэнтральны шацёр чатырохскатны; усходні, паўднёвы і паўночны васьміскатныя, а часам і сяміскатныя. Шатры завяршаюцца васьмікантовымі галоўкамі. Васьмярык цэнтральнае галавы звычайна знутра адчынены. Баковыя канцавіны крыжа часам бываюць ка-

12. В. В. Сусловъ. Памятники древней деревянной архитектуры въ Южной Россіи». «Очерки по исторіи древне-русскаго зодчества». С.-Петербургъ 1889, ст. 29.

рацейшымі за ўсходнюю і заходнюю. У гэткіх выпадках, калі наагул канцавіны крыжа ўкарочаныя, часткова зьмяняецца палажэньне, а часткова і форма шатроў. Менавіта: бакавыя шатры тады налягаюць на цэнтральны (як гэта можна бачыць на разрэзах і плянах старое Ільінскае Віцебскае царквы ў праекце яе, адбудовы), а каб гэтае наляганьне ня было празьмерным, каб бакавыя шатры не тварылі з цэнтральным быццам зрослую масу, дык скаты бакавых шатроў, зьверненыя ў сярэдзіну, да цэнтральнага шатра, рабіліся больш крутымі чым вонкавыя скаты. Часам часьць бакавога шатра, зьвернеая ў сярэдзіну, мела ня тры, а толькі два скаты, і тады шацёр быў не васьмі, а сямікантовым (так было напрыклад ў Віцебскай Ільінскай царкве). У паўднёва і паўночна-ўсходніх кутох сустракаюцца нізенькія прыбудоўкі — рызьніца і панамарня, апошняя з дзьвярыма навонках. Часам навокал ўсяе царквы, а часам толькі навокал заходняе канцавіны йдзе адчыненая галерэя на фігурных слупох. Часам замест адчыненае галерэі заходнюю частку акружае закрыты дзядзінец.

Да апісанага тыпу належалі ў Віцебску Івана-Багаслоўская і Ільінская цэрквы а ў сумежных уездах суседніх епархіяў, якія калісьці тварылі адну цэласьць з цяперашняю Полацкаю епархіяю, цэрквы Аршанскіх Куцеінскіх мужчынскага і жаночага манастыроў, Якобштадзкая Сьв. Духаўская царква. Усе гэтыя сьвятыні параўнаўча нядаўна сталіся ахвяраю агню (Багаслоўская ў 60-ых гадох, Куцеінскія і Якобштадзкая ў 80-ых гадох мінулага стагодзьдзя, а Ільінская ў 1904 г.).

Адзіным ведамым мне прадстаўніком гэтага тыпу ў нашай краіне, які яшчэ ўцалеў — гэта Троіцкая царква Маркавага манастыра (пасьвячаная ў 1651 г.), якая дзеля гэтага зьяўляецца архітэктурнаю каштоўнасьцю краю. (Яе зьнішчылі бальшавікі — Увага перакл.).

Другі тып, так-жа характэрны па думцы акадэміка А. М. Паўлінава (13) для XVII ст. гэта царква ў выглядзе простаканечнага крыжа з васьмісьценьнікам у яго цэнтры. Над цэнтральнаю васьмісьценнаю часьцю ўзвышаецца крыху меншы васьмісьценьнік, пакрыты або шатром, або купалападобна. Завяршэньне мае форму маленькае васьмікантовае галоўкі. Таксама як і ў папярэднім тыпе па баках аўтарнае часткі ёсьць шырокі нізкі бабінец, як акружэньне да пярэдняе канцавіны крыжа. Да гэтага тыпу адносяцца: Віцебская Троіцкая царква на Пескаваціку з XVIII ст., апісаная акад. А. М. Паўлінавым... (Бальшавікі разабралі яе на дровы — Увага перакл.) і цэрквы ў вёсках Фалькавічы і Слабада Віцебскага ўезду (так-жа зьнішчаныя бальшавікамі — ув. пер.). Іншыя прадстаўнікі гэтага тыпу ў Полацкай епархіі мне ня ведамы.

---

13. А. М. Павлиновъ. op. cit. ст, 20,



**Віцебская Ільінская царква з XVII ст. Згарэла 13 красавіка 1904 г.**

Цэрквы абодвых апісаных крыжовых тыпаў усе дзераўляныя.

Іншыя тыпы адносяцца галоўным чынам да XVIII і пачатку XIX стагодзьдзяў і маюць як дзераўляных (пераважна), так і мураваных прадстаўнікоў.

Гэткім ёсьць у першую чаргу тып прастакутнага крыжа (лацінскага) з купалам або шатром на перасячэньні яго падоўжнай і папярэчнай часьцяў. Падоўжная часьць сьвятыні звычайна большая за папярэчную. Акрамя таго папярэчная часьць крыжа часта ня толькі карацейшая, але і вузейшая, і ў гэткіх выпадках цэнтральная часьць (пад купалам) мае форму не квадрата, але падоўжнага прастакутніка (да гэтае асаблівасьці прынараўляецца і барабан купала часам прымаючы звужаныя бочныя паверхні). Па баках аўтарнае часткі маюцца прыбудоўкі як і ў папярэдніх тыпах. У мураваных цэрквах гэтага тыпу часам па баках пярэдняе канцавіны крыжа ёсьць прыбудоўкі, якія злучаюцца аркадамі з крыжавою часьцю сьвятыні.

Гэты тып цэркваў быў вельмі распаўсюджаны і яшчэ да нядаўна было шмат яго прадстаўнікоў. Так, зруйнаваная па барбарску 13-15 гадоў таму старая Мікольская царква ў м. Бешанковічах была якраз гэтага тыпу. З мураваных сьвятыняў гэтага тыпу назаву: ў Віцебску Спаскую і Раждзественскую цэрквы (апошняя нядаўна, якіх восемнаццаць гадоў таму зьмяніла свой выгляд

пасьля перабудовы званіцы, у стылю, які зусім дызгарманізуе з царквою) царква ў в. Добэі Полацкага ўезду (яна над франтонамі канцавін крыжа мае яшчэ маленькія галоўскі, па адной з кожнага боку).

Усе пералічаныя тыпы агульна кажучы, як правіла, ня маюць званіцы. Калі пры некаторых з іх можна ўбачыць званіцу над уваходняю часьцю, дык звычайна гэта пазьнейшая прыбудоўка.

Іншы яшчэ больш распаўсюджаны тып, да якога належаць амаль усе малыя прыпісныя і магільнікавыя цэрквы, а так-жа нямала парахвіяльных, тып у сваёй асноўнай часьці вельмі просты: падоўжны будынак з закругленаю аўтарнаю часткаю. Апошняя становіць прыдатак да прастакутніка сьвятыні, больш вузкая часьць, але такой-жа вышыні, як і ўся сьвятыня, ў форме паўкруга ў мураваных сьвятынях і ў форме адрэзка васьмісьценьніка ў дзераўляных. У малых дзераўляных цэрквах замест аўтарнае прыбудоўкі, проста скошаны вуглы задняе часьці царквы. Па бакох аўтара часам адна, а часам дзьве прыбудоўкі.

Такія сьвятыні звычайна пакрыты высокім дахам з франтонам над уваходам. Часта франтон завяршваецца галоўкаю. У мураваных сьвятынях франтон мае даволі складаныя абрысы і ўпрыгожаньні, часта заходняга характару. Звычайна франтон забясьпечаны пралётам ў паддашы, закрыты дзьвярыма, на якіх часам малююцца патроны царквы або рэлігійныя падзеі, якім прысьвечана царква. Часта ў гэтым пралёце завешваліся званы. Часам на вуглох пярэдняе часьці высяцца дзьве вежы або глухія, або з пралётамі. Сьвятыні з адною вежаю-званіцаю над уваходам ёсьць рэдкасьцю. Такая напрыклад старынная праваслаўная Міхайлаўская царква ў Бешанковічах. Дах аўтарнае часткі зьліваецца з заднім скатам даху сьвятыні. Часам з вуглоў прастакутнае часьці сьвятыні дах перакідваецца на скошаныя або закругленыя часьці аўтарнае прыбудоўкі, зьвісаючы над бакавымі прыбудоўкамі ў форме навесу (падшытага стольлю). На грэбені даху часам ёсьць галоўка.

Да названага тыпу належаць усе магільнікавыя цэрквы ў Віцебску. Да гэтага-ж тыпу трэба залічыць і Рынкава-Васкрэсенскую царкву, лепшае ўпрыгожаньне нашага гораду.

Успамяну яшчэ аб вельмі рэдкім тыпе цэркваў ў форме васьмікутніка, пакрытага шатром з галавою. Адзіную царкву такога тыпу, паколькі мне ведама, яшчэ можна было бачыць гадоў 18-20 таму ў в. Сьвяча Лепельскага ўезду. Пасьля пабудовы новае царквы гэтая архітэктурная рэдкасьць была ў свой час разабраная.

Пералічаныя 3 тыпы зьбліжаюць царкоўную архітэктуру нашага краю з каталіцкім Захадам.

Для манумэнтальных пабудоваў, як саборы, манастырскія сьвятыні і гарадзкія багатыя цэрквы ўжо ад 17 ст. уводзяцца ўва ўсім Заходнім Краю (Беларусі — ув. пер.) чыста заходні тып: базыліка па форме, у дэталях — рэнэсанс ўва ўсіх яго разнавіднасьцях, амаль як правіла з двумя вежамі ў пярэднім фасадзе. Гэта адносіцца ня толькі да ўсходне-каталіцкіх сьвятыняў, але і да праваслаўных. Пры гэтай нагодзе дазволю сабе выйсьці за межы Віцебскае губ. і паказаць, што да гэтага тыпу належаць гістарычныя саборныя сьвятыні брацкіх манастыроў — Віленскага Сьвята-Духаўскага і Магілёўскага Багаяўленскага. Абодва з канца 17 ст.

Пераважная колькасьць гэтых базылікаў складаецца з трох падоўжных наваў і аднае папярэчнае (трансэпт) з купалам на перасячэньні падоўжнае, сярэдняе і папярэчнае наваў.

У пазьнейшых усходне-каталіцкіх сьвятынях часта купал зьнікае. Як прыклад можа служыць Петрапаўлаўская царква ў Віцебску.

Паводля тыпу гэтае базылікі (з купалам) пабудавана большая частка віцебскіх цэркваў, пачынаючы ад Усьпенскага сабору.

Уводзіцца так-жа тып базылікі, якая складаецца толькі з падоўжных наваў, але распаўсюджаная яна была мала. Зразумела, што базыліка гэтага тыпу купала ня мае. Гэткім ёсьць Полацкі Сафійскі сабор.

Цяпер пару слоў аб званіцах, аддзеленых ад сьвятыні. Яны маюць выгляд чатырохкутнае, пераважна квадратнае вежы, звычайна нявысокае, двухпавярховае, з няшырокімі пралётамі для званоў, аднолькава, як у мураваных, так і ў дзераўляных (заўважу, што гэта адрозьнівае званіцы Беларусі (у арыгінале — Заходняга Краю — ув. перакл.) як і Паўднёва-Заходняга ад званіцаў Поўначы Расеі (гл. Рыс. 1) (14). Дахі шатроў у большасьці нявысокія, з галоўкаю на версе, але часьцей без яе, з адным крыжам. Рэдка пакрыцьцё званіцы мае больш складаныя формы. Пераважна званіцы знаходзяцца збоку ад царквы, рэдка над уваходнымі варотамі. Для прыкладу пакажу на званіцу Віцебскае Спаскае царквы.

Пасьля гэтага кароткага агляду асноўных формаў заходне-рускае (беларускае — ув. перакл.) царкоўнае архітэктуры астаецца закрануць некаторыя вонкавыя дэталі і апісаць унутранае ўладжаньне беларускае сьвятыні.

### Своеасаблівасьці беларускіх сьвятыняў

Пазьнейшыя цэрквы ў дэталях свайго ўпрыгожаньня мелі ўсе асаблівасьці рэнэсансу з усімі яго разнавіднасьцямі. У старэйшых, пераважна дзераўляных цэрквах з XVII ст. і часткава XVIII ст. сустракаюцца сякія-такія рысы, якія збліжаюць да памятак архітэктуры паўночнае і ўсходняе Расеі, але пры ўважнейшым і дэтальным разглядзе і тут выступаюць свае асаблівасьці.

14. Параўняй: Сусловъ. Матеріалы... ст. 38,




Рыс. 1 Званіцы: а) Паўночнае Расеі; б) Беларускія

Калі, напрыклад, мы прыраўняем галавы Заходне-Рускіх (беларускіх — ув. перакл.) дзераўляных цэркваў з галовамі дзераўляных цэркваў расейскае Поўначы, дык убачым такія розьніцы: На поўначы Расеі шыйка галавы цыліндрычная, галава ў форме цыбуліны, круглае ў пазёмым перакрою. У заходняй Расеі (Беларусі — ув. перакл.) шыйка васьмікантовая, і такая-ж цыбуліна. Апошняя зьяўляецца больш скаладанаю быццам зложанаю з асобных складовых частак (гл. рыс. 2).

Крыжы на тыпічных заходне-рускіх (беларускіх — ув. перакл.) цэрквах прарэзныя, з тонкіх пласьцінак жалеза, склёпаных вялікімі заклёпкамі, чатырохканцовыя, і з зьзяньнем. Крыж зьвязаны з галоўкаю ці верхам даху ня куляю, як гэта звычайна бачым у цэрквах расейскага стылю, але больш, або менш доўгім і складаным жалезным прутам. Куля на падножжы крыжа ня ёсьць неабходнаю (гл. рыс. 3. а. і б.). У пазьнейшых часох пад уплывам каталіцызму часам замест крыжоў над франтонам і вежамі зьяўляюцца манаграмы Збавіцеля ў кругу з навакольным зьзяньнем.

Для пакрыцьця даху звычайна ўжываліся гонты. І гэта адносіцца ня толькі да дзераўляных, але і большасьці мураваных сьвятыняў. Бляшаныя дахі большаю часткаю зьявіліся пазьней. Часам для пакрыцьця мураваных будынкаў ужывалася чарапіца.

Купалы часта крыліся гонтамі, але нярэдка і бляхаю. Галавы і вярхі вежаў, а так-жа выгінастыя краі франтонаў крыліся бляхаю.

Сьцены мураваных цэркваў, як правіла, тынкаваліся, капітэлі калёнаў і арнамэнты звычайна былі з тынку.




Рыс. 2 Галавы дзераўляных цэркваў. А) — Беларусі; Б) — Поўначы Расеі

Дзераўляныя цэрквы блізка што ніколі не аставаліся неашаляванымі і мы ў Беларусі ня бачым цэркваў з круглякоў, як гэта ёсьць на поўначы Расеі. Сьцены шаляваліся стоцьма стоячымі дошкамі з арачкамі на дошцы, якая прыбівалася папярэчна ўверсе пад карнізам, як гэта назіраецца і-ў Малярасеі (Украіне — ув. перакл.), Галіціі, Донскай вобласьці (гл. рыс. 4) (15). Вуглы абшываліся ў форме пілястраў. Шалёўка і дах звычайна аставаліся непахварбаванымі, дзеля гэтага старыя цэрквы выступалі, як чорныя сілуэты між акружаючае іх зелені.

Маленькія, бяднейшыя цэрквы (магільнікавыя і капліцы) часам не шаляваліся. У такіх вы-

15. В. В. Сусловъ. Очерки по исторіи. стар. 26-27,



Рыс. 3. Крыжы на вярхох беларускіх цэркваў



**Рыс. 4. Шалёўка беларускіх дзераўляных цэркваў. а) — агульна ўжываны від, b) — рэдка ўжываны (Чорная царква ў Віцебску). с) — папярэчны разрэз.**

падках іхнія сьцены складаліся з бярвеньняў, аплазаваных з усіх бакоў.

Вялікія вокны, што асьвятлялі сьвятыню і аўтар знайходзіліся высока ля столі або скляпеньня; звычайна яны былі даволі высокія і шырокія. Верхняя часьць вакна ў большасьці выпадкаў мела форму адрэзка крывое лініі, які перасякаецца з бакавымі лініямі вакна. Гэта адносіцца ў аднолькавай ступені, як да дзераўляных, так і да мураваных цэркваў. (гл. рыс. 5. а.). Характэрныя для расейскай архітэктуры, вокны з паўкруглымі або поўэліптычнымі вярхамі сустракаюцца вельмі рэдка і то толькі ў вокнах купалаў.

Малыя вокны (рызьніца, бабынец) у мураваных сьвятынях маюць форму шырокага прастакутніка. У дзераўляных цэрквах ў гэткіх выпадках сустракаюцца круглыя вокны (у якіх часта замест звычайных кратаў пастаўлены стоцьма прут) з ліштвамі ў форме квадрата, якога дыяганалі ідуць стоцьма і пазёма; часам і самое вакно мела від так пастаўленага квадрата (гл. рыс. 5. в. і с.), уканцы вокны з бабынца, або з галерэі ў сярэдзіну сьвятыні, мелі форму так-жа вузкае пазёмае шчыліны (рыс. 5. д.).

У даўнейшых цэрквах шкло ўстаўлялася ў валавяны пераплёт (рыс. 5. е. ф.). Дзьверы ў мураваных цэрквах пераважна былі акованыя жалезам, часам з рэльефнымі арнамэнтамі, у дзераўляных — пераважна ашалёваныя досыць вузенькімі дошкамі, разложанымі ў квадраты, якіх дыяганалі ідуць стоцьма і пазёма. Гэткія дзьверы ўпрыгожваюцца жалезнымі цьвікамі, часам зробленымі ў форме разэтак.

Як на асаблівую рэдкасьць трэба зьвярнуць увагу на ўваходныя дзьверы Троіцкае царквы Маркавага манастыра, багата ўпрыгожаныя разьбою з рэльефным абразом сьв. Тройцы (у версе) і сымбалямі эвангелістаў (на палавінках). Паўднёвыя малыя дзьверы так-жа ўпрыгожаныя рэзьбамі сэрафімаў (16).

Дахі ганкаў і адкрытых галярэяў падтрымоўваюцца точанымі слупікамі, часам даволі вычварнае зложанае формы (Гл. рыс. 6. Слупікі галярэі Троіцкае царквы Маркавага манастыра).

Цяпер трэба апісаць унутраны выгляд беларускіх сьвятыняў.

Той тып усходне-каталіцкіх сьвятыняў, на якіх уплыў каталіцызму (тут аўтар словам каталіцызм азначае польскае лацінства — Увага перакл.) дайшоў да таго, што яны зусім страцілі рысы ўсходняга абраду, у гэтым дакладзе не апісваецца. Даволі ўявіць сабе звычайны ўнутраны выгляд касьцёла з тою толькі розьніцаю, што сямтам сустракаюцца славянскія надпісы (на іконах і сьценных размалёўках) і старыя іконы, якія яшчэ захаваліся з даўных часоў (прыкладна з XVII ст.) тыпічнага заходне-рускага (беларускага — Увага перакл.) стылю. Такую сьвятыню, што была азнакаю ўжо поўнае затраты сваеасаблівасьцяў усходняга каталіцызму, яшчэ да нядаўна можна было бачыць у напоўразбураным стане ў лесе між Дзьвіною і Астравенскім гасьцінцам каля маёнтку Куповячына недалёка ад Віцебску.

У нашым дакладзе мы маем на ўвеце як маладлікія старыя праваслаўныя, так і тыя ўсходне-каталіцкія сьвятыні, што захавалі рысы праваслаўя ў іх агульных асаблівасьцях у параўнаньні з сьвятынямі Вялікарасеі.

Адносна усходне-каталіцкіх сьвятыняў неабходна азначыць некаторыя асаблівасьці, якія захаваліся непасрэдна пад уплывам каталіцызму і выкліканыя вымаганьнем каталіцкага абраду.

Падлогі як у мураваных, так і ў бальшыні

16. Дакладней аб гэтым глядзі: А. М. Павлиновъ. Древніе храмы Витебска и Полоцка. А так-жа артыкул ераман. Сергія ў «Полоцк. Еп.: Вѣд. за 1887.




**Рыс. 5. Розныя формы вокнаў беларускіх цэркваў. (a, b, c, d) і аконных пераплётаў (e, f)**



**Рыс. 6. Слупікі вонкавае галярэі Троіцкае царквы Віцебскага Маркавага манастыра**

дзераўляных цэркваў звычайна былі цагляныя, часта з шасьцікутных плытак.

Падлога аўтарнае часткі так-жа цагляная і была на адным узроўні з падлогаю царквы. Пад іконастасам ішла нізенька дзераўляная сходка, якая выставала каля паўаршына ў царкоўную частку і столькі-ж у аўтарную з адкосам на абодва бакі ў паўночных і паўднёвых дзьверах, творачы сабою парог. Падлога паміж аўтаром і царскімі дзьвярыма (...) паднятая на адну сходку, а так-жа і перад царскімі дзьвярыма ў выглядзе падоўжнага падвышэньня.

Дзеля адсутнасьці перадаўтарнае салеі клірасы рабіліся асобна, часам выступаючы далёка на сядэдзіну царквы, так што між клірасамі і ўтаром стаялі малельнікі.

Апісаныя асаблівасьці падлогі і клірасаў характэрныя ня толькі для Заходняе Русі (Беларусі — увага перакл.), але і Макарусі (Украіны — ув. перакл.).

Клірасы беларускіх цэркваў большаю часткаю былі перасоўныя, абгароджаныя глухою сьцяною сьпераду і з-заду, з паліцаю для кнігаў на пярэдняй сьценцы. Узор такога кліраса можна бачыць у Віцебскай Троіцкай царкве на Пескавіцку.

Над уваходам у царкву, а часам над прытворам знайходзіліся хоры. У старэйшых цэрквах (XVII ст.) хоры часта акружалі значную частку сьвятыні ў форме вісячае галярэі, як гэта відаць у дзераўляных цэрквах (Троіцкая ц. Маркавага манастыра, Аршанская Куцеінская ц., Якобштадзкая Сьв.-Духаўская (усе яны згарэлі). У вялікіх мураваных цэрквах з калёнамі часам хоры займалі прастор між калёнамі і бакавымі ды заходняю сьценамі (сабор Магілёўскага Брацкага манастыра).

Сьцены і скляпеньні мураваных сьвятыняў былі размалёваны клеевую хварбаю па тынку сьвятымі абразамі і арнамэнтамі (у стылі бароко і рококо). Улюбленымі сюжэтамі былі эвангельскія падзеі і прыповесьці; часткова падзеі апісаныя ў Апостальскіх Дзеяньнях і з Старога Запавету. Азначыць нейкую пэўную традыцыю ў разьмяркоўваньні сюжэтаў цяжка. Сустракаецца італьянскі жывапіс, часам вельмі слабое тэхнікі, але не пазбаўлены арыгінальнасьці ва ўняцьці асобаў і сцэнаў. Напрыклад у Віцебскай Заручэўска-Уваскрасенскай царкве «вораг, што сее куколь», намаляваны з каровячаю галавою, але мастак змог даць гэтаму аблічу самаздаволеную злоснарадасную ўсьмешку. Тыпы і вопратка адлюстроўваюць асаблівасьці эпохі і краю.

Менш часта, але сустракаюцца так-жа і дзераўляныя цэрквы з размалёўкамі на палатне, якім былі абклеены сьцены і столь — звычайна клееваю хварбаю, у рэдкіх выпадках — алейнаю. Гэтую апошнюю размалёўку сьцен можна бачыць у Троіцкай царкве Маркавага манастыра; адносіцца яна праўдападобна да пачатку XVII ст. Трэба сказаць, што гэтая размалёўка мае нязвычайную вартасьць, як па колькасьці і разнаякасьці (Стары Запавет, Эвангельле, Дзеяньні Апосталаў, Апакаліпсіс, цярпеньні мучанікаў, сцэны з жыцьця Кіева-Пячэрскіх сьвятых), так і па арыгінальнасьці ўняцьця. Трэба зазначыць, што 75 гадоў таму (а цяпер 120 — ув. перакл.) гэтую размалёўку аглядаў славуты мастак І. Е. Рэпін. Кажуць, што ён ацаніў гэты сьценапіс як працу таленавітага самавучкі, які ўмеў прыдаць шмат жыцьця і руху фігурам (17). Гэты выдатны сьценапіс чакае выданьня ў фтаграфічных здымках. Аб гэтым павінны патурбавацца любіцелі старсьвеччыны, асабліва дзеля таго, што сьвятыня дзераўляная.

Надпісы, якія аб'сьняюць зьмест абразоў, звычайна ёсьць вынятымі з адпаведных эвангельскіх, або біблійных тэкстаў, з жыціяў, часам з царкоўных песень, але ёсьць так-жа і ўмысна ўложаныя, і тады часта яны былі вельмі арыгінальныя, напр.: «Іудиѳь гетману Олоферну царя Навходоносара главу отсѣче» (Марк. мон.).

У большыні дзераўляных цэркваў сьцены былі збольшага абчэсаны склюдам і выбелены, часам ахварбованы клееваю хварбаю. Часам (у прыпісных і намагільнікавых цэрквах) аставаліся неахварбаванымі.

Іконастасы ў старых праваслаўных цэрквах і тых усходне-каталіцкіх, каторыя іх захавалі, звычайна былі высокія, шмат'ярусныя. Над радам намесных іконаў маляваліся ў мэдальёнах дзьвенадзесятыя сьвяты; у другім ярусе Дэісус (Збавіцель на пасадзе з Багародзіцаю праваруч і Прадцечаю леваруч) і апосталы; у трэцім — прарокі, і ў цэнтры Богамаці з Прадвечным Дзяцям, або ў пазьнейшых часох — каранаваньне Богамаці; у чацьвёртым — праайцы. Іконастас пераважна завяршаўся Укрыжаваньнем (часам

17. Падрабязнасьці гэтага сьценапісу дакладна апісаў ераман. Сергей (Василевский) у артыкуле: «Витебскій Марковъ Свято-Троицкій мужескій монастырь». «Полоцк. Еп. Вѣд.» за 1887 г. Перадрукаваны ў «Губерн. Вѣд.».

рэзьбленым) з прыстаяшчымі, і часта групаю мэдальёнаў абрамаваных разьбою з сцэнамі мукаў Збавіцеля.

Іконастасы XVII і пачатку XVIII стагодзьдзяў звычайна багата ўпрыгожваліся разьбою (у стылі рэнэсансу і бароко). Ніжні ярус звычайна меў рэзьбленыя вітыя калёнкі; іншыя ярусы — часткава калёнкі, часткава паўкалёнкі і пілястры. Царскія дзьверы мелі выгляд сплеценых вінаградных галінак з гронкамі. Тло іконастасу пераважна было зялёнае або сіняе пад мармур. Разьба часткава пазалочаная і пасярэбраная, часткава пахварбаваная.

Іконастасы пазьнейшых часоў — другое палавіны XVIII ст. у стылі бароко і рококо звычайна замест калёнак мелі пілястры, і ў агульным выглядзе ня былі такімі масыўнымі, як іконастасы старэйшых часоў. Да ўражэньня лёгкасьці прычынялася так-жа і тое, што іконастасы ў пляне часта мелі від ня простае сьцяны, а ломанае лініі.

Пад намеснымі іконамі ў рамках зьмяшчаліся абразы эвангельскіх і біблейскіх падзеяў і прыповесьцяў.

Некаторыя з мураваных цэркваў мелі так-жа мураваныя іконастасы з цаглянымі ці тынкаванымі калёнамі і з арнамэнтамі на версе з тынку. Тло іконастасу было размалёвана пад мармур, карнізы і капітэлі калёнаў пакрываліся матаваю пазалотаю; калёны або размалёўваліся пад мармур, або, калі яны былі вітыя, пакрываліся матаваю пазалотаю, або серабром. Іконы ўстаўляліся ў нішах, або ў навылётных пралётах. Гэткія іконастасы ёсьць у Віцебскім Усьпенскім саборы (закрыты пазьнейшым дзераўляным іконастасам і большая частка калёнаў адбітая) у Віцебскай Дабравешчанскай царкве (пазьнейшага абсталяваньня), у Полацкім Сафійскім саборы.

Рэдкі ў сваім родзе іконастас захаваўся (бальшавікі разабралі на дровы — ув. пер.) ў Віцебской Троіцкай («чорнай») царкве што на Пескавацiку. Ён творыць шырачэзны — на ўсю шырыню аўтара — і высокі аж да столі дашчаны шчыт (дошкі пастаўлены стоцьма), на якім намалёваны клееваю хварбаю: калёны карынцкага стылю ў некалькі ярусаў, упрыгожаныя кветкамі карнізы, рамы, мэдальёны — і ў іх на тым-жа шчыце намалёваны іконы (вынятак твораць іконы ніжняга ярусу, намаляваныя на асобных дошках). Тло іконастасу — пад мармур. Царскія дзьверы, сучасныя іконастасу, нажаль не захаваліся, і заменены пазьнейшымі, якія зусім дызгарманізуюць з іконастасам. Іконастас заслугоўвае таго, каб яго сфатаграфаваць.

Надаўтарныя бальдахімы (кіборыі) ёсьць рэдкасьцю. Нам асабіста ведамы масыўны бальдахім на 4-х калёнах у Троіцкай царкве Маркавага манастыра і вісячы бальдахім у форме чатырохскатнага даху ў старой праваслаўнай Міхайлаўскай царкве ў Бешанковічах.

Ува ўсходне-каталіцкіх сьвятынях, калі яны і захавалі іконастасы, дык аўтары пераважна прысоўваліся да сьцяны сьвяцілішча паводля лацінскага звычаю, прычым мелі звычайны від выступа перад больш або менш вялікім ківотам (дарахраніцельніцаю) з намаляванаю на ім іконаю храмавога сьвята. На сьцяне над аўтаром звычайна малявалася мантыя з каронаю на версе. Ківот быў быццам уключаны ў гэтую мантыю і ахінаўся ёю.

Пры сьценах і калёнах старых праваслаўных цэркваў былі выступы ў форме навесаў (бальдахімаў). Ува ўсходне-каталіцкіх цэрквах яны былі асабліва вялікія і ў іх падножках разьмяшчаліся бочныя аўтары ў форме выступу. На гэтым выступе стаялі валавяныя падсьвечнікі (4-6). Гэткія бочныя аўтары яшчэ да нядаўна можна было бачыць у Віцебску ў Ільінскай царкве (згарэла ў 1903 г.), а так-жа ў Петрапаўлаўскай царкве. Іхняя колькасьць даходзіла да шасьці і больш.

Навесы над бочнымі аўтарамі па большай часьці ўпрыгожваліся шматлікімі калёнамі, часта ў два ярусы і з багатаю разьбою. У бяднейшых цэрквах яны былі падобныя да іконастасу Віцебскае Троіцкае царквы, апісанае вышэй. Дашчаныя шчыты, размалёўваліся калёнамі, арнамэнтамі, з іконаю ў цэнтры.

Што да іконапісу, дык старэйшы (XVII ст.) мае зьмешаны характар. У ім адбіліся розныя ўплывы. З аднаго боку праглядвае бізантыйская традыцыя — у тыпах аблiччаў, у вопратцы, у позах — бачна, што мастаку ўзорам былі іконы грэцкага пісаньня, але ў тэхніцы ўжо праяўляецца моцны ўплыў Захаду. Абразы грэцкага і рускага пісаньня маюць іконапісны характар (пэўны схэматызм уняцьця, абстрактнасьць), абразы заходне-рускага (беларускага — ув. перакл.) пісаньня — жывапісны; рысы аблічча, цела, вопратка, зложаныя кампазыцыі, навакольныя абставіны — усё гэта быццам узята з жыцьця разам з падрабязнасьцямі і намалёвана згодна з прыродаю. Адцені хварбаў больш сьветлыя, больш яскравыя ад прынятых у грэцкім і расейскім іконапісе. Хварбы ўжываліся алейныя. Іконы маляваліся большаю часткаю на дошках, але часам і на палатне.

У намесных іконах (Збавіцеля, Божае Маці, Міколы Цудатворца і інш.) звычайна фігуры маляваліся не па пояс, як на іконах бізантыйскага пісаньня, але ў дзьве трэці (2/3) росту. Пры тым намесныя іконы і асабліва іконы пры бакавых аўтарох вызначаліся сваею велічынёю.

Нярэдка іконы пакрываліся сярэбранаю, або мэталічнаю аправаю кованае работы. У рэдкіх выпадках гэтая аправа пакрывала ўсю ікону, звычайна-ж толькі самую фігуру. Наагул аправа ня была суцэльнаю, але складалася з асобных даволі тонкіх пласьцінак, злучаных нітамі. Тло іконы звычайна было апрацавана такім чынам, што на

першы пагляд выдавалася быццам так-жа абложанае аправаю. Дасягалася гэта такім спосабам: на дошку накладаўся гіпс і з помаччу адпаведнае формы выціскаўся на ім адпаведны рэльеф для тла (арнамэнт, навакольныя абставіны), потым накладалася пазалота, серабро, часам хварбы. Часта гэткім-жа спосабам замест апраўы рабілася вопратка і німб навокал галавы. Словам, гэта была даволі мастацкая імітацыя сярэбраных і залатых аправаў. Гэткім чынам пры параўнаўчай беднасьці насельніцтва Заходняе Русі (Беларусі — ув. перакл.) здавальнялася імкненьне да царкоўнае прыгажосьці.

Для большых іконаў, якія ўстанаўляліся ў асобных бажніцах было прынята навокал цэнтральнае асобы (Збавіцеля, Маці Божае, сьвятога, пабожнае падзеі) акружанае рэльефнымі бардзюрамі, разьмяшчаць на той-жа дошцы між завіткаў арнамэнту шматлікія мэдальёны. Адпаведна да цэнтральнага малюнку ў гэтых мэдальёнах маляваліся падзеі з жыцьця Збавіцеля, Божае Маці, сьвятога (часта ў форме так званага асабовага акафісту: гэта значыць, што тэмы да малюнкаў браліся з акафісту і паясьняліся надпісамі з адпаведных ікосаў і кандакоў акафісту). Навокал іконы Божае Маці часам у мэдальёнах маляваліся правобразы з Старога Запавету, якія Царква адносіць да Багамаці («высокая драбіна», «урна манны», «неапальная купіна» і інш). Над цэнтральным малюнкам, або пад ім у мэдальёне, або на скрутку, які трымаў анёл, быў выпісаны адпаведны трапар ці кандак (увесь, або толькі пачатак). Часам гэткі напіс рабіўся ў асобным мэдальёне над іконаю. Можна было так-жа стрэнуць замест традыцыйнага царкоўнага тэксту спэцыяльна ўложаныя вершы.

Ад XVIII ст. поўнасьцю заняў мейсца італьянскі жывапіс з усімі яго добрымі і дрэннымі якасьцямі (жывасьць і рух фігураў, рэалізм, манернасьць і напышлівасьць). Намесныя іконы тады пачалі маляваць на ўвесь рост. На Багамаці і сьвятых вопратка часта падобная да тагачаснае моды. Вопратка часта пакрываецца аправаю, але заіснаваў звычай, што іконы пакрываюць аксамітам чырвонага або фіялетавага колеру.

Сьвятыні Заходняга краю (Беларусі — ув. перакл.) упрыгожваліся так-жа скульптураю. У старых праваслаўных сьвятынях яна сустракалася рэдка і пры тым, звычайна, для дэкаратыўнага ўпрыгожваньня (фігуры анёлаў на версе іконастасу, над бальдахімамі і пад.) і вельмі рэдка, як уласьцівыя іконы (напр.: Укрыжаваньне з прыстаяшчымі над іконастасам). Шмат часьцей сустракаліся скульптурныя фігуры ўва ўсходне-каталіцкіх сьвятынях, і пры тым ужо часта ў якасьці іконаў.

Статуі і скульптурныя Укрыжаваньні былі пераважна даволі грубае работы, рэзаныя ў дрэве, часам гіпсовыя, даволі груба ахварбаваныя. Аднак часам трапляліся высока мастацкія творы. Гэткім, кажуць, было Укрыжаваньне ў Віцебскім Усьпенскім саборы, рэзанае з косьці. Яно невядома дзе падзелася падчас капітальнага рамонту сабору ў 70-ых гадох мінулага стагодзьдзя.

За выняткам малых цэркваў (прыпісныя і магільнікавыя) усе іншыя, як усходне-каталіцкія, так і старыя праваслаўныя сьвятыні заўсёды мелі амбоны для казаньняў ў форме балькончыка ля калёны або бакавое сьцяны, звычайна з навесам над ім.

Дзеля таго што ў каталіцкіх лацінскіх сьвятынях мы бачым зусім гэткія-ж амбоны, дык у паясьненьні таго, адкуль узяліся амбоны ў заходне-рускіх (беларускіх — ув. перакл.) цэрквах, адразу зьяўляецца думка, быццам ўсходне-каталікі перанялі іх ад лацінянікаў, а далей патураючы ім, увялі ў свае сьвятыні і праваслаўныя. Такое паясьненьне праўдападобнае, але магчымае і другое паясьненьне, калі мы заглянем глыбей у гісторыю амбона — гэтае старэйшае прыналежнасьці хрысьціянскае сьвятыні. З гэтаю мэтаю дазволю сабе зрабіць вытрымку з «Историі Русской Церкви» Е. Е. Голубінскага.

«Цяпер у нас няма нават і памяці аб старых амбонах, а між тым яны зьніклі ў нас не далей як на пачатку XVIII ст. і ў гісторыі нашае царкоўнае археалёгіі твораць тую выдатную асаблівасьць, што мы захавалі іх шмат даўжэй, як грэкі. Стары амбон, які зьявіўся ў цэрквах дзеля таго, каб ўсё, што чыталася, абвяшчалася і пялася на іх, лепш чулася прысутнымі і асабліва, каб так было з чытаньнем Сьвятога Пісаньня. Такі амбон быў ні больш ні менш як падвышшэньнем, але вельмі праўдападобна, што форма, якую даў амбону Юстыніян у сваёй Сафіі, была найбольш распаўсюджанаю. Хай чытач уявіць сабе альтанку ў форме авальнае агарожы, зробленае з глухіх пагрудных сьценаў...; хай ён паставіць гэтую альтанку на калёны вышынёю прыкладна ад двух да трох аршынаў (ад паўтара, да двох мэтраў); хай ён уявіць што на гэтую альтанку з двох супрацьлеглых даўжэйшых бакоў авала зроблены два ўваходы... Часам альтанка аставалася адчыненаю, але часам над ёю рабіўся верх гэткім чынам, што на яе агарожы (бар'еры) ставіліся калёнкі і на гэтыя калёнкі ставіўся кулісты, або пірамідальны дах...».

«На Захадзе рабіліся два розныя амбоны, — адзін для Эвангельля, другі для Апостала; Часам аднак рабіўся толькі адзін амбон, але двух-павярховы: дзьве альтанкі, меншая ў большай, з якіх ніжняя або большая была для чытаньня Апостала, а верхняя, або меншая для Эвангельля».

«Ня ведаем ад якога часу да Сымона Салунскага (пачатак XV ст.) **амбоны ў грэкаў пачалі перасоўваць з сярэдзіны царквы на бок і ў палавіне XVIII ст. гэткае перасуненьне стала ў іх**

**агульным звычаем** (18), а папярэдняе палажэньне было зусім забытае. На баку і якраз паўночным, **няма ведама, ці паводля пазьнейшага прыкладу Захаду, ці наадварот, паказаўшы Захаду прыклад**, грэкі не паставілі амбонаў на царкоўнай падлозе, але ў выглядзе малых альтанкаў або глухіх бальконччыкаў падвесілі іх да задняга падкупальнага слупа (або залежна ад будовы царквы... да аднаго з задніх слупоў і да сьцяны), у выглядзе гэткіх вісячых бальконччыкаў, якія служаць да чытаньня Эвангельля на Службе Божай і для казаньняў, яны астаюцца ў іх і да цяпер»...

«Першую думку аб зьнішчэньні ў нас старадаўных амбонаў (пасярэдзіне царквы) выказаў Арсені Суханаў, які невядома чаму, лічыў іх нашым новаўвядзеньнем. У сваёй «Проскинитаріи» ён піша: «амбона (нашага) зусім (у грэкаў) нідзе няма і нашых дакараюць, што засланіў усю царкву: аўтар, і абразы, і прастол, і царскія дзьверы; маўляў усю прыгажосьць забраў; а ў іх (гэкаў) ёсьць **амбоны старадаўныя** высока на баку каля сьцяны» (19).

Вось-жа перадусім зьяўляецца спрэчнае пытаньне: ці Захад пазычыў амбон у грэкаў, ці грэцкі Усход ў Захаду пазычыў новую форму амбона?

Па другое, з аднолькавым правам можна думаць і тое, што Заходняя Русь (Беларусь — ув. пер.) і Маларасея (Украіна — ув. пер.) запазычылі новую форму амбона з Захаду; і тое, што амбон у Кіеўскай мітраполіі (у склад якое ўвайходзілі гэтыя краіны) зьявіўся пад уплывам грэцкае Канстантынопальскае Царквы, з якою Паўднёва-Заходняя Русь у канцы XVII-VIII ст. была ў цесных адносінах.

Ува ўсякім выпадку, у гэтай асаблівасьці заходне-рускіх (беларускіх — ув. пер.) сьвятыняў нельга дабачваць чагосьці праціўнага духу праваслаўя, што заслугоўвае на зьнішчэньне; наадварот, яе трэба лічыць вельмі разумнаю і мэтазгоднаю ня толькі для казаньняў, але і для чытаньня Сьвятога Пісаньня. Дарэчы магу засьведчыць, як відавочнік, што чытаньне дыяканамі Эвангельля ў грэцкіх цэрквах з высокага амбону робіць моцнае і велічнае ўражэньне. Ува ўсякім выпадку, словы Эвангельля дасягаюць слуху прысутных, а не ляцяць да аўтарных сьценаў, як гэта бывае ў большасьці сьвятыняў пры нашым звычаі чытаньня Эвангельля.

Замест звычайнае ў Вялікарасеі зааўтарнае выноснае іконы Божае Маці ў цэрквах Заходняе Русі (Беларусі — ув. пер.) ёсьць выносны («паносны») спэцыяльна ўладжаны абраз. На століку з чатырмя нагамі стоцьма ўстаўлена ікона: на пярэднім баку намалявана Божая Маці, на адваротным — храмавога сьвята. Часта над столікам прымацаваны бальдахім на чатырох калёнках. Да століка прымацаваныя кольцы, у якія падчас працэсіяў усоўваюцца два дручкі, каторыя малельнікі (звычайна жанчыны) кладуць на плечы і гэткім чынам нясуць ікону, падняўшы яе высока над галавамі малельнікаў. Гэтая ікона звычайна стаіць у сьвятыні з левага боку.

Пратэсы большаю часткаю былі зроблены з тканіны (сукна, тонкае шэрсьці, а часам нават і шоўку), а сьвятыя абразы да іх маляваліся на палатне.

Нярэдка яны (асабліва тыя, што ўжываліся да пахаронных працэсіяў) мелі форму сьцягу (г. зн. былі прымацаваныя адным бокам да дрэўка і свабодна зьвешваліся ўніз).

Вялікія падсьвечнікі былі валявяныя. На версе падсьвечніка быў плоскі валавяны круг для стаўленьня сьвечак; на сярэдзіне круга быў вострыстрыжэнь для вялікае сьвечкі, а набокал былі маленькія гнёздачкі для малых сьвечах (ахвярак). Часам рабіліся і дзераўляныя падсьвечнікі. А часам замест падсьвечніка да падножжа іконы проста прымацоўваўся жалезны прут з гнёздачкамі, або нават дзераўляная дошка, да краю якое прыляпляліся сьвечкі.

Падчас брацкіх сьвят (20), калі перад брацкаю іконаю запальваліся вялікія брацкія сьвечкі (часам да 100 штук і кожная ад 2 да 5 хунтаў), дык тады перад іконаю ставіліся рэзьбленыя дзераўляныя падстаўкі падобныя да падсьвечнікаў. На гэтыя падстаўкі клалі дошкі (з дошак утваралася літара П, або чатырохкутнік) з шыпамі, або цьвікамі, на якія насаджваліся сьвечкі.

Цяпер некалькі слоў аб багаслужэбных судзінах, адзеньні, кнігах і іншых рэчах царкоўнага ўжытку. Багаслужэбныя судзіны праваслаўных сьвятыняў у істотных рысах былі такія-ж, як і ў іншых вобласьцях Расеі. Зразумела, што ў рысунку і аздобах выяўляўся ўплыў Захаду (рэнэсанс). Што да ўсходне-каталіцкіх сьвятыняў, дык у іх літургічныя чашы мелі форму выцягнутага кілішка. Іхняя велічыня пераважна была нязначная (ад паўтара кубка да шклянкі). Сьвятых абразоў навокал чашы, як гэта прынята ў Праваслаўнай Царкве, яны ня мелі, а былі толькі ўпрыгожаныя арнамэнтам, часта накладным. Уся-

18. Тут і ў далейшым падчыркненьне аўтара.

19. Е. Е. Голубинскій. Исторія Русской Церкви. Томъ I. Часть 2-ая. 1904 г. ст. 231-237.

20. Пры шматлікіх цэрквах Заходняга Краю (Беларусі) існавалі брацтвы асаблівага характару. Іхняю мэтаю было падтрымоўваць прыгажосьць парахвіяльнае сьвятыні. Брацтва мела сваю ікону, каторая штогод пераходзіла пачарзе ад аднаго братчыка да другога. Чарговы братчык быў забавязаны зьбіраць ахвяры і ўладзіць брацкі пачастунак у дзень брацкага сьвята. У гэты дзень ікона пераносілася ў царкву, а потым, пасьля пачастунку, на другі дзень, у дом новага чарговага братчыка. Галоўным чынам ахвяроўвалі сьвечкі. Такое брацтва існавала пры Віцебскай Ільінскай царкве. Гл. «Полац. Епарх. Вѣд.» з 1874 г. Нр. 24,

рэдзіне чашы былі пазалочаныя, звонку часта без пазалоты, або з пазлачаным арнамэнтам.

Для перахоўваньня Найсьвяцейшае Эўхарыстыі ўва ўсходне-каталіцкіх цэрквах былі асобныя чашы, так званыя «пушкі», у форме кулі, што складалася з дзьвюх палавінак. Ніжняя часьць была на ножцы з падстаўкаю, як у літургічных чашах, а верхняя — накрыўка — з крыжыкам наверсе.

Дараносіцы мелі форму сподачкаў, або кубачкаў з пукатаю і выцягнутаю ўверх накрыўкаю, на якой быў выгравіраваны Збавіцель (уваскрасеньне) у зьзяньні. Часам яны рабіліся прасьцей — без падстаўкі і з плоскаю накрыўкаю, на якой гравіравалася манаграма Збавіцеля і крыж.

Матэрыялам да ўсіх гэтых судзінаў у больш багатых сьвятынях было серабро, а ў бяднейшых розныя сплавы з большаю або меншаю дамешкаю серабра.

Для выстаўленьня Найсьвяцейшае Эўхарыстыі і нашэньня яе ў працэсіях — паводля лацінскага звычаю — былі ўведзены ўва ўсходне-каталіцкіх цэрквах манстранцыі, такое-ж формы, як і ў сьвятынях лацінскага абраду. (Толькі ўстаўка для Агнца мела не паўкруглую а прастакутную форму. — Ўвага пер.)

Сьвятарскае літургічнае адзеньне тым адрозьнівалася ад цяперашняга, што наагул было карацейшае, але перад быў выразаны ня так высока; гэткім чынам яны былі больш зблiжаны да старадаўнае формы фэлону. На плячох нашываўся крыж. Зьвязды, як цяпер — у нізе, ня было. Епітрахіль быў вузейшы, падвойны (кожная палавіна ў шырыню дыяканскага арара), пры чым абедзьве палавіны злучаліся завязкамі. Нарукаўнікі былі вельмі доўгія. Матэрыялам для адзеньня служылі звычайна шаўковыя (радчэй шарсьцяныя і льняныя) тканіны, вельмі часта з узорамі рознакалёрных букетаў і гірляндаў, а так-жа парча, часта мяйсцовае вытворчасьці (Слуцк).

Плашчаніцы, звычайна, складаліся з намаляванага на палатне палажэньня ў гроб Збавіцеля, на кусок шаўковае каляровае тканіны, абшытае па краёх махрамі. На берагох шаўковае тканіны быў напісаны серарбром або золатам трапар: «Благаобразны Іосіф». Часам і сам малюнак рабіўся на шоўку.

Цікавыя вянкі для шлюбу — у форме кружка ад 9 да 13 цэнтымэтраў у дыямэтры і 2 цэнтымэтры шырынёю з бярозавае кары, часам абшытае каляроваю шэрсьцю.

Адносна багаслужэбных кнігаў, дык разам з усходне-каталіцкімі выданьнямі з Пачаева, Супрасьля і інш., што часткава мелі праваслаўны тэкст з некаторымі зьменамі, а часткава былі чымсьці новым у сэнсе ўкладу (трэбнікі, служэбнікі з штодзеннымі эвангельлямі і інш.), трапляліся і праваслаўныя кнігі кіяўскага, львоўскага і інш. паўднёва- і заходне-рускіх друкарняў, а нават і маскоўскага друку, часам-жа нават і рукапісныя эвангельлі. Акрамя іх непасрэднае вартасьці, як большых і меншых бібліяграфічных рэдкасьцяў, гэтыя кнігі часам маюць яшчэ асаблівую вартасьць дзеля розных напісаў на палёх (напр.: імёны ахвярадаўцаў, некаторыя даныя адносна парахвіяў, падзеі парахвіяльнага жыцьця).

Вось у асноўным усё, што адносіцца да царкоўнае старадаўнасьці нашага краю. Спадзяюся, што мне ўдалося паказаць, што яна мае **сваё аблічча,** а разам з тым і права на ўважлівыя адносіны да сябе.

А якія-ж былі і ёсьць на справе адносіны да царкоўнае старадаўнасьці ў нашым краю? Не бяз цікавасьці будзе прыглянуцца да іх.

### Прычыны і дзейнікі вынішчэньня беларускіх царкоўных памятак

...Наагул сумная гісторыя царкоўных памятак і ўсякае старадаўнасьці ўва ўсіх канцох нашае бацькаўшчыны. Але наш край побач агульных умоваў і прычынаў, што дзейнічаюць ува ўсёй Расейскай імпэрыі, мае яшчэ свае асаблівыя прычыны, якія павялічваюць руйнацкую дзейнасьць.

Пачнём агляд ад агульных прычынаў, а закончым мяйсцовымі, падаючы прыклады.

Перадусім да вынішчэньня памятак старадаўнасьці спрычыняецца нашая **някультурнасьць і беднасьць.**

І сапраўды, успомніце толькі, колькі гэта памятак царкоўнае архітэктуры гіне ад пажараў. Гусьціня будынкаў, насуперак усякіх законных правілаў і меркаваньняў здаровага розуму, дахі з неагнетрывалых матэрыялаў даюць магчымасьць вогненнаму мору разьлівацца шырока... Успомніце, якія сродкі мае наша вёска, каб тушыць пажар, успомніце гэныя праславутыя вывескі на варотах: дзе вядро, дзе бусак і пад. І ў гарадох часам ня шмат лепш: дрэнна зарганізаваныя з дрэннымі машынамі гарадзкія і дабравольныя пажарныя каманды, разгубленасьць і нязгода ў дзеяньнях, няўменьне лякалізаваць пажар.

Успомніце, што шматлікія цэрквы, высока ўздымаючыся над навакольнымі будынкамі, загараюцца ад маланкаў і даведайцеся, ці ў шматлікіх мяйсцовасьцях ёсьць грамаадводы на царкоўных купалах і вежах; магу вас запэўніць, што знойдзеце іх не як правіла, а як рэдкі вынятак.

Закранём цяпер іншыя ўмовы стыхійнага характару.

Ведама, што для добрага стану мураванага будынку важнае значэньне мае адпаведны грунт, асабліва, калі будынак стаіць на ўзгорку ці на высокім беразе ракі. Высокі бераг сыстэматычна падмываецца ракою. Грунтавыя воды вядуць такжа сваю разбуральную работу. У выніку часам здараюцца аграмадныя апоўзьні. Уявеце сабе, якое мае значэньне ўмацаваньне берагоў, дрэнажаваньне грунту, строгі нагляд за спускам адпра-

цаваных водаў і вадкасьцяў для будынкаў, якія стаяць на берагох.

Пры адсутнасьці ўсіх успомненых мерапрыемстваў, у найлепшым выпадку будынкі разбураюцца паволі, трэскаюцца; у горшым выпадку можна бачыць неспадзяваны абвал і разбурэньне будынку ў выніку абвалу берагу. Так у 1853 г. разам з часткаю берагу абвалілася ў Нёман паўднёвая сьцяна Калажанскае царквы ў Горадні, збудаванае ў XII ст. (21).

З гэтага гледзішча варта пацікавіцца хоцьбы Віцебскім Усьпенскім саборам. Нельга сказаць, што ўмацаваньне берагу, дагляд за дрэнажаваньнем грунту ў ваколіцы і каля самага сабору было прадметам нечых асаблівых турботаў. Н. Я. Нікіфароўскі што да гэтага піша: «Заснавальнікі Усьпенскае сьвятыні і будынку, які сёньня займае сэмінарыя, залажыўшы яе ў 1743 г. для памешканьня пад манастыр і школу, даражылі шырынёю плошчы і, каб яна ня зьменшылася ад падгрунтовых уплываў, тады-ж пастараліся абгарадзіць яе каменным і дзераўляным умацаваньнямі, бачымыя рэшткі якіх дахаваліся ў крушнях мураў і зрубаў на схіле ўзьбярэжжа і так-жа цэлых пакульшто зрубаў і паляў у вадзе ля самага берагу Дзьвіны. А для адводу падгрунтовае вады былі праведзены падземныя сьцёкі, якія яшчэ і да гэтуль даюць прычыну да пагалосак, быццам з Усьпенскага сабору і сэмінарыі ёсьць ходы пад рэчышчам Дзьвіны на правы бераг рэчкі»... З цягам часу «даўнейшыя інжынерскія працы пайшлі ў забыцьцё; вадаправоды забузаваліся і грунт разьмяк. Вынікам гэтага было тое, што значная частка бульвару супраць зав. Бібкіна і далей, у кірунку «дварца», асела на некалькі сажняў, прычым разбурыліся ўмацаваньні, а аплыўшая ў Дзьвіну зямля была зьнесена вадою; каліцьні суцэльны бульвар раздваіўся»... Шмат гадоў потым сталася «новая асяданьне грунту супраць зав. Бібкіна» (у 1866-67 гадох)» (22).

Тэхнічны агляд будынку Усьпенскае царквы не рабіўся ад няпаметных часоў і толькі нядаўна быў зроблены дзеля шматлікіх трэшчынаў, што зьзяюць зьверху аж да фундамэнту,адыходу ў бок правае вежы ды іншых дэфэктаў. А між тым гэта-ж краса ўсяго гораду, якую бачна здалёку больш чым за дзесяткі вёрст!

Прыгляньмася цяпер да лёсу сьвятыняў, у якіх дзеля нейкіх прычын спынена багаслужэньне; напрыклад дзеля пабудовы новае сьвятыні, ці дзеля скасаваньня прыходу, як гэта было ў 60-ых гадох пры скарачэньні штатаў парахвіяльнага духавенства. Звычайна, калі такое царквы не разьбяруць на цэглу, ці на дровы, дык толькі ў рэдкіх выпадках яе падтрымоўваюць і рамантуюць, найчасьцей-жа яна паволі разбураецца. А між тым часам некалькі дзесяткаў рублёў маглі-б захаваць памятку старадаўнасьці.

...Я не магу забыцца прагулкі ў таварыстве Д. І. Даўгялы да «лясное» царквы недалёка ад Астравенскага гасьцінца каля маёнтку Куповячына. Сярод лесу на невялікім узгорку стаіць пахіленая чорная царква. Вокны бяз шкла. Дах зарос мохам і нават маладым бярэзьнікам, мяйсцамі зусім праваліўся і ўсюды сьвеціцца, як рэшата. Купал пахілены і так-жа зьзяе шчылінамі. Падлога абвалілася. Пад дахам і ля аўтароў птушкі павілі гнёзды. Хварбы іконаў і сьценнага жывапісу пабляклі і часткава абсыпаліся, а малюнкі прынялі від нейкіх ценяў. Па краёх навесаў над іконамі і ля іх падножкаў навешаны і разложаны кускі палатна, пучкі льну і шэрсьці — ахвяры беларуса, каторы йдзе ў гэтыя руіны выказваць у малітве свае патрэбы і жаль перад тымі іконамі і аўтарамі, да якіх прыходзілі яшчэ яго дзяды і прадзеды... Мы абышлі будынак навокал, пастаялі ўсярэдзіне, паглядзелі, з цяжкасьцю разабралі і перапісалі некаторыя надпісы. Адзін сэмінарыст, які нам спадарожнічаў, зрабіў некалькі фотаздымкаў... Яшчэ раз глянулі на вобраз разбурэньня і пайшлі назад...

...Недалёка адтуль, ніжэй па цячэньню Дзьвіны, у межах Магілёўскае епархіі ёсьць вёска Дарагакупава. Ня вельмі даўно там пабудована новую царкву. Едучы на параплаве, можна бачыць недалёка ад новае царквы старую-чорную, пахіленую. Шкло ў вокнах выбітае; дах сьвеціцца, а між тым, гэта-ж будынак з XVIII ст. і вельмі характэрны па стылю. Для нашае небагатае царкоўнае старасьвеччыны Заходняга Краю (Беларусі — ув. перакл.) — гэта каштоўнасьць ня так ужо малая. На мейсцы або ня могуць, або ня ўмеюць знайсьці сродкі для рамонту, ды можа ім проста ў галаву ня прыходзіць, што гэта трэба зрабіць, а ў гары ніхто не зьвяртае ўвагі; гэта-ж ускраіна Магілёўскае епархіі.

Зрэштаю, што гаварыць аб глухіх закутках. Старэйшыя жыхары Віцебску памятаюць яшчэ, як за горадам па дарозе да Мазурына на беразе Дзьвіны стаяла, калі ня мыляюся, на зямлі віцебскага архірэйскага дому, Барысаглебская муравааная царква. Яна ўжо ад даўна была зачынена. Тынк на палавіну абваліўся. Дах струхлеў. Каля ўваходу стаяў вартавы. У ёй доўга гадоў мясьціўся склад амуніцыі, пакуль уканцы, на пачатку 90-ых гадоў яе не прадалі на злом. Гэткім чынам самым простым спосабам была зьнята ганебная пляма з аблічча тых асобаў і ўстановаў, каторыя павінны былі займацца аховаю сьвятыні.

...Праваслаўная Царква ў нашай краіне часткава перабрала ад Усходне-каталіцкае Царквы, часткава атрымала пры закрыцьці каталіцкіх лацінскіх манастыроў у розны час і пры канфіскаце

---

21. Е. Орловскій. Судьбы православія въ связи съ исторіею латинства и уніи въ Гродненской губерніи въ XIX столѣтіи. Гродна 1903, ст. 134-135, 151, 503.

22. Н. Я. Никифоровскій. Странички изъ недавной старины г. Витебска. Витебскъ 1899, ст. 66-70.

касьцёлаў падчас паўстаньня 1863 г. нямала царкоўных будынкаў, аграмадных памераў і велічных у архітэктуры. Беднасьць праваслаўнага насельніцтва, немагчымасьць, а можа нават — цяжка судзіць — часам і няўмельства, і неахвота вышукаць сродкі для падтрыманьня робяць тое, што часам гэтыя вялікапышныя будынкі галосяць да неба сваім жалюгодным выглядам, пакуль на іх ня зьверне ўвагі начальства, і ня зробіць рамонту на дзяржаўны кошт. Ня трэба далёка хадзіць за прыкладам: такі Віцебскі Усьпенскі сабор, а яшчэ ў большай ступені Полацкі Сафійскі сабор. Зрэштаю для суцяшэньня любіцеляў старасьвеччыны трэба сказаць, што апошні ўжо рамантуецца, а першы стаіць на чарзе з гэтага гледзішча... Не магу ня ўспомніць долю Ушацкае царквы Лепельскага ўезду. Падчас польскага бунту быў зачынены Ушацькі касьцёл, а на пачатку 70-ых гадоў перададзены праваслаўным і пасьвячаны ў імя сьв. Аляксандра Неўскага. Нядоўга ў ім адбываліся багаслужэньні. Хутка сьвятыня была апушчана. Дах і вокны моцна пацярпелі ад часу. Апушчэньне дайшло да таго, што падчас кірмашоў у сьвятыні ставілі коней. На сумную долю сьвятыні зьвярнуў увагу Д. І. Даўгяла ў газэтным артыкуле і з пачыну Сьв. Сыноду была прызначана паважная сума на капітальны рамонт.

...Гэткія вынікі нашае беднасьці і някультурнасьці для памятак царкоўнае старадаўнасьці. Але гэта было-б паўбяды, калі-б у нас толькі пасыўна адносіліся да руйнацкае працы стыхіяў адносна старых памятак.

Нажаль на кожным кроку мы бачым і людзкую працу, накіраваную на нішчэньне роднае старадаўнасьці; работу, у аснове якое ляжыць, як і ўва ўсіх краінах нашае бацькаўшчыны, **невуцтва** і пры тым, яшчэ на большую бяду, часта ў саюзе з **клопатамі аб царкоўным прыгастве.**

У якую небясьпеку невуцтва ставіць памяткі. інтэлігэнтнаму чалавеку нават цяжка ўявіць. Паясьню гэта на прыкладах.

...У адной з вёсак Магілёўскае епархіі, дзе сьвятаром быў мой дзядзька, падчас майго студэнцтва, чакалася прыезду архірэя. Я там быў на вакацыях. Запраглі і мяне да падрыхтовак. Я прыводзіў у парадак царкоўны летапіс і лад. Аднойчы вечарам дзядзька кажа: «Пайдзі, калі ласка, у царкву. Там дзяк парадкуе бібліятэку. Памажы яму разабраць кнігі. Іду. У прыцемку пры сьвеце тоненькае васковае сьвечкі над сталом, заваленым грудамі кнігаў, стаіць з глыбокадумным абліччам псаломшчык і час ад часу шпурляе на падлогу асабліва старыя і пашарпаныя кнігі, прыгаворваючы: «гэта ў печку». На падлозе ўтварылася ўжо даволі вялікая куча кнігаў, асуджаных на спаленьне. Я нахіліўся над імі, і што-ж бачу?! Адна пашарпаная кніга без пераплёту — гэта рукапіснае эвангельле ды яшчэ з вельмі характэрнымі зацемкамі на палёх аднаго сьвятара з XVIII ст., зацемкамі, што былі вартаснымі для гісторыі парахвіі. Вось-жа толькі дзякуючы прыпадку захавалася эвангельле і трапіла на перахаваньне ў Віцебскі царкоўна-археалягічны музэй (23).

...Помню, мяне аж калаціла, калі я чуў наіўны расказ старэнькага сьвятара, як у сенях ягонага дому, што быў калісь базыльянскім манастыром, у кутку стаялі партрэты радавітых фундатараў манастыра і царквы: стаялі, стаялі, але аднаго дня ён вырашыў кінуць іх у печ, як непатрэбшчыну: «я ня думаў — гаворыць стары — што яны могуць каму небудзь спатрэбіцца».

...Часам трэба дзіву давацца з дзікае настойлівасьці людзей да нішчэньня гістарычных памятак і, калі ня шукаць у гэтым гоне якіхсьці нізкіх меркаваньняў, дык залічыць дзеяньне гэткіх людзей на рахунак чыстага барбарства...

...У Задьвінскай Слабодцы м. Бешанковіч знайходзілася царква ім. Сьв. Міколы Цудатворца. Яна пабудована ў апошняй чвэрці XVIII ст. для задаваленьня рэлігійных патрэбаў праваслаўнага насельніцтва прыгранічнае расейскае мытнае канторы. З цягам часу бешанковіцкі Мікольскі прыход быў скасованы і прылучаны сьпярша да Міхайлаўскага прыходу, а потым разам з Міхайлаўскаю царквою да Ільінскага прыходу ў самым мястэчку. Царква шчасьліва стаяла, паддаючыся вельмі паволі дзеяньню часу, і пры ўсім абыякавым адношаньні да яе, праўдападобна прастаяла-б і да сёньня... На пачатку 90-ых гадоў была зьвернута Мікольскай царкве прылягаючая да яе, агародная зямля, якую перад тым быў узяў маёнтак графа Храптовіча за невялікую плату, што яе даваў у парахвію. Тады здавалася, што заіснавалі спрыяючыя ўмовы для аднаўленьня пры царкве парахвіі, што было вельмі пажадана для зарэчных парахвіянаў дзеля нявыгаднага спалучэньня з парахвіяльнаю царквою ўвосень і вясною, і дзеля шматлюднасьці бешанковіцкае парахвіі. Але здарылася ня так... Клір бешанковіцкае парахвіі распачаў стараньне перад епархіяльнаю ўладаю, каб зьнішчыць Мікольскую царкву дзеля яе старасьці. А бешанковіцкія вернікі ў сваю чаргу ўзьнялі стараньні, каб захаваць старую праваслаўную сьвятыню. У епархіяльных установах справа зацягвалася. Аднак уканцы кансісторыя выдала загад аб зьнішчэньні царквы. Тады два рупліўцы аб роднай старасьвеччыне А. Я. Нікіфароўскі і Д. І. Даўгяла выдаюць дакладнае апісаньне і гісторыю царквы з плянам і здымкамі ды дамагаюцца за-

23. З сумам успамінаю, што тады-ж дзякуючы маёй неразважлівасьці і сьвятой прастаце мае цёткі загінуў каштоўны аксамітны пакравец, на якім вельмі тонкім вузлаватым пашывам быў вышыты Збавіцель у гробе і грэцкі напіс. Яго выпрасіла ў мяне цётка, прыракаючы захаваць, але відаць потым у мітусьні хтосьці кінуў яго ў печ.

Аднак больш уважныя досьледы дагістарычнага мінулага славянаў прынесьлі шмат фактаў, якія бяз сумліву сьведчаць аб тым, што найстарэйшаю вераю нашых продкаў быў монотэізм. І як ні дзіўна, але апошнім часам нават і савецкія гісторыкі мусілі прызнаць, што: «бог громаў і маланкі... Пярун, ёсьць прадуктам пазьнейшае дыфэрэнцыяцыі, дакладней кажучы — дызасоцыяцыі больш старых тэаганічных уяўленьняў чалавека, зьвязаных з нябесным агнём наагул і з самым небам. Вышэй Пяруна і старэйшым за яго павінен быў быць нейкі бог Неба, як вярхоўнае боства, як адзін вялікі бог» (9). Гэты-ж гісторык, Дзяржавін, прызнае існаваньне ідэі адзінага Бога ў балтыйскіх славянаў, апіраючыся на сьведчаньне ўспомненага вышэй Гэльмольда (10).

Не пералічаючы вынікаў навейшых досьледаў іншых гісторыкаў, успомнім толькі выснаўкі Мачка, які абагульнівае найнавейшыя досьледы аб найстарэйшай веры славян у гэткіх словах: «У найстарэйшым пэрыядзе супольнага жыцьця славянаў, прызнаецца існаваньне найвышэйшага нябеснага боства, якое называлася Небам, Ясным, Сьветам... гэтае боства было нябеснае, а не зямное, ці падземнае, яно было патрыярхальнае, не матрыярхальнае» (11).

Праўда, яшчэ ў некаторых папулярных кніжках бязбожнага напрамку можна стрэнуць цьверджаньні адносна дахрысьціянскае веры славян ў духу аджыўшых гіпотэзаў, але ўжо той факт, што нават паважнейшыя гісторыкі ў бязбожнай дзяржаве выказваюць беспадстаўнасьць гэных гіпотэзаў, звальнае нас ад лішняе палемікі, якая да таго не належыць да тэмы гэтага артыкулу. Пяройдзем адразу да разгляду вестак аб найстарэйшай веры нашых продкаў.

Багатаю і найбольш вартаснаю крыніцаю адносна найстарэйшае і перадхрысьціянскае веры нашых продкаў зьяўляецца беларуская вусная народная творчасьць і фальклёр. Ёсьць шмат беларускіх казак, якія сваім пачаткам бяз сумніву сягаюць дагістарычных часоў. Між імі ёсьць казкі аб сатвараньні сьвету і нашае зямлі. У адной такой казцы гаворыцца, што перад сатварэньнем зямлі аднойчы бог хадзіў па небе: «аж бачыць, вісіць нейкі пузыр, а ў пузыры нешта пішчыць. — Хто там? — пытае бог. З пузыра адказвае: Бог. — А хто-ж я? — пытае бог. — Ты над багамі бог — быў адказ з пузыра». І далей апавядаецца, як яны тварылі зямлю. Характэрна, што ў казцы не называецца імені таго «над багамі бога». Відаць, што нашы продкі ад найдаўнейшых часоў іменем Бога і называлі найвышэйшую істоту. У казках, дзе Бог зьяўляецца людзям у выглядзе старэнькага чалавека (а такіх казкаў ёсьць шмат) (12), так-жа ён называецца проста — Бог. Тут маюцца на ўвеце толькі тыя казкі, у якіх няма ніякіх сьлядоў многабоства, і так-жа ніякіх сьлядоў хрысьціянства. Калі-ж у далейшым пачала разьвівацца паганская рэлігія з яе многабоствам, зьявілася патрэба імёнаў для тых боствaў і для найвышэйшага бога.

Прычыны зьяўленьня многабоства — палітэізму вельмі глыбокія і рознаякія. Іх дасьледавалі шматлікія вучоныя, але да агульнапрынятага выснаўку не дайшлі. Праўда большасьць з тых вучоных абасноўвала свае досьледы на міталёгіях больш ведамых народаў, а славянскіх міталёгіяў ведала або замала, або і зусім ня ведала.

Найбольш істотнаю прычынаю зьяўленьня многабоства і стварэньня міталёгіі ў славянскіх народаў трэба лічыць вобразнасьць народнае творчасьці і, зразумела, гэткага-ж спсабу думаньня. Нашы продкі ўсе свае спасьцярогі, важнейшыя думкі і асабліва вышэйшыя разумовыя паняцьці, а таксама і духовыя перажываньні выказвалі вобразна і пэрсаніфікована. Часта ў народнай творчасьці кожны сказ мае глыбейшы сэнс, як аб гэтым выразна сьведчыць, пераказаная Старым Уласам, Палеская лягэнда «Не спанатрыў», дзе прыгожа апісваецца, як сын дрэнна разумеў рады бацькі, ня думаючы аб іхным глыбейшым сэнсе і праз гэта бяднеў. Калі для сучасных пісьменьнікаў пэрзаніфікацыі і розныя алегорыі зьяўляюцца важным творчым сродкам для ажыўленьня нейкае апісванае сцэны, ці для аблягчэньня ўспрыйняцьця думкі, дык, у тых даўных часох, калі думкі пераказваліся толькі вусна, для аблягчэньня ўспрыйманьня і запамятваньня вобразнасьць была неабходнаю ўва ўсіх відах народнае творчасьці і для выказваньня рэлігійнага сьветагляду. Адгэтуль зьявілася пэрзаніфікацыя сілаў прыроды, а з часам залічэньне іх да вышэйшых істотаў.

Раз запачаткаваны працэс узьняцьця пэрзаніфікаваных сілаў прыроды ў далейшым мог хутка давесьці да абагаўленьня. Твораньне Богам прыродных стыхіяў выказвалася ў форме роджаньня — гэткім чынам паасобныя багі і багіні лучыліся ў сем'і, зьяўляліся божычы і багавіцы. Гэнэалягічнае дрэва багоў разрасталася. Але вельмі характэрна, як убачым далей, што ня ўсе багі з беларускага Алімпу маюць азначаныя мейсцы ў тэаганічным дрэве, ці дзеля таго што іхныя спародненьні забыліся, ці іх зусім ня было, як для звычайных усобленых сілаў прыроды. Але калі прасочым радаводы тых багоў, аб якіх захаваліся весткі ў беларускай міталёгіі, дык дойдзем

(9) Державин Н. С., Славяне в древности. Москва 1946, стар. 136.
(10) Ibid. star. 134.
(11) Vaclav Machek. Essai comparatif sur la mythologie slave. «Revue des études slaves». Tome XXIII, Paris 1947, star. 50.

(12) Такіх казак сабраў нямала: Романовъ Е. Р., Бѣлорусскій сборникъ. Вып. IV. Сказки космогоническ'е и культовые. Витебскъ 1891.

зноў да пачаткавага монатэізму, з якога пачало разрастацца тое радаводнае дрэва багоў.

Усе беларускія плямёны і магчыма яшчэ некаторыя суседнія плямёны прабогам, або «богам багоў» лічылі **Белбога,** якога часта так-жа называлі **Бялуном.** Таму, што паводля міталёгіі ён быў родзічам усіх багоў дык часам яго называлі **Дзедам.** Займаўся ён толькі нябеснымі справамі і дзеля гэтага яго няраз называлі проста **Неба.** З мітаў аб ім ведама толькі, што ён свайму сыну Пяруну даў нябесны малаток, каб зваяваў Чарнабога.

Назваўшы Белбога, трэба адразу зазначыць, што ёсьць некалькі паважных дасьледнікаў, якія катэгарычна запярэчваюць яго існаваньне ў старой славянскай міталёгіі наагул. Напрыклад нямецкі дасьледнік Нэрінґ цьвердзіць, што Белбог першы раз успамінаецца толькі ў XVII ст. у адной нямецкай хроніцы (13). Сьледам за Нэрынґам, але яшчэ больш катэгарычна выступае супраць Белбога польскі вучоны **Ал.** Брюкнэр: «Белбога з пальцаў сабе толькі потым немцы выссалі» (14). Ня менш рашуча адкідае Белбога і некалькі іншых багоў пазьнейшы нямецкі дасьледнік Вінэкэ, уважаючы яго выдумкаю зьвязанаю з назовамі мяйсцовасьцяў (15). Названыя дасьледнікі маюць немалы аўтарытэт у навуковым сьвеце, вось-жа з іхняю думкаю нельга ня ліцыцца, аднак ў сваіх творах датычна беларускае міталёгіі яны не спасылаюцца на ніякія беларускія крыніцы і беларускае міталёгіі яны зусім ня ведаюць. Дзеля тэтага іхняе нэгатыўнае становішча адносна Белбога ў іншых славянскіх міталёгіях можна лічыць абаснаваным, але адначасна іхны-ж аўтарытэт, як навукоўцаў, можа быць доказам, што Белоог быў творам выключна беларускае міталёгіі, якое яны ня ведалі.

Найбольш вестак адносна Белбога сабраў Кіркор, апіраючыся на багаты беларускі фальклёр і старыя пераказы. Вось што ён піша: «Беларусы захавалі памяць аб галоўным добрым богу, бацьку — неба Белбогу, прабогу, айцу Пяруна, катарага яны называюць **Бялуном.** Аб велічы і высокім значэньні Белбога ў іх складанае паняцьце. Але паэтычны настрой Беларуса і ягоная схільнасьць уасабляць абстрактныя прадметы дазволіла яму прыдаць нават рэчавы вобраз Бялуну. Беларус запэўнівае, што Бялун часам сходзіць на зямлю, што ён паказваецца як стары з доўгаю белаю барадою, у белай вопратцы і з кіем у руках. Ён літасьцівы, робіць толькі дабро. Бялун паказваецца толькі днём, калі сьвеціць сонца. Калі-ж ён стрэне ў лесе падарожнага, што зблудзіў, дык выведзе на дарогу... Падчас жніва ён любіць зьяўляцца на нівах і нават памагаць жанцом. Часам Бялун любіць і пажартаваць, але заўсёды як той, што робіць дабро, дае багацьце. Часам ён зьяўляецца ў жыце з вялікім мяшком на носе. Наглядзеўшы добрага работніка ці работніцу, ён заклікае яго да сябе рукою і просіць уцерці яму нос. Калі той дакранецца да носа, раптам з мяшка пасыплецца золата і Бялун зьнікае. Аб такім шчасьлівым беларусы кажуць: «Мусіць пасябраваўся з Бялуном» (16). Падобнае апісаньне, толькі менш падрабязнае, падае Афанасьеў і між іншым цытуе старую беларускую прыказку: «Цёмна ў леса без Бялуна» (17).

А цяпер само напрошваецца пытаньне: Як-жа магло стацца, што ў нашых продкаў яшчэ ў дахрысьціянскіх часох памяць аб вярхоўным богу пайшла ў забыцьцё? Сталася вельмі проста. Калі разросься Алімп беларускіх багоў, дык народ пры розных нагодах пачаў зьвяртацца да другарадных багоў, якіх лічылі бліжэйшымі, а да таго бога, які займаўся толькі небам, адпала патрэба зьвяртацца. Гэткая рыса пабожнасьці назіраецца ня толькі ў нашых продкаў, але даслоўна ўва ўсіх народаў сьвету і нятолькі калісь, але нават і цяпер. Бо-ж і сёньня вернікі рэдка калі зьвяртаюцца да Бога-Айца, але затое вельмі часта зьвяртаюцца да розных сьвятых у залежнасьці ад характару сваե просьбы. Не дарма зьявілася жартоўная прыказка: «І Бог ня ўкрые, як сьвятыя дапусьцяць».

Вельмі неспакойныя калісь часы і частыя міжсобныя войны нашых продкаў былі зрабілі вельмі папулярным бога вайны і грому — **Пяруна,** сына Белбога. Пярун — гэта адзін з нешматлікіх багоў, якія былі ведамы ўсім славянскім пляменьням. Паводля ўяўленьня беларусаў ён меў у руках два вялікія жарновыя камяні і біў адным аб другі. Мог забіваць людзей. Між беларускіх пляменьняў культ Пяруна быў распаўсюджаны даволі шырока.

Братам Пяруна лічыўся **Зюзя** — страшны бог зімы. У мітах яго апісваюць, як сівага дзеда з доўгаю, барадою, босага, у белым кажусе, бяз шапкі, з жалезнаю булавою ў руках. Калі ён злуецца, б'е булавою ў пень і мароз трашчыць (18).

Жонкаю Пяруна была **Жыва,** або інакш **Сіва.** Дзеля таго, што яе лічылі вельмі спагадліваю да людзей, дык называлі так-жа **Цёцяю,** а па мужу проста **Грамавіцаю.** З яе іменем зьвязаны цікавы міт. Калі Зюзя ў часе свайго панаваньня зімою

---

(13) Nehring W., Der Nahme Belbog in der slavischen Mythologie. «Archiv für slavischen Philologie». Band 25. Berlin 1903, star. 69.

(14) Brückner Al., Mitologia słowianska. Krakow 1918, star. 133.

(15) Wienecke Al., Czorneboh und Bielboh, eine quellenkritische Studie aus dem Gebiet der slawischen Religionsgeschichte. B.G.H. 1927. Bd. IV. H. 6, s. 278-280.

(16) Киркоръ А., Бѣлорусское Полесье. «Живописная Россія». Изд. Семенов. Томъ III. СПб. 1882, стар. 273. Гл. так-жа: Державин, op. cit. стар. 139, 152. Hanus Jg. J., Die Wissenschaft der slawischen Mythus. Wien-Lemberg 1842, star. 151.

(17) Афанасьевъ А., Поэтическія воззрѣнія славянъ на природу. Томъ I. Москва 1865, стар. 93.

(18) Киркоръ А., op. cit, стар. 236, 253.

вельмі дакучаў людзям марозамі, дык Грамавіца сходзіла на зямлю, каб радзіць сына Дажбога-Хорса — бога сонца, які меў перамагчы Зюзю. Але Зюзя даведваўся аб намерах Грамавіцы, перамяняўся ў мядзьведзя і разам са злымі духамі — Завеямі, перамененымі ў ваўкоў, ганяўся за ею, каб зьнішчыць нованароджанага Дажбога. Грамавіца, уцякаючы ад іх, перамянілася ў белую казу і схавалася ў кустох, дзе і нарадзіла Дажбога. У зьвязку з гэтым мітам на Беларусі быў звычай вадзіць казу падчас калядных сьвятатаў, які астаўся і ў хрысьціянскіх часох, прыняўшы толькі іншае прызначэньне. Аб часе паўстаньня міту Кіркор заўважвае: «Беларускі міт паходзіць з часоў, якія папераджалі дуалізм, так што прасьледавацелем зьяўляецца не Чорнабог, але блізкі да яго падземны цар Сіціўрат, Карачун... Зюзя, брат Пяруна» (19). Жыва-Цёця лічылася багіняю лета. Яе прадстаўлялі прыгожаю жанчынаю са сьпелымі каласамі на галаве і з пладамі ў руках. Яна навучыла людзей абрабляць замлю, жаць і апрацоўваць лён. Пасьля перамогі над цёмнымі сіламі, Цёця-Леля сходзіла на зямлю, каб яе ўпрыгожыць зеленьню і кветкамі. На яе чэсьць спраўлялі сьвята Кустоў. Частка абрадаў таго сьвята асталася ў хрысьціянскай Сёмусе.

Сын Пяруна і Жывы-Цёці **Дажбог-Хорс** — бог сонца, даўца ўсякага багацьця і спору. У зьвязку з вышэйуспомненым мітам ён быў вельмі папулярны. Літаратура аб ім даволі багатая, бо ён, як і Пярун быў ведамы амаль ува ўсіх славянскіх пляменьнях.

Жонкаю Дажбога была **Лада-Лёля.** Міт аб іхным сужэнстве апісаны ў адной старой беларускай песьні. Лада была дочкаю марскога цара. З твару яна была вельмі прыгожаю, мела залатую касу, езьдзіла па моры ў залатой лодцы, вяслуючы сярэбранымі вёсламі і плюхала вадою на Дажбога, які цікаваў на яе з неба. Дажбог улюбіўся ў Ладу і пайшоў да марскога цара, каб той дазволіў жаніцца з ягонаю дочкаю. Але марскі цар моцна пабіў Дажбога, так што яго завязьлі назад ледзь жывым. Праз некаторы час Дажбог ачуняў і не пакінуў думкі аб жанімстве з Ладаю. Гэтым разам яму дапамог верны слуга. Пры гэтай нагодзе народная творчасьць востра высьмейвае жаночы гон да модных убораў, на якія хварэюць нават і багіні. Слуга, ведаючы добра жаночую натуру, разлажыў на беразе мора розныя дарагія строі і ўборы, у тым ліку і прыгожыя зялёныя чаравічкі. Лада залюбавалася чаравічкамі, выйшла на бераг, каб іх сабе ўзяць, але тут яе схапілі і завязьлі Дажбогу (20). Лада-Лёля дзеля свае прыгажосьці называлася часам Ляля, яна лічылася багіняю вясны. Да сёньня захавалася пагаворка адносна прыгожых і стройных дзяўчат: «Прыгожая, як Лёля».

(19) Киркоръ А., op. cit., стар. 252.
(20) Киркоръ А., op. cit., стар. 262.

Важнае мейсца ў беларускай міталёгіі займаў **Чорнабог** — злы бог. Аб ім успамінае ўжо ў XII ст. Гэльмольд. Але яго, падобна як Белбога шмат якія дасьледнікі дагістарычнага мінулага Беларусі, катэгарычна адкідаюць. Між імі ў першую чаргу, успомненыя перш у зьвязку з Белбогам, Ганущ, Брюкнэр і Вінэкэ. З беларускіх дасьледнікаў адкідаў Чорнабога Н. А. Янчук, пры нагодзе літаратурнае крытыкі песьні «Быў на Русі чорны бог» (21). На ўсе іхныя закіды вельмі слушна заўважыў ведамы чэскі вучоны Нідэрле, што існаваньне шматлікіх мяйсцовасьцяў, якія маюць нейкі зьвязок і іменем Чорнабога, ставяць па-за ўсякі сумнііў сьведчаньне Гэльмольда, што гэтага бога славяне калісь прызнавалі (22). Аднак міты аб Чорнабогу, калі і былі, дык даўно забыліся.

Жонкаю Чорнабога лічылася **Марана** — багіня сьмерці, аб ёй так-жа ня ведама ніякіх мітаў.

Бадай што найбольш папулярным між беларускіх паганскіх багоў быў сын Дажбога і Лады **Ярыла** — бог прарастаньня палёў, любові, сілы і адвагі. Яго прадстаўлялі маладым, прыгожым юнаком у белай пелярыне і з вянком кветак на галаве. Ён едзе на белым кані, трымаючы ў правай руцэ людзкі чэрап, а ў левай — жменю аржаных каласоў. Па загаду Маці Лады Ярыла адчыняў вароты неба і прыязджаў на зямлю. З яго прыездам пачыналася сапраўдная вясна. У зьвязку з Ярылам існаваў міт аб пахаваньні бога (23). У чэсьць Ярылы ўканцы красавіка дзяўчаты ладзілі вясёлую ўрачыстасьць: адну дзяўчыну ўбіралі за Ярылу, апрануўшы яе белаю простыняю, быццам мантыяю, на галаву клалі вянок з палявых кветак, саджалі на белага каня і навокал вадзілі карагод, пяючы:

«А дзе ён нагою,
Там жыта капою,
А дзе ён зірне,
Там колас зацьвіце...»

Праўдападобна беларускі гэрб Пагоня выводзіць свой пачатак ад Ярылы. Досьледы на гэтую тэму праводзіў др. Т. Грыб (24).

Жонкаю Ярылы лічылася **Вясна** — багіня вясны, цяпла і ласкі (25).

Адносна іншых паганскіх багоў, з дахрысьціянскага беларускага Алімпу, мала што ведама. Міты аб іх загінулі зусім, але ёсьць падставы дагадвацца, што калісь аб іх нашы продкі мелі багатую міталёгію, з якое бралі пачатак, або проста зьвязваліся шматлікія абрады і звычаі, сьляды

(21) Янчукъ Н., О мнимонародныхъ бѣлорусскихъ пѣсняхъ. «Сборникъ Харьк. Истор.-Фил. О-ва». VIII, стар. 293-294.
(22) Lubor Niederle, Manuel de l'antiquité slave, Tome II. La civilisation. Paris 1926, star. 150.
(23) Киркоръ А., op. cit., стар. 252, 259; Афанасьевъ А., op. cit., стар. 441.
(24) Hryb T. dr., Bielaruski herb Pahonia. «Iskry Skaryny». Praha 1933.
(25) Киркоръ А., op. cit., стар. 236.

якіх можна было яшчэ бачыць у навейшых часох на: Каляды, Новы Год, Вялікдзень, Радаўніцу, Сёмуху, сьв. Юр'я, дзяды і інш. Аб некаторых з тых багоў нічога акрамя прынагадных назоваў іхных імёнаў не захавался, аб іншых дайшлі частковыя апісаньні. Таму што іхныя гэнэалягічныя сувязі няведамыя, пералічым іх у альфабэтычным парадку.

**Аўсень** — якісьці бог сонца. У далейшым пабачым, што багоў сонца было некалькі у залежнасьці ад пораў году.

**Волас,** або **Велес** — скоцкі бог, багацьця і дастатку, ён-жа меў апеку над пастухамі і сьпевакамі ды і сам меў дуду. Ведамы быў так-жа ў іншых славянскіх племеньнях, успамінаецца ў летапісу.

**Дамася** — багіня хатняга вогнішча. Мела жыць за печчу і была ў нейкім спародненьні з Паляляю.

**Дзева** — праўдападобна гэта чацьвёртае імя Лады.

**Дзедзя** — **Дзедко** — бог агню. Гэта маленьні дзядок з ногцік і барадою з ласкуток, аб ім была загадка: «Чырвоны дзедзя па жэрдачцы едзе».

**Дзіванна** — якаясьці няведамая бліжэй багіня.

**Дзяньніца** — жонка месяца.

**Жыжаль** — падземны бог агню.

**Жыцень** — бог жыта, гаспадар поля, ён-жа бог восені ў выглядзе маленькага дзеда, строгага, з трымя вачыма, скудлачанымі валасамі. Лічылі, што ён жыве ў кустох каля поля, адгэтуль і прыказка: «Пакланіся кусту, дасьць табе хлеба лусту».

**Каляда** — багіня аб якой ёсьць шмат розных дагадкаў у зьвязку з сьвятамі Калядаў, але нічога больш-менш пэўнага ня ведама. Некаторыя дасьледнікі яе атоесамліваюць з Грамавіцаю, іншыя лічаць асобнаю багіняю, напрыклад П. Безсонаў (26).

**Карачун** — **Сіціўрат** — сьмертаносны бог, яго часам атоесамліваюць з богам зімы Зюзяю.

**Кон** — гэта якісьці магутны дух, які вызначаў долю для ўсіх, нават для багоў.

**Купала** — адзін з багоў сонца, праўдападобна летняга сонцастаяньня. Ён быў цесна злучаны з іншым богам — **Янам,** мала ведамым, хоць аб ім часта ўспамінаецца ў т. зв. купальскіх песьнях. Адна з іх зачынаецца словамі: «Сёньня Купала, а заўтра Ян». Кіркор атоесамлівае Купалу з **Ладам** (27).

**Лад** — веснавы бог жанімства, ласкі, любові і дабрабыту, быў у нейкім спародненьні з Ярылам.

**Лель** — мала ведамае боства.

**Макоша,** або **Макош** — дагадваюцца, што гэта была багіня пражы і стрыжэньня авец.

**Пагода** — багіня надвор'я.

(26) Безсоновъ П., Бѣлорусскія пѣсни. Москва 1871, стар. 87.

(27) Киркоръ А., op. cit., стар. 263-264.

**Паляндра** — багіня псуцьця, гніцьця і гнілое гарачкі.

**Паляся** — багіня поля. У адной казцы апавядаецца, што яна памерла і давала аб гэтым знаць Дамасі.

**Пасьвіст** — бог непагоды і хмараў.

**Рада** — багіня розуму.

**Рой, Спарыш, Багач** — праўдападобна гэтыя розныя імёны бога ўраджаю.

**Сварог** — бог неба і агню. Часта яго атоесамліваюць з Дажбогам. Аб ім існуе багатая бібліяграфія (28) і аб ім успамінаюць летапісы.

**Сварожыч** — сын Сварога, якісьці бог сонца.

**Сім** — аб ім захаваўся толькі няясны ўспамін.

**Стрыбог** — бог ветру. Аб ім успамінаецца ў «Слове аб палку Ігараве».

**Тур** — спароднены з Ярылаю бог сонца, ўраджаю і сілы.

**Яшчар** — злы бог хваробаў.

Акрамя вышэй пералічаных багоў у беларускай міталёгіі ўспамінаюцца шматлікія духі:

**Вадзянік** — дух водных нетра, жыў у вірах.

**Дамавік,** або **Дамавы** — у некаторых ваколіцах Беларусі гэта хатні дух, які атоесамліваюць з Хатнікам, але ўва Усходняй Беларусі гэта асобная істота, якая мела жыць ня ў хаце, а ў хляве, як гэта відаць з абраду ахвяраў, якія яму прыносіліся падчас поўні месяца. Тады пяклі хлеб і з першае баханкі, якую даставалі з печы, гаспадар адразаў акраец, саліў яго і ноччу йшоў з ім у хлеў. Увайходзячы ў хлеў казаў: «Дамавік дамавы! Прымі ад мяне хлеб-соль, любі маіх лашадзей і жалуй. І я буду цябе любіць і жалаваць» (29).

**Злыдні** — злыя хатнія духі. Прыказка аб іх кажа: «Упрасіліся злыдні на тры дні, а і за тыдзень ня выжывеш». Цяпер гэтую прыказку ўжываюць у пераносным значэньні.

**Змора** — дух, што мучыць сонных людзей.

**Кадук** — злы дух, які спрычыняў няшчасныя выпадкі.

**Копша** — магільны дух, грабар. Прыказка кажа: «З грашыма і Копшы дагодзіш». Дзеля гэтага калісь пакойнікам укладалі ў рукі грошы.

**Лясун** — лясны дух.

**Начніцы** — маленькія злыя духі ночы. Цяпер гэтае імя замацавана за адным відам кажаноў.

**Мара** — злы дух, які зводзіў людзей, адгэтуль выраз — марочыць галаву.

**Падвей** — гэта дух, які круціўся ў віхрох і мог наслаць людзям хваробы-падвеі.

**Перапалох** — дух, які страшыў людзей. Яго можна было адганаць загаворамі.

(28) Unbegaun B. O., La religion des anciens Slaves. «Les religions des Celtes, des Germains et des anciens Slaves». Paris 1948, star. 406-408.

(29) Kazimierz Moszynski, Kultura ludowa słowian. Cz. II. Kultura duchowa. Krakow 1934, star. 254.

**Трасца-Чухна** — дух, які насылаў трасцу.

**Хатнік** — хатні дух у выглядзе старэнькага дзедка з сівою барадою і доўгімі сівымі валасамі, апрануты ў каптан, падпяразаны дзягаю. Устае рана і пужае пеўня, будзіць гаспадара да працы. Жыве на печы, або пад печчу. Наагул печ у беларускай хаце лічылася мейсцам жыхарства ўсіх хатніх і сямейных духаў, дзеля гэтага ў старым вясельным абрадзе быў звычай, што маладая, перад выездам з роднае хаты ў хату маладога, абымала печ, разьвітваючыся гэткім чынам з хатнімі духамі. Яшчэ да нядаўна ў хаце строга забаранялася гаварыць дрэнныя словы і наагул тое, што магло-б абразіць хатніх духаў. Нават існавала пагаворка: «Сказаў-бы, але печ у хаце».

**Хлеўнік** — шкодны дух, які псуе статак, заежджвае коней ці кароў. Чамусьці ён баіцца сарокі.

**Чур,** або **Шчур** — сямейны і наагул родавы дух, які ахараняў граніцы родавых земляў (30).

Паміж беларускіх міталягічных істотаў ёсьць яшчэ шмат духаў продкаў: адны прыхільныя — дзяды; другія шкодныя — вупары, ваДзяніцы, купалкі, вісельнікі, пакутнікі і інш.

Некаторыя з вышэйпералічаных багоў былі ведамыя ў іншых славянскіх народаў, як: Пярун, Дажбог, Велес, Каляда, Сварог, але большасьць з іх былі ведамыя толькі ў беларускай міталёгіі.

Што да ідалаў-статуяў вышэйпералічаных міталягічных істотаў, дык іх на Беларусі знойдзена ня шмат. У 1684 г. знойдзена статуя з чыстага золата, археалёгі дагадваюцца, што гэта быў ідал Пяруна (31). Аднак няма сумніву, што калісь іх было шмат і так-жа няма сумніву, што яны пераважна былі дзерауляныя, таму і загінулі бясьсьледна, толькі пасьля некаторых больш ведамых статуяў і магчыма каменных асталіся ўспаміны ў назовах мяйсцовасьцяў. У калішнім Круглевіцкім павеце над ракою Сойм ёсьць вёска Бажок, а недалёка ад Клецка ёсьць цэлая група вёсак, якія атрымалі назовы ад паасобных частак каменнае статуі нейкае багіні. З прыняцьцем хрысьціянства статую разьбілі, але ваколічныя сяляне пазабіралі сабе яе часткі і ад гэтага іхныя вёскі атрымалі такія назовы: Вялікая Балвань, Галавачы, Зубкі, Цыцкавічы, Пузава.

Прыглянуўшыся да сьпісу беларускіх міталягічных істотаў, відаць, што беларускі Алімп быў залюднены даволі багата, але паміж іх толькі адзін Пярун меў ваяўнічы характар. Злых багоў было так-жа мала; крыху больш было злых духаў, але наагул у беларускай міталёгіі пераважалі істоты спакойныя — гэта вымоўна адлюстроўвала характар беларускага народу.

У параўнаньні да іншых славянскіх народаў беларуская міталёгія азначаецца сваім багацьцем, але міма гэтага яна ня мае нейкае суцэльнасьці, як гэта было напрыклад у грэкаў і рымлян. А з цягам часу, у залежнасьці ад таго, як колькасьць боставаў і духаў пабольшвалася, сувязь паміж боствамі ўсё больш разрывалася. Зьявіліся так-жа родавыя і пляменныя бостввы, якія паглыблялі пляменны падзел. Гэты падзел аблягчаўся яшчэ тым, што ў паганскіх часох нашы продкі ня мелі зарганізованага стану сьвятароў і праўдападобна наагул паганскіх сьвятаў-казьляроў, як іх тады называлі, было мала. Яны абавязкава былі толькі ў большых населеных пунктах — гарадох і тых мяйсцох, дзе былі больш ведамыя ідалы, перад якімі ў пэўныя азначаныя сьвяты прыносіліся ўрачыстыя ахвяры. Звычайна-ж ролю сьвятара ў кожнай сям'і выконваў найстарэйшы ў родзе. Гэты звычай даў рэлігійную аснову патрыярхальнаму ладу ў беларускіх сем'ях. Яшчэ да нядаўна бацька сям'і выконваў традыцыйныя абрады на Каляды, на Вадохрышча, на дзяды і інш. Да таго тыя нешматлікія казьляры, якія калісь існавалі, ня мелі ніякае ерархіі. Некаторыя гісторыкі былі схільныя думаць, што прынамся беларускае племя Крывічы мела ў паганскіх часох ерархічны лад сьвятароў: крывэ і крывэйто, але больш праўдападобна, што гэта была ерархія летувіскіх пляменьняў і магчыма так-жа Люціўчоў-Волатаў.

З усяго вышэй сказанага бачна, што разьвіцьцё паганскае веры нашых продкаў, ад мамэнту зьяўленьня многабоства, ішло ў кірунку ўпадку. Але грамадзкае жыцьцё нашых продкаў ужо на зары гісторыі вымагала нямала арганізаванасьці, каб перамагчы ўсе ўнутраныя і вонкавыя наступы варожых сілаў. Можна дагадвацца, што гэты разлад абумовіў той факт, што нашы продкі прынялі хрысьціянства бяз ніякага націску зьверху, а прыняўшы яго, ніразу ня мелі паганскае рэакцыі.

Ня будзе лішнім дадаць, што прыняцьце хрысьціянства ў мамэнт выразна зазначанага ўпадку паганства, сталася для беларускага народу ня толькі жыватворчаю крыніцаю надпрыродных ласкаў у духовым жыцьці, але было наагул магутным дзейнікам уздыму ў жыцьці народу. Пры тым хрысьціянства, адхіліўшы асноўныя памылкі паганства, якія вялі народ да ўпадку, ня зьнішчыла дагістарычнага мінулага нашага народу; нават і ў рэлігійных практыках яно захавала шматлікія старыя абрады, прыстасаваўшы іх да асноўнае мэты людзкога жыцьця: зьбліжыць чалавека да Бога.

**а. Л. Гарошка**

---

(30) Большая частка вестак аб духах узята з кнігі: А. Ф. Богдановичъ, Пережитки древнего міросозерцанія у Бѣлоруссовъ. Этнографическій обзоръ. Гродно 1985, стар. 64-72. А вестки аб багох, дзе не падана спасылак, пераважна ўзяты з Киркора.

(31) Киркоръ А., op. cit., стар. 243.

# 1956 год на рэлігійным фронце ў БССР

## ВАЙНА З РЭЛІГІЯЙ НЯ СПЫНЯЕЦЦА

Паколькі камуністычная ідэалёгія абаснаваная на матэрыялістычным сьветаглядзе, дык варожыя адносіны камуністычнае ўлады да рэлігіі ў асноўным не мяняюцца і ня могуць зьмяніцца. Аб гэтым ужо шмат пісалася і гаварылася, і аб гэтым аднагодна сьведчыць уся савецкая прэса ад часу яе зьяўленьня і да апошніх дзён. Ніжэй падаём весткі адносна рэлігійнага жыцьця ў БССР, сабраныя з савецкае прэсы з 1956 г.

Яшчэ да гэтага часу існуе ў Менску Бязбожны завулак, як вымоўны выяў агульнага настрою савецкае ўлады. Ад 1919 г. — часу абвешчаньня БССР і да цяпер у БССР не дазволена выдаць ніводнае кнігі рэлігійнага зьместу, хоць ад 1947 г. існуе ў Жыравічах Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя. Затое ўвесь час выдаюцца бязбожныя кніжкі і брашуры (у 1956 г. зьявілася 5 назоваў) і друкуецца шмат артыкулаў у пэрыядычнай прэсе на бязбожныя тэмы. Чытаецца шмат супрацьрэлігійных лекцыяў. Аднак вельмі характэрна, што ўся гэтыя бязбожная прапаганда перасыпана безнастаннымі нараканьнямі на розныя недахопы ў бязбожнай дзейнасьці. Вось як яна выглядае ў цэнтральных газэтах і часапісах:

«Звязда» 6. I. 56 наракае ў перадавіцы на шматлікія недахопы ў бязбожных «лекцыях», ды і самая колькасьць тых «лекцыяў» у некаторых раёнах значна зьменшылася. У тым-жа нумары газэты апублікованы артыкул О. Папова «Навука і рэлігія», у якім паўтараецца ўжо няма ведама каторы раз, усе савецкія бязбожныя выславы.

«Советская Белоруссия» з 3. I. 56 апублікавала рэцэнзію Н. Губанова на кнігу «К. Маркс і Ф. Энгельс аб рэлігіі». Гэтую-ж рэцэнзію перадрукавала «Чырвоная змена— з 15. I. А 20. I. 56 «Советская Белоруссия» горка наракае на дом культуры ў Наваельні Дзятлаўскага р. за тое, што там бязбожная прапаганда сталася «забытым участкам ідэалягічнае працы».

На 22-ім зьезьдзе камуністычнае партыі БССР сакратар ЦК І. С. Гарбуноў між іншымі недахопамі гаварыў і аб «недахопах у пастаноўцы навукова-атэістычнае прапаганды ў рэспубліцы і ўказваў на неабходнасьць узмацненьня гэтае работы» («Звязда» за 29. I. і інш. газэты).

«Комуніст Беларусі» Нр. 2 у аглядзе друку наракае на абласныя газэты «Гродненскую праўду» і маладэчынскую «Сталінскі шлях» за «нясур'ёзную падрыхтоўку матэрыялу на бязбожныя тэмы» і за тое, што наагул гэткіх артыкулаў яны апублікавалі мала.

І пісьменьнікі не асталіся збоку ў бязбожнай кампаніі. Усевалад Краўчанка ў апавяданьні «Над сьветлай Шчарай» у часапісе «Беларусь» Нр. 2 апісвае шпіёна пад вопраткаю манаха; паасобныя супрацьрэлігійныя выпады ў розных апавяданьнях іншых пісьменьнікаў сустракаюцца даволі часта.

Бязбожную прапаганду праз лекцыі ўва ўсім СССР вядзе т. зв. Таварыства па пашырэньню навуковых і палітычных ведаў. Ягоны адзьдзел ёсьць у БССР і ў кожным раёне стараецца стварыць нават спэцыялныя атэістычныя сэкцыі. «Советская Белоруссия» з 8. III. паведамляе, што гэткую сэкцыю створана ў Любчанскім раёне, а ў хатах-чытальнях патворана атэістычныя куткі.

У зьвязку з ростам хуліганства між моладзі «Чырвоная змена» часта мусіць займацца на сваіх старонках пытаньнямі маральнасьці, і вось 9. III. 56 апублікавала артыкул Д. Бальшова «Аб шкодзе, рэлігійнае маральнасьці», у якім разам з шматлікім недарэчнасьцямі падае між іншым і праўдзівае прызнаньне, што Расейская Праваслаўная Царква ўзгадоўвае вернікаў у духу расейскага шавінізму.

Узгадаваньне моладзі ў бязбожным духу вядуць усе савецкія навучальныя ўстановы. Аб практыцы бязбожнае прапаганды на паасобных лекцыях часам падае весткі «Настаўніцкая газета». У Нр. 12 з 22. III. М. Сугака дзеліцца сваею практыкаю аб «атэістычным выхаваньні вучняў на ўроках хіміі».

Па колькасьці бязбожных артыкулаў «Звязда» займае першае мейсца. І так 4. IV. апублікована рэцэнзію А. Лютаровіча на кнігу «К. Марс і Ф. Энгельс аб рэлігіі»; 17. IV. зьявіўся артыкул З. Капыскага «Навуковыя прадбачаньні і рэлігійныя прароцтвы»; 24. IV. падана рэцэнзію С. Конанава на бязбожныя брашуры ў артыкуле: «Цікавыя кнігі»; 30. IV. В. Позняк дамагаўся «Палепшыць навукова-атэістычную прапаганду сярод насельніцтва»; 14. V. сакратар ЦК камсамолу Д. Бальшоў апублікаваў падобнае дамаганьне: «Павышаць узровень атэістычнае прапаганды», а 26. V. Н. Губаноў пераказаў лёзунгі бязбожнае прапаганды ў артыкуле: «Рэлігія — скажонае адлюстраваньне рэчаіснасьці», гэты апошні артыкул перадрукавала ў расейскім перакладзе «Советская Белоруссия» 6. VI.

У часапісе для жанчын «Работніца і сялянка» Нр. 4 В. Сікорскі даказваў шкоднасьць «рэлігійных забабонаў» вельмі простым спосабам на савецкі лад, што «да гэтага часу яшчэ ў шматлікіх калгасах у сьвяты калгасьнікі ня выходзяць на працу. Забыўся толькі бедны падрахаваць, колькі яны трацяць часу на бязбожную прапаганду і на розныя бясконцыя паседжаньні.

У гарадох работнікі так-жа яшчэ ня страцілі

рэлігійнасьці і таму на паседжаньні менскага абкома наракалі на слабую бязбожную прагапанду — «Комуніст Беларусі» Нр. 5.

Па загаду згары ў бязбожнай прапагандзе мусяць удзельнічаць найвышэйшыя навуковыя установы ў БССР. І так Інстытут Гісторыі Акадэміі Навук БССР падрыхтаваў зборнік «Беларускія антырэлігійныя казкі» і на гэтую тэму «Весці Акадэміі Навук БССР Серыя грамадзкіх навук» Нр. 3, 1956 апублікавалі артыкул К. П. Кабашнікава «Атэістычныя ідэі ў беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасьці».

Наагул бязбожная прапаганда больш інтэнзыўная ў Заходняй Беларусі чым ува Усходняй. Дакорам за недастатковую бязбожную прапаганду ў Маладэчынскай вобл. прысьвечаны вялікі артыкул у «Советской Белоруссии» з 13. V., а за неадпаведны зьмест лекцыяў на бязбожныя тэмы абрушваецца «Звязда» з 6. VI. у артыкуле «Лекцыйную прапаганду на ўзровень новых задач». Наагул пераважаючая колькасьць бязбожных артыкулаў паўтараюць звульгарызованыя дагадкі матэрыялістаў з мінулых стагодзьдзяў, якія вымагаюць тысячы разоў больш веры ад сваіх пасьлядоўнікаў чым хрысьціянскія догмы. Такімі ёсьць цьверджаньні Цэйтліна «Аб узьнікненьні жыцьця», «Чырвоная змена» 17. VII. На гэтую тэму зьявілася нямала артыкулаў у папярэдніх гадох.

Больш яшчэ чым ад стану пабожнасьці насельніцтва бязбожная прапаганда залежыць ад настрояў камуністычных кіраўнікоў у вобласьцях і раёнах і перадусім ад настрояў верхаводаў «Таварыства па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў». Сакратар гэтага «Таварыства» Г. Гужавін заклікаў праз «Советскую Белоруссию» 18. VIII. усіх сваіх прапагандыстаў «цясьней зьвязваць лекцыйную прапаганду з жыцьцём». Праз тры месяцы 14. XI. у той-жа газэце намесьнік старшыні «Таварыства» А. Антонішын зноў заклікаў «Бязупынна паляпшаць навучна-атэістычную прапаганду». Відаць для ажыцьцяўленьня таго «паляпшэньня» наладжана ў Магілёве сэмінар для лектараў-атэістаў. «Советская Белоруссия» 15. XII.

Нярaз вернікі, якія служаць у савецкіх установах, каб апраўдаць свае рэлігійныя практыкі, спасылаюцца на звычаі, і вось супраць іх востра выступае М. Алексютовіч у артыкуле «Аб рэлігійных абрадах і народных звычаях», «Звязда» 22. IX.

У радох камсамольцаў ёсьць нямала такіх юнакоў, якія з жарам выконваюць патрабаваньні сваіх верхаводаў і выконваюць іх на свой лад, з рэлігійнасьцю змагаюцца па-грубіянску. Відаць, што такія выпадкі ёсьць аж лішне частыя, бо супраць іх выступае «Чырвоная змена» 10. X. у артыкуле Бальшова «Аб некаторых пытаньнях навукова-атэістычнае прапаганды», у якім прызнае, што «аднак у нас у рэспубліцы яшчэ да гэтага часу наглядаюцца выпадкі зьняважлівых, а нават хуліганскіх выпадаў супраць духавенства і веруючых у час, калі яны выконваюць рэлігійныя абрады».

## НЯПРЫЕМНЫЯ ПРЫЗНАНЬНІ

Уся бальшавіцкая бязбожная прапаганда вядзецца быццам у імя навукі. Але міма ўсіх стараньняў адгарадзіцца ад вольнага сьвету жалезнаю заслонаю, усё-ж бальшавікі ня могуць схаваць зусім ад сваіх падуладных таго факту, што ў вольным сьвеце большасьць перадавых вучоных ёсьць веруючымі людзьмі. Гэтага факту ня можа прамаўчаць бальшавіцкая прэса. Хочучы ці няхочучы аб гэтым мусяць прызнацца і ў Маскве і ў Менску. Напрыклад О. Папоў у артыкуле «Навука і рэлігія», «Звязда» 6. I. 56 наракае на буржуазных вучоных, якія «прабуюць прымірыць навуку з рэлігіяю» і падае прыклады веруючых вучоных астраномаў Мілікана і Іярдана Джынса. У той-жа «Звяздзе» 11. 2. 56. у артыкуле «Няхай жыве сонца, а цемра загіне» кажацца: «у сучаснай навукова-папулярнай літаратуры капіталістычных краінаў амаль ня знойдзецца ніводнае кніжкі, якая-б была прасякнута матэрыялістычным духам і выявіла-б сапраўднае значэньне навукі ў сусьвеце. Многія аўтары такіх кніжак ня толькі замоўчваюць, або затушоўваюць атэістычныя вывады, якія вынікаюць з астранамічных ведаў, але нават прабуюць ператварыць гэтую навуку ў зброю рэлігійнай прапаганды».

Асабліва востра накідаецца на «буржуазных» навукоўцаў «Комуніст Беларусі» ў Нр. 8 за тое, што «сучасная буржуазная навука... забясьпечвае папоўшчыну, фідэізм». А ў Нр. 10 кажа: «Сучасныя ідэалісты яшчэ больш чэпка, чым раней, хапаюцца за кожнае новае адкрыцьцё ў прыродазнаўстве з тэй мэтай, каб наколькі гэта магчыма паллатаць і падфарбаваць заляжалы ідэалістычны твор імкнуцца падпарадкаваць прыродазнаўства папоўшчыне, тэалёгіі».

## РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

З супрацьрэлігійных артыкулаў можна назьбіраць нямала фактаў аб тым, што міма ўсіх стараньняў камуністычных агітатараў рэлігійнае жыцьцё ў Савецкай Беларусі не паддаецца зьнішчэньню. Нават сярод моладзі, якую сіламоц уцягнена ў рады камсамолу, рэлігійнасьць ня ёсьць рэдкім зьявішчам. Карэспандэнты «Чырвонае змены» 8. IV. апублікавалі вымоўны артыкул «Біце трывогу, таварышы з абкома», бо на Берасьцейшчыне занепадае «палітычная вучоба», моладзь трымаецца рэлігійнасьці. І падаюць такі факт. У в. Варанцэвічы Іванаўскага р. інструктар камсамолу дамагаўся ў сакратаркі мяйсцовага камса-

молу склікаць камсамольскі сход у сьвята, але пачуў такі адказ:

— Нічога з гэтага ня выйдзе... Сёньня рэлігійнае свята, моладзі не зьбярэш.

І далей паясьняе: «многія юнакі і дзяўчаты аддаюць дань мінуламу — рэлігійным забабонам, вераць у цуды; у часе сьвят па некалькі дзён запар ня выходзяць на работу».

Дзіўна, але праўдзіва, часам нават самая-ж бязбожная прапаганда прычыняецца да ажыўленьня гэлігійнага жыцьця. В. Позняк кажа ў «Звяздзе» 30. IV.: «Асобныя лектары замест выкрыцьця рэлігійнага сьветапогляду, падрабязна расказваюць пра абрады, забабоны і сьвяты, ужо даўно забытыя народам, што наштурхоўвае маласьведамых людзей на ўваскрашэньне аджыўшых рэлігійных сьвят і абрадаў».

Калі гаворым аб выяўленьні рэлігійнасьці ў Савецкай Беларусі, дык неабходна падчыркнуць, што ў тамтэйшых абставінах гэтае выяўленьне заўсёды зьвязана з некаторым рыскам, а задаваленьне рэлігійных патрэбаў няраз вымагае паважных ахвяраў. Напрыклад работнікі Менскага Трэсту Нр. 2, як паведамляе маскоўская «Строительная газета» 29. VI. «Звычайна на пярэдадні рэлігійных сьвятаў начальніку ўчастка сыплюць заявы: «Предоставте отпуск за свой счет для устройства домашних дел». І адміністрацыя, ідучы на павадку адсталых настрояў, шырока раздае водпускі». Калі ўсьведаміць, што матэрыяльнае палажэньне работнікаў у БССР даволі цяжкае, дык тады стане зразумелам сэнс захаваньня сьвятаў коштам працоўнае днёўкі.

Ня рэдкімі ёсьць выпадкі, калі бацькі забараняюць дзецям належаць да камсамолу дзеля рэлігійных перакананьняў. Гэтае зьявішча выступае асабліва востра ў раёнах, дзе пераважае каталіцкае жыхарства. Алесь Асіпенка падае цэлы нарыс з Сапоцкіна, як «жанчына з ліку тых, што йдуць у касьцёл, раптам кідаецца да піонерскага строю, хапае за руку блакітнавалосую дзяўчынку і цягне яе на тратуар» («Маладосьць» Нд. 7 ст. 20).

У атмасфэры ваюючага бязбожжа можна па рознаму разумець «націск» бацькоў на сваіх дзяцей у захоўваньні рэлігійнага жыцьця. Зрэштаю, гэта-ж адзін з найважнейшых абавязкаў бацькоў адносна сваіх дзяцей, каб ім даць належнае рэлігійнае ўзгадаваньне. Аднак бальшавіцкая прэса страшэнна абураецца, калі сьцьвярджае, што некаторыя бацькі сумленна выконваюць гэты свой абавязак. Вось «Чырвоная змена» 25. VIII. нападае на сакратара камсамолу ў Пінску Расьціслава Данісевіча за тое, што ён на жаданьне маці хадзіць у царкву, выконвае рэлігійныя практыкі і нават пераканаў сваю жонку камсамолку, родам з Ленінграду, каб яна ахрысьцілася. Тая-ж газэта з 10. X. сьцьвярджае, што ў Сьвяцілавіцкім раёне ёсьць юнакі і дзяўчаты, якія прымаюць удзел у храмавых сьвятах, ня выходзяць у гэтыя дні на работу». Тое-ж сьцьвярджае ў Берасьцейскім і іншых раёнах.

За выконваньне рэлігійных практыкаў савецкая прэса нападае так-жа на духавенства. В. Міхайлаў у «Чырвонай змене» 11. IX. апублікаваў артыкул з крыклівым загалоўкам: «Аб рэлігійных фанатаках і пакорлівых камсамольцах», у якім пераказвае некаторыя факты з рэлігійнага жыцьця ў вёсцы Ваўкалаты, як там «вянчаліся ў касьцеле камсамольцы», які там прыгожы касьцёл і апушчаная хата-чытальны. Кажа, што калісь моладзь у сьвяты займалася спортам, але: «непадабалася гэта ксяндзу і ён пераканаў наведвальнікаў касьцёла, што заняткі спортам у той час, калі йдзе багаслужэньне — рэч, якая не падабаецца Богу... Валейбольная каманда распалася». А далей дадае: «Наведваюць касьцёл і некаторыя маладыя калгасьнікі вёскі Станіслаўцы і гарадзкога пасёлка Варапаева і вёскі Дунілавічы, ды і многа іншых». А «Советская Белоруссия» з 14. XI., не пералічаючы паасобных выпадкаў, сьцьвярджае: «Трэба ўсьведаміць і тое, што за апошні час у нашай рэспубліцы Царква і розныя рэлігійныя сэкты ажывілі сваю дзейнасьць, узмоцнена стараюцца распаўсюджваць рэлігійныя пагляды».

## У БЯЗРЭЛІГІЙНЫМ АСЯРОДЗЬДЗІ

Гаворачы аб бязбожнай прапагандзе і рэлігійным жыцьці ў БССР, нельга ня ўспомніць, што і між старэйшым пакаленьнем і між моладзьдзю бязбожнасьць ня ёсьць рэдкім зьявішчам. Бязбожная прапаганда, бязбожная навука ў школах, нястача навукі рэлігіі і недахоп духавенства на працягу доўгіх гадоў адчуваецца паўсюдна. У радох моладзі выразна выступае вялікая пустка ў душы і ў сьветапаглядзе, якую часта стараюцца запоўніць рознымі дрэннымі звычкамі. Апошнім часам вельмі пашыраецца хуліганства і наагул амаральнасьць. Відаць што колькасна і якасна гэтае зьявішча ўпадку дайшло да такіх разьмераў, што з ім пачынаюць весьці заўзятае змаганьне тыя, якія найбольш прычыніліся да яго пашырэньня — камуністы. Савецкая прэса ад мінулага году часта публікуе артыкулы і фэльетоны з рознымі заклікамі да барацьбы з хуліганствам. Нават выдана спэцыяльны закон, каб хуліганаў неадкладна судзіць. Не пералічаючы паасобных артыкулаў на гэтую тэму, даволі будзе ўспомніць, што першы сакратар камсамолу БССР Аксёнаў на 19 зьезьдзе казаў: «Трэба ўзмоцніць барацьбу з хуліганствам, п'янствам і іншымі амаральнымі праявамі» («Чырвоная змена» 11. I. 56). Лішнім было-б гаварыць, што гэткія заклікі астаюцца заўсёды пустымі, як пустою ёсьць і самая навука камунізму.

**А. Дарожны**

# Дзесяцігодзьдзе Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі

Ад мінулага году ўжо нямала беларускіх арганізацыяў і ўстановаў на эміграцыі азначаюць дзесяцігодзьдзі свайго існаваньня. І вось прыйшла чарга на нашу Місію. Праўда, дзесяць гадоў існаваньня — гэта невялікі юбілей, але ў даным выпадку вартасьць юбілею не ў гадох, а ў чым іншым, што можна зразумець на тле гісторыі беларускае эміграцыі ў Францыі.

Першыя беларускія эмігранты зьявіліся ў Францыі на пачатку XIX ст. — гэта былі пераважна людзі, якія перш займалі ў Рэчыпаспалітай розныя дзяржаўныя становішчы і ў вынікv падзелаў Рэчыпаспалітае валелі выехаць на чужыну, чым аставацца ў паняволенай бацькаўшчыне. Потым прыбывалі ў Францыю гэткія-ж эмігранты большымі хвалямі ў 1812, 1831 і 1863 гадох. Нажаль у аграмаднай большасьці гэта былі моцна спалянізованыя беларусы і яны амаль бясьсьледна губіліся ў польскіх гуртках. Між імі нават і гутаркі ня было аб арганізацыі беларускага рэлігійнага жыцьця. Таму хоць шмат беларусаў на працягу стагодзьдзя жыло на абшары Францыі, але французы аб беларусах блізка што нічога ня ведалі.

Пасьля першае сусьветнае вайны кароткі час у Парыжу знайходзілася беларуская дыплёматычная дэлегацыя. У гадох 1922-23 пачалі прыязджаць у Францыю першыя беларускія сэзонныя работнікі з Заходняе Беларусі. У гадох 1926-28 наплыў беларускіх работнікаў прыняў масавы характар і тады пачалі тварыцца першыя беларускія гурткі, якія аднак ня мелі арганізацыйнае формы. Толькі ў 1930 г. зьявілася ў Парыжу крыху беларускае інтэлігэнцыі і заснавалася першая беларуская арганізацыя ў Францыі «Хаўрус», афіцыяльна зацьверджаная адміністратыўнаю уладаю 23. III. 1931 г. Аднак і гэтым разам ня было гутаркі аб арганізацыі беларускага рэлігійнага жыцьця, бо ня было беларускіх сьвятароў, якія-б заняліся гэтаю справаю і, перадусім, дзеля неўпарадкаваньня рэлігійна-праўнага пытаньня на бацькаўшчыне. Было-б лішнім пісаць аб тым, якую шкоду прыносіла гэта нястача.

Такі стан рэчаў трываў аж да канца другое сусьветнае вайны. У 1945/46 гадох колькасьць беларусаў у Францыі значна ўзрасла, зьявіўся нават адзін праваслаўны беларускі сьвятар, але чамусьці ён не зацікавіўся душпастырскаю працаю між сваіх суродзічаў. Тымчасам патрэба беларускае рэлігійнае ўстановы адчувалася вельмі балюча. Дзеля гэтага прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Францыі зьвярнуліся 19. IX. 1945 г. да Апостальскага Пасаду з просьбаю, устанавіць у Францыі Беларускую Каталіцкую Місію ўсходняга абраду. У Рыме да просьбы аднесьліся прыхільна, рэктарам Місіі прызначылі аўтара гэтых радкоў і дапамаглі палагодзіць усе неабходныя фармальнасьці. Дня 16 кастрычніка 1946 г., калі ўжо былі аформлены дакуманты для падарожжа ў Францыю Сьв. Кангрэгацыя для Усходняе Царквы выдала на рукі рэктара намінацыйную грамату, а праз тыдзень парыскія беларусы ўжо віталі ў сваіх радох рэктара першае Беларускае Каталіцкае Місіі на эміграцыі.

Прышлося арганізаваць Місію даслоўна з нічога. Рэктар знайшоў сабе памешканьне ў манастыры айцоў Лазарыстаў, а для багаслужэньняў з цяжкасьцю ўдалося знайсьці капліцу ў крыптах царквы сан-Сюльпіс. Там адбываліся рэгулярныя багаслужэньні для беларусаў аж да 13 лістапада 1955 г., а пасьля гэтае даты і да сёньня яны адбываюцца ў капліцы сьв. Людовіка на бульвары Монпарнас.

Але беларусы на абшары Францыі расьцярушаны амаль ўва ўсіх дэпартамэнтах, а ў Місіі ёсьць усяго адзіць сьвятар, дзеля гэтага рэлігійнае абслугоўваньне беларусаў на правінцыі астаецца моцна нездавальняючым. Час-ад-часу адбываюцца багаслужэньні толькі там, дзе ёсьць большыя гурткі беларусаў. Ад 1954 г. поўнач Францыі абслугоўваў рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Бэльгіі а. Францішак Чарняўскі.

Каб аблягчыць душпастырскую працу пры Місіі арганізуецца выдавецтва часапісу «Божым шляхам». Першы нумар часапісу выйшаў у кастрычніку 1947 г. і да сьнежня 1950 г. выходзіў як месячнік, а потым як двумесячнік. Рэдактарам, адміністратарам і аўтарам большасьці артыкулыў зьяўляецца рэктар Місіі. Асобнымі адбіткамі з часапісу выдана некалькі кніжак.

Беларуская эміграцыя, пакінуўшы ўдома ўсю сваю маемасьць, у краінах пасяленьня абжываецца паволі, дзеля гэтага пры Беларускай Каталіцкай Місіі ў Парыжу прышлося зарганізаваць Дапамаговую Службу, якая-б вышуквала матэрыяльную дапамогу ў няшчасных выпадках і наагул здабывала помач сваім суродзічам. На стараньне рэктара ў 1948 г. Місіі ўдалося атрымаць чатыры аднагоднія стыпэндыі для беларускіх студэнтаў у Францыі, а ў наступным годзе здабыта некалькі поўных стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе. Пачынаючы ад 1949 і да 1956 г. атрымана ад дабрадзейных арганізацыяў і раздана беларусам у Францыі паважную колькасьць харчовых прадуктаў і вопраткі. Якраз у гэты час нямала нашых суродзічаў пачалі будаваць свае дамы, дык гэтая помач была для іх сапраўды правідэнцыяльнаю.

**Парыж — гэта ня толькі сталіца Францыі,**

але так-жа важны цэнтр міжнародных спатканьняў і таму на долю Беларускае Каталіцкае Місіі няраз прыходзілася рэпрэзэнтаваць Беларусь у міжнародных рэлігійных сходках і кангрэсах.

За параўнаўча кароткі час існаваньня Місіі пры ёй паўстала немалая бібліятэка, якая сёньня налічвае 2.000 назоваў кнігаў (1.700) і розных пэрыёдыкаў (300).

За дзесяць гадоў свайго існаваньня Беларуская Каталіцкая Місія ў Францыі зрабіла нямала для беларускага рэлігійнага жыцьця, але бязумоўна было-б зроблена значна больш, калі-б быў свой сталы аседак і свая капліца.

**а. Леў Гарошка**

# Рэлігійнае жыцьцё эміграцыі ў Францыі

Міграцыя паасобных людзей і цэлых пляменьняў — гэта зьявішча старое, як сьвет, але ад мінулага стагодзьдзя пераезд на часовае і на сталае жыхарства людзей з аднае дзяржавы ў другую набраў азнакаў, якія рэдка калі сустракаліся перш. Нешматлікая калісь палітычная эміграцыя цяпер аграмаднымі хвалямі перакідалася з аднае краіны ў другую, а сэзонны работніцкі рух няраз прымае масавы характар. Дзеля гэтага зьявілася неабходнасьць упарадкаваць рэлігійнае жыцьцё ўсіх нацыянальных групаў на новых мейсцах жыхарства і ў новых жыцьцёвых абставінах. Да часу другое сусьветнае вайны толькі колькасна большыя групы паадзінокіх народаў маглі ўтрымоўваць для сябе рэлігійныя пляцоўкі, а меншыя групы або расплываліся ў іншых групах, або, і гэта здаралася найчасьцей, зусім адчужваліся ад рэлігійнага жыцьця. Каб палажыць канец такому стану рэчаў, Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў 1-га жніўня 1952 г. энцыкліку «Exsul Familia», намячаючы агульныя нормы ў справе арганізацыі душпастырства для эміграцыі.

Ужо да 1952 г. Францыя, як перадавая краіна свабоды і гуманізму мела шмат рэлігійных Місіяў для большых нацыянальных групаў эмігрантаў, а пасьля 1952 г. колькасьць Місіяў значна ўзрасла. Сёньня на абшары Францыі жыве больш трох мільёнаў нефранцузаў. Для абслугоўваньня іхных рэлігійных патрэбаў на пачатку 1956 г. існавала 34 Каталіцкія Місіі з агульным лікам 267 каталіцкіх сьвятароў нефранцузаў. Яны ахопліваюць усіх эмігрантаў католікаў, якія на абшары Францыі твораць хоць сякія-такія гурткі. За выняткам грэцкае, ўсе іншыя Місіі маюць свае цэнтры ў Парыжу і маюць шматлікія рэлігійныя арганізацыі і ўстановы. Вось сьпіс Місіяў у альфабэтычным парадку:

**Амэрыканская** Місія для эміграцыі із ЗША ўстаноўлена ў 1953 г. Тымчасам дзейнічае перадусім на абшары Парыжу, дзе пражывае большасьць яе вернікаў. Мае двох сьвятароў.

**Ангельская** Місія месьціцца каля царквы сьв. Язэпа ад 1855 г. Перш яна ахоплівала ўсіх англамоўных эмігрантаў католікаў у Францыі, у тым ліку і ірляндцаў. Цяпер у Місіі працуе 4-х сьвятароў.

**Армянская** Місія заснаваная ў 1923 г. у Парыжу, а ў 1953 г. ператвораная ў парахвію армянскага абраду. Сёньня на абшары Францыі ёсьць 7 парахвіяў армянскага абраду.

**Беларуская** Місія заснаваная ў 1946 г. Месьціцца ў Парыжу і мае толькі аднаго сьвятара усх. абраду. Дакладнейшыя весткі аб ёй паданы ў папярэднім артыкуле ў зьвязку з дзесяцігодзьдзем яе існаваньня.

**Бразілійская** Місія заснаваная толькі сёлата. Мае аднаго душпастыра ў Парыжу.

**Бэльгійская** Місія запачаткаваная ў 1914 г. Мае сваю прыгожую капліцу і вялікі дом, дзе месьцяцца ўсе ўстановы, зьвязаныя з Місіяю. Выдае пафлямандзку і пафранцуску двутыднёвы часапіс. Цяпер на абшары Францыі працуе 13 бэльгійскіх сьвятароў.

**Віетнамская** Місія заснаваная ў 1953 г. мае свой цэнтр ў Парыжу, абслугоўвае яе двох сьвятароў.

**Галяндзкая** Місія засноўвалася паступова навокал аднаго галяндзкага сьвятара лязарыста, які працаваў у Парыжу ад 1930 г. Пры Місіі працуе Грамадзкая Апека, выдаецца месячны часапіс ад 1946 г. і працуе некалькі пабожных згуртаваньняў. Цяпер у Францыі Місія мае тры цэнтры.

**Гішпанская** Місія запачаткаваная ў Францыі ад 1913 г. Пасьля хатняе вайны ў Гішпаніі колькасьць гішпанскіх эмігрантаў у Францыі вельмі ўзрасла. Цяпер у Францыі пражывае каля 250.000 гішпанцаў, але з іх толькі 25% практыкуючых. Кіраўніцтва Місіі месьціцца ў Парыжу і на абшары Францыі мае 6 цэнтраў, у якіх разам працуе 16 сьвятароў.

**Грузінская** Місія заснаваная толькі ў 1954 г. Мае аднаго сьвятара ў Парыжу.

**Грэцкая** Місія. Грэкаў у Францыі ёсьць нямала, але яны ў 95% праваслаўныя. Толькі ў Ліёне ёсьць невялікая група грэкаў католікаў біз. абраду і там для іх ёсьць Місія, у якой працуе адзін сьвятар.

**Грэка-Мэльхіцкая** Місія — гэта найстарэйшая Місія ўсходняга абраду ў Францыі, заснаваная ў 1889 г. Парыскае Архібіскупства перадало Місіі адну з старэйшых цэркваў Парыжу сьв. Юльяна Беднага, у якой маліліся свайго часу славуты Дантэ, сьв. Тамаш Аквінат і інш. Багаслужэньні адпраўляюцца ў грэцкай і арабскай мовах.

**Італьянская** Місія. Між італьянскаю эміграцыяю ў Францыі працавалі італьянскія сьвятары ўжо на пачатку XX ст., але афіцыяльна Італьянская Місія заснаваная ў Парыжу толькі ў 1929 г. і ў зьвязку з узрастаючым штогод наплывам новае эміграцыі і сэзонных работнікаў, яна хутка разрасталася. Цяпер пры Місіі ёсьць дамы для старых, сірацінцы, прытулкі для ўбогіх, Грамадзкая Апека, выдаецца шэсьць пэрыёдыкаў у італянскай мове. Кіраўніцтва. Місіі падзелена на 4 раёны і мае разам каля 60 сьвятароў і некалькі дзесяткаў манашак.

**Карэйская** Місія заснаваная ў 1954 г. Мае толькі аднаго душпастыра ў Парыжу.

**Кітайская** Місія. Кітайцы прыязджалі ў Францыю ад даўных часоў, але між імі было вельмі мала католікаў. Місію заснована толькі ў 1954 г. Тымчасам мае зарганізаванае душпастырства толькі ў Парыжу, дзе працуе двох сьвятароў, але ў сучасны мамэнт ёсьць больш дзесятка кітайскіх сьвятароў у Францыі, якія працуюць вікарыямі ў францускіх парахвіях.

**Летувіская** Місія заснаваная ў 1947 г. Мае душпастыра толькі ў Парыжу. Ад 1955 г. яму даручана так-жа душпастырства над каталікамі латышамі.

**Люксэмбургская** Місія заснаваная ў 1924 г. мае душпастыра толькі ў Парыжу.

**Мадзярская** Місія заснаваная ў 1943 г. мае трох душпастыраў у Парыжу і двох на правінцыі. Пры Місіі дзейнічае Грамадзкая Апека.

**Мароніцкая** Місія заснаваная ў 1945 г., а ў 1953 г. ператвораная у нармальную парахвію мароніцкага абраду. У Парыжу мае вялікую царкву і дом, у якім месьцяцца розныя мароніцкія арганізацыі і ўстановы, зьвязаныя з Місіяю. Ёсьць яшчэ другая мароніцкая парахвія ў Марсэлі.

**Нямецкая** Місія. У зьвязку з апошняю вайною ў Францыі асталося каля 69.000 немцаў акрамя тых, якія жылі тут да гэтага часу. Спачатку між імі працавалі ваенныя капэляны. Афіціяльна Місію заснована толькі ў 1949 г. Цэнтр яе Месьціцца ў Парыжу і мае 6 душпастыраў для Парыжу і правінцыі.

**Польская** Місія — гэта самая старая чужынецкая Місія ў Францыі. Ужо ў 1836 г. палякі атрымалі ад Парыскае Архідыяцэзіі капліцу Унебаўзяцьця для сваіх багаслужэньняў і купілі каля яе будынак, які займае Місія і цяпер. Пасьля апошняе сусьветнае вайны лік палякаў у Францыі сягаў 500.000 чалавек. Цяпер на ўсім абшары Францыі працуе між палякамі 70 польскіх сьвятароў, і да таго ў Парыжу ёсьць польская Духоўная Сэмінарыя. Пры Місіі ёсьць некалькі харытатыўных установаў, выдаюцца 4 пэрыёдыкі і працуе шмат пабожных арганізацыяў.

**Партугальская** Місія заснаваная толькі сёлета, мае аднаго душпастыра ў Парыжу.

**Расейская** Місія заснавая ў Парыжу ў 1925 г. З часам паўстала на правінцыі яшчэ тры душпастырствы для расейцаў-католікаў. Усе яны ў 1953 г. ператвораны ў нармальныя парахвіі біз. абраду. Пры Місіі ў Парыжу выдаецца непэрыядычны часапіс.

**Румынская** Місія заснаваная ў 1946 г. а ўканцы 1953 г. ператвораная ў нармальную парахвію біз. абраду. Мае ўласны вялікі дом, у якім знайходзіцца капліца і ўсе арганізацыі, зьвязаныя з Місіяю. Цяпер у Місіі працуе трох сьвятароў.

**Сірыйская** Місія заснаваная ў 1933 г., а ўканцы 1953 г. ператвораная ў нармальную парахвію сірыйскага абраду. Мае ўласны вялікі дом у Парыжу, і капліцу. Пры Місіі выдаецца навуковарэлігійны сірыйскі часапіс. Абслугоўвае яе адзін сьвятар.

**Скандынаўская** Місія. Між скандынаўскіх народаў: нарвэгаў і швэдаў католікаў вельмі мала, а на эміграцыі і пагатоў, але ў Парыжу назьбіраўся іх невялікі гурток, які абслугоўвае адзін сьвятар. Місію заснована ў 1953 г.

**Славацкая** Місія. Ад 1946 да 1953 г, славакаў абслоўвала чэхаславацкая Місія, хоць на правінцыі працавала некалькі славацкіх сьвятароў. Асобную Місію заснована толькі ў 1953 г. Цэнтр месьціцца ў Парыжу.

**Славэнская** Місія. Даўжэйшы час для ўсіх народаў з Югаславіі была адна супольная Місія з сьвятармі для харватаў і славэнцаў. У 1953 г. устаноўлена самастойную Славэнскую Місію. Цяпер там працуе двох сьвятароў.

**Украінская** Місія. Украінскія каталіцкія душпастыры працавалі між сваімі суродзічамі ў Францыі ад 1938 г., але Місію заснована ў Парыжу толькі ў 1942 г., а ўканцы 1953 г. яе ператворана ў нармальную парахвію біз. абраду. Цяпер у Францыі ёсьць 12 душпастырскіх цэнтраў для украінцаў католікаў — іх абслугоўвае 15 сьвятароў. Пры Місіі ёсьць Грамадзкая Апека і нядзельная школа, якую вядуць Сёстры Служэбніцы.

**Халдэйская** Місія заснаваная ў 1933 г., а ўканцы 1953 г. ператвораная ў нармальную парахвію халдэйскага абраду. Мае свой дом і капліцу ў Парыжу. Абслугоўвае яе адзін сьвятар.

**Харвацкая** Місія. Як ужо было зазначана ў зьвязку з Славэнскаю Місіяю, гэта выдзеленая ў асобную Місію частка калішняе Югаслаўскае Місіі. Абслугоўвае яе адзін сьвятар.

**Чэская** Місія існуе ад 1946 г. спачатку як Чэхаславацкая, ад 1953 г. падзеленая на дзьве самастойныя Місіі. Абслугоўвае яе адзін сьвятар.

**Швайцарская** Місія заснаваная ў 1948 г. Мае двох душпастыраў ў Парыжу.

**Японская** Місія запачаткаваная ў 1953 г., афармленая ў 1955 г. Цяпер мае ў Парыжу двох душпастыраў.

Акрамя вышэй пералічаных Місіяў ёсьць яшчэ ў Парыжу спавяднікі для іншых народаў, як: баскаў, брэтонцаў і для народаў місійных краінаў

Афрыкі і Далёкага Усходу. У кожнай парыскай парахвіі ёсьць сьпіскі і адрасы ўсіх тых сьвятароў, у якіх нефранцузы могуць выспаведацца ў сваёй роднай мове.

Час-ад-часу духавенства для эміграцыі ў Парыжу зьбіраецца на супольных сходах ці ўрачыстасьцях і тады можна наглядна бачыць сапраўдную веліч і сусьветнасьць Каталіцкае Царквы, у якой усе народы могуць заняць своё мейсца і тварыць адну вялікую Божую сям'ю, могуць узбагачвацца ўзаемна сваімі лепшымі духовымі якасьцямі.

# Хто робіць закіды Царкве

У гутарцы і прэсе няраз можна стрэнуць розныя дакоры і закіды Царкве. Хто найчасьцей робіць гэткія закіды і наколькі яны абаснаваныя, вельмі трапна і коратка выказаў францускі акадэмік Фэрдынанд Брунэтьер (1849-1906):

**Хто робіць закід Царкве за тое, што яна вымагае веры ў аб'яўленыя догмы?**

Тыя, што сьлепа вераць у бздуры двудушных журналістаў і пісакаў, а так-жа і тыя, што вераць у найбольш недарэчныя забабоны.

**Хто робіць закід Царкве, што яна быццам паніжае чалавека?**

Тыя, што аж з шкуры лезуць, каб даказаць, што чалавек паходзіць ад малпы, што ў сьвеце ўсім кіруе прыпадак, тыя што ўганяюцца за ўсякімі бязглуздымі модамі і тыя, якіх мэтаю ёсьць пустое нічога.

**Хто робіць закід Царкве, што яна быццам неталерантная?**

Тыя, што не дазваляюць нікому мець іншую ад іхняе думку.

**Хто робіць закід Царкве, што яна быццам варожая да асьветы?**

Тыя, што дзе толькі маглі, пазачынялі ўсе каталіцкія школы са страху, каб ня мець канкурэнцыі.

**Хто робіць закід Царкве, што яна быццам ёсьць няпрыяцелем народу?**

Тыя, што ня ведаюць гісторыі і зьнішчаюць усе дабрадзейныя ўстановы, якія на працягу вякоў заснавала і ўтрымоўвала Царква.

**Хто выказвае з неакелзанаю зухвальсьцю найбольш бязглуздыя недарэчнасьці супраць Царквы і яе навукі?**

Тыя, што ня ведаюць нават ніводнага слова з каталіцкае рэлігіі і якім навука Царквы перашкаджае ў іхных ганебных паводзінах.

**Фэрдынанд Брунэтьер**

# Блажэнны Мартын Тураўскі

Спаміж малаведамых беларускіх сьвятых блажэнны Мартын Тураўскі заслугоўвае на асаблівую ўвагу — гэта праўдападобна найстарэйшы беларускі сьвяты.

Аб ягоным жыцьці захаваўся ўсяго толькі кароценькі пераказ, які свайго часу быў апублікованы ў «Прологу» пад 27 чэрвеня — у дзень ягонае памяці, а так-жа ў Мінэі пад 2-га траўня, у дзень памяці перанясеньня мошчаў сьвятых князёў Барыса і Глеба.

Пераказ аб жыцьці блажэннага Мартына — гэта ўласьціва толькі адзін цудоўны выпадак з перадапошняга году ягонага жыцьця. Там нічога ня кажацца аб паходжаньні Мартына, аб яго маладосьці, нават ня кажацца, калі і як ён уступіў у манастыр. Кажацца толькі, што ён быў манахам і служыў у Тураўскіх япіскапаў: «Некто старец, именем Мартынъ бывъ преж повар епископомъ Туровскимъ: Симеону, Игнатію, Іоакиму. Сего епископ Георги свободи старости ради» — так пачынаецца той пераказ. Успомненыя тут япіскапы сапраўды былі на Тураўскім пасадзе, але нажаль да гэтага часу аб ніводным з іх ня ведам пэўна азначанае даты, калі яны займалі Тураўскі пасад, нават некаторыя гісторыкі дагадваюцца што ў XII ст. было двох Іоахімаў, якія былі ў Тураве: першы на пачатку XII ст., а другі ў 1144-1146 гадох. Яп. Георгі, які адаслаў у манастыр Мартына, меў займаць Тураўскі пасад пасьля першага Іоахіма і перад япіскапам Кірылам першым 1114-1120. Аднак ёсьць гісторыкі, якія пераносяць час япіскапства Георгія на сярэдзіну XII ст. Тымчасам пачатак япіскапства Георгія гэта адзіная падзея, якая можа служыць для азначэньня апошніх гадоў жыцьця Мартына, і паколькі яна астаецца неазначанаю, нелга так-жа вызначыць і даты сьмерці Мартына. Адно астаецца пэўным, што на пачатку япіскапства Георгія Мартын быў ужо ў вельмі пажылым веку, праслужыўшы кухарам аж тром япіскапам падрад. З гэтага так-жа відаць, што ён добра выконваў свой занятак. Акрамя кухарства ён выконваў іншую хатную работу і працаваў так цяжка, што падарваўся і пад старасьць меў цяжкія болі ў жываце.

Звольніўшы з кухаварства, яп. Георгі паслаў Мартына ў япіскапскі манастыр імені сьвятых мучанікаў Барыса і Глеба, які знаходзіўся за горадам на востраве між Прыпяцю і яе рукавом Струмень. Япіскаскія манастыры былі наагул малалюднымі, а ў манастыры Барыса і Глеба тады ня было зусім нікога. Вось-жа Мартын жыў у ім адзін: «Единъ живый, часто болящє старецъ лономъ;

чрева ему влонь въходяху». Прыступы гэтае хваробы часам былі такія вострыя, што ён ня мог устаць і крычаў ад болю. Апісаны ў пераказе жыцьця выпадак цяжкага прыступу, здарыўся якраз у часе веснавога разводзьдзя, калі наагул да вострава цяжка было дастацца. І тады, калі навакол было поўна вады, Мартын ляжаў некалькі дзён непарушна ў сваёй келіі, ня маючы нават вады, каб загасіць сваю смагу. І вось на трэці дзень такога бездапаможнага ляжаньня, да яго зьявіліся ў келію сьвятыя мучанікі Барыс і Глеб у такім выглядзе, як яны былі намалёваныя на іконе ў манастырскай царкве, і спыталіся, што ў яго баліць. Мартын расказаў ім сваю хваробу.

— Ці ня хочаш выды? — спыталіся яны зноў.

— О, мае валадары — адказаў Мартын — я ўжо даўно маю смагу!

Тады адзін з сьвятых узяў вядро і прынёс вады, а другі каўшом зачэрпаў вады, напаіў хворага і абліў яго. Блажэнны манах адразу адчуў сябе лепей і быў шчыра ўдзячны сваім наведвальнікам.

— Хай Госпад Бог пашле вам доўгі век! — казаў ён ім, моцна ўзрушаны. — Шкада, што я не магу вам паслужыць. Вазьмеце, калі ласка, самі соль, хлеб і ежце.

— Не, мы ня будзем есьці, — адказалі яны — захавай гэта на патрэбу. Мы ўжо мусім ісьці, а ты не хварэй.

І сьвятыя наведвальнікі адразу зьніклі, а блажэнны Мартын аздаравеў, шчыра падзякаваў Богу і сьвятым мучанікам за іх заступніцтва. Аб гэтым цудоўным здарэньні ён потым расказаў свайму духоўнаму айцу і відавочна той духоўны запісаў гэтую падзею. Пасьля таго цудоўнага аздараўленьня Мартын жыў яшчэ цэлы год.

Вось і ўсё, што ведама з кароценькага пераказу аб жыцьці ціхага і пабожнага манаха Мартына.

Калі Мартына пачалі шанаваць як мяйсцовага сьвятога — гэта значыць блажэннага, няма ніякіх вестак. Можна дагадвацца, што адразу пасьля сьмерці. У тым часе, у XII ст., Тураў быў важным духовым і палітычным цэнтрам, таму і япіскапы там маглі праяўляць шмат самастойнасьці ў рэгуляваньні культу сьвятых. У наступным стагодзьдзі Тураў заняпаў і як горад і як духовы цэнтр; сьвятыні былі зруйнаваныя, а разам з тым і пашана да тураўскіх духовых сьветачаў, якіх у XII ст. было трох: Мартын, Лаўрэн і Кірыла — значна зьменшылася. Весткі аб іхным жыцьці і дзейнасьці забываліся; «прадзедаў слава лазой зарастала», але Бог не дапусьціў, каб зарасла зусім.

Памяць блажэннага Мартына сьвяткуецца 27 чэрвеня (10-га ліпеня) ў Праваслаўнай Царкве на Беларусі, але няма ніякіх перашкодаў, каб і Каталіцкая Царква залічыла яго ў лік блажэнных.

# Сэктанцтва

Сёньня аб сэктантах і сэктах можна нямала пачуць і прачытаць і нярэдка іх можна стрэнуць, гэта змушае кожнага прыглянуцца крыху ўважней да сутнасьці зьявы сэктацтва, каб зразумець, як да іх адносіцца.

Слова «сэкта» паходзіць ад лацінскага слова sectari — ісьці сьледам, і азначае групу людзей, якая адшчапілася ад большае грамады ды сьледуе за нейкаю асобнаю навукаю. Калі адшчапленьне адбылося дзеля фальшывага тлумачэньня праўдаў веры, дык такое зьявішча называюць гэрэзіяю, а калі падзел адбыўся толькі на тле адміністратыўнага послуху, дык гаворыцца аб схізьме.

На вялікі жаль сэкты — зьявішча старое, як сьвет. Ад калі зьявіліся большыя веравызнаньні, дык зьявіліся і сэкты. Яшчэ задоўга да хрысьціянскіх часоў былі ведамыя сэкты ў юдаізьме, вэдызьме, буддызьме, гіндуізьме, а сьледам за тым у хрысьціянстве і магомэтанізьме.

Ёсьць шмат прычынаў паўставаньня сэктаў. Між імі найважнейшыя лічацца: 1) пакалечаная прыродным грахом людзкая натура, схільная да ўсякіх упадкаў і да рэлігійных збочаньняў, 2) псыхічныя хваробы, асабліва: розныя маніі і празьмерныя амбіцыі, якія шукаюць заспакоеньня сябелюбства ў гуртку паклоньнікаў, 3) дрэннае асяродзьдзе, да якога людзі прывыкаюць праз прывычку, 4) і бадай найбольш за ўсё — заняпад рэлігійнага жыцьця ў нейкай часьці Царквы і шуканьне направы гэтага жыцьця на фальшывых дарогах.

Хрысьціянства — адзіная рэлігія, якую заснаваў учалавечаны Сын Божы — Ісус Хрыстос. Гэта значыць, што яна адзіная мае боскае паходжаньне ў найшырэйшым значэньні гэтага выславу. Нажаль яна мае бадай што найбольш розных сэктаў. Сумны гэта факт, але ў ім ёсьць так-жа зерњятка суцяшэньня. Не дарма пякельныя сілы ўвесь час накіроўваюць свае найхітрэйшыя подступы падзелаў і сэктанцкіх дробленьняў супраць хрысьціянства; гэтым яны выяўляюць, што хрысьціянства для іх ёсьць найбольш пагражаючаю рэлігіяю.

Гэткае цьверджаньне можа камусьці выдавацца творам наіўнае пабожнае фантазіі. Магчыма і так. Але гляньма ўважней у гісторыю хрысьціянства і ўбачым глыбокую паводля свайго значэньня падзею, якая сталася на самым пачатку заснаваньня хрысьціянства і якая апраўдвае вышэй сказанае цьверджаньне. Калі Хрыстос меў выйсьці

з укрыцьця да публічнае дзейнасьці і падрыхтоўваў сябе соракдзённым постам, да Яго падступіў д'ябал аж з трымя спакусьлівымі пасуламі; між імі адзін найбольш дзіўны: «усё гэта (царствы) дам Табе, калі ўпаўшы паклонішся мне» (Мат. IV, 9). На ўсе спакусы д'ябла Хрыстос адказаў рашучым: не! Калі спакусьнік не абмінуў богачалавека, дык было-б больш чым наіўна думаць, што ён абмінае звычайных сьмяротных людзей. У розныя пэрыяды жыцьця ён падступае да кожнага з рознымі прынадамі, але ніколі не паказвае свайго сапраўднага аблічча і дзеля гэтага між пасьлядоўнікамі Хрыста час-ад-часу зьяўляюцца адзінкі, якія кідаюцца на спакусы гэтага сьвету, прымаюць іх і пасьля таго, калі і гавораць аб Богу, дык служаць няма ведама каму. Хрыстос прадбачыў гэтае сумнае зьявішча і перасьцерагаў сваіх вернікаў перад такімі людзьмі: «Сьцеражэцеся ілжывых парокаў, якія прыходзяць да вас у авечай шкуры, а ўсярэдзіне яны ваўкі драпежныя. Па пладох іх пазнаеце іх» (Мат. VII, 15-16).

Сапраўдных пасьлядоўнікаў Хрыста можна пазнаць па дабрадзейнасьці і любові: «Па гэтым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў між сабою» (Іван. XIII, 35), а праціўнікаў Хрыстовых пазнаць па тым, што яны хоць і гавораць аб Хрысьце, але ўсюды сеюць злобу, нянавісьць, варажнечы, падзелы. Перад пустамельствам розных сэктанцкіх агітатараў Хрыстос перасьцерагаў выразна і ясна: «Ня ўсякі, хто кажа Мне: Госпадзе, Госпадзе! увойдзе ў нябеснае валадарства, а той, хто выконвае волю Айца Майго, што ў небе. Многія скажуць Мне ў той дзень: Госпадзе, Госпадзе! Ці-ж не Тваім іменем мы прарочылі?Ці-ж не Тваім іменем выганялі нячысьцікаў? І тады скажу ім: Я ніколі ня ведаў вас, адыйдзеце ад Мяне вы, кто чыніце беззаконьне» (Мат. VII, 21-23). Нажаль на сьвеце ніколі не бракавала людзей, якія нават і ў божых справах ня прыслухоўваліся да голасу Бога і таму між хрысьціянамі ўвесь час зьяўляліся розныя сэктанцкія верхаводы, быццам нейкае неадчэпнае насланое. Ужо ў апостальскіх часох былі зьявіліся маніхэйцы, мікалаіты, гностыкі з рознымі дробнымі адшчэпамі. Нават і ў часох вострых крывавых прасьледаваньняў не бракавала ўсякіх сэктаў, а калі ў чацьвёртым веку хрысьціянства сталася дзяржаўнаю рэлігіяю ў Рымскай імпэрыі, дык зьявілася толькі розных сэктаў, што той час атрымаў назоў у царкоўнай гісторыі: час вялікіх гэрэзіяў. Праўда, тады-ж быў час і вялікіх айцоў Царквы, якія належна абаранялі навуку Хрыста ад ўсякіх фальшаваньняў.

Ад таго часу да сёньня было зьявілася і зьнікла толькі розных сэктаў (маецца на ўвеце хрысьціянскія сэкты), што нават у найбольш поўных багаслоўскіх слоўніках не пералічаюць іх усіх.

Большасьць сэктаў вельмі недоўгавечная. Найчасьцей яны паўстаюць і зьнікаюць разам з іхнымі заснавальнікамі. Бадайшто найлепш гэткі стан выяўляюць статыстычныя даныя: Напрыклад у самым толькі Гамбурґу падчас перапісу насельніцтва ў 1933 г. зарэгісторвана 394 сэкты. Параўноваючы з папярэднім перапісам 1925 г. выяўляецца, што за 8 гадоў зьнікла 123 сэкты, але за гэты-ж час там зьявілася аж 214 новых сэктаў. Кожная з іх мела ўсяго па 300-400 прыхільнікаў. Цяпер падобнае зьявішча назіраецца ў Японіі і асабліва ў З.Ш.А. Там у 1956 г. нарахоўвалася толькі ў пратэстанцкім асяродзьдзі 205 сэктаў, пры тым большасьць з іх мела невялікія гурткі прыхільнікаў, як гэта можна бачыць з афіцыяльнае статыстыкі:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 12 | сэктаў | з пасьлядоўнікамі | больш | мільёна, | | |
| 22 | сэкты | ” | ад | 100.000 | да | мільёна |
| 58 | сэктаў | ” | ад | 10.000 | да | 100.000 |
| 70 | сэктаў | ” | ад | 1.000 | да | 10.000 |
| 34 | сэкты | ” | ад | 100 | да | 1.000 |
| 9 | сэктаў | ” | менш | 100. | | |

Трэба заўважыць, што там у асяродзьдзі праваслаўных ёсьць так-жа некалькі сэктаў, а нават некаторыя Праваслаўныя Цэрквы, якіх у З.Ш.А. нарахоўваецца аж 22, практыкуюць такія дагматычныя і кананічныя наваўвядзеньні, што іх вельмі збліжаюць да сэктаў, як: самасьвяты, саборнапраўнікі самазванчыя патрыярхаты.

Калі прыглянуцца да навукі паасобных сэктаў, дык ня цяжка пераканацца, што яна мае вялікія несуразьмернасьці ў сваіх спасылках на Сьвятое Пісаньне. Учэпіцца такі «прарок» за нейкі сказ з Сьв. Пісаньня і круціць яго на свой лад, пры тым ацэньвае той сказ быццам самае важнае ў навуцы Хрыста, а ўсю іншую навуку Хрыста хоць і не адкідае, але быццам недабачвае. А найгорш, што да гэтага ўсяго прымешвае сьвецкі рацыяналізм, да якога яшчэ дадае свае фантастычныя трызьненьні.

З гледзішча рэлігійнага жыцьця сэкты могуць не аднаго змыліць, перадусім там, дзе з якіх небудзь прычынаў царкоўнае рэлігійнае жыцьцё заняпала. Ведама, што і заснавальнікі сэктаў і першыя іх пасьлядоўнікі часта праймаюцца духам нэафітаў і праяўляюць даволі інтынзыўную дзейнасьць, пры тым акуратна захоўваюць тыя прыпісы, якія абвяшчаюць. Аднак вельмі часта іхняе духовае жыцьцё прыймае буйныя формы, якія вядуць да духовага звыраднеНьня, а сьледам за тым да поўнага духовага амярцьвеньня. Вобразна кажучы, з духовым жыцьцём сэктантаў адбываецца нешта падобнае як з дзікім нарастам на жывым арганізьме: ён хутка разрастаецца і вядзе арганізм да сьмерці.

Характэрна, што сэкты з найбольш недарэчнаю навукаю стараюцца ахрысьціць сябе найбольш гучным назовам. Напрыклад некаторыя дробныя амэрыканскія сэкты называюцца: «Асьь-

вячоная сьвятая царква Хрыста», «Хрысьціянская царква сьвятасьці», «Царква вечнага жыцьця», «Божая царква хрыстовых сьвятых» і пад.

Сам факт, што сэкты зьяўляліся і зьнікалі безнастанна на працягу вякоў і зьяўляюцца цяпер, пры тым кожная з іх выстаўляе сябе, быццам яна і толькі яна па сапраўднаму разумее навуку Хрыста, сьведчыць супраць кожнае з сэктаў. Папершае, што ёсьць тысячы сэктау, а праўда можа быць толькі адна; а па-другое, як Хрыстос мог пакінуць сваю навуку і дзела збаўленьня людзей, каб да часу зьяўленьня нейкае сэкты, Яго ніхто належна не разумеў — такія паводзіны адносна Хрыста ёсьць нічым іншым, як абразаю. У зьвязку з гэтым варта прыглянуцца да часу паўстаньня сэктаў. З усіх існуючых сёньня сэктаў толькі некалькі сягаюць сваім пачаткам у мінулае тысячагодзьдзе (монофізыты, нэсторыяне), а найбольш распаўсюджаныя сёньня сэкты паўсталі параўнаўча нядаўна. І так:

**Баптысты** зьявіліся ў Англіі каля 1640 г. у асяродзьдзі нядаўна перад тым паўсталае сэкты **кангрэгацыяністаў,** якія ў сваю чаргу вылучыліся з англіканскае сэкты **прэсбітэрыянаў.** З часам баптысты распаліся на некалькі драбнейшых сэктаў, як: рэгулярныя баптысты, вучні Хрыста і інш. Тотькі ў З.Ш.А. баптысты далі пачатак аж 24 новым сэктам з агульным лікам каля 18 мільёнаў пасьлядоўнікаў. У іншых краінах яны такжа распадаюцца на розныя групы.

**Квэкэры** — заснаваў іх ангельскі шавец Ж. Фокс каля 1649 г. Ён спачатку адкідаў усякую царкоўную арганізацыю і культ, аднак з часам мусіў стварыць нейкую арганізацыю свайго эксцэнтрычнага культу быццам з натхненьня нейкага «унутранага сьвету», якім апраўдвана ўсе наваўвядзеньні. У сучасны мамэнт ёсьць 9 незалежных квэкэрскіх групаў з невялікаю колькасцю пасьлядоўнікаў у кожнай.

**Мэтадысты** — іх заснаваў у Оксфордзе у 1729 г. англіканскі сьвятар Вэзлей як «клюб сьвятых». Дзеля іхных своеасаблівых рэлігійных управаў студэнты далі ім мянюшку «мэтадысты», якая потым сталася афіцыяльным назовам. Сёньня мэтадыстаў найбольш у З.Ш.А. (каля 12 мільёнаў). Ужо ад даўжэйшага часу яны там распаліся аж на 22 незалежныя сэкты. У Эўропе мэтадыстаў налічваюць к. 950.000.

**Мормоны** — іх заснаваў у З.Ш.А. Джоэ Сміт у 1832 г. на аснове сфабрыкаванага ім «аб'яўленьня», якое апублікаваў у кнізе «Мормон». Гэтую кнігу мормоны паважаюць больш чым Сьв. Пісаньне.

**Адвэнтысты** — зьявіліся ў 1844 г. у асяродзьдзі зрэфармованых пратэстантаў у З.Ш.А., дзе баптысцкі прапаведнік Вільям Мільлер абвяшчаў ад 1832 г. прыход (adventus) Хрыста на 1844 г. Потым абвяшчаліся ўсё новыя і новыя даты прыходу Хрыста, а калі даты міналі, сэкта распадалася на драбнейшыя сэкты. Як зусім асобная сэкта з іх гурту выдзяліліся «адвэнтысты сёмага дня», якіх звычайна называюць **суботнікі.** Найбольш да іх паўстаньня прычынілася ў 1846 г. Элена Уайт, якую яе паклоньнікі ўслаўляюць як прарочыцу.

**Армія збаўленьня** заснаваная ў Лёндане як асобная рэлігійная група Вільямам Буч у 1861 г. з пасьлядоўнікаў мэтадызму.

**Дасьледнікі Сьв. Пісаньня** заснаваныя ў 1872 г. купцом Карлам Руссэлем пад уплывам адвэнтыстаў. Ягоная навука так далёка пайшла ў кірунку юдэйскае кабалы, што ягоныя пасьлядоўнікі ў 1931 г. перамянілі назоў сэкты на **Сьведкаў Еговы.**

**Пяцідзесятнікі** заснаваныя ў 1906 г. мэтадысцкім прапаведнікам у Лёс Анжэлёс.

Наагул аграмадная большасьць хрысьціянскіх сэктаў паўстала з пратэстанцкага асяродзьдзя. Вось-жа раз дакананы падзел вынішчае сам сябе. Падобна маецца справа і з стараверамі, якія ў 1670-ых гадох адзьдзяліліся ад Расейскае Праваслаўнае Царквы. Праўда, там і да гэтага часу было некалькі сэктаў (хлысты ад 1645 г), але пасьля афіцыяльна дакананага староверчага расколу сэкты пачалі множыцьця цэлымі дзесяткамі: папоўцы — 1668 г. і беспапоўцы. З гэтых апошніх у далейшым выдзяляліся: феадосіеўцы — 1706 г., філіпаўцы-самаспальванцы — 1739 г., паморцы — 1739 г., духаборы — 1750 г., вандроўнікі — 1764 г., скапцы к. 1770 г., бягуны к. 1780 г., малакане — 1790 г., немалякі — 1833 г., штундысты — 1860 г. (з іх выдзяліліся: скакуны, малаванцы, лубкаўцы), імяслоўцы — 1900 г. і інш.

Пры гэтай нагодзе неабходна сказаць хоць коратка аб

## СЭКТАХ НА БЕЛАРУСІ.

Беларускі народ у сваім рэлігійным жыцьці не праяўляў ніколі нейкае схільнасьці да рэлігійнага раздробленьня і таму, калі гэтае жыцьцё было больш-менш нармальным, дык сэктанцкія прапаведнікі на Беларусі не знайходзілі послуху. Ведама, што ў 1423 г. вучань чэскага гэрэтыка Яна Гуса Еранім Пражскі адведаў Беларусь, але бяз ніякіх вынікаў.

Калі ў 1470-ых гадох у Маскоўшчыне пачала пашырэцца гэрэзія жыдоўствуючых, дык быў час, што яе водгульле адбілася на Беларусі. Але характэрна, што ў Маскоўшчыне для здушэньня жыдоўствуючых цары вялі жарстокае прасьледаваньне, якое заціміла інквізіцыю — усіх падазрэлых у гэрэзіі палена на кастрох. На Беларусі-ж гэты рух, як хутка зьявіўся, так хутка і зьнік бяз інякіх насільстваў.

У 1554 г. былі зьявіліся прыхільнікі расейскага гэрэтыка Тэадозія Косага на Беларусі, а у наступным годзе ён і сам уцёк сюды ад прасьледаваньня. І дзіўна, на Беларусі яго ніхто не прасьле-

даваў, а праз пару гадоў тут не асталося і сьледу ад яго навукі.

Інакш мелася справа з пратэстанцкімі сэктамі, якія пачалі пранікаць на Беларусь у шляхэцкае асяродзьдзе ў другой палавіне XVI ст. У тым часе і Каталіцкая і Праваслаўная Цэрквы перажывалі вялікі ўпадак, а найбольшы ўпадак рэлігійнага жыцьця быў у асяродзьдзі магнатаў і шляхты, якія да гэтага часу былі захапілі манаполю на кіруючыя становішчы ў Царкве. У гэтым асяродзьдзі пратэстанцкія сэкты з розных матываў былі знайшлі сабе вельмі падатны грунт. У беларускіх гарадох адны за другімі зьяўляліся: кальвіністы, лютэране, арыянее, сацыніяне, антытрынітары і ін. Пры тым усе гэтыя сэкты ў сваю чаргу хутка дзяліліся на меншыя гурткі. Тагачасныя сьведкі гавораць аб 72 «верах» на Беларусі. Але даволі было хоць чуць наладзіць царкоўнае жыцьцё і дзякуючы ахвярнай працы айцоў езуітаў за пару дзесяткаў гадоў, і ад гэтых сэктаў астаўся толькі ўспамін.

Насільнае зьнішчэньне Усходнекаталіцкае Царквы ў 1839 г., прымусовае заганяньне беларусаў у лона расейскага праваслаўя, зьменшаньне каталіцкіх і праваслаўных парахвіяў у1869 г., насыланьне чужых расейскіх сьвятароў, якія найбольш цікавіліся далёка нерэлігійнымі справамі — усё гэта на толькі захістала рэлігійнае жыцьцё, што народная рэлігійнасьць была вельмі незадаволена сухою афіцыяльнаю Царквою і толькі чакала якое нагоды, каб праявіць сябе ў нямаведама якой форме. Калі на пачатку XX ст. зьявіліся на Беларусі баптысцкія і адвэнтысцкія прапаведнікі, дык знайшлі сабе шчырых пасьлядоўнікаў. Былі выпадкі, што нованасnаваныя гурткі адвэнтыстаў з такім жарам праймаліся новаю навукаю, што зусім трацілі розум. Напрыклад у в. Кожава вол. Вялікія Жухавічы летам 1910 г. жанчыны з гуртка адвэнтыстаў, чакаючы хуткага прыходу Хрыста — канца сьвету, кінулі сваіх мужоў, паўцякалі ў поле і там зьбіраліся ў жыце на малітву. Такое жыцьцё іх хутка давяло да поўнага духовага зьбачаньня; яны паскідалі вопратку і ўцякалі ад людзей. Іхныя мужыкі, каб не цярпець насьмешкаў ад аднавяскоўцаў, зрабілі аблаву на сваіх жонак, конна з вяроўкамі ў руках палавілі іх і прывезьлі зьвязаных дамоў. Такі драматычны канец першага гуртка адвэнтыстаў меў тыя насьледкі, што на доўга загарадзіў дарогу для ўсіх сэктантаў у тую ваколіцу.

Пасьля першае сусьветнае вайны рэлігійныя адносіны і агульны стан рэлігійнага жыцьця на Беларусі значна пагоршыўся, ствараючы падатны грунт для сэктанцкае прапаганды. Колькасьць сэктаў і колькасьць іхных грамадаў павялічвалася з году ў год. У заходняй Беларусі пашыралі сваю дзейнасьць: баптысты, адвэнтысты, дасьледнікі сьв. Пісаньня, штундысты, суботнікі, мэтадысты і пяцідзесятнікі. Але з усіх гэтых сэктаў толькі мэтадысты і часткава баптысты карысталіся беларускаю моваю ў сваёй дзейнасьці. Мэтадысты выдалі беларускі рэлігійны сьпеўнік, выдавалі беларускі часапіс «Дух і праўда», прычыніліся да выданьня беларускага перакладу Новага Запавету. Спаміж баптыстаў толькі пару прапаведнікаў карысталіся беларускаю моваю ў пропаведзях, некаторы час рэдагавалі «Беларускую балонку» (1928-1932) у расейскім часапісе «Маяк» і рабілі захады аб перакладзе і выданьні пабеларуску Новага Запавету. Аднак аграмадная большасьць іхных прапаведнікаў карысталіся выключна расейскаю моваю.

Што да Усходняе Беларусі, дык там бальшавіцкая ўлада ад першых дзён свайго існаваньня, будучы наагул варожаю да рэлігіі, адносілася прыхільна да дзейнасьці сэктаў, як да дзейніка, які меў аслабіць Праваслаўную і Каталіцкую Цэрквы. Бальшавікі стараліся нават у лоне Праваслаўнае Царквы сеяць падзелы і ўсімі спосабамі іх падтрымоўвалі. Такія групы, як: жывацаркоўнікі, абнаўленцы былі чыста бальшавіцкім творам. У 1924 г. абнаўленчая Царква ў БССР атрымала аўтаномію і мела сваіх ерархаў ува ўсіх усходнебеларускіх епархіях.

Тыя прычыны, якія стварылі падатны грунт для пашырэньня сэктаў спрыялі так-жа паўстаньню **сэктаў беларускага паходжаньня.** У 1919 г. зьявіліся **багамолы** ў в. Багучычы, Мазырскае акр., а ў 1926 г. **ільінцы** ў в. Грыбава Сакольскага пав. Праўда, ільінцы выдзяліся ў сэкту толькі пасьля сваркі з духавенствам. Іхны заснавальнік селянін Ільля Клімовіч спачатку рахаваў сябе шчырым праваслаўным і толькі пасьля таго, як мясцовае духавенства спрабавала пазбавіць яго нажывы, абвесьціў сябе Ільлёю прарокам і пачаў будаваць асобны «горад» для сваіх пасьлядоўнікаў. Багамолаў бальшавікі даўно зьліквідавалі, а ільінцы яшчэ існуюць у межах сучасне Польшы (Беласточчына), нават часам выдаюць адозвы, але выключна парасейску.

У свой час, калі бальшавікі ўсямерна памнажалі сэкты, дык былі залічылі ў беларускія сэкты вернікаў парахвіі Шарсьціна, Гомельскае акр., дзе працаваў праваслаўны сьвятар а. Хведар Рафановіч (гл. брашуру: Д. Хайтун, Сучаснае сэктанцтва на Беларусі. Менск 1929). Аднак самыя пасьлядоўнікі а. Рафановіча увесь час лічылі сябе праваслаўнымі і калі ў «Беларускім зборніку» Нр. 4 іх залічана да сэктантаў на аснове вышэйназванае брашуры, дык, відаць, адзін з быўшых шарсьцінцаў М. З-кі, з абурэньнем падаў «Высьвятленьне» ў «Беларусе» Нр. 58, што так сам а. Рафановіч, як і ягоныя парахвіяне заўсёды лічылі сябе праваслаўнымі.

Цяпер ува ўсім Савецкім Саюзе, а тым самым і ў Савецкай Беларусі бальшавікі ад даўжэйшага часу пераканаліся, што ўсякае штучнае разьбіцьцё рэлігіяў вельмі далёкае ад таго, каб давясьці

да зьнішчэньня рэлігіі ў душы народу, дзеля гэтага некаторыя свае «творы» (абнаўленцаў і жывацаркоўнікаў) зьліквідавалі, а з іншымі вядуць змаганьне, праўда ня так вострае, як з больш вялікімі царкоўнымі аб'яднаньнямі. Дзеля лягчэйшага прынараўленьня сэктаў у выконваньні савецкае рэлігійнае палітыкі, адразу пасьля другое сусьветнае вайны бальшавікі аб'ядналі тры найбольш распаўсюджаныя сэкты: баптыстаў, эвангельскіх хрысьціян і пяцідзесятнікаў, даючы ім адно цэнтральнае кіраўніцтва ў Маскве і адзін назоў «Царква эвангельскіх хрысьціян баптыстаў». Усю сваю працу гэтая «Царква» вядзе выключна парасейску.

## АСНОЎНЫЯ ПАМЫЛКІ СЭКТАНТАЎ

Таму што сэктаў ёсьць мноства, дык немагчыма ў часапісным артыкуле разьбіраць фальшывую навуку кожнае сэкты паасобку, ды гэта нават непатрэбна. Каб пераканацца аб іхняй фальшывасьці, даволі будзе прыглянуцца да тых памылак, якія ёсьць суполныя ўсім сэктам.

Самое раздрабленьне сэктаў вымоўна сьведчыць аб іхняй фальшывасьці. Яно пярэчыць духу навукі Хрыста і зьдзекуецца з сьвятога жаданьня Хрыста: «Каб усе былі адно» (Іван XVII, 21). Калі былі зьявіліся першыя сэкты, апостал Павал напамінаў вернікаў: «Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне» (Эфіз. IV, 5). Гэтых ясных як сонца праўдаў хрысьціянства не маглі недабачваць сэктанцкія верхаводы, але даўжэйшы час заплюшчвалі на іх вочы. Калі-ж раздрабленьне ў мінулым стагодзьдзі пачало прыймаць скандальныя формы, мусілі неяк зарэагаваць. І вось тыя спаміж сэктанцкіх дзеячоў, якія мелі адвагу быць да пэўнае ступені шчырымі, уканцы мінулага стагодзьдзя пачалі шукаць шляхоў аб'яднаньня. Гэтыя пошукі пасьля доўгіх перагавораў давялі да сфармаваньня ў 1925 г. так званага экумэнічнага руху, які нажалы прыняў фальшывае заложаньне для свае дзейнасьці, быццам: «ніводнае з хрысьціянскіх веравызнаньняў, якія ёсьць сёньня, ня можа прэтэндаваць на сапраўдную Царкву Хрыста, бо ўсе ёсьцы у схізьме адны адносна другіх». Дзеля гэтага Каталіцкая Царква ня ўдзельнічае ў экумэнічным руху. Аднак самое зьяўленьне гэтага руху ёсьць вымоўным знакам часу і прызнаньнем сэктанцкіх дзеячоў, што да гэтага часу яны былі сьведама ў нязгодзе з навукаю Хрыста і зводзілі іншых на бездарожжа.

Усе хрысьціянскія сэкты вельмі непасьлядоўныя ў сваіх цьверджаньнях і практычна запярэчваюць тыя асновы, на якіх стараюцца абгрунтаваць сваю навуку. Усе яны ў асноўным спасылаюцца на Сьвятое Пісаньне, але паясьняюць яго ў шмат якіх мейсцах зусім іначай, як Каталіцкая Царква, якую нават самыя сэктанты мусяць прызнаць найстарэйшаю хрысьціянскаю ўстановаю з гістарычнага гледзішча. Гэта толькі дзякуючы асабліваму дару Сьвятога Духа Каталіцкая Царква азначыла тыя кнігі, якія належаць да Сьвятога Пісаньня і не дапусьціла паміж сьвятых кнігаў падложных людзкіх твораў — апокрыфаў, якія вонкава прыпадобніваліся да кнігаў Сьв. Пісаньня. Трэба ведаць, што ў першых вяках хрысьціянства апокрыфы кішма кішэлі і гэта выразна праявіўся ў Каталіцкай Царкве палец Божы, што яна заўсёды магла адзьдзяліць «пшаніцу ад мякіны» ў паводцы ўсякіх фальшывых пісаньняў.

У паясьненьні Сьвятога Пісаньня, асабліва важнейшых яго мейсцаў, кожная сэкта мае сваё тлумачэньне. Гэта ўжо крайняе бязглузьдзе, бо колькі ёсьць сэктаў — толькі тлумачэньняў Сьвятога Пісаньня. Горшага зьдзеку над навукаю Хрыста цяжка сабе ўявіць, бо-ж пры гэтым сэктанцкія верхаводы ня так паясьняюць, як хутчэй перакручваюць навуку Хрыста, быццам папраўляюць яе. Між тым ясна як дзень, што можа быць толькі адно праўдзівае паясьненьне Сьв. Пісаньня, **адна праўда, як адзін ёсьць Хрыстос**. Сваю збаўчую навуку, Хрыстос не пакінуў на ўзьвей вецёр, Ён наперад падбаў аб належным яе захаваньні. Ён заснаваў Сваю Царкву на чале з Сваім Намесьнікам і даў Ёй дар Сьвятога Духа для належнага разуменьня і паясненьня Сьв. Пісаньня. На разьвітальнай Вячэры Хрыстос казаў апосталам: «Яшчэ многа маю сказаць вам, але вы цяпер ня зможаце перанесьці. Калі-ж прыйдзе Ён, Дух Праўды, то навучыць вас ўсякае праўды» (Іван, XVI, 12-13). Пасьля ўваскрасеньня споўніў свае словы, аднойчы зьявіўшыся апосталам Хрыстос «расчыніў ім розум, каб разумелі Пісаньне» (Лук. XXIV, 45), а на Сёмуху Сьвяты Дух яшчэ дапоўніў той дар. І ад таго часу той дар астаецца ў Каталіцкай Царкве нязьменна, як нязьменнымі ёсьць і тыя вечныя Праўды, якія абвясьціў Хрыстос, і самая Царква мае тавро вечнасьці, сэкты-ж, як мы бачылі перш, зьяўляюцца і зьнікаюць, як спадаючыя зоркі.

Сваёй Царкве Хрыстос даў ня толькі дар належнага разуменьня Сьв. Пісаньня, але наагул усю паўнату дараў ласкі Божае, патрэбнае для збаўленьня людзкіх душаў, да таго ўсяго Ён запэўніў, што спецыяльным спосабам будзе заўсёды прысутны ў Сваёй Царкве. На апошняй Вячэры Хрыстос суцяшаў апосталаў: «Не пакіну вас сіратамі, прыйду да вас» (Іван, XIV, 18). Пасьля ўваскрасеньня Хрыстос разам з іншымі абяцанкамі выканаў і гэтую. Ад таго часу і да канца сьвету Хрыстос нябачна прысутны ў Сваёй Царкве і ўсякае выступленьне супраць Адзінае, Сьвятое, Каталіцкае і Апостальскае Царквы ёсьць выступленьнем супраць Самога Хрыста. Тым самым усе сэкты, ня гледзячы на іхныя гутаркі аб Хрысьце, зьяўляюцца выразна супрацьхрысьціянскім творам.

Навука Хрыста ёсьць вераю, якую сам Бог

паслаў для збаўленьня людзей. Цяпер людзям не астаецца нічога іншага, як выконваць тую навуку. Сам Хрыстос, будучы богачалавекам, неаднойчы з націскам гаварыў, што ён прышоў на сьвет, каб выконваць волю свайго Нябеснага Айца: «Бо Я ня шукаю волі Мае, але волі Таго, хто паслаў Мяне» (Іван, V, 30). У малітве «Ойча наш» Ён вучыць і нас усіх зьвяртацца да Нябеснага Айца з заклікам: «Будзь воля Твая, як на небе, так і на зямлі» (Мат. VI, 10). А ў штодзенаым жыцьце кажа памятаць аб тым, што «ня ўсякі той, хто кажа Мне: Госпадзе, Госпадзе! ўвойдзе ў нябеснае валадарства, а той, хто выконвае волю Айца Майго, што ў небе» (Мат. VII, 21). Сэктанцкія-ж верхаводы наадварот, яны ня прызнаюць ніякае іншае волі, акрамя свае; што кожнаму з іх збрыдзе на думку, тое і чаўпе, ня лічачыся з ніякім аўтарытэтам, пастаўленым Хрыстом.

Паколькі навука Хрыста і Ягоная Царква ёсьць Божага паходжаньня, дык і кіраўнічыя становішчы ў Хрыстовой Царкве могуць займаць толькі тыя, што да гэтага маюць спэцыяльнае пасланства. Апостал Павал адносна гэтага выразна кажа: «І як прапаведваць, калі ня будуць пасланыя?» (Рым. X, 15). А пасланство ў Хрыстовай Царкве йдзе з рук Хрыста праз апосталаў і перадаецца чэраз рукапалажэньне іхным наступнікам — япіскапам. У выбары сваіх наступнікаў сучаснае кіраўніцтва Царквы йдзе верна сьледам за Хрыстом, Які казаў да апосталаў: «Ня вы выбралі Мяне, але Я выбраў вас і паставіў вас, каб ішлі і прыносілі плод, і каб плод ваш трываў» (Іван, XV, 16). Сэктанцкія-ж верхаводы і прапаведнікі ня маюць ніякага Божага пасланства, бо яны самі сябе пасылаюць.

Звычайна сэктанцкія верхаводы выступаюць быццам нейкія новыя апосталы. Такое зьявішча ня новае. Ужо апостал Павал зьвяртаў увагу першых хрысьціян, што між імі зьявіліся «фальшывыя апосталы, крывадушныя праціўнікі, якія прыкідваюцца апосталамі хрыстовымі». І тут-жа выясьняе: «І ня дзіва, бо-ж і сам д'ябал прыкідваецца анёлам сьветласьці, дык невялікая рэч, калі ягоныя служкі прыкідваюцца слугамі праўды» (2. Кар. XI, 13-15). А хрысьціян з Эфэзу ён перасьцерагаў: «Я-ж ведаю, што пасьля майго адыходу прыйдуць да вас ваўкі лютыя, якія не пашкадуюць стада. Ды-й спасярод вас самых паўстануць людзі, што будуць гаварыць наадварот, каб пацягнуць вучняў за сабою» (Дзеян. Ап. XX, 29-30). Апостал Пятро перасьперагае ўсіх перад гэтаю небясьпекаю: «Былі-ж і фальшывыя прарокі ў народзе, як і ў вас будуць хлусьлівыя настаўнікі, якія ўвядуць згубныя гэрэзіі і, адцураўшыся Госпада, Які іх адкупіў, сьцягнуць самі на сябе хуткую загубу. І многія пойдуць сьледам за імі да загубы і праз іх будзе зганьблены шлях праўды. І дзеля імкненьня да зыску яны будуць лавіць вас лісьлівымі словамі» (2. Пятра, 2, 1-3). Як калісь, так і цяпер неабходна прыняць блізка да сэрца перасьцярогу апосталаў. Цяпер магчыма больш чым калі.

Адносна ўсіх тых прапаведнікаў, якія перакручваюць навуку Хрыста, апостал Павал навучае бяз ніякіх недагавораў: «Але калі-б нават мы, або анёл з неба пачаў абвяшчаць па-над тое, што мы абвяшчалі вам, хай будзе выкляты» (Гал. I, 8). Тут ёсьць кароткі але рашучы адказ ўсім сэктанцкім верхаводам з іхнымі новымі вучэньнямі. Гэткі адказ давала Каталіцкая Царква на працягу ўсяго свайго існаваньня ўсім гэрэтыкам, гэткім павінен быць адказ кожнага верніка ўсім сэктантам і цяпер.

# Скала і выступ

Горы! Колькі красы і велічы маюць яны?! Вось высока ўздымаецца шпіль магутные скалы. Нязьлічаныя буры, навальніцы, завеі і тураганы бушувалі над ім; ліўні няраз так абдавалі яго, што стромкія ручаі з шалёнаю сілаю імчаліся ўніз па адхонах гары, быццам старючыся сьцягнуць яе ўсю за сабою ў даліну. — Але гара аставалася непахіснаю на ўсе насяданьні стыхіяў і горда ўздымала ў неба свой верх.

А пад гарою далёка прасьцягалася лагчына. На падножжы гары разьмясьціўся вечназялёны лес, за ім прасьцягаўся квяцісты луг, перарэзаны пакручастаю рэчкаю. Цудоўна прыгожа было летам ля падножжа гары.

На гары было некалькі выстыпаў. Адзін такі выступ высунуўся больш за ўсіх і кожнае лета з захапленьнем любаваўся прыгаствам даліны:

— О, як там хараша! Як цудоўна прыгожа!! Каб гэта як трапіць туды, вось было-б прыемна. Што тут у гэтай вышыні? Толькі і чуеш сьвіст ветраў, толькі і бачыш туманы хмараў. Калі часам арол прысядзе на маё ўзбочча, дык гэта ўсяго і таварыства...

Доўгія гады лятуцеў выступ, каб як апынуцца ў лагчыне. Ён цешыўся, калі заўважыў, што вецер пакрысе пачаў выдзьмухваць шчыліну між ім і схонам гары. Восеньню там заўсёды зьбіралася вада, а калі наскокваў мароз, глухі трэск няраз парушаў начную цішу. Тады якісьці тупы больш праймаў выступ, але боль хутка мінаў і выступ далей зерыў на лагчыну, як заварожаны, і ўсьцяж мроіў:

— Эх, як там вольна, як раскошна!

І вось аднойчы на пачатку зімы тоўсты пласт сьнегу пакрыў увесь верх гары. Раніцаю неспадзе-

вана сарваўся паўднёвы вецер і шугануў на горы. Сьнег раставаў, камячыўся.

На адхоне шпіля пасунуўся пласт сьнегу, утварыўся вал і стрымгалоў пакаціўся ўніз. Вал рос з кожным абаротам і праз колькі хвілін ўжо аграмадная лявіна з неімавернаю сілаю імчалася ўніз.

Лявіна ляцела проста на прывярэдлівы Выступ. У адзін мамэнт яна адшчапіла яго і панесла за сабою...

— Якое шчасьце! — з трэскам гукнуў Выступ і рынуўся разам з лявінаю ўніз. — Нарэшце я такі вырваўся на волю. Няхай цяпер той стары грыб Скала пазаздросьціць мне!

Скочваючыся ўніз Выступ па дарозе разануўся з громам ў другі вялікі выступ.

— Куды цябе нячыстая гоніць, шалёны! — адазваўся грозна зачэплены выступ.

— На волю! — гукнуў прывярэдліві Выступ.

— На якую волю? Коціцца ўніз і толькі ўніз, што-ж гэта за воля?! Каб ты паляцеў уверх, ці на другую скалу, а гэта прэцца бязвольна ўніз, у балота за зьнішчальнаю лявінаю...

Але спадаючы Выступ ужо быў далёка і ня чуў голасу разважнага сябры. Падаючы, ён стукаўся аб скалу, адколваліся ашчапкі; аграмдны волат усьцяж малеў, потым рашчапіўся на некалькі валуноў, якія навыперадкі каціліся ўніз.

Вось найбольшы валун абмінуў лявіну і ўкаціўся ў лес. Затрашчалі танклявыя яліны, ляглі покатам іхныя стромкія камлі. Валун спавольніў сваё паданьне і быў-бы зусім затрымаўся, але смуга лесу была вузенькая, дык ён хоць і моцна зьнясілены змог прарвацца на луг. Тут ён падскокыў некалькі разоў з радасьці, што нарэшце дакаціўся да «шырокае волі» і спыніўся каля нейкага куста на самым беразе рэчкі. Далей ня рухаўся ні на пядзю.

Усю зіму праляжаў калішні Выступ, а цяпер толькі ягоная частка пад кустом. Сьнег глыбока засыпаў яго.

— Вось табе і воля!? — з сумам думаў ён, але саромеўся прызнацца нават сам перад сабою, што сумуе.

— Каб той стары грыб Скала пабачыў мяне ў засмучэньні, дык цешыўся-б. Але не дачакаецца, каб убачыць мой сум...

А вясною прыйшоў гаспадар аглядаць свой луг. Ён падышоў да валуна і паспрабаваў парушыць яго нагою.

— Уга, не з тваею сілаю! — зашаптаў валун.

Гаспадар абышоў яго навокал, паглядзеў на недалёкую рэчку і пайшоў зьбіраць ашчапкі. Меньшыя камяні ён утоптваў у балота, а большыя кідаў у рэчку.

— Гэтую драбязу то ты можаш пазаносіць куды хочаш, але не мяне, славутага Выступа...

Некалькі гадоў праляжаў валун пад кустам і пачаў быў пакрысе асоўвацца ў зямлю, абрастаць мохам, але аднаго году было вялікае разводзьдзе. Невялікая рэчка ператварылася ў бурлівую, магутную, шматводную раку. Яна шырока выступіла з сваіх берагоў і сваею імкліваю плыньню забірала па дарозе ўсё, што ня было моцна злучана з зямлёю і Скалою. Магутныя хвалі ўсьпененае ракі вырвалі куст, перакулілі валун ад былўшага прывярэдлівага Выступу і панесьлі яго ўніз, мяшаючы з іншымі каменьнямі, якіх было безьліч на дне рэчышча.

Калі апала паводка, ад калішняга Выступу не асталося і сьледу. А Скала і далей стаіць непахісна на сваім мейсцы і яе шпіль усьцяж высіцца высока ў небе.

**Т. Малько.**

# Айцец Антон Неманцэвіч

У часе паважных зьменаў на беларускай рэлігійнай ніве некалькі гадоў айцец Антон Неманцэвіч займаў кіруючае становішча ў Беларускай Усходнекаталіцкай Царкве. Аднак тадышні час жуткае ваеншчыны і ў зьвязку з тым цяжкае ўнутранае палажэньне Беларусі злажыліся так, што аб жыцьці і дзейнасьці а. Антона было ведама замала, а на эміграцыі калі і былі нагоды ўспамінаць аб ім, дык было цяжка сабраць патрэбныя весткі. Да гэтага часу толькі на старонках «Божым шляхам» Нр. 26/27 (артыкул Раднага: Першы Беларускі Экзарх. ст. 9-10) быў зьявіўся кароценькі жыцьцяпіс а. Неманцэвіча, але вельмі няпоўны і з некаторымі недакладнасьцямі. Сёлета мінае 15 гадоў ад праўдападобнае даты ягонае сьмерці. З гэтае нагоды лічым неабходным падаць дакладнейшыя весткі аб ягоным жыцьці, якія было магчыма сабраць да гэтага часу.

Радзіўся Антон Неманцэвіч 8-га лютага 1893 г. у пабожнай беларускай каталіцкай сям'і ў Беласточчыне, Сакольскі павет. Атрымаўшы першую асьвету ў Саколцы, а потым у Віленскай Каталіцкай Духоўнай Сэмінарыі, ён у 1914 г. уступіў у Пецярбургскую Духоўную Каталіцкую Акадэмію і там адразу ўвашоў у склад Беларускага Гуртка, які існаваў у Акадэміі ад 1912 г. Удзельнічаў так-жа у Кружку Беларускай Народнай Асьветы, якім кіраваў праф. Браніслаў Эпімах-Шыпілла. Гэтая праца значна ўзмоцніла ягоную беларускую нацыянальную сьведамасьць.

Ужо як студэнт Акадэміі ён атрымаў сьвятарскія сьвячаньні ў 1915 г. Па-за абавязуючаю навукаю ў Акадэміі ён цікавіўся гісторыяю Беларусі, асабліва гісторыяю вуніяцкае Царквы, маючы

да гэтага багаты матэрыял у бібліятэцы Гуртка і асабліва ў бібліятэцы Акадэміі. Для сяброў Гуртка ён чытаў рэфэрат аб вунійным руху на Беларусі.

Акадэмічныя студыі а. Антон закончыў у апошні год існаваньня Акадэміі, гэта значыць у 1918 г. Душпастырскую працу распачаў як вікары пры парахвіі сьв. Кацярыны ў Петраградзе. Гэта быў вельмі неспакойны час і нераз прыходзілася адлучацца з свае парахвіі.

У 1921 г. а Антон першы раз трапіў у савецкую турму. А сталася гэта так: У тым годзе 23 красавіка каталікі Петраграду зрабілі аграмадную маніфэстацыю на пагосьце каля касьцёла сьв. Кацярыны, дамагаючыся вызваленьня нядаўна арыштаванага Магілёўскага архібіскупа Я. Э. Цепляка.. Пасьля маніфэстацыі вернікі пайшлі ў касьцёл на вячэрню, а чэкісты, якія прыглядаліся да маніфэстацыі з вуліцы, уварваліся ў касьцёл і намагаліся спыніць багаслужэньне. Гэтая спроба ім не ўдалася і яны мусілі выйсьці з касьцёлу і чакаць на вуліцы аж пакуль вернікі самі не пачалі выходзіць з касьцёлу. Тады яны пры выхадзе кантралявалі пашпарты і арыштоўвалі ўсіх тых, хто быў без дакумантаў і тых, хто ім выдаваўся больш дзейным. Між арыштаванымі знайшоўся а. Неманцэвіч.


Айцец Антон Неманцэвіч

З петраградзкае турмы яго перавезена ў маскоўкую і там вызвалена, але не на доўга. Падчас кароткага прабываньня на волі ў Маскве а. Антон быў назначаны вікарым міжнароднае каталіцкае парахвіі апосталаў Пятра і Паўла. Гэта быў час калі бальшавікі часта ладзілі дыспуты на рэлігійныя тэмы. Аднойчы на такім дыспуце ў К. выступаў разам з савецкімі агітатарамі, тагачасны камісар асьветы Луначарскі. Супраць іх выступаў а. Антон супольна з праваслаўным сьвятаром а. А. Баярскім і так яны ўдала перамаглі бальшавіцкіх бязбожных агітатараў, што ў салі доўга не змаўкалі гучныя воплескі прызнаньня для сьвятароў. Пасьля дыспуту адзін бальшавіцкі агітатар дакараў а. Баярскага: «Чаму вы выступалі салідарна з каталіцкім сьвятаром, калі вы між сабою таксама ведзяцё барацьбу?!» На гэта а. Баярскі адказаў: «Праўда, мы маем між сабою розьніцы і спрачаемся, але гэта наша сямейная справа. Калі-ж мы бачым супольнага ворага, дык да барацьбы з ім выступаем разам». І вось гэтае знаходжаньне супольнасьці сталася істотнаю адзнакаю дзейнасьці а. Антона, асабліва ў далейшым пэрыядзе.

Дзеля свае ажыўленае дзейнасьці ў Маскве ён быў пад заўсёдным надзорам савецкіх агентаў і летам 1923 г. зноў трапіў у турму амаль аднача́сна з сваім парахам кс. Зелінскім і гэтым разам у турме прабыў аж да пачатку 1925 г.

У тым годзе ён быў перавезены ў Польшчу ў форме вымены палітычных вязьняў на сьвятароў, але ў Польшчы затрымаўся коратка. У тым-жа 1925 г. паехаў у Рым для далейшых студыяў. Там пры Усходнім Інстытуце ён студыяваў усходнюю багасловію і здабыў тытул доктара багасловіі. Дысэртацыю пісаў на тэму: «Бальшавіцкае заканадаўства ў Расеі адносна рэлігійнага і маральнага ўзгадаваньня дзяцей у параўнаньні да божага права, натуральнага і аб'яўленага». Абарона дысэртацыі адбылася 2. 7. 1927 г.

Падчас сваіх студыяў ува Усходнім Інстытуце а. Антон пазнаёміўся бліжэй з айцамі езуітамі, якія кіравалі Інстытутам. Якраз тады ў Інстытуце былі частыя гутаркі аб Альбэртыне каля Слоніма, дзе ў 1924 г. быў адчынены манастыр айцоў езуітаў усходняга абраду і навіцыят — нічога дзіўнага, што гэтая новая ўстанова выклікала агульнае зацікаўленьне.

Вярнуўшыся з Рыму ў Заходнюю Беларусь а. Антон уключаецца актыўна ў вунійную працу і адразу пераконваецца, што яна можа быць шмат больш карыснаю для Каталіцкай Царквы і беларускага народу, калі будзе весьціся ў нейкай арганізованай форме і з адпаведнымі кадрамі духавенства. Бачачы, што ў Альбэртыне плянуецца гэткая праца ён уступае 13. 9. 1929 г. у езуіцкі навіцыят у Альбэртыне і прымае ўсходні абрад.

Ужо ў навіцыяце а. Антон аднача́сна агульнаабавязуючымі ў гэтай установе пабожнымі практыкамі вядзе так-жа беларускую працу, навучае беларускае мовы айцоў чужынцоў. Па адбыцьці

навіцыяту ён назначаецца парахам усходнекаталіцкае парахвіі ў Альбэртыне і арганізуе адначасна выданьне беларускага рэлігійнага часапісу «Да Злучэньня». Першы нумар часапісу выйшаў у студзені 1932 г. На пачатку радакцыя часапісу мела нямала супрацоўнікаў, аднак у далейшым большую частку артыкулаў прыходзілася пісаць самому рэдактару. Толькі некаторыя артыкулы ён падпісываў сваім прозьвішчам, часьцей сустракаецца ягоны подпіс а. Антоні, а найчасьцей карыстаўся псэўдонімам Злучэнец. Маючы шмат турботаў з рэдагаваньнем і выдавецтвам часапісу ён знайходзіў яшчэ час, каб напісаць артыкулы для іншых беларускіх пэрыёдыкаў і ў Беларускі Каляндар. Узровень артыкулаў а. Антона быў прыстасаваны да характару часапісу — усе яны даступныя для найшырэйшага кругу чытачоў.

Летам 1932 г. адбыўся ў Пінску 3-ці Унійны Зьезд, на які быў запрашаны а. Антон у характары прэлегэнта, ён меў чытаць пабеларуску рэфэрат аб вунійнай працы. За пару дзён да адкрыцьця зьезду, калі ўжо рэфэрат даўно быў гатовы, яму было загадана пературмачыць рэфэрат на польскую мову. Гэтым фактам а. Антон быў так абураны, што больш ня ўдзельнічаў на нінаводнай пазьнейшай вунійнай канфэрэнцыі.

У жніўні 1933 г. яго пераносяць з Альбэртыну ў недалёкія Сынкавічы на становішча параха, пакідаючы яго надалей радактарам «Да Злучэньня». Але ў Сынкавічах ён аставаўся ўсяго год, у наступным годзе яго пераносяць у Дубна на становішча прафэсара пастырскага багасловія ў Папскай Сэмінарыі, пакідаючы яго і далей радактарам «Да Злучэньня».

Падчас летніх вакансаў ён часта гасьцяваў у беларускіх усходнекаталіцкіх парахвіях, гаворачы там беларускія казаньні.

Тымчасам умовы вунійнае працы станавіліся ўсё цяжэйшымі і цяжэйшымі. Ад 1932 г. у Заходняй Беларусі не адчынена ніводнае новае вунійнае пляцоўкі, а нават некаторыя з тых, што былі адчынены да гэтага часу, паволі рэдукована. У 1938 г. спынена выхад часапісу «Да Злучэньня» толькі таму, што ён выдаваўся пабеларуску. Альбэртынскі манастыр быў заўсёды абстаўлены шпігунамі, якія сачылі за кожным, хто туды прыяжджаў, а нават некаторых адведвальнікаў паліцыя затрымоўвала і пасьля дапросаў у Слоніме адсылала дахаты з перасьцярогаю, больш не паказвацца ў Альбэртын.

Націск польскае адміністрацыі, напады польскае шавіністычнае прэсы і неакелзаны разгул паліцыі часта прымалі такі варожы супрацьвунійны характар, што аднойчы Апостальскі Нунцый заявіў падсакратару стану ў Варшаве: «На абшарах Усходніх Крэсаў пануе стан рэлігійнага прасьледаваньня» («Kultura» Нр. 6(56) ст. 65. Парыж 1952). Аднак у гэтых цяжкіх умовах а. Антон не апускаў безнадзейна рук. Ён пераносіць сваю дзейнасьць у тыя мейсцы, дзе яшчэ ня зусім яна была абмежаваная. На пачатку 1939 г. ён арганізуе ў Варшаве выданьне новага беларускага пэрыёдыка «Злучэньне». Шмат памагалі яму ў рэдакцыйнай працы студэнты-беларусы. Варта заўважыць, што яны амаль усе былі праваслаўнымі.

Круг супрацоўнікаў новага часапісу быў значна шыршы чым «Да злучэньня». Каб дабіцца гэтага пашырэньня а. Антон меў шмат клопатаў і нават няпрыемнасьцяў ад польскіх уладаў. Для прыкладу вось дробны абразок з ягонага падарожжа да намечаных супрацоўнікаў. Восеньню 1938 г. ён прыехаў да мяне у Гародна на Палесьсі. Расказаўшы аб сваіх праектах адносна новага часапісу і атрымаўшы ад мяне запэўненьне ў супрацоўніцтве, вечарам ён ад'ехаў да станцыі Горынь. Але як толькі выехаў з Гародна, яго затрымалі двох паліцыянтаў, спраўдзілі дакумэнты, навярзьлі ўсякае ўсячыны і, запісаўшы сабе ягоныя, пэрсаналіі як нейкага падазроннага, дазволілі ехаць далей. Выданьне новага часапісу спыніла другая сусьветная вайна.

І так цяжкая рэлігійная праца сталася яшчэ цяжэйшаю ад верасьня 1939 г., калі Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Адразу частка ўсходне-каталіцкіх парахвіяў была зьліквідаваная, а другая частка была пад пагрозаю ліквідацыі дзеля немагчымасьці сплочваць вялікія падаткі. Але і ў гэтых цяжкіх умовах а. Антон ня спыняе свае дзейнасьці. Ён, ведаючы, што Львоўскі украінскі мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі меў ад папы Пія Х-га яшчэ з 18. 2. 1908 г. спэцыяльныя паўнамоцтвы адносна ўсяго абшару Расейкае імпэрыі, увайходзіць з ім у бліжэйшы кантакт і даведваецца аб ягоных намерах скарыстаць тыя паўнамоцтвы. У траўні 1940 г. мітр. Шэптыцкі стварыў чатыры ўсходне-каталіцкія экзархаты, між якімі так-жа Беларускі Экзархат, назначаючы акзархам а. Антона Неманцэвіча.

Новае становішча а. Антона было спалучана ня толькі з вялікімі цяжкасьцямі, але вымагала такжа заўсёднае гатоўнасьці да найбольшых ахвяраў. На гэткую-ж небясьпеку мусілі быць гатовымі і ўсе супрацоўнікі, дзеля гэтага дабіраў іх сабе вельмі асьцярожна. На ўсякі выпадак ён адразу назначыў сабе двох намесьнікаў і адбыў з імі кароткую нараду. Гэта была першая нарада Беларускага Усходне-каталіцкага Экзархату. Адбывалася яна 20-га чэрвеня ў адной з усходнекаталіцкіх парахвіяў, а наступнага дня ў парахвіяльнай царкве была адпраўлена саборная Служба Божая ў намераньні Экзархату і беларускага народу. Дзеля заўсёднае небясьпекі з боку бальшавікоў праца вялася спачатку ў невялікім кругу давераных людзей і ў вялікім сакрэце.

Падчас першых крокаў свае працы ўсе новаазначаныя экзархі пераканаліся ў неабходнасьці неадкладнага вырашэньня шматлікіх кананіч-

ных і практычных пытаньняў. З гэтаю мэтаю адбыліся ў Львове два саборы экзархаў. Першы 18-19 верасьня 1940 г., а другі 13-14 чэрвеня 1941 г. На другім саборы а. Неманцэвіч быў ужо не адзін, але з сваім другім намесьнікам. Пастановы аб назначэньні экзархаў і акты сабораў разам з адпаведнымі суправаджаючымі выясненьнямі былі адасланыя ў Рым і зацьверджаны папаю Піем XII 22 кастрычніка 1942 г.

Калі ў чэрвені 1941 г. на зьмену бальшавікоў Беларусь і Украіну занялі немцы, дык украінскі і валынскі экзархі вышлі з укрыцьця і пачалі разгортваць сваю дзейнасьць. Даведаўшыся аб гэтым, а. Антон так-жа распачаў стараньні перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі аб легалізацыі Беларускага Экзархату. Хоць і неахвотна, і з адтэрміноўкамі, але ўсё-ж у сакавіку 1942 г. Гэнэральны Камісар Беларусі выдаў дазвол экзарху на легальную дзейнасьць. Маючы дазвол, перш чым разгарнуць працу, неабходна было вырашыць некалькі вельмі далікатных справаў.

Да гэтага часу ўсходнекаталіцкія парахвіі на абшары Беларусі былі пад юрысдыкцыяю каталіцкіх біскупаў лацінскага абраду. Цяпер экзарх асабіста зьвяртаўся да кожнага біскупа, каб пераняць ад іх свае парахвіі. Распачаў гэтыя стараньні ад Віленскага Мітрапаліта. І тут экзарха чакала прыемная неспадзеванка. Я. Э. Ялбжыкоўскі, не зважаючы на свае варожыя адносіны да ўсяго беларускага, перадаў ўсходнекаталіцкія парахвіі свае дыяцэзіі ў Беларускі Экзархат бяз ніякіх цяжкасьцяў. Пінскі біскуп Я. Э. Букраба ў тым часе жыў у Львове, калі ўдалося навязаць з ім кантакт, так-жа бяз ніякіх засьцярогаў перадаў усе ўсходнекаталіцкія парахвіі свае дыяцэзіі Беларускаму Экзархату. Але ў Падляскай дыяцэзіі пасьля сьмерці Я. Э. Пшэзьдзецкага ў 1939 г. ня было біскупа ардынарыя і таму доля тамтэйшых ўсхонекаталіцкіх парахвіяў аставалася нявырашанаю.

Для належнае працы неабходна было мець адпаведныя кадры духавенства, нажаль гэта было найбольш слабое мейсца ў Экзархаце, бо і так невялікія кадры, якія працавалі на Беларусі да 1939 г. у часе вайны значна зьменшыліся; чужынцы ўсе выехалі. А тут на парадку дня ў дзейнасьці Экзархату стаялі такія важныя пытаньні, як: арганізацыя духоўнае кансісторыі, арганізацыя духоўнае сэмінарыі, друк багаслужэбных кнігаў, арганізацыя беларускае рэлігійнае пэрыядычнае прэсы і інш. Большасьць гэтых праблемаў прышлося адлажыць да спрыятлівейшых абставінаў.

Аб існаваньні Беларускага Ўсходнекаталіцкага Экзархату шырэйшыя беларускія грамадзкія кругі маглі даведацца з першага пастырскага ліста які выдаў экзарх на Вялікдзень 5 красавіка 1942 г., зьвяртаючыся ў ім да ўсяго беларускага народу. Ліст быў невялікі, усяго на адну старонку машынапісу, але ягоны зьмест быў глыбока рэлігійны і шчыра патрыятычны.

Вестку аб існаваньні Беларускага Усходнекаталіцкага Экзархату ў беларускіх грамадзкіх кругох прынялі даволі прыхільна, як аб гэтым можна было пераканацца з водгаласаў у тагачаснай беларускай прэсе. «Баранавіцкая газэта» двойчы апублікавала весткі аб Экзархаце. На пачатку травеня 1942 г. быў зьявіўся артыкул аб утварэньні «Беларускае Грэка-каталіцкае Царквы», а ўканцы траўня таго-ж году паведамлялася, што 2 траўня была ўтворана Рада Экзархату, а 3 V. — Духоўны Суд, адначасна падаваліся кароткія весткі аб асобе а. Неманцэвіча і падчыркваласа, што ў Экзархаце ўрадоваю моваю і моваю казаньняў ёсьць выключна беларуская мова.

Зацікаўленьне новаю беларускаю рэлігійнаю ўстановаю было вялікае ня толькі ў бацькаўшчыне, але і на эміграцыі ,таму весткі аб Экзархаце, якія зьявіліся ў «Баранавіцкай газэце» перадрукавала бэрлінская «Раніца» ў нумарох 18(82) 23(87).

Гаворачы тут аб прыхільных адносінах беларускіх грамадзкіх кругоў да Усходнекаталіцкага Экзархату, неабходна засьцерагчыся, што гэтая прыхільнасьць ня была паўсюднай і агульнай, але аб гэтым будзе гутарка на іншым мейсцы.

Дзеля нястачы духавенства ўсю арганізацыйную працу ў Экзархаце выконваў сам айцец экзарх. Гэта яго змушала часта падарожнічаць, але якраз тады для неваенных асобаў усякае перамяшчэньне было вельмі абмяжованым. Найчасьцей прыходзілася карыстацца ўсякімі прынагаднымі магчымасьцямі выездаў.

Падчас сваіх падарожжаў а. Антон ніколі ня мінаў нагоды адведаць у прыдарожных цэнтрах мяйсцовых беларускіх дзеячоў, а ў суседнім з Альбэртынам Слоніме ён быў у заўсёдным кантакце з тамтэйшым беларускім актывам і беларускімі арганізацыямі, сустракаючы шчырую прыхільнасьць так між каталікаў, як і праваслаўных беларусаў. Ад калі ў Слоніме заснаваўся адзьдзел Беларускае Самапомачы, дык кіраўнікі Адзьдзелу стараліся дзейна дапамагаць экзарху ў межах сваіх магчымасьцяў: перасылалі ягоныя лісты сваімі кур'ерамі разам з сваею карэспандэнцыяю, калі-ні-калі хадайнічалі перад нямецкімі ўладамі для прыхільнага палагоджаньня бягучых справаў Экзархату. Аднак расейскія дзеячы і нават некаторыя польскія адносіліся да а. Неманцевіча вельмі варожа. Асабліва варожа было настроена да яго расейскае духавенства (міт. Панцялейман, архім. Марозаў) і кожны новы крок у дзейнасьці экзарха яны суправаджалі даносамі ў нямецкае гэстапо.

Для пісаньня даносаў на айца Антона усе тайныя і яўныя маскоўскія агэнты выкарыстоўвалі тыя абставіны, што ён быў езуітам і жыў у езуіцкім Альбэртынскім манастыры; вось-жа паўта-

ралі ў сваіх пісьмах усе старыя супрацьезуіцкія выдумкі, малюючы яго нейкім скрытым палякам. Аб гэтым бяз ніякіх двузначнасьцяў прагаворваецца нават Мгр. А(панас) М(артос) у кніжцы «Матэр'ялы да Гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы». (Нямеччына 1948) цьвердзячы: «Кс. Неманцэвіч распачаў сваю місыйную дзейнасьць з задэкляраваньня сябе шчырым беларусам, хоць за польскага панаваньня ён такі ня быў» ст. 137. Колькі няпраўды ў гэтым цьверджаньні відаць ужо з таго, што было сказана на пачатку гэтага артыкулу.

Падчас нямецкае акупацыі ў Слоніме знаходзіўся моцны нелегальны цэнтр расейскіх арганізацыяў «Трудового Союза» і «Братства Русской Правды». — Гэтыя арганізацыі нароўні з праваслаўнымі япіскапамі ў недалёкіх Жыровічах лічылі Беларускі Экзархат вялікаю перашкодаю для свае дзейнасьці і не шкадавалі ніякіх высілкаў, каб яго зьнішчыць. Вельмі шмат інтрыгаў супраць экзарха рабіў актыўны сябра вышэйназваных расейскіх арганізацыяў і адначасна ўрадавец нямецкага гэстапо — Ушпік. Ягоныя інтрыгі выкарыстоўвалі япіскапы з Жыровіч, каб рабіць новыя даносы. Варта ўспомніць, што з аднаго даносу, на якім фігуравалі подпісы двох япіскапаў, якія былі ў Жыровічах, адзін урадавец гэстапо зрабіў копію ў перaслаў яе на пераxаваньне ў адпаведную ўстанову.

Інтрыгі і даносы моцна паралiжавалі дзейнасьць а. Антона. Трэба ведаць, што ў тым часе распачаліся ў Слонімшчыне растрэлы каталіцкага духавенства. Аднак а. экзарх належаў да тых людзей, што не капітулююць перад небясьпекамі, а маючы дачыненьні з новымі цяжкасьцямі шукаў новых крыніцаў падтрыманьня ня толькі ў прыродным парадку, але і ў надпрыродным. Яшчэ на пачатку 1942 г. ён заснаваў Апостальства Малітвы за Беларусь. Сябрамі Апостальства спачатку былі толькі сьвятары. Яны забавязваліся штомесяца адпраўляць за беларускі народ адну Службу Божую, але кожны сьвятар у іншы дзень з такім разьлікам, каб па магчымасьці штодзенна адпраўлялася за народ Служба Божая. Потым да Апостальства далучыліся і сьвецкія, якія штомесяца прычашчаліся ў намераньні народу. Ад мамэнту легалізацыі Экзархату а. Антон зьбіраў сясьцёр скрытак, якія жадалі-б працаваць у беларускіх сіроцінцах; пакуль гэты праект мог ажыцьцявіцца, прасіў іх штодня маліцца за Экзархат.

У выніку даносаў, а яшчэ больш інтрыгаў, агэнты гэстапа пачалі сачыць за кожным крокам а. Антона. Тады нават некаторыя беларускія сьвятары раілі яму «прыціхнуць». Аднак высокая годнасьць экзархату вымагала йсьці ўпярод згодна з наказам Хрыста: «ніводзін, хто ўзлажыў руку сваю на плуг і аглядаецца назад ня здатны да Божага валадарства» (Лук. IX, 62). І экзарх бясстрашна йшоў упярод, раз абраным шляхам, і плянаваў пашырыць сваю працу. Дзеля гэтага ён хацеў пабачыцца з мітр. Шэптыцкім і парабіў усе магчымыя захады перад нямецкімі ўладамі, каб атрымаць пропуск на падарожжа цягніком у Львоў. Слонімскі Адзьдзел Самапомачы падтрымаў захады экзарха. Нямецкая ўлада, відаць, пастанавіла выкарыстаць гэтае падарожжа для сваіх скрытых мэтаў і замест пропуску на чыгунку, даюць экзарху дазвол на падарожжа ў Львоў і быццам выяў свае «прыхільнасьці», аўта з нямецкім шофэрам. Адмаўляцца ад прыняцьця гэткага пасулу было немагчыма, бо азначала-б выказаньне недаверу, а кансэквэнцыі такога выказаньня былі ведамыя. Экзарх прыняў прапанову падарожжа аўтам і адбыў яго ў ліпені 1942 г.

Падарожжа ў Львоў трывала бяз мала два тыдні і нажаль ня прынесла нічога суцяшаючага, бо ў Львове кантакт з Рымам быў толькі прынагадны і аднабочны; гэта значыць, што часам было магчыма з рыскам адаслаць лісты ў Рым, але ня было надзеі атрымаць на іх адказу. Мітр. Шэптыцкі мог падзяліцца толькі сумнымі весткамі аб супрацькаталіцкіх кроках назістаў. Украінскі гр.-кат. экзарх быў вымушаны даўно пакінуць Кіеў і наагул дзейнасьць мітрапаліта ўсюды была абмяжоўвана.

Адразу пасьля падарожжа ў Львоў нямецкае гэстапо пастанавіла зьнішчыць экзарха, аднак ня маючы ніякіх фактаў для нейкага хоць-бы фіктыўнага абвінавачаньня, заплянована зьліквідаваць яго скрыта. На пачатку жніўня 1942 г. аднае ночы перад брамаю Альбэртынскага манастыра спынілася аўта з гэстапаўцамі. Яны ўварваліся ў манастыр і «папрасілі» а. Анотна Неманцэвіча паехаць з імі ў Слонім. Яму не дазволілі ўзяць з сабою ніякіх рэчаў, бо «нашто браць, калі ён хутка вернецца; гэта яго клічуць толькі для некаторага высьненьня». Аднак замест хуткага павароту ў Альбэртын а. Антона хутка высылаюць у Менск, але і ў Менску ён аставаўся нядоўга, бо толькі адзін раз у турме ўзялі пасылку на яго імя.

З боку сьвецкіх і рэлігійных дзеячоў рабілася шмат стараньняў, каб вызваліць а. Неманцэвіча. Нават некалькі высокапастаўленых нямецкіх афіцэраў былі ўзялі блізка да сэрца ягоную справу. На пачатку верасьня 1942 г. адзін палкоўнік з нямецкае галоўнае Ваеннае Кватэры, будучы ў Баранавічах, запэўніваў намесьніка экзарха, што а. Неманцэвіч напэўна хутка будзе вызвалены. Аднак усе стараньні асталіся дарэмнымі.

Замест абяцанага вызваленьня экзарха нямецкае гэстапо прысьпешаным тэмпам праводзіла поўную ліквідацыю Экзархату. І калі ўканцы верасьня быў зьявіўся ў Альбэртын адзін з намесьнікаў экзарха, каб прынамся часова абслугоўваць тамтэйшую парахвію, дык у Слонімскім Гэбітскамісарыяце яму было загадана неадкладна вярнуцца «туды, адкуль прыехаў». За нявыка-

наньне загаду пагражалі нядвузначным «строгім пакараньнем». Праз пару тыдняў пасьля гэтага вывезена ў Нямеччыну вялікую частку парахвіян і настаўніка альбэртынскае школы, а царкву зачынена.

Дзе і як загінуў а. Антон Неманцэвіч, да гэтага часу не ўдалося атрымаць пэўных вестак, хоць было зроблена ў гэтым кірунку нямала стараньняў перад калішнім нямецкім урадам. У 1943 г. мітр. Шэптыцкі зьвяртаўся і прыватна і афіцыяльна да кампэтэнтных установаў з запытаньнем аб лёсе а. Неманцэвіча і ў лістападзе 1943 г. атрымаў афіцыяльны адказ з Reichssicherheitshauptamt, што «а. Неманцэвіч памёр на плямісты тыф у пачатку 1943 г.», а біскуп Гэнрык Вінкэн, пасрэднік між нямецкім эпіскапатам і ўрадам, у 1944 г. атрымаў з тае-ж установы адказ, што а. Неманцэвіч памёр на тыф уканцы 1942 г. Як бачым у абодвых адказах не падаецца ані мейсца ані дакладнае даты сьмерці, а што да сьмерці на тыф, дык вестка выразна непраўдзівая, бо а. Антон хварэў на тыф у маладосьці і дзеля гэтага на пачатку 1942 г. бясстрашна адведваў лягэры палонных каля Слоніма, дзе было шмат хворых на тыф і жартаваў з тых, хто яго перасьцерагаў перад небясьпекаю. Аднойчы, калі ён вяртаўся з лягэру, пры ўваходзе ў манастыр з жахам заўважылі на ім вош. Тады а. Антон сьмяючыся супакойваў прысутных: «Не чапайце гэтае жывёлінкі, гэта-ж мне яе падарылі бедныя людзі, выкарміўшы яе сваею крывёю. Вам яна можа пашкодзіць, а мне нічагусенькі». Вось-жа справа з тыфам ёсьць праўдападобна толькі выдумка гэстапо, каб прыкрыць свой злачын. Ня выключана, што пры гэтым гэстапо рабіла алюзію на кару за адведваньне лягэраў, куды хадзілі і а. Антон і адзін радны экзархату а. Іван Гэрмацюк насуперак нямецкае забароны. Пры гэтым а. Гэрмацюк заразіўся тыфам і памёр вясною 1942 г. Трэба дагадвацца, што а. Антон Неманцэвіч быў проста закатаваны ў падзямельлях менскага гэстапо.

Ад часу эдраджэнскае працы на ніве беларускага рэлігійнага жыцьця а. Антон быў першым беларускім сьвятаром, які ўвайшоў у рады ерархіі і на гэтым становішчы ён выявіў сваю веліч і бязьмежную любоў да беларускага народу. Ён да канца выканаў свой абавязак і завяршыў сваё жыцьцё найбольшым выявам любові — аддаў сваё жыцьцё за сваіх пасомых.

**а. Л. Гарошка.**

# Хрыстос перад недаверлівымі

У часе выступленьня Івана Хрысьціцеля чаканьне Збавіцеля было так агульным, што прадстаўнікі жыдоўскага народу пыталіся ў Івана, ці ня ён ёсьць той Збавіцель, якога агульна чакалі (Ів. І,19-25) і атрымалі ясны адказ што ён не Збавіцель, але Той, Каго чакаюць, ужо ёсьць між імі і хутка распачне сваю дзейнасьць.

Хрыстос сапраўды хутка пасьля таго пачаў публічную дзейнасьць, суправаджаючы яе шматлікімі цудамі. Тады Іван Хрысьціцель паслаў сваіх вучняў да Хрыста, каб яны ад імені ўсіх тых, што чакалі Збавіцеля, зьвярнуліся да Яго самога з запытаньнем: «Ці Ты Той, што павінен прыйсьці, ці нам чакаць другога?» (Мат. ХІ,2). Запытаньне мела выразнае жаданьне: Дакажы гэта! Якраз у тым часе, перш чым пасланцы зьвярнуліся да Хрыста з запытаньнем, Ён зрабіў шмат цудаў, дык у адказ пасланцом сказаў: «Ідзеце і абвясьцеце Івану, што чулі і бачылі. Сьляпыя бачаць, кульгавыя ходзяць, пракажонныя ачышчаюцца, глухія чуюць, памёршыя ўваскрасаюць і убогім абвяшчаецца Эвангельле» (Мат. ХІ,4-5).

Які ясны і станоўчы адказ, якія нязьбітыя доказы! Хрыстос бяз ніякіх двузначнасьцяў сьведчыць, што збываюцца прароцтвы Ісаіі аб Збавіцелю-Мэсіі. Ісус Хрыстос паказаў і сказаў, што Ён Валадар над жыцьцём і сьмерцю. Ніхто з прысутных ня мог Яму нічога сказаць супраць, бо-ж сваімі вачыма бачылі аздараўленьні. Аб нейкім падмане не магло быць і мовы.

Аднак чаму-ж у абліччы тых неаспрэчных фактаў не навярнуліся фарысэі, кніжнікі і ўся тагачасная інтэлектуальная эліта? З прыкрасьцю пераконваемся, што **нават найбольшыя цуды не парушаць чалавека тады, калі гэтага не жадае сэрца.** Розум мудрацоў можа рабіць выкручастыя скокі, як гэта рабілі фарысэі кажучы, што Хрыстос выганяе нячыстых духаў сілаю вышэйшага д'ябла, каб толькі ня прызнаць таго, чаго не хацелі прыняць. І сёньня недаверства было-б ня меншым, калі-б газэтныя рэпартэры, вучоныя, палітыкі і эканамісты маглі так пытацца Хрыста, як калісь фарысэі. Вельмі зманлівым ёсьць перакананьне некаторых, што такія цуды, як: аздараўленьне сьлепанароджаных, пракажонных, або ўваскрашэньне памёршых мусіць пераканаць нават найбольш упартых недаверкаў.

Хрыстос-жа ўваскрашаў памёршых і жыды міма гэтага не навярнуліся, гэта неаспрэчны гістарычны факт. І нашыя сучасныя вучоныя і рэпартэры так-жа ня прызналі-б цудаў (Люрд і Фатыма найвымоўней сьведчаць аб гэтым); яны-б мазгавалі, як з помаччу мадэрных сродкаў: хэміі, крыміналістыкі і псыхааналізы дасьледаваць цудоўныя зьявы і ніколі не дайсьці да ніякага выснаўку. Пачалі-б сумнявацца, ці сапраўды цудоўна аздароўленыя былі сьляпымі ад нараджэньня, або спараліжаванымі ад нараджэньня, а калі-б пры-

ціснутыя відавочнасьцю да сьцяны сьцьвердзілі гэтыя факты, дык шукалі-б пустога выкруту: маўляў ёсьць нейкія прыродныя сілы, якіх мы яшчэ ня выкрылі. Адносна ўваскрашэньня памёршых гаварылі-б аб уяўнай сьмерці, а калі памёршы ўжо пачаў сьмярдзець, як гэга было з Лазарам, дык тады проста адкідаюць факт, або прайходзяць міма яго, паціскаючы плячыма.



Доказы, доказы! крычыць сёньняшні сьвет, але ў глыбіні душы ён ня хоча ніякіх доказаў і крычыць аб доказах толькі таму, бо спадзяецца, што іх ніхто ня дасьць. Тон дамаганьня нецярплівы, пагражаючы.

А Хрыстос спакойны і ціхі! Як стрымана гаворыць Ён аб сваіх цудах! Яны для Яго зьяўляюцца нечым самазразумелым і Ён іх можа ўсьцяж памнажаць, насычваць 5.000 мужчын некалькімі ячменнымі хлябамі, супакойваць бушуючае мора і яно Яго слухаецца пакорна як шчанятка, выганяць злых духаў і учыніць найбольшае цуда, скрышыць свой гроб і 40 дзён па сьмерці зьяўляцца сваім вучням.

Немагчыма зрабіць больш цудаў, як іх зрабіў і робіць Хрыстос. Ён-жа дзейнічае на працягу тысячагодзьдзяў праз сваіх сьвятых, Ён робіць цуды ў мейсцах асаблівых ласкаў, і міма гэтага сьвет Яму ня верыць; калі чуе аб неаспрэчных фактах, паціскае плячыма і пераходзіць да дзённага парадку.

Хрыстос адказваючы вучням Івана Хрысьціцеля, пералічыўшы свае цуды, дадаў: «Шчасьлівы, хто ня згоршыцца з Мяне!» (Мац. XI,6). Заўвага зроблена не дарма, бо цуды і найбольшыя Божыя ўчынкі могуць выклікаць дасаду і згоршаньне, калі становяцца ўпапярок дарогі меркаваньням гэтага сьвету. А праўда заўсёды яму стаіць упапярок дарогі, яна для яго няпрыемная і вострая. Горш таго, часам нават і для хрысьціян Хрыстос ёсьць згоршаньнем! Ці не схаваем мы сваіх вачэй, калі Ён гляне на нас сваім спакойным і пранікаючым поглядам? Як часта ягоныя прыказаньні былі няспрыймальнымі для нашага цела і нашых слабасьцяў?

Калі знойдзешся ў царкоўнай цішы і станеш перад Хрыстом, утоеным у Найсвяцейшай Эўхарыстыі, толькі шчыра заглянь тады ў сваё сэрца і знойдзеш багаты матэрыял для рахунку сумленьня !

Паводля **Л. Ленцэна**

# Поступ цывілізацыі і проблема маральнасьці

(Рэфэрат, прачытаны на «Тыдні Студыяў» 8 ліпеня ў Кэніґштайне. Друкуецца ў скарачэньні)

Аб суадносінах маральнасьці і цывілізацыі ў вольным сьвеце гаворыцца і пішацца нямала падчас розных нагодаў. А нагодамі звычайна зьяўляюцца трагічныя выпадкі, спрычыненыя несуразьмернасьцю між поступам цывілізацыі і маральнасьцю тых людзей, якім было даручана карыстацца асягненьнямі сучаснае цывілізацыі.

У беларускім асяродзьдзі да гэтага часу мала калі парушалі названую тэму дзеля тае простае прычыны, што беларусы так на бацькаўшчыне, як і на эміграцыі вельмі мала ўдзельнічаюць у тых кругох, дзе фармуюцца адносіны між цывілізацыяю і маральнасьцю. Аднак незалежна ад ступені прыналежнасьці да гэтых кругоў, неабходна ўсьведаміць важнасьць маральнасьці ў жыцьці чалавека наагул і асабліва ў тых выпадках, калі некаму даручаецца карыстаньне вялікімі асягненьнямі сучаснае цывілізацыі. Зацікаўленьне названаю тэмаю можа і мусіць праяўляцца як з боку адказных работнікаў, так і з боку тых, што карыстаюць асягненьнямі сучаснае цывілізацыі. Няма сумніву што між гэтымі другімі ёсьць кожны з нас.

Для яснасьці закраненае тэмы неабходна азначыць сэнс слоў: цывілізацыя і маральнасьць, бо абодва гэтыя словы маюць па некалькі значэньняў і некалькі падобных па значэньні слоў, як: культура, нораў, этыка.

Цывілізацыя — гэта вышэйшая ступень разьвіцьця тэхнікі, навукі і формаў грамадзкага жыцьця.

Маральнасьць — гэта сукупнасьць правілаў

для азначэньня дабраты людзкіх учынкаў і паводзін. Крытэрыем для гэтага азначэньня ёсьць не якіясьці зьменьлівыя людзкія настроі і меркаваньні, але абсалютна нязьменныя Божыя ўстановы, выказаныя Ім у аб'яўленьні.

Ужо з гэтага кароткага азначэньня можна бачыць, што між маральнасьцю і цывілізацыяю ёсьць вялікая розьніца, а ў іхных адносінах можа быць нямала розных аспэктаў, бо-ж маральнасьць абасноўваецца на вечных і нязьменных нормах, а цывілізацыя ўсьцяж зьмяняецца; маральнасьць мае на ўвеце духовы парадак, а цывілізацыя займаецца перадусім матэрыяльным парадкам і ўладжаньнем жыцьця. Аднак ня гледзячы на такое разрозьненьне маральнасьць і цывілізацыя часта сустракаюцца з сабою ў штодзённым жыцьці і выяўляюць пякучую патрэбу суладных суадносінаў між сабою.

Ад вякоў ведама, што разьвіцьцё шматкантовага людзкога жыцьця, калі тое разьвіцьцё мае прыносіць сапраўднае палепшаньне, павінна адбывацца раўнамерна ўва ўсіх галінах і дзялянках. Калі-ж нейкая дзялянка людзкога жыцьця ня толькі што не разьвіваецца разам з іншымі, але яшчэ занепадае, дык у грамадзтве пачынаюцца нелады. Ведамы прыклад з бочкаю, у якой майстар зрабіў няроўныя клёпкі — яе ўмяшчальнасьць будзе ўсяго такая, як высокая найменшая клёпка, а калі-ж нейкая клёпка зусім згніе, дык ўся бочка разваліцца, незалежна ад таго, якія будуць вялікія і прыгожыя іншыя клёпкі. Падзеі ў сьвеце з нядаўнага мінулага вымоўна выявілі, што ў грамадзкім жыцьці сучаснага чалавецтва нейкія «клёпкі» моцна пашкоджаныя і адчуваюцца як балючыя верады ўва ўсім сьвеце.

Прыраўняйма сучаснае жыцьцё да жыцьця мінулых стагодзьдзяў. Які вялікі поступ за кароткі час! Колькі прыгожых азначэньняў мае сучасны век!!! Ён век: электрычнасьці, самаходаў, самалётаў, радыя, тэлевізіі, нязьлічаных фабрыкаў і заводаў, а ўканцы век атамнае энэргіі. І вось як ні дзіўна гэты век аж лішне часта называюць ліхалецьцем, бо-ж гэта той самы век ёсьць векам канцэнтрацыйных лягераў, катынскіх пабоішчаў, крэматорных печаў, людабойства... Супаставіць абодва азначэньні дык робіцца крыўдна і балюча. Гэта-ж наш людзкі розум дайшоў да тых вялікіх здабыткаў цывілізацыі, якімі на добры лад трэба толькі ганырыцца, як выдатнымі творчымі асягненьнямі. Але першая і другая сусьветныя войны паказалі, што асягненьні сучаснае тэхнікі больш служаць для руйнаваньня ўсіх здабыткаў людзкое культуры, чым для палепшаньня ўмоваў людзкога жыцьця. Прычыну гэтага сумнага зьявішча выкрыць ня цяжка: яна крыецца ў тым, што ўжо ад даўжэйшага часу поступ цывілізацыі так запаланіў некаторыя пласты грамадзтва, што ў іх маральны бок жыцьця вельмі занедбана. Сьледам за імі дабраехольна і нехаця пайшлі масы работнікаў.

Разьвіцьцё тэхнікі наагул, а ў вялікіх фабрыках у асаблівасьці, ужо ад даўна прыняло такія формы, што работнікі ператвараюцца у бяздушных нявольнікаў машынаў. Выконваючы дзень-удзень на працягу доўгіх гадоў нейкія бяздумныя рухі, чалавек няўпрыцям для сябе ператвараецца ў аўтамат. Для праяўленьня духовых і разумовых здольнасьцяў такі работнік ня мае ані часу, ані магчымасьцяў. Канструктары-ж, якія мусяць мець творчую фантазію, накіроўваюць усе свае здольнасьці выключна ў мэханічны бок, а кіруючы пэрсанал сучасных фабрыкаў з іншых прычынаў аддаецца машынам у палон. Гэткае зьявішча ўжо ад даўна прыняло масавы характар і атрымала назоў машынакратыі. Яго можна азначыць як нейкае своеасаблівае паганства, з тою аднак розьніцаю, што даўнейшыя пагане пакланяліся балванам, якія мелі быць сымбалямі нейкіх багоў, а цяпер мейсца калішніх прымітыўных статуяў занялі скамплікаваныя машыны, якія палоняць і думкі і волю чалавека ды паступова заглушаюць у ягонай душы вышэйшыя імкненьні.

Калі-б толькі ў фабрыках адбывалася такое калечаньне асабовасьці чалавека, дык было-б яшчэ паўбяды. Нажаль, у іншых галінах жыцьця дзеецца ня лепш. Пасьля працоўнага дня жыхары гарадоў і вёсак штовечара быццам для адпачынку масава накіроўваюцца ў кіно. А там зноў экран і мэгафон так палоняць увагу глядачоў, што зусім не даюць часу на ўласную думку. Добра, калі яшчэ фільм добры, але колькі такіх фільмаў прадукуецца?! Ува ўсіх краінах сьвету пераважаюць немаральныя фільмы, якія атручваюць фантазію чалавека.

Ад некаторага часу на выперадкі з кінам спаборнічае тэлевізія, але як-жа часта ў немаральным кірунку.

А што робіцца на вуліцы, на дарогах, на чыгуначных і марскіх шляхох, дзе прыйшла да голасу змэханізаваная камунікацыя? Там людзі імкнуцца з такім пасьпехам, што ня дзіва і галаву страціць. Праўда ў гэтай грамадзе можна стрэнуць так-жа спакойных і паважных людзей, але большасьць з іх гэта ўжо змучаныя і зьнясіленыя, якія страюцца вырвацца з дакучлівага гармідару, каб хоць крыху ачалавечыцца.

Па-за фабрыкамі і ўстановамі астаецца яшчэ большая частка людзей, якія на добры лад могуць і мусяць супрацьдзеяць усім руйнацкім прычынам; нажаль і тут ад вякоў дзейнічае як злы дух — мода. Ці раз яна накідвала сваім нявольнікам і асабліва нявольніцам згоршваючыя формы.

Пэўна-ж вышэй сказанае нельга ўагульніваць, аднак факт астаецца фактам, што ўмовы працы і грамадзкага жыцьця ад даўжэйшага часу моцна паралізуюць вышэйшую, духовую дзейнасьць чалавека і тым самым абумоўліваюць ягонае ма-

ральнае абядненьне, калі так можна назваць той стан душы. Тут вось і ёсьць вузёл суадносінаў маральнасьці і поступу цывілізацыі. Як бачым, ён вельмі заблытаны шматлікімі ніткамі з усімі галінамі людзкога жыцьця: рэлігійнаю, эканамічнаю. сацыяльнаю, навуковаю і інш. Ужо нямала людзей і паасобна і на кангрэсах шукалі ягонае разьвязкі, і знайшлі нямала добрых рэцэптаў, але да гэтага часу, той клубок нічуць не разблытаўся, а нават маецца ўражэньне, што ён заблытваецца ўсё больш. Не таму, што ніякае разьвязкі не знайшлі, але перадусім таму, што ўплывовыя кругі праяўляюць мала зацікаўленьня ў ягонай разьвязцы.

Тымчасам поступ цывілізацыі ўсё больш настойліва дамагаецца павышэньня ўзроўня маральнасьці чалавека. Сучасная тэхніка дае ў рукі чалавеку аграмадныя магчымасьці або стацца вялікім дабрадзеем, або яшчэ большым ліхадзеем. Адзін безадказны чалавек, узброіўшыся сучаснаю тэхнікаю, можа спрычыніць неаблічальную шкоду ці то на чыгунцы, ці на лётнішчы, ці ў фабрыках, ці ў шахтах, ці ў прадпрыемствах харчаваньня. Два гады таму ў Францыі атруцілася некалькі дзесяткаў людзей печывам хлеба, у якое хтосьці ўсыпаў муку з карнуцінам. Нават такая здавалася-б нявінная рэч, як пудра і тая вымагае дбайлівае ўвагі пры яе фабрыкацыі; у мінулым годзе атручана каля сотні дзяцей пудраю, у якую безадказны работнік укінуў праз недагляд аршэнік. Падобных прыкладаў можна знайсьці шмат у кожнай краіне, але ўсе яны зьнікаюць у цені, калі іх прыраўняць да тых жудасных зьверстваў, якія рабілі і робяць камуністычныя верхаводы ў тых краінах, дзе яны захапілі ўладу. Камуністы, адкінуўшы сапраўдную маральнасьць і, прыняўшы як норму дзеяньня кліч: добра ўсё тое, што служыць для інтарэсаў камуністычнае партыі — за час свайго панаваньня ўгробілі дзесяткі мільёнаў нявінных людзей, аграбілі сялянства і грабяць яго далей, змушаючы тэрорам працаваць у калгасах часта за галодныя працадні. Толькі за апошнія дзесяць гадоў бальшавікі зьменшылі насельніцтва Савецкае Беларусі з 9 мільёнаў да 8-і, у некаторых іншых рэспубліках зрабілі тое-ж самае. Некалькі драбнейшых народаў, як крымскіх татараў, інгушаў і калмыкоў зусім вывезена з іхных бацькаўшчынаў і большасьцю вынішчана. Іншая бязбожная ўлада — назізм — у немаральных учынках старалася перасьцігнуць камуністаў, масава мардуючы жыдоў, цыганоў і некаторыя пласты іншых народаў.

Успомніўшы некалькі жудасных фактаў з паводзінаў зарганізаванае немаральнасьці з прыкрасьцю трэба сьцьвердзіць і другія факты: у вольным сьвеце нават тыя, што абураюцца немаральнымі ўчынкамі іншых, няраз самі ствараюць падатны грунт для пашырэньня немаральнасьці праз сваю пасыўнасьць. Пэўна-ж маральнасьці сілаю накінуць іншым немагчыма, але калі абыякава прыглядацца да немаральных учынкаў іншых, дык тады немаральнасьць пашыраецца як зараза. Гэта ёсьць паважная хвароба нашага веку. Зразумела, што найбольш адказнымі з гэтага гледзішча ёсьць людзі на нейкіх кіруючых становішчах. Калі яны бязьдзейна прыглядаюцца да бясчынстваў, дык тады іншыя міжвольна пытаюцца: а што-ж мы можам зрабіць, каб супрацьдзеяць немаральнасьці? Шмат хто гэткім пытаньнем апраўдвае сваю пасыўнасьць і пры тым моцна памыляецца, бо ў палепшаньні маральнага ўзроўню грамадзтва мусіць удзельнічаць кожны чалавек. Ня гледзячы на іншых кожны можа і мусіць трымацца нормаў хрысьціянскае маральнасьці ў сваім асабістым жыцьці і ў сваіх паводзінах адносна іншых, бо кожны асабіста нясе адказнасьць за свае ўчынкі перад Богам. Пэўна-ж жыцьць беззаганна паводля хрысьціянскае маральнасьці — гэта высокі ідэал, які асягнуць нялёгка, але на тое чалавек і зьяўляецца на зямлі, каб імкнуцца да гэтага ідэалу.

Чым бліжэй будзе падыходзіць людзтва да хрысьціянскага ідэалу, тым самым будзе зьбліжацца да адпаведнае разьвязкі ўсіх праблемаў, якія зьвязаны з настроямі і пераканаваньнямі чалавека, што кіруюць ягонаю дзейнасьцю. Чалавеку з высокаю маральнасьцю кожны бяз ніякага страху даручыць усе асягненьні цывілізацыі, усе вынаходы тэхнікі з поўным даверам, што той будзе імі кіраваць для агульнага дабра чалавецтва. Але кожны з жахам будзе глядзець на ўзброенага да зубоў злачынцу. У гэтым цьверджаньні няма нічога новага, бо ўжо з даўных давён людзі з пашанаю глядзяць на хірурга, калі ён узброены найлепшым нажом з найлепшае сталі — скальпелем, набліжаецца да хворага, але з жахам уцякаюць ад крамольніка з нажом у руках.

Гэтыя разважаньні і прыклады можна пачуць часта, нажаль рэдка з іх робяцца практычныя выснаўкі, якія коратка можна было-б уняць у адным сказе: **неабходна, каб з поступам цывілізацыі ўздымаўся маральны ўзровень грамадзтва.** А таму што кожны з нас належыць да грамадзтва, дык неабходна, каб у першую чаргу прыстасаваў гэты выснавак да сябе, незалежна ад таго, якімі асягненьнямі цывілізацыі карыстаецца.

Прынагадна можна зрабіць яшчэ адзін практычны выснавак з папярэдніх разважаньняў. Поступ цывілізацыі можа быць так-жа адным з тых дзейнікаў, якія падказваюць людзям неабходнасьць захаваньня хрысьціянскае маральнасьці. Аднак у зьвязку з гэтым выснаўкам неабходна засьцерагчыся, што багасловія падае да гэтага свае аргумэнты. (Увага: Падчас Тыдня Студыяў

---

**Праз павялічальнае шкло глядзіцца на лепшыя якасьці тых, каго любім, і на памылкі тых, каго ня любім.** **І. Г. Гэрдэр**

на тэму хрысьціянскае маральнасьці быў асобны рэфэрат).

З вышэй сказанага можна бачыць, што тэарэтычна ня цяжка знайсьці разьвязку закранenaга пытаньня, але яе ажыцьцяўленьне ў практычнай плошчы сустракае шмат цяжкасьцяў; магчыма нават больш чым успрыняцьце навукі Хрыста нагул, бо тады даходзяць да голасу: традыцыі, эгаізм, розныя дачасныя меркаваньні і розныя зводныя засьляпленьні. Аднак усё гэта не павінна зьнеахвочваць людзей добрае волі ўсьведамляць словам і перадусім учынкам аб неабходнасьці шчырага захаваньня хрысьціянскае маральнасьці ў асабістым і грамадзкім жыцьці.

# Аб сямейным вогнішчы

### АД ЖЫЦЬЦЯРАДАСНАЕ МАЛАДОСЬЦІ ДА ВЫМРАЕНАЙ СТАЛАСЬЦІ

Вясною ў кустох ад зары да зары прыгожа пяе салавейка свае чароўныя песьні і далёка разьлягаецца рэха тае мілае мэлёдыі. Але як толькі заварушацца ў яго гнязьдзе маленькія дзеткі — песьня сьціхае.

Разам з песьняй салавейкі гучна лунае аж пад хмары веснавымі вечарамі песьня беларускае моладзі па вёсках, скокі і гульні дапаўняюць той чар маладосьці. Але як толькі маладыя людзі зьвяжуцца вузлом сужэнства — адыходзяць ад бястурботнага расьсьпяванага хору моладзі, бо мусяць выконваць адказныя абавязкі сямейнага жыцьця. Хоць весялосьць і бадзёрасьць у іх ня зьнікае яшчэ доўгія гады, але мала ўжо будзе часу, каб яе праяўляць.

І як-жа часта некалькі год, а нават некалькі месяцаў сужэнскага жыцьця мяняюць да непазнаньня людзей. У маладосьці амаль кожны дзяцюк і кожная дзяўчына праводзілі не адзін вечар на самоце, раздумваючы і мроючы, як то шчасьліва яны будуць жыць з сваім любым, ці любаю — якія прыгожыя і акрыляючыя лятуценьні перажывалі яны! І як сумна, калі жыцьцё іх пойдзе зусім непадобна да тых лятуценьняў, калі замест вымраенага шчасьця сямейнае вогнішча прынясе ім прыкрыя расчараваньні. Колькі ёсьць маладзіц, што ў прыгнобленьні паўтараюць:

Каб я знала, каб я ведала
Сваё горкае замужайка,
Нігды замуж я-б павек не пайшла,
Я-ж у матанькі як жыла, так жыла-б.

Але ўжо зробленага кроку ня вернеш. Дзеля гэтага неабходна напяряод крыху стрымаць свае пачуцьці і спакойна разгледзецца навокал. Для маладых людзей гэта вельмі нялёгка справа, бо ўзрастаючая маладая сіла быццам бурапенны вір захоплівае ўсю іхнюю істоту і кідае ў абыймы сустрэчных абставінаў. Адзін выдатны мастак вельмі ўдала намаляваў паводзіны маладых людзей, якія ня лічацца з сапраўднасьцю: малады хлапец з дзяўчынай, узяўшыся пад рукі, бадзёрым крокам накіроўваюцца ў бязкрайнае мора, кажучы: «Нам мора па калена!»

Гэта ёсьць адна з важных рысаў маладосьці, якая часта спрычыняе паважныя няшчасьці і тым самым вымагае апанаваньня. Але ёсьць і другая ня менш важная рыса — імкненьне да дабра, да ўсяго, што лепшае, вышэйшае. І калі на тле першае рысы вельмі часта могуць загнязьдзіцца ў душы маладых людзей найгоршыя заганы дык другая рыса абумоўлівае тое, што ў душы чалавека знайходзяць жывое водгульле высокія ідэалы, добрыя пастановы і наважанасьць нават коштам найбольшых ахвяраў імкнуцца да зьдзейсьненьня тых ідэалаў.

Дзеля гэтага вельмі патрэбна і карысна зьвярнуцца да моладзі з шчырым словам дапамогі выбраць той жыцьцёвы шлях, на якім-бы было хоць крыху менш сумных нараканьняў і горкіх сьлёз, а больш радасьці і шчасьця. Пэўна-ж тыя, што радзяць і самі маюць шмат цяжкасьцяў у жыцьці і, магчыма, вельмі мала шчасьця, але затое маюць нямала жыцьцёвага досьледу і, хоць жыцьцё кожнага чалавека непадобнае на жыцьцё іншых, аднак з досьледу іншых можна шмат чаго скарыстаць.

У жыцьці ёсьць законы, якіх нельга бяскарна пераступаць. Жыцьцёвыя законы цьвёрдыя і няўмольныя, хто іх пераступае няхай не спадзяецца на ніякую патолю. У жыцьці нельга стаяць на мейсцы, неабходна йсьці ўпярод. Калі-ж аднак нехта залішне распасьцірае свае слабыя крыльлі, тады жыцьцё ломіць гэтыя крыльлі і гэрой раптам падае з лятуценных вышыняў у бяздоньне, з ружовае радасьці да чорнага зьняверу, да горкага адчаю. Колькі ёсьць такіх людзей, што з вялікага маладога разгону і высокага палёту спускаюцца да няцікавага і бязмэтнага мадзеньня з дня на дзень.

Пішучы гэтых некалькі сказаў, мімаволі прыйходзіць на думку: хто іх будзе чытаць?! Хто з тых людзей, што паважна думаюць аб сужэнстве, цікавіцца радамі іншых. Народная мудрасьць у гэтай справе кажа: «Да дваццаці гадоў хлопцы самі жэняцца, ад дваццаці да 32 гадоў іх людзі жэняць, а пасьля 32 гадоў чэрці жэняць», а на рады і парады нават і мейсца не астаецца. І вось міма гэтага хочацца такі зьвярнуцца да моладзі з некаторымі радамі. Практыка выказала, што парады маладым людзям перад іх сужэнствам могуць

быць сапраўдным багаславенствам, дзеля тэтага сёньня ў шматлікіх дзяржавах існуюць спэцыяльныя курсы для заручаных, на якіх сьвятары, лекары і псыхалёгі выясьняюць усе тыя пытаньні, з якімі новажэнцы абавязкава стрэнуцца ў жыцьці. На вялікі жаль дзеля расьцярушаньня мы ня можам зарганізаваць падобных курсаў, але дзеля гэтага неабходна хоць часткава іх замяніць прынагаднымі артыкуламі.

# Перш падумай, з кім зьвязаць сваю долю

Колькі раз маладыя людзі чуюць падобныя рады ад старэйшых ці ад духавенства, дык з насьмешкаю адзываюцца: «Гэтыя людзі гавораць аб рэчах, якіх ўжо забыліся разумець, або і зусім не разумеюць. Якія яны дзівакі, зьвяртаюцца да розуму, калі маецца справа з пачуцьцямі». На такую, ці падобную заўвагу даў вельмі трапны адказ а. Язэп Мантон з Бастону, які часта парушаў справу сужэнства ў радыёперадачах. З ягоных вартасных парадаў асабліва вартыя ўвагі словы, зьвернёныя да дзяўчат. Вось некаторыя з іх:

«Калі ты годзішся выйсьці замуж, дык толькі за таго хлопца, якому зможаш цалкам аддаць сваё сэрца. Але перад тым карыстайся галавою, каб ведаць, хто мае стацца заўсёдным уласьнікам твайго сэрца. І толькі тады, калі пераканаешся, што ён годны быць уласьнікам твайго сэрца, твая галава можа быць халоднаю як лёд і можаш дазволіць твайму сэрцу палымнець адданасьцю».

Што да тых азнакаў, па якіх дзяўчына можа ацаніць, хто будзе годны яе даверу, а. Мантон кажа:

«Найважнейшая рэч — палюбіць і выйсьці замуж за чалавека, за асобу, а не за абставіны, бо звычайна чалавек сам не зьмяняецца, а абставіны могуць зьмяніцца вельмі хутка».

«...Ведама, што няма ніякіх засьцярогаў, каб ты маршыравала праз царкву да прастолу з сымпатычным хлопцам, у якога сымпатычны смокінг зашпільваецца паверх сымпатычнае партманэткі, але толькі з тою ўмоваю, што ты шчыра любіш хлапца, а не ягоныя хвалістыя валасы, яго зграбную паставу... або яго партманэтку».

«...Абавязкова, перш чым падставіць свой палец пад пярсьцёнак, спытайся сябе: «Ці я буду магчы па шлюбе жыць з маім нарачоным заўсёды і быць шчасьліваю?» Затое зусім ня пытайся ні ў сябе ні ў іншых: «Ці твой нарачоны выдатны танцор?» Бо жыцьцё з гэткім чалавекам хутка скончыцца тым, што ягоны шлюбны пярсьцёнак будзеш насіць у носе».

«...Добра так-жа спытацца ў мамы, што яна думае аб тваім хлапцу. Называйце сабе гэта інтуіцыяю, называйце досьледам, або неяк іначай, але мамы звычайна вельмі кемлівыя ў гэтых справах. Аднак калі мама мае засьцярогі да першага хлапца, адкідае другога, ставіць вэта адносна трэцяга, хоча арыштаваць чацьвёртага і толькі агульнымі словамі адмаўляецца, што яна ня супраць, каб яе дачка выходзіла замуж за нейкага хлапца, які невядома ці агулам дзе існуе, у такім выпадку можна на яе пабожна, з любоўю і эфэктоўна не зьвяртаць увагі. Але гэта належыць да выняткаў. Нармальна-ж калі мама зьверне свой палец супраць хлапца, тады дзяўчына павінна двойчы падумаць, пакуль выставіць свой палец па пярсьцёнак. Рада мамы асабліва вартасная тады, калі маладыя людзі сябе ведаюць замала».

«Калі ты хочаш убачыць свайго хлапца такім, якім ён ёсьць у сапраўднасьці, адведай яго ў звычайных абставінах на яго дамашнім грунце, у яго дома. Можаш нават спытацца аб ім ягоных блізкіх родных і знаёмых. Напрыклад брат ці сястра за некалькі хвілін прынагаднае гутаркі могуць табе выбалбатаць больш вестак яб ягоным характары, чым ты можаш вылавіць сама за некалькі месяцаў сяброўства».

«Некаторыя спаміж вас, лятуценьніцы з ямачкамі на шчоках і ветрагонныя сьмехатункі могуць гэтыя рады назваць рамансамі па лінейцы, або сужэнствамі праз бюро штандартаў. Пачакайце прышпільваць лапінкі гэтым радам, але перш усьведамеце, што вы маеце вырашыць пытаньне ўсяе вашае будучыні, бо-ж маеце зьвязаць сваю долю не на некалькі гадоў, вы маеце аддацца на ўсё жыцьцё і хочаце зарукі, што вашае жыцьцё на гэтым кроку ня зьвіхнецца».

«Калі ён цяпер п'е, а яшчэ горш калі ўпіваецца, зрабеце сабе прыслугу і забудзьцеся яго. Бо калі маеце намер будаваць свой новы дом на балоце і багне, дык ведайце, што балота і багна ня высахне дзеля таго, што вы на ім збудавалі дом!»

«Ня варта так-жа зьвязаваць сваю долю з хлопцам, які значна малодшы за цябе, бо аднаго дня ён можа захацець танцаваць румбу, а да таго часу ты можаш мець рэўматызм».

«Тут успаміналася аб хлапцу, але прашу цябе, выходзь замуж за мужчыну! Абмінай тых дзяцюкоў, якія пасьля шлюбу хочуць мець прывілеі сужэнства і ўсю свабоду кавалера. Пераканайся, ці твой нарачоны ставіць сямейнае вогнішча вышэй, як клюб, разрыўкі, гульню ці нейкую іншую пустазвонную рэч. Так-жа пераканайся, ці ён любіць дзяцей! Асяродзьдзе чалавека ня ёсьць разрыўкі, але тварэньне і жыцьцё, якога

цэнтр знайходзіцца ў залатым сямейным коле шлюбнага пярсьцёнка».

«Я прашу цябе, калі ты маеш нейкія паважныя сумнівы адносна характару дзяцюка, дык пакінь яго!»

«Ці-ж ня лепш цяпер сарваць вашае сяброўства і нават заручыны, чым потым разьбіваць сужэнства? Некалі пасьля шмат гадоў ты, магчыма прыпадкам, убачыш таго хлапца, як ён будзе валачыся па другім баку вуліцы, і тады ты ўздыхнеш з вялікаю палёгкаю, шэпчучы: «Божа мілы, гэта-ж вонь там пайшоў блуд, які траха не ўцягнуў мяне ў згубны вір».

«Усе мае заўвагі маюць на мэце не засмуціць вас, але каб вы падумалі паважна аб сваім сужэнстве і памаліліся аб належным выбары вашага сужонка. Каб праз заступніцтва Дзевы Марыі, вашае Нябеснае Маці, вашы вясельныя званы гучалі незмаўкаючым звонам радасьці ў вашым сэрцы да вашага залатога юбілею. Хай Бог багаславіць вас!»

---

**Што неба робіць небам — ёсьць любоў. І што пекла робіць пеклам — ёсьць аддаленьне ад вечнае любові, ад Бога, і нястача ўзаемнае любові.**

**Язэп Вэндэль**

---

# На Бога спадзявайся, але і сам старайся

Аднойчы пустэльнік убачыў, што сокал прыляцеў у асірацелае вароняе гняздо і карміў враня.

Зьдзіўіўся пустэльнік, што сокал корміць враня і падумаў: «Враня і тое ў Бога не прападае. Навучыў вось Бог гэтага сокала карміць чужую сірату. Бог аб кожным сатварэньні памятае. Перастану я больш аб сабе думаць, ня буду больш запасаць стравы, калі Бог памятае аб усякім сатварэньні, будзе і аба мне памятаць».

Так і зрабіў. Сеў у лесе і не ўставаў з мейсца, а толькі маліўся Богу.

Тры дні і тры ночы прабываў ён бяз ежы і піцьця. На трэці дзень так аслабеў, што ўжо ня здолеў падняць рукі. Ад слабасьці ён заснуў і прысьнілася яму, быццам прышоў да яго нейкі старац і кажа:

«Чаму ты сабе ежы не стараешся? Ты думаеш угадзіць Богу, а ты грэшыш. Бог так уладзіў сьвет, каб кожнае сатварэньне здабывала сабе страву сваімі сіламі. Бог сказаў таму сокалу карміць враня таму, што яно яшчэ малое і ня здужае сабе здабыць корму, а ты можаш працаваць. Дык прачніся і, шчыра працуючы, здабывай сабе штодзенны хлеб».

---

**Людзтва ніколі ня знойдзе ратунку па-за рэлігіяю, па-за ,саліднаю хрысьціянскаю рэлігіяю, каторая будзе ў згодзе з поступам веды.**

**Пятро Лекомт дэ Нуі.**

---

# Нарэшце зразумеў

Было гэта даўно. Жыў у аднэй вёсцы чалавек, які лічыў сябе добрым хрысьціянінам, але з нікім ня мог жыць у згодзе, ані з сваімі роднымі, ані з суседзямі. Ува ўсіх непаразумленьнях і спрэчках ён лічыў вінаватымі іншых, але ніколі самога сябе. І вось ён пастанавіў пайсьці ў манастыр, спадзяючыся, што там знойдзе добрых, спагадных людзей, а для сябе знойдзе мір і супакой. Але выявілася, што і ў манастыры ён ня мог ужыцца з іншымі. Частыя непаразумленьні з субратамі змусілі яго перайсьці ў другі манастыр, потым ў трэйці, але нідзе ён не знайходзіў супакою і заўсёды ды ўсюды вінаватымі ў спрэчках і разладах ён рахаваў іншых, але ніколі сябе.

Аднойчы зімою ён нёс ваду. Дарога была коўзкая і ён пасьлізнуўся ды ўпаў і тут-жа голасна вылаяўся. Падняўшыся з зямлі, ён агледзеўся навокал, нікога нідзе ня ўбачыў і адразу падумаў: на каго-ж ён вылаяўся — ці на дарогу, ці на ваду, ці на вядро, ці на самога сябе, ды навошта ён агулам вылаяўся? Яму стала сорамна і ён зразумеў на колькі ён быў непаўстрыманы, апрыскліві і сварліві. Гэты дробны выпадак даў яму магчымасьць уцяміць, што і да гэтага часу ён дарма ўцякаў ад людзей, памылкова рахаваў іх дрэннымі, а што ўсё ліха ёсьць у ім самым. Калі-б ён сам быў добрым і згодлівым, дык і людзі, сярод якіх ён жыў, былі-б для яго такімі-ж добрымі і згодлівымі.

---

**«Верую ў Бога, гэта прыгожае і пахвальнае слова, але прызнаць Бога там, дзе і як Ён аб'яўляецца, гэта ўласьцівае шчасьце на зямлі».**

**Ґэтэ**

# Няведамыя шляхі

(Працяг 9-ы)

## РОДНЫЯ СКАРБЫ

Андрэй працаваў з Траецкім у Налібоцкай пушчы. Праца была лёгкаю і цікаваю. Яны зьбіралі розныя расьліны і весткі аб жывёлінным сьвеце пушчы. Пры гэтым Андрэй пераканаўся, як ён мала ведае прыроду роднага краю, а яна такая цікавая і багатая!

Каб даведацца, як называюцца ў ваколіцы розныя расьліны і да чаго яны ўжываюцца, Андрэй некалькі разоў зьвяртаўся да аднае бабулькі, якая крыху займалася лячэньнем. Яна спачатку неахвотна гаварыла з ім, але калі пачула цікавую вестку, якую Андрэю перадаў Траецкі, як у часе першае сусьветнае вайны балюча адчувалася нястача некаторых лекаў, бо з заморскіх краінаў іх не прысылалі, асабліва раненыя цярпелі дзеля нястачы канадзкага жоўтага кораня, і як тады прыпадкам адзін аптэкар даведаўся ад беларускае жанчыны, што кроў добра спыняе водны перац, і як гэты новы лек стаўся дабрадзействам для раненых; язык у бабулькі адразу разьвязаўся. Ды гаварыў Андрэй так, што цяжка было яго не паслухаць.

— А сёньня — ведаеце бабулька, тысячы людзей дзякуюць той жанчыне, што не хавала ў сакрэце сваіх ведаў і за яе Бога моляць, бо дзякуючы, ёй, ім удалося выратавацъ жыцьцё.

— Праўду, голубе, кажаш, шчырую праўду. У нашых лясох ёсьцека шмат, шмат добрых зёлкаў, але хто імі цікавіцца? Нашы, во, зубаскалы, што які год ці другі ў нейкай школе пасядзелі, дык адно і цікуюць за тым, каб нешта падглядзець ды потым кепенькі строіць з «бабскіх лекаў».

— Разумны чалавек ня будзе сьмяяцца з таго, чаго ня ведае, а калі ведае, што нехта кепска робіць, дык перш параіць, як лепш зрабіць.

— А дзе ты бачыў, каб яны што параілі, калі ў іх вецер у галаве сьвішча. Відаць, што іх у той школе ўсяго і навучылі рагатаць...

Слова па слову бабка разгаварылася з Андрэем так, што ён ледва ўсьпяваў запісваць усе тыя вартасныя зёлкі, якія расьлі ў пушчы: адныя як лекі, другія як атруты, іншыя для хварбаваньня тканінаў.

Калі пасьля Андрэй зладзіў сьпіс усіх тых зёлкаў, аб якіх даведаўся ад бабулькі, і перадаў яго Траецкаму, дык той паківаў галавою, паглядзеў на Андрэя і неяк дзіўна вымавіў:

— Бачыш, якія скарбы ёсьць на Беларусі, мусіць і сам аб гэтым ня ведаў?

— Не. — Прызнаўся Андрэй.

— Вось за гэта і цярпець прыходзіцца, але аб гэтым лепш не гаварыць. — І пачаў гутарыць аб чым іншым.

Некалькі дзён пасьля тае размовы Андрэй з Траецкім вярталіся пад вечар з працы прасекаю, якая йшла ўзлескам. У пушчы было ціха. Раптам быццам ўся пушча пачала сьпяваць. Гэта жнейкі вярталіся з поля і, прайходзячы паўз самую пушчу, зацягнулі жніўную песьню. Іхныя звонкія, чыстыя галасы і працяжная галасістая мэлёдыя быццам былі дастроены да хваін і ялін пушчы. Таму і здавалася нібы дрэвы падхапілі мэлёдыю і самі далучыліся да хору жнеяк, разносячы іхнюю песьню па ўсёй пушчы.

Траецкі і Андрэй спыніліся і некаторы час слухалі як завароханыя.

— Як прыгожа, як прыгожа! — паўтараў Траецкі.

Андрэй маўчаў.

Жнейкі паволі адыходзілі і песьня сьціхала. Траецкі з Андрэям пайшлі у лясьніцтва, пры тым Траецкі ня вытрываў, каб ня выказаць свайго захапленьня.

— Ведаеш, Андрэю, я нямала чуў за свой век розных канцэртаў і опэраў, але такога прыгожага сьпеву яшчэ ня чуў ніколі. І гэта-ж сьпявалі вясковыя дзяўчаты, якія не прайходзілі ніякае музычнае школы. І стварылі гэтую песьню ня іншыя, але гэткія-ж як і яны сялянкі, пэўна нават зусім няграматныя. Якую яны мусяць мець прыгожую душу, калі могуць стварыць такую цудоўную мэлёдыю! Гэта вялікі скарб народу...

Такая высокая ацэнка беларускае народнае песьні з вуснаў чужога чалавека сталася для Андрэя быццам неспадзеваным аб'яўленьнем красы і багацьця роднага краю. Ад самага маленства ён бадай штодня сустракаўся з гэтымі прыхаванымі скарбамі, але не зьвяртаў на іх ніякае ўвагі і не цаніў іх. Цяпер усьведаміў, што гэта-ж толькі дробныя пэрлы, якія ён убачыў, а колькі іх ёсьць яшчэ непазнаных?! Цяпер яму бацькаўшчына зрабілася такою дарагою, такою мілаю, што гатоў быў ёю ганырыцца перад любою іншаю краінаю.

І дзіўна, што ад таго часу Андрэй з Траецкім запрыязьніліся даволі шчыра, не зважаючы на розьніцу веку, асьветы, становішча і нацыянальнасьці.

## НЯ ЎСЁ ТОЕ ЗОЛАТА, ШТО БЛІШЧЫЦЬ

Траецкага, як варшаўскага чалавека часта запрашалі да сябе ў госьці мяйсцовыя вышэйшыя ўрадоўцы і ваколічныя панкі. Сьпярша ён гасьцяваў адзін, але пасьля таго памятнага вечара ў пушчы ня прымаў запросінаў, калі аднача́сна не запрашалі ягонага «памоцніка і супрацоўніка» Андрэя.

Нельга сказаць, што Андрэй быў задаволены з гэткіх запросінаў, але і адмаўляцца ня было як. Аднойчы ён нават прасіў Траецкага, каб неяк вызваліцца ад тых госьцяў.

— Ведаеце, пане Траецкі, што я вясковы чалавек, ня ведаю вялікапанскіх манераў...

— Ведаю, ведаю — перабіў яго Траецкі. — Якраз дзеля гэтага я і запрашаю, каб была нагода пазнаць тыя манеры, бо яны ў жыцьці прыдадуцца. Вышаў на дарогу, пятаў не шкадуй! Ды праўду кажучы, ня маеш чаго нават наракаць на сябе, бо манеры маеш беззаганныя, а да таго, між намі кажучы, ужо не адна паненка на цябе касавурыцца.

Андрэй пачырванеў.

— Ну, ну, ня чырваней, я так жартую...

Гасьцяваньне ў розных ўрадаўцаў і панкоў адчыніла Андрэю шмат цёмных бакоў таго жыцьця, якое хавалася за прыгожымі фасадамі палацаў. У аднаго магната з пяцёх дзяцей ніводнага ня было талковага: найстарэйшы сын быў п'яніца, другі — калека, дачка — ханабэрыстая нічога не хацела рабіць, другая дачка — тупіца, а трэцяя — брыдкая, як малпа і без аднае клёпкі ў галаве. У другога — наадварот, дзеці былі талковыя, але асяродзьдзе іх страшэнна пакалечыла і псыхічна і маральна. Андрэю моцна запала ў памяць гісторыя аднае з дачок таго пана — Анелі. Бачыў яе на адным гасьцяваньні і зьвярнуў увагу, што каля яе круцілася пару шляхцюкоў, як мухі каля мёду. Але тыдзень пасьля таго гасьцяваньня Андрэй прайходзіў над вечар каля маёнтку таго пана і пачуў на ўскраю маёнтку каля возера нечы плач наўзрыд. Доўга не разважаючы, пайшоў на голас плачу, але як толькі дайшоў да возера, стаў як укопаны. Прытуліўшыся да алешыны, сядзеля Анеля і залівалася горкімі сьлязамі. Андрэй чым хутчэй падаўся на дарогу.

У тым часе Андрэй сустракаў шмат людзей, але такіх, з якімі было-б магчыма запрыязьніцца, у тым асяродзьдзі было вельмі мала. Адны глядзелі на яго, як на «мужыка», а ад іншых ён сам адварочваўся. Толькі з сынам аднаго магната Казімерам правёў некалькі вечароў сапраўды пасяброўску. Андрэй нямала зьдзівіўся, калі пачуў ад яго пытаньне ў чыстай беларускай мове:

— Вы беларус, праўда?

— Праўда!

— Ці можна ведаць, адкуль вы родам?

— Пэўна, што так; гэта-ж ніякі сакрэт. Я родам з глухое вёскі Старабброды з-пад Замчышча.

— Вось гэта пахвальна з вашага боку. Дайце мне паціснуць вашу руку. У нас, можа вы заўважылі, нават некаторыя дробныя шляхцюкі, калі паходзяць з бедных сем'яў, дык стыдаюцца свайго роду, а вы наадварот. Вось гэта сапраўды высокародна.

— Па мойму, стыдацца свайго роду могуць толькі тыя людзі, якіх род нечым аганьблены, і тыя, якія сьведамы, што яны нічога ня вартыя і нават ня ведаюць, дзе шукаць сапраўднае вартасьці і годнасьці чалавека. Шмат каму здаецца, што ім можа прыдаць вартасьць нейкі пусты тытул, або яшчэ горш, нейкая вопратка, ці нейкія цацкі. Вось такія і шукаюць, каб схаваць сваё сапраўднае аблічча, а пахваліцца чымсьці пустым, але зякратым, а я саромецца свайго роду ня маю чаго; ён чысты, як крыштал.

— Во, во — ажывіўся Казімер — гэта вельмі трапна. І яшчэ ведаеце, ёсьць шмат людзей, якія маюць гон, каб у пустых і прамінаючых рэчах знайсьці шчасьце чалавека. Дзіўна, але праўдзіва, што яшчэ шмат каму насупраць нязьлічаных фактаў усё ніяк ня месьціцца ў галаве, што ніякія тытулы, ніякія палацы і харомы ніякае багацьце, ніякая слава, ніякае панскае паходжаньне — не хароняць чалавека ад няшчасьця і цярпеньня...

Слухаючы Казімера, Андрэй прыпомніў чамусьці словы свайго гімназійнага настаўніка рысункаў, які часам на лекцыі любіў пафілязофстваваць: «Добра, калі вартасны малюнак ды яшчэ апраўлены ў багатую і прыгожую раму, але нават найбагацейшая і найпрыгажэйшая рама ня прыдасьць вартасьці нейкай пэцканіне». Не дарма беларускі народ стварыў шмат востра насьмешлівых прыказак аб той «шляхце ў чырвоных анучках», якая ўжо і сама ня ведала, чым ганарыцца.

---

Працу ў Налібоцкай пушчы Андрэй скончыў уканцы жніўня. Перад разьвітаньнем Траецкі абяцаў яму дапамагчы ўладзіцца ў Варшаве, дзе ў яго было шмат знаёмых і прыяцялёў у розных установах.

Калі гэтым разам Андрэй вярнуўся да хаты, дык даўжэй як да гэтага часу ў роднай хаце жыў на палажэньні госьця. Праўда, ён ўжо прывык да таго, што кожны раз, калі пасьля даўжэйшае адсутнасьці вяртаўся дамоў, дык на яго і хатнія і суседзі першыя дні глядзелі нейкім дзіўным пытальным позіркам. І трэба было некалькі дзён, каб стацца зноў зусім сваім між сваімі.

Цяпер-жа, пасьля прыезду з Налібокаў, калі ў першую нядзелю вечарам Андрэй прыйшоў да гурту хлапцоў і дзяўчат, якія аб нечым ажыўлена гутарылі на вуліцы, дык на момант гутарка зусім прыціхла. Нават найбольш гаваркі з ягоных сяброў дзяцінства, Віця, і той прыціх. Таму вітаючыся з ім Андрэй ня вытрымаў, каб не заўважыць:

— Што-ж гэта Віця, ты нешта вельмі зьмяніўся!

— Я, то што, усяго зьмяніў сарочку і лапці, а мы вось глядзімо, колькі ты зьмяніўся.

— О, я, пане тэго, тры крокі адступі, а тады ўжо гавары.

Дружны сьмех пакрыў словы Андрэя і гэты шчыры сьмех стварыў адразу сяброўскую атма-

сфэру. Пачаліся распытваньні, гутаркі аб працы, аб унівэрсытэце.

— Скажы Андрэй — пытаўся адзін — мусіць там у тым унівэрсытэце, самыя панскія дзеці вучацца?

— Чаму самыя панскія дзеці, там ёсьць такжа сялянскія і работніцкія дзеці, праўда, што іх шмат менш, як панскіх. Ведаеце, нават ёсьць крыху і нашага брата. Вось хоць-бы тыя, што з беларускіх гімназіяў неяк уладзіліся ў Вільні і ў Варшаве, гэта-ж усё нашыя вясковыя хлапцы і дзяўчаты.

— Вось табе й маеш — удавана паважным голасам казаў Віця — дык там ужо і беларускія дзяўчаты ёсьць, а гэта-ж во нашыя дзяўчаты тадалі, каторую з іх возьмеш з сабою.

Усе зноў засьмяяліся, ня сьмяялася толькі Люба Голуб, і як сьмех прыціх, заўважыла:

— Гэта мусіць твая Вера гадала.

— Калі яна мая, дык гадаць ня будзе, а як не мая, дык няхай гадае.

Так жартуючы і паважна гутарачы прасядзелі да позняга вечару. Але дамоў вяртаўся Андрэй моцна засмучаны. Чамусьці перад ім раптам рубам стала пытаньне: Якая доля чакае ягоных вясковых сяброў і сяброваk? Вузенькія гоні іхных ніваў вузелі з году ў год, а заработкаў у ваколіцы не прыбывала...

## У ДАЛЁКУЮ ДАРОГУ

Восень увайходзіла ў свае правы. Быў канец верасьня. Дзень выдарыўся ясны, па небе паволі лётала «бабяе лета», а высока над ім крумкалі жураўлі, адлятаючы ў вырай. На полі каля загонаў бульбы завіхаліся капальнікі. Андрэй з дзядзькам Сьцяпанам позна вечарам везьлі поўны воз бульбы і абодва відавочна сьпяшаліся, бо на заўтра быў назначаны дзень ад'езду. Некалькі дзён перад тым Андрэй атрымаў ліст ад свайго старэйшага сябры Пятра Сінька, які ўжо студыяваў у Варшаве. Той пісаў яму, калі і дзе яны маюць стрэнуцца на вузлавой станцыі, каб разам ехаць у далёкую дарогу.

Пасьля вячэры Андрэй складаў усе свае невялікія пажыткі. Габрусь і Аленка стаялі неадступна каля яго, гатовыя кожную хвіліну ў чым колечы яму памагчы. Калі ўсё было зложана, маці казала ўсім хутчэй ісьці спаць, а сама, ўзяўшы лямпу, пайшла ў каморку. Яна надумалася яшчэ напячы Андрэю сухарыкаў, бо-ж «едзе за сьвет вочы і няма ведама, што яго там чакае». Так у працы яна і не заўважыла, як ранешняя зара зарысавалася на небе. Выняўшы з печы сухарыкі, яна цікнула ў вакно:

— Няма ўжо калі спаць, трэба пачынаць сьнеданьне гатаваць, — прашаптала сабе, і глянуўшы на мілае хоць і заспанае аблічча сына, зноў узялася за працу.

Ужо першыя аладкі ляжалі на ўзыслоне, маці падышла да ложка, дзе спаў Андрэй, паўзіралася, каторы ўжо раз, на яго аблічча:

— Сьпіць, хай яшчэ часіну пасьпіць, — прашаптала сабе і вярнулася да печы. Але рукі ў мацеры час ад часу пачалі ўздрыгваць. Перавяртаючы аладку, яна бразнула апоньваю аб прыпек, Аленка ўзьняла галаву.

— Аво-о, ужо сьнеданьне гатова, — прамовіла голасна. Не прайшло і колькі хвілін, як усе хатнія былі на нагах.

Дзядзька Сьцяпан так-жа не забавіўся прыйсьці. Сьнедалі на сьпех і гутарка за сталом ня вельмі клеілася. Як толькі ўсё было ўпакавана на возе, Андрэй разьвітаўся з усімі роднымі і знаёмымі. А калі Сьцяпан адчыніў весьнікі, дык на вуліцы як бачыш назьбіраўся невялікі гурток суседзяў і суседак. Дзядзька Сьцяпан увайшоў у хату, яшчэ раз глянуў, ці чаго не забыўся, перахрысьціўся да іконаў:

— Ну, дык з Богам у добры час!

Маці і дзядзіна хацелі яшчэ нешта сказаць Андрэю на разьвітаньне, але не змаглі ў час вывцерці сьлёзаў. Разьвітаньне заўсёды спалучана з смуткам, а калі яшчэ да гэтага далучаецца няпэўнасьць і трывога за дарагую істоту, дык ня дзіва, што тады моцна зашчыміць нават і цьвёрдае сэрца.

Даехалі да станцыі бяз ніякіх прыгодаў. Людзей на станцыі было мала і на цягнік ня прыйшлося доўга чакаць. На ўмоўленай вузлавой станцыі Андрэя ўжо чакаў яго старэйшы сябра з гімназіі Пятро Сінько. У абодвых адразу настрой стаўся зусім бадзёры, юнацкая прыць прабівалася з кожнага іхняга руху. Як толькі прышоў іх цягнік, яны першыя ўскочылі ў вагон і знайшлі сабе выгаднае мейсца ля вакна.

Пятро ўжо два гады студыяваў у Варшаве і дарогу ведаў даволі добра, дык зьвяртаў увагу Андрэя на цікавейшыя мяйсцовасьці і краявіды. Як толькі пераехалі Буг, краявіды значна зьмяніліся і асабліва кідаліся ў вочы маленькія хаткі прыдарожных вёсак.

— А ведаеш Пятро, тут ужо зусім адменны край, — заўважыў Андрэй.

— Гэта праўда. Тут ужо пачынаецца Польшча. Бачыш і хаты інакш як у нас збудаваны і людзі інакш апранаюцца і вёскі інакш разьмешчаныя. Не дарма нашы продкі калісь казалі: «Памятай Ляша, па Буг наша!».

Далей Андрэй з Пятром толькі зрэдку перакідваліся словамі. У меру таго, як цягнік набліжаўся да Варшавы, вагон напаўняўся людзьмі, нават на карыдоры станавілася цесна. Усюды чуваць была мазурская гутарка. Замест дробных вёсак абапал чыгуначнага шляху ўсё часьцей і часьцей мільгалі камяніцы, фабрычныя каміны, цягнік пачаў спавольніваць свой бег, нарэшце лякаматыва,

быццам цяжка задыханы конь, чмыхнула некалькі раз і траха ня ўперлася ў тупік.

— Варшава. Прыехалі, — сказаў коратка Пятро і пацягнуў разам з Андрэем свае клумкі да выхаду.

## У ВЯЛІКІМ ГОРАДЗЕ

Першае ўражэньне Андрэя, калі ён знайшоўся на варшаўскім бруку, было зусім такое, як таго Данілы, што першы раз апынуўся ў вялікім горадзе і казаў:

Гэты горад ступа нейка,
Што у нас куцю таўкуць,
Ашаломіць чалавека,
Уночы спаць не даюць.

Горад, мітусьня аграмаднага натоўпу, паўсюдны посьпех так і падказваў Андрэю заўвагу:

— І куды яны ўсе ляцяць, як на пажар.

— Вось пачакаў пару дзён і ты будзеш так лётаць, — засьмяяўся Пятро.

Змучаныя дарогаю абодва юнакі, накіраваліся на старую кватэру Пятра. Там крыху перакусіўшы і падзяліўшыся першымі ўражэньнямі, леглі спаць, але як Андрэй ня чуўся змучаны, спалася яму не асабліва. Некалькі разоў ён прачынаўся і меў уражэньне быццам ложак, як вагон, зараз рушыцца ў дарогу. Толькі далёка за поўнач, калі прыціх вялікагарадзкі гоман, ён заснуў глыбокім сном.

Андрэй быў вельмі ўдзячны Пятру, што дапамог яму хутка знайсьці кватэру і ўсюды быў яму шчырым прыяцелем. Наагул падчас сваіх першых крокаў у гэтым вялікім горадзе Пятро быў для яго вялікаю падтрымкаю. З ім ён абмінуў не адну прыкрую неспадзеванку ад варшаўскіх Анткаў і ад вялікагарадзкіх вулічных выпрабаваньняў.

Уладзіўшы справу з кватэраю, Андрэй з Пятром накіраваліся ў унівэрсытэт. Ужо сам будынак, калішні казімераўскі палац, рабіў вялікае ўражэньне. У абшырным пэрыстылю было шмат моладзі, а на карыдорах яшчэ больш і міма гэтага ўсюды аставалася яшчэ шмат вольнага прастору, у якім Андрэй чуўся вельмі маленькім. У параўнаньні да вясковае хаты, з якое ён так нядаўна выйшаў, унівэрсытэцкія салі прыгняталі яго сваею веліччу. І неяк мімаволі ён падумаў: «Тут я ня большы, як мурашка ў лесе». Гэтае прыраўнаньне яму спадабалася, бо тут-жа выкарыстаў яго, каб сябе пацешыць:

— Мурашка ў лесе ніколі ня блудзіць і ня губляецца. Там яна арыентуецца яшчэ лепш, як не адзін дзядзька ў сваёй невялічкай хаце. Калі-б я так кіраваўся ў гэтай аграмаднай сьвятыні навукі, як мурашка ў лесе, дык было-б лепш чым добра.

Падбадзёраны такім мімавольным разважаньнем, ён падняў вышэй галаву і пачаў разглядацца. Студэнцкая моладзь, ягоныя будучыя сябры, снавалі ўсюды то па адным, то невялічкімі гурткамі, гаварылі голасна, бесцэрэмонна, нават з акцэнтам нейкага грубаватага панібрацтва. Іхныя ўзаемныя адносіны мелі так-жа нейкую шурпатасьць. Потым Андрэй і сам пераняў тую манеру гутаркі і паводзін сваіх сяброў і тады, хутчэй адчуў, як зразумеў, што тая грубаватасьць была толькі несьвядомым прыкрыцьцём далікатнага юнацкага імкненьня да высокіх ідэалаў добразычлівасьці і шчырасьці. Каб людзі з больш чорстваю душою не насьмяяліся з гэтых высокародных ідэалаў, дык моладзь, не здаючы нават сабе справы з сваіх паводзін, хавае іх пад грубаватае і шурпатае прыкрыцьцё.

З помаччу Пятра Сінько Андрэй хутка палагодзіў у канцылярыі унівэрсытэту ўсе фармальнасьці і вось ён ужо студэнт юрыдычнага факультэту Варшаўскага унівэрсытэту. Вольны час яны выкарысталі на агляданьне гораду, а аглядаць было што.

Першыя выклады глыбока ўрэзаліся ў памяць Андрэю і бадайшто не забудуцца ніколі і мелі той дабрадзейны ўплыў на яго, што ўвесь час сваіх студыяў ён стараўся акуратна наведваць амаль усе выклады. Часам нават Пятро сьмяяўся з такое рупнасьці, але потым і ён прызнаў, што так і трэба рабіць:

— На тое, брат, мы сюды і прыехалі, каб не ратазейнічаць, бо кожны змарнаваны дзень нам страшэнна дорага абходзіцца.

Андрэй нічога не сказаў на заўвагу сябры, бо мімаволі неяк глянуў сабе на рукаў і прыгадаў, як аднойчы, разьвітваючыся з мамаю, буйная сьляза з яе аблічча ўпала яму на рукаў і яму здавалася, што яна доўга, доўга ня высыхала. Ня дай Бог, каб праз якую няўдачу гэтыя сьлёзы роднае мамы сталіся больш роснымі і горкімі.

Адразу-ж з першых дзён навукі Андрэй парабіў захады, каб атрымаць стыпэндыю, але напаткаў нямала перашкодаў. Было зложана шмат больш просьбаў, як прызначана рэсурсаў і для юрыдычнага факультэту наагул давалі стыпэндыі неахвотна. Думаў нават зьмяніць факультэт, але потым рашыў запісацца яшчэ на эканомію.

Засмучаны несуцяшаючымі весткамі, Андрэй аднойчы выбраўся адведаць свайго знаёмага з Налібоцкае пушчы — пана Траецкага. Той сустрэў яго ветліва, бяз ніякае ўдаванае фанабэрыі і адразу зацікавіўся ўражэньнямі і студыямі. Даведаўшыся, што матэрыяльнае палажэньне Андрэя незавіднае, зазначыў:

— Ведаеце, я ўжо гаварыў з адным чалавекам у справе стыпэндыі для вас і ён абяцаў, што ўсё будзе палагоджана памысна, толькі ня ведаю, як хутка.

— Я вельмі вам удзячны за памяць і за турботы. Самі ведаеце, што бяз стыпэндыі я мусіўбы кінуць навуку.

— А вы на ўсякі выпадак, пакуль прыйдзе

прызнаньне, не забывайце аб лекцыях. Яны вам, нават маючы стыпэндыю, не зашкодзяць. Кажу вам гэта ня так сабе, бо маю вось канкрэтную прапанову. Шэф майго адзьдзелу ў міністэрстве шукае добрага рэпэтытара для свайго сына. Прыйдзеце заўтра да мяне ў бюро, пазнаёмлю вас з ім і думаю, што дагаворыцеся.

Назаўтра хутка Андрэй дагаварыўся ў справе лекцыяў. І пайшло непаседлівае студэнцкае жыцьцё. Лекцыя прыдалася вельмі дарэчы, бо стыпэндыю атрымаў ня так хутка, як спадзяваўся. Праўда здараліся некаторыя дні вельмі цяжкія, але чаго не параможа жыцьцёвая сіла юнацтва!

**А. Жменя**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## АБАВЯЗКІ І АДКАЗНАСЬЦЬ ЭКАНАМІСТАЎ

Падчас аўдыенцыі для прадстаўнікоў Міжнароднае Арганізацыі Эканамістаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII закрануў справу эканамічна адсталых краінаў, якія што раз больш усьведамляюць сваю адсталасьць і часта імкнуцца да прагрэсу з гвалтоўнасьцю, якая пагражае міжнароднаму міру. Гэткая эвалюцыя ўскладае на эканамістаў што раз большую адказнасьць. «Цяпер ужо не пара тварыць розныя эканамічныя тэорыі і штучныя канструкцыі» — сказаў Сьвяцейшы Айцец. Далей, разглядаючы існуючыя эканамічныя дактрыны, Сусьветны Архірэй асудзіў фізыякратычных марксістаў і клясычных тэарэтыкаў, якія не бяруць пад увагу індывідуальнасьці чалавека.

## ПЕРАСЬЦЯРОГА ВЕРНІКАЎ ПЕРАД АЛЬКАГАЛІЗМАМ

Зьвяртаючыся да групы сяброў Ірляндзкага Таварыства Сьвяцейшага Сэрца, мэтаю якіх ёсьць змаганьне з алькагалізмам, на спэцыяльнай аўдыенцыі 16 верасьня Сьвяцейшы Айцец Пій XII між іншым сказаў: «Наш непакой выбягае далёка за межы Ірляндыі; п'янства, якое часта вядзе да хваравага алькагалізму, сталася сёньня паважнаю плягаю ў шмат якіх краінах сьвету і праўдзіваю духоваю трагэдыяю для тысячаў людзей. Гэта грамадзкая пошасьць і духовы расклад, які вымагае неадкладнага супрацьдзеяньня кожнае сьведамае адзінкі так сярод сьвецкіх, як і духоўных».

## ІМКНЕНЬНІ, ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ЖАНЧЫНЫ У С'ЯМІ І ГРАМАДЗТВЕ

«Жанчына ёсьць вялікаю сілаю ў гаспадарцы народу, але толькі ў тых высокіх функцыях, якія ёсьць уласьцівымі яе пакліканьню» — сказаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII, прамаўляючы праз радыё да жанчын Італьянскага Жаночага Цэнтру падчас іхняе прошчы ў Лёрэт.

«Жанчына ня можа стацца фізычнаю сілаю для індустрыі, падобна як мужчына», і далей Папа асудзіў змушваньне жанчын да цяжкае працы, як гэта дзеецца ў краінах пад камуністычным ярмом.

Хаця Царква ніколі не супраціўлялася эманцыпацыі жанчыны, аднак хрысьціянскае права ўстанаўляе пэўныя разьмежаваньні, абумоўленыя прыродаю, людзкою і хрысьціянскаю годнасьцю, а таксама вымаганьнямі грамадзкага жыцьця, якое ня можа разьвівацца бяз існаваньня пэўнага аўтарытэту прынамся ў найменшай грамадзкай каморачцы, якою ёсьць сям'я. Успамінаючы аб суадносінах між мужчынаю і жанчынаю, Сусьветны Архірэй сказаў: «Роўнасьць можа быць што да асабістых і асноўных якасьцяў, гэта праўда, але раўнавартасныя функцыі мужчыны і жанчыны ёсьць розныя і ўзаемна дапаўняюцца. З гэтага і выцякаюць іхныя розныя правы і абавязкі». На заканчэньне папа выказаў пераканаьне, што калі-б дзяржавы зьвярталі больш увагі на псыхічныя вымаганьні і пачуцьці жанчын, хутчэй можна было-б асягнуць міжнародны супакой і грамадзкая структура сталася-б больш людзкаю і справядлівейшаю.

## УРАЧЫСТАЯ БЭАТЫФІКАЦЫЯ ПАПЫ ІНАКЕНЦІЯ XI

У базыліцы сьв. Пятра ў Рыме 7 кастрычніка 1956 г. меў мейсца ўрачысты акт бэатыфікацыі папы рымскага Інакенція XI, які займаў Апостальскі Пасад ад 1676 да 1689 г. Трынаццаць гадоў

панаваньня блажэннага Інакенція XI выявілі высокія якасьці ягонага характару і стойкасьці ў абароне каталіцкіх прынцыпаў.

## СЛОВА ПАПЫ ПІЯ XII СУПРАЦЬ БЯЗБОЖНАГА МАРКСІЗМУ

Прымаючы ў базыліцы сьв. Пятра італьянскіх работнікаў з Тэрні, Сьвяцейшы Айцец Пій XII выказаў свой жаль, што бязбожны камунізм, вораг чалавецтва, мае яшчэ сваіх прыхільнікаў між работнікаў вольнага сьвету. «Паасобныя адзінкі і цэлыя народы паддаліся ашуканству манлівых абяцанак быццам лепшага і справядлівейшага падзелу багацтва, аховы асобы, абароны сям'і, перадачы ўлады народу, фабрык — работнікам, зямлі — сялянам. І замест усяго гэтага камуністы прынесьлі нянавісьць, інтрыгі, калатню і, там дзе захапілі ўладу, кінулі народ пад панаваньне тэрору і давялі яго да крайняга абядненьня».

## «НЕЛЬГА ЗЬМЯНІЦЬ ХРЫСЬЦІЯНІЗМУ, КАБ ЯГО ДАСТАСАВАЦЬ ДА ФАЛЬШЫВАГА ПРАГРЭСУ»

У сваім лісьце з 29 чэрвеня 1956 г. да духавенства народаў, паняволеных бальшавізмам, Сьвяцейшы Айцец Пій XII заахвочвае вернікаў быць стойкімі ў веры і перасьцерагае іх, каб ня бралі прыкладу з тых, якія заламаўшыся ў сваёй стойкасьці, прапануюць злагодзіць прынцыпы хрысьціянскае веры, каб яе дастасаваць да памылак фальшывага прагрэсу. «Будзьце пэўнымі, што кожная хрысьціянская сям'я падзіўляе стойкасьць, з якою вы пераносіце моўчкам усе мукі і просіць міласьці ў Бога, каб вам дапамог ня ўпасьці ад бязбожных нападаў, каб вы змаглі з сілаю годнаю мучанікаў засьведчыць стойкасьць вашае веры».

## 7-Ы КАНГРЭС КАТАЛІЦКІХ ЛЕКАРАЎ

Ад 10 да 15-га верасьня адбыўся ў Гаазе сёмы Міжнародны Кангрэс Каталіцкіх Лекараў, у якім удзельнічала больш 600 дэлегатаў з 21 краіны. Кангрэс займаўся праблемаю застасаваньня права ў мэдыцыне. Між іншым была прынятая рэзалюцыя, у якой кажацца, што «мэдыцынскае права падпарадкоўваецца непарушным прынцыпам індывідуальнае годнасьці кожнага чалавека, выказанае ў разумным выяўленьні свае вольнасьці, залежнасьці чалавека ад свайго Тварца, пяршынстве духа перад целам і права захаваньня жыцьця».

## ЗНОЙДЗЕНА СТАРЫ АПОКРЫФ

У 1945 г. знойдзена ў верхнім Эгыпце трынаццаць томаў папірусаў, між якімі асабліва цікавы дакумант аж на 20-ці старонках праўдападобна з палавіны 3-га стагодзьдзя, пераложаны на каптыйскую мову з грэцкага арыгіналу з 2-га стагодзьдзя. Ён мае тытул: «Эвангельле паводля Тамаша» і пачынаецца славамі: «Вось сакрэтныя словы, якія сказаў за жыцьця Ісус і якія запісаў Дыдым Юда Тамаш». З гэтага загалоўку некаторыя думалі, што маецца дачыненьне з пятым Эвангельлем, але зьмест дакуманту сьведчыць, што гэта звычайны апокрыф, якіх у той час было мноства.

## ПАЛОМНІЦТВА ПАРЫСКІХ СТУДЭНТАЎ У ШАРТР

Ужо ўвайшло ў традыцыю парыскіх студэнтаў, што перад экзамінамі робяць паломніцтва ў катэдру Багародзіцы ў Шартр, што знайходзіцца 90 км. на паўночны захад ад Парыжу. Сёлета адбылося такое паломніцтва 20 і 21 траўня, з удзелам каля 15.000 студэнтаў. Запачаткаваў гэтыя прошчы ведамы францускі патрыятычны каталіцкі паэт Пэгі на пачатку гэтага стагодзьдзя. Ад таго часу паломніцтвы пачалі набіраць усё большага значэньня і пасьля апошняе вайны сталіся масаваю студэнцкаю рэлігійнаю дэманстрацыяю.

## СЬЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ЦУДУ Ў ЛЮРДЗЕ

Марыя-Люіза Біго з ля Рішардэ (Францыя) асьлепла і аглухла ў 1952 г. Лекары аднагодна прызналі яе невылячальнаю калекаю, аднак яна не пераставала шукаць помачы і пацехі ў Бога. Разам з іншымі хворымі яна адбывала прошчы ў Люрд. У 1954 г. яна адбывала трэцюю прошчу. І вось падчас багаславенства Найсьвяцейшымі Тайнамі яна раптам пачала чуць, а 36 гадзін потым пачала бачыць. Хоць ня было ніякага сумніву ў сапраўдным цудзе, але мэдыцынскае і духоўнае дасьледаваньне цудоўнага факту цягнулася два гады і сёлета 26 жніўня архібіскупства ў Рэнн, у якім пражывае Марыя-Люіза, выдала асьведчаньне аб аўтэнтычнасьці цуду.

## СКАРБНІК КАМУНІСТЫЧНАЕ ЯЧЭЙКІ ВЫЗДАРАВЕЎ У ЛЮРДЗЕ

Электрык шпіталя ў Ніццы Людовік Олівары, 48 г. захварэў пры працы і хутка пасьля гэтага зусім не валодаў праваю нагою і рукою. Усе мэдычныя захады яму нічога не памаглі і дахтары прызналі, што ён невылячальны.

Пад намоваю родных Олівары, хоць быў камуністам і выконваў функцыю скарбніка ў мяйсцовай камуністычнай ячэйцы, згадзіўся паехаць у Люрд, як турыст. Пад уражэньнем веры шматлікіх хворых ён згадзіўся акунуцца ў Люрдзкай купальні і, выйшаўшы адтуль, пачуў сябе зусім здаровым. Мэдычная і духоўная ўлада яшчэ ня выка-

залі свае думкі аб аздараўленьні Оліварі, але ён сам уважае свае аздараўленьне цудоўным і, ня гледзячы на атакі з боку сваіх быўшых аднапартыйцаў камуністаў, ён навярнуўся на каталіцызм.

## АБ АДНОСІНАХ ВАТЫКАНУ ДА МАСКВЫ

Крайняя левая італьянская газэта была падала да ведама, што быццам робяцца захады, каб навязаць дыпляматычныя кантакты між Ватыканам і Савецкім Саюзам і што існуе ідэалягічнае збліжэньне між Каталіцкаю Царквою і камунізмам. У сапраўднасьці нічога падобнага няма, а прычыны да пагалоскаў былі вось якія: У жнівені 1956 г. савецкі шаржэ д'афэр у Рыме Погідаеў згаласіўся ў Ватыканскую Нунцыятуру пры Італьянскай рэспубліцы, просячы пабачаньня з нунцыем. Аднак таму, што між Ватыканам і Савецкім Саюзам няма дыпляматычных зносінаў, а перадусім дзеля таго, што савецкі амбасадар у Рыме ў тым часе быў выехаўшы і яго заступаў Пагідаеў, аб чым зусім ня было ведама ў Нунцыятуры, дык нунцый монс. Фіетта ня прыняў Погідаева. Тады савецкая амбасада пасьпяшыла выясьніць сваю памылку і Пагідаеў меў пабачаньне з нунцыем монс. Фіетта На пабачаньне Пагідаеў прынёс з сабою два артыкулы аб міру і аб Суэцкім канале, на падставе якіх стараўся даказаць, што няма разьбежнасьці між савецкаю і ватыканскаю палітыкаю. У адказ на гэта нунцый зьвярнуў увагу на палажэньне рэлігіі ў Савецкім Саюзе. Пасьля гэтага выпадку ня было іншых дыпляматычных кантактаў. Гэты факт і асабліва тое, як яго выкарыстоўвала камуністычная прэса, выяўляе намеры савецкае дыпляматыі, каб за ўсякую цану прыспаць асьцярожнасьць вернікаў.

## 78-ГАДОВЫ ПІСЬМЕНЬНІК — СЬВЯТАРОМ

Галяндзкі пісьменьнік дом Пятро Ван дэр Мэрр быў высьвячаны на каталіцкага сьвятара 22 сьнежня 1956 г. Ён разам з усёю сваею сям'ёю ахрысьціўся ў 1911 г. і адзін яго сын стаўся манахам. Сын хутка ў манастыры памёр і бацькі былі пастанавілі абое пайсьці ў манахі, але стан здароўя жонкі пісьменьніка не дазваляў ажыцьцявіць гэтае пастановы. Нядаўна яго жонка памерла і пісьменьнік у веку 78 гадоў атрымаў сьвятарскія сьвячаньні.

## ТІТО ДЭКАРУЕ СЭРБСКАГА ПАТРЫЯРХА

Маршал Тіто 4-га верасьня асабіста даў азнаку югаслаўскага сьцягу (першае ступені) для патрыярха Сэрбскае Праваслаўнае Царквы Вікенція (Продэна) як нагароду за ягоныя заслугі ў навязваньні супрацоўніцтва Югаславіі з іншымі краінамі. Гэта першы выпадак так высокага азначэньня югаслаўскім рэжымам духоўнае асобы.

## РАСПАЎСЮДЖАНЬНЕ БІБЛІІ

Найбольш распаўсюджанаю кнігаю ў сьвеце ёсьць Сьвятое Пісаньне. Яно поўнасьцю, або часткова да гэтага часу пераложана на 1.108 моваў.

## ПЕРАМЕНЫ Ў ЧЭХАСЛАВАЦКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ

Сёлета адбыліся вельмі паважныя зьмены ў Чэхаславацкай Праваслаўнай Царкве. На мейсца адкліканага ў мінулым годзе ў СССР міт. Елеўферыя Варанцова мітрапалітам і галавою Аўтакефальнае Царквы выбрана Івана Кухтіна родам расейца з Растоўскае вобласьці. Да таго прыехаў з СССР яп. Дарафей, а япіскап Аляксандр (Міхайлоўскі) зьнік невядома дзе, яп. Чэсцімір (Крэчмар) астаецца на пакоі. З агульнага ліку сямёх ерархаў у 1955 г. цяпер ёсьць толькі чатыры. Так гаспадарыць Маскоўскі патрыярх у Аўтакефальнай Чэхаславацкай Царкве.

## ПАСЬЛЯ ДОЎГІХ ГАДОЎ ТУРМЫ

У жыцьці савецкае Праваслаўнае Царквы 1956 г. прынёс некаторыя неспадзеванкі. У гэтым годзе некалькі праваслаўных япіскапаў, якія доўгія гады мучыліся ў савецкіх турмах і лягэрах і яшчэ нейкім цудам асталіся жывымі, былі звольнены (відаць пад умоваю, што згодзяцца супрацоўнічаць з Маскоўскім патрыярхам) і былі назначаны на япіскапскія пасады. Мітр. Нестар (Анісімаў), што быў у турме ад 1948 г. назначаны мітр. Новасібірскім, яп. Веніямін (Навіцкі) (родам беларус, але вялікі русафіл) быўшы Палтаўскі япіскап, арыштованы ў 1944 г., пасьля 12 гадоў зьняволеньня назначаны япіскапам Омскім, яп. Іосіф (Чэрнов) быўшы Таганрогскі, пасьля 12 гадоў ссылкі назначаны япіскапам Петрапаўлаўскім. У мінулым годзе назначана яп. Віньніцкім яп. Сымона (Іваноўскага) пасьля адзінацці гадоў зьняволеньня. Аднак гэта ня ўсе япіскапы, якія апошнім часам мучыліся ў савецкіх турмах, некалькі з іх астаюцца там пакутаваць далей.

## РУСЫФІКАЦЫЯ ПРАЗ ПРАВАСЛАЎНУЮ ЦАРКВУ ЎЗМАЦНЯЕЦЦА

Толькі ў Нр. 11 «Журн. Моск. Патр.» з 1956 г. апублікована пастанову сабору япіскапаў Заходняе Украіны, які адбыўся на пачатку 1950 г.

і на якім між іншым была прынятая пастанова: «навучыць псаломшчыкаў і чцецоў правільна чытаць царкоўна-славянскі тэкст» — гэта значыць на расейскі лад і з расейскаю вымоваю. Тады-ж забавязана парахаў выконваць багаслужэньні дакладна паводля маскоўскага спосабу. Выходзіць, што ў Савецкім Саюзе нават «і ў неба нельга трапіць без перасядкі ў Маскве».

### КОЛЬКАСЬЦЬ КАТОЛІКАЎ УЗРАСТАЕ

Не зважаючы на цяжкае палажэньне каталіцкае Царквы ў падбальшавіцкіх краінах колькасьць католікаў у сьвеце ўсьцяж узрастае. Паводля найнавейшых даных у 1956 г. ува ўсім сьвеце было 484 мільёны католікаў, гэта значыць 18% ўсяго насельніцтва зямное кулі.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ

● Шырокаведамая француская арганізацыя «L'Oeuvre d'Orient» абходзіла сёлета 100-ыя ўгодкі свайго існаваньня. З гэтае нагоды 16 траўня была адслужана ў парыскай катэдры Нотр Дам урачыстая патрыяршая Служба Божая бізант. абраду ў прысутнасьці 7 кардыналаў і шматлікіх духоўных і сьвецкіх дастойнікаў. Службу Божую служыў Яго Блажэнства патрыярх Максімос у саслужэньні рэктараў усходніх каталіцкіх Місіяў у Парыжу, між імі быў так-жа рэктар Беларускае Місіі. Пасьля багаслужэньня адбылося вялікае прыняцьце.

● У днёх 12-16 верасьня адбыўся ў нямецкім горадзе Кэнігштайн шосты з чаргі Кангрэс «Царквы ў бядзе». Сёлета зьвярталі на сябе ўвагу вельмі зьмястоўныя і актуальныя даклады, а разам з тым і вялікая колькасьць удзельнікаў — 400 чалавек ад 25 народаў. Адкрыў Кангрэс Я. Э. Слосканс зьвяртаючыся да ўдзельнікаў па чарзе у: нямецкай, францускай, польскай, расейскай, беларускай, латыскай, летувіскай і італьянскай мовах. Беларуская група ўдзельнікаў складалася з шасьці чалавек.

● У Торонто 4 сакавіка адбыўся міжнародны вечар песьняў, танцаў і музыкі. Між прадстаўнікамі шматлікіх нацыянальнасьцяў Эўропы была і беларуская прадстаўніца В. Пашкевіч.

● У зьвязку з крывавымі падзеямі ў Мадзяршчыне адбылося ў Парыжу 14 сьнежня пратэстацыйнае веча, зарганізованае Міжнароднаю Вольнаю Акадэміяю. На вечу прамаўлялі францускія дзяржаўныя прадстаўнікі і некаторыя прадстаўнікі паняволеных народаў. Нажаль колькасьць прамоўцаў у апошняй хвіліне была зьменшаная і прадстаўнік ад украінцаў і беларусаў не атрымаў голасу. На знак пратэсту украінскі і беларускі прадстаўнікі выйшлі з салі і на наступны дзень яшчэ пратэставалі ў кіраўніцтве Вольнае Акадэміі. Кіраўніцтва выбачылася за прыкры недагляд, які здарыўся з прычыны нястачы часу і познае пары. Нажаль у зьвязку з гэтым выпадкам якісьці бальшавіцкі агэнт падаў у некаторыя газэты фальшывыя інфармацыі.

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

### Новы менскі вікарны япіскап

Ад сьнежня 1955 г. на ўсю БССР быў толькі адзін «праваслаўны» савецкі ерарх. Сёлета ў жніўся быў хіратанізаваны для яго новы вікарны япіскап Леонці Бондар.

### Зьмены ў Жыровіцкай Дух. Сэмінарыі

У кіраўніцтве савецкае Прав. Дух. Сэмінарыі ў Жыровічах сёлета на пачатку школьнага году адбыліся паважныя зьмены ў кіраўніцтве. З невядомых прычынаў перанесена ў Адэссу рэктара Сэмінарыі а. Івана Сокаля, які займаў гэтае становішча ад 1953 г. На яго мейсца рэктарам назначаны архім. Антоній. Аб а. Сокалю ведама, што гэта былы карлавічанін, які вярнуўся ў СССР толькі 24. І, 1950 г. і быў некаторы час рэктарам Дух. Сэм. у Саратаве.

### Адміністратыўная ваўтузьня

Пасьля ліквідацыі 5-і вобласьцяў у БССР прыйшла чарга і на раёны. Пастановаю савету міністраў БССР 17. XII зьліквідована адзінаццаць раёнаў. Цяпер іх сталася 164. Аднача сна з гэтым ня спыняюцца зьмены ў міністэрствах — іх то збольшваюць, то зьменшваюць. Бальшавіцкія верхаводы бачаць, што агульнае становішча ўсьцяж

пагоршваецца, але замест сапраўдных мерапрыемстваў для палепшаньня жыцьцёвага ўзроўню сваіх грамадзян і кіраўніцтва, «паляпшаюць» яго зусім так, як апавядаецца ў байцы Крылова аб малпе, асьле, казьле і мядзьведзю, якія былі задумалі граць канцэрт, — перакідаюць з мейсца на мейсца бяздарных міністраў.

### Рэгабілітацыя камуністаў

Колькі было засуджана зусім нявінных людзей за час панаваньня Сталіна, можна крыху бачыць з тае хвалі рэгабілітацыі зьнішчаных камуністаў, якая пракацілася сёлета праз усё СССР. Між рэгабілітаванымі камуністамі, што ў свой час былі аб'яўлены ворагамі народу, знайшліся дзеячы з БССР: Кнорын, Гамарнік, Гікала, Адамовіч, Галадзед, Валькевіч, Жылуновіч, Домбаль і інш. («Камуніст Беларусі» Нр. 7, ст. 6). Пры гэтай нагодзе звольнена яшчэ некалькі беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія захаваліся жывымі ў сібірскіх канцлягэрах: Багун Міхась, Звонак Алесь, Пушча Язэп, Скрыган Янка, Чарнушэвіч Мікола. Да таго зрэгабілітована некалькі замардаваных пісьменнікаў.

### Пустамельства камуністычных кіраўнікоў

Два гады таму бальшавіцкія верхаводы былі спахваціліся, што яны выдаюць неімаверную колькасьць розных дырэктываў, вось-жа абвесьціць вайну бюракратыі, але ў выніку — паперкаў з дырэктывамі яшчэ пабольшала. Напрыклад Белпромсавет за 1953 г. ува ўсіх сваіх установах выслаў больш 17.000 розных цыркуляраў, прыпісаў і дырэктываў, а ў 1954 р. — гэта значыць пасьля а б'яўленьня «вайны» бюракратыі, гэтая ўстанова выслала 19.000 папераў, а ў 1955 г. аж 25.000. А вось толькі адно Добрушскае МТС за 1955 г. выдала 1.529 загадаў і цыркуляраў. І гэта называецца праца!

### «Разьвіцьцё» на савецкі лад

БССР наагул мала мае чыгуначных шляхоў, але і тыя што былі збудаваныя папярэднімі акупантамі паволі нішчацца. Напрыклад калейка Наваельня-Любча зусім ня дзейнічае. Сакратар Любчанскага райкому прасіў у Менску яе аднавіць, але просьбы яго не паслухалі і нават Любчанскі раён зьліквідавалі.

### Галодныя працадні

Відаць, што ў БССР ёсьць шмат калгасаў, у якіх на працадні калгасьнікі не атрымоўваюць зусім нічога і жывуць толькі выключна з сваіх прысядзібных участкаў. Толькі прыпадкам і з вялікім апазьненьнем савецкая прэса прагаворваецца, што ў: калгасе «Новы шлях» у Любчанскім раёне, «калі прыйшоў час разьмяркоўваць прыбыткі, то аказалася, што і разьмяркоўваць няма чаго». У іншых калгасах гэтага раёну было ня шмат лепш і нямала калгасьнікаў зусім кідалі калгасы ды выяжджалі на заработкі ў гарады. Аб іншых падобных калгасах гаворыцца ў літаратурных нарысах, не падаючы іхных назоваў, як гэта робіць Губарэвіч у «Полымі» Нр. 2, ст. 46.

### Вынішчэньне лясоў

У выніку грабежніцкае палітыкі бальшавікоў на Беларусі колькасьць лесу зьменшылася да таго, што пагражае катастрофаю для гаспадаркі. У мінулым годзе ўжо было нямала зусім бязьлесных раёнаў у БССР. У Берасьцейскай вобл. было такіх 10 раёнаў. Калісь агульная плошча лесу на Беларусі займала 31% ўсяе плошчы, а цяпер асталося толькі 19%, але з гэтага толькі 6% сапраўды сьпелага лесу. Калі ў 1940 г. было ў беларускіх лясох к. 100 мільёнаў кубам, лесу, дык у 1956 г. асталося толькі 20 мільёнаў, але з гэтага штогод высякаецца аж 6 мільёенаў кубам. У абязьлесеных раёнах, дзе пераважае супяшчаная глеба, зьявілася вялікая колькасьць абложных земляў. У мінулым годзе выдана ў Менску брашуру з вельмі вымоўным назовам: «Цалінныя і абложныя землі БССР і іх асваенне», У брашуры падаюцца такія статыстычныя даныя адносна БССР:

| | |
|---|---|
| абложных земляў ёсьць | 300.000 га. |
| хмызьнякоў | 500.000 га. |
| вырубак і гораў | 45.000 га. |
| асуш. неасвоен. балотаў | 200.000 га. |

І як ні дзіўна, маючы такую колькасьць пустуючых земляў, беларускую моладзь масава высылаюць на цаліну ў Казахстан і Сібір.

### Дзе жывуць беларусы па-за БССР?

Паводля афіцыяльных савецкіх вестак (Больш. Сов. Энц. Т. 37, с. 39) даведваемся, што «У пагранічных з БССР раёнах Смаленскае і Вялікалукскае вобласьцяў згуртавана невялікая колькасьць беларусаў. Параўнаўча шмат беларусаў у Сібіры, напр. у Красnаярскім краю».

### Беларуская газэта ў Беласточчыне

Толькі сёлета пачынаючы ад 4 сакавіка дазволена беларусам у Беласточчыне выдаваць тыднёвую газэту пад назовам «Ніва». Адтуль даведваемся, што афіцыяльна ў Польшчы налічваецца толькі 143.000 беларусаў. Гэта значыць, што ўсіх беларусаў католікаў заразхована ў палякі.

### «Адсталінізаваньне» пэрыядычнае прэсы

У савецкай Беларусі на агульную колькасьць 250 пэрыёдыкаў, якія выходзілі ў 1955 г. было аж 34, якіх назовы былі зьвязаны з іменем Сталіна.

Цяпер тыя назовы бадай усюды мяняюць. Пры тым некаторыя пэрыёдыкі толькі ў мінулым годзе пазьменьвалі свае назовы ў зьвязку з адкіненьнем слова «бальшавік» ад назову савецкае камуністычнае партыі. Напрыклад раённая Гарадзенская газэта называлася «Большэвіцкая праўда», потым: «Сталінскі прызыў», цяпер: «За высокі ўраджай». Нараўлянская раённая газэта



**Прыгаство беларускага лесу — прасека ў Налібоцкай пушчы**

перш называлася «За большэвіцкія перамогі», потым: «Сталінскі сцяг», цяпер: «Ленінская праўда». Аднак гэтыя зьмены ёсьць толькі пустымі вонкавымі перамалёўкамі, бо зьмест астаецца бяз ніякіх зьменаў.

### Трагэдыя школьнае моладзі

Ад мінулага году ўва ўсім Савецкім Саюзе моцна пахіснуліся суадносіны між сярэднім і вышэйшым школьніцтвам. Гэта асабліва востра адчуваецца ў нерасейскіх рэспубліках. На 22-ім зьезьдзе Кампартыі БССР першы сакратар Патолічаў бяз ніякіх недагавораў казаў: «Неабходна дабіцца, каб значная частка моладзі, якая скончыла сярэднія школы, заставалася ў вёсцы, атрымлівала сельскагаспадарчую кваліфікацыю». На практыцы гэтае дамаганьне выглядае так: У 1956 годзе ў БССР скончыла сярэднія школы 70.000 вучняў («Звязда» 21. VIII. 56), а ў вышэйшыя навучальныя ўстановы прынята ўсяго 7.200 чалавек. Акрамя таго трэба ведаць, што шмат моладзі зусім ня было ахоплена вучобаю. У Гомельскай вобл. па афіціяльным даным не наведвала школы 1.680 дзяцей, у Маладэчынскай — 1.640. Агулам «Настаўніцкая газэта» Нр. 16 з 15. III кажа, што ня было ахоплена вучобаю 13.864 вучняў, а з тых, што ўпісаныя ў школьныя дзёньнікі шмат адсяваецца на працягу году, бо мусяць дапамагаць сваім бацьком, зарабляць на пражыцьцё. У зьвязку з гэтым пытаньнем у газэтах і часапісах для моладзі часта публікуюцца розныя артыкулы і нарысы, у якіх малюецца «шчасьлівае» жыцьцё дзесяцікласьнікаў, якія працуюць у калгасах і на фабрыках. Аднак ніводзін з савецкіх верхаводаў не пасылае сваіх дзяцей «цешыцца шчасьцем» у калгасах ці фабрыках. Наадварот, яны ўсімі, часам найбольш круцельскімі спосабамі, стараюцца ўладкаваць сваіх дзяцей у ВНУ. Напрыклад у Стаўбцоўскай расейскай дзесяцігодцы дырэктар забавязаў выкладчыцу расейскае мовы паставіць дзесяціклясьніцы-дачцы аднаго адказнага работніка пяцёрку, каб выцягнуць яе на залаты мэдаль («Звязда» 14. IX), бо з залатымі мэдалямі прымаюць у ВНУ без экзаменаў.

### Русыфікацыя праз школьніцтва

Расейскі шавінізм на ўсім абшары Беларусі апошнім часам прыняў ўжо такія нялюдзкія і дзікія формы, што пачынае выклікаць рэакцыю нават у некаторых савецкіх верхаводаў. У прэсе зьявіліся артыкулы з крытычнымі ўвагамі. Русыфікацыя ў школьніцтве цяпер дайшла да таго, што ўжо агулам невядома, дзе ёсьць расейскія, а дзе беларускія школы, бо «часта пры маўклівай згодзе кіраўнікоў школ настаўнікі прадметнікі самі сабе выбіраюць мову выкладаньня. Бравіруючы рознымі дэмагагічнымі выкрутамі, такія настаўнікі абыякавыя да пасьпяховасьці, як па рускай, так і па беларускай мове. Яны бяз усякіх падстаў пераходзяць на рускую мову навучаньня ў беларускіх школах... Беларускай мове, як мове навучаньня ў школе, не надаецца значэньня і ў пэдагагічных ВНУ рэспублікі» («Настаўніцкая газета» 7. XII. 56).

## НА ЭМІГРАЦЫІ

### Весткі аб беларускім рэлігійным жыцьці ў заходнеэўрапэйскай прэсе

● Нядаўна выйшаў у Парыжу чацьвёрты том вялікага марыйскага зборніка «Maria» пад рэдакцыяю а. Губэрта дэ Мануар. Увесь гэты том прысьвечаны культу Марыі ў розных народах. На стар. 729-744 ёсьць вялікі артыкул а. Льва Гарошка «Le culte de Notre Dame en Bielorussie».

● Італьянскі часапіс «Le missioni Estere Vincenziani», які выходзіць у Торіне, зьмясьціў у Нр. 3 кароткую інфармацыю а. Льва Гарошка аб сучасным рэлігійным палажэньні ў Савецкай Беларусі.

● Францускі бюлетэнь «L'Etranger Catholique en France» Нр. 2 з 1956 г. падаў кароткую вестку аб Беларускай Каталіцкай Місіі ў Парыжу.

### З жыцьця беларускіх нацыянальных арганізацыяў

За час свайго прабываньня на эміграцыі пасьля 1944 г. беларусы стварылі нямала розных арганізацыяў, але ў зьвязку з частымі пераездамі і расьцярушэньнем шматлікія арганізацыі зьліквідована, а так-жа нямала перастала існаваць дзеля пасыўнасьці сяброў, або кіраўніцтва. Аднак амаль у кожнай краіне расьсяленьня беларускае эміграцыі дзейнічаюць арганізацыі агульна-грамадзкага характару і актывізуюць сваю дзейнасьць не зважаючы на ніякія цяжкасьці. Поўныя справаздачы аб іхняй дзейнасьці падаваліся на агульных сходах, аб якіх паведамлялася ў беларускай прэсе. Важнейшыя з гэтых сходаў адбыліся сёлета: 18 лютага ў Торонто — Беларуская Каса Самапомачы ў Канадзе; 8 сакавіка — згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў у Нью Ёрку; 13 траўня — Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі; 4 сакавіка — Адзьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Саут Рывэр, 13 траўня — Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне; 24 красавіка — Адзьдзел у Крэзо Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі; 30 чэрвеня — Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, 10 чэрвеня — Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе; 2 ліпеня — Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі (Аўстралія); 10 чэрвеня — Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь»; 5 жніў-

ня — Адзьдзел ЗВБВ у Бірмінгаме (Англія); 20 кастрычніка — Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы; 21 лістапада — Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці

Як штогод, так і сёлета ўва ўсіх скупленьнях беларускае эміграцыі ўрачыста азначалася беларускае нацыянальнае сьвята 25 Сакавіка, выказваючы вымоўна перад усім сьветам, што ніколі і ў ніякіх абставінах беларускі народ не пакіне змаганьня за волю і незалежнасьць свае бацькаўшчыны. У прэсе былі паданы весткі аб сьвяткаваньні з такіх асяродкаў: **Англія** — Лёндан, Манчэсстар, Нотінгам; **Аргэнтына** — Буэнос-Айрэс; **Аўстралія** — Мэльбурн і інш.; **Бэльгія** — Лювэн; **Гішпанія** — Мадрыд; **З.Ш.А.** — Нью Ёрк, Дэтройт, Кліўлянд, Саут Рывэр, Чыкаго; **Канада** — Торонто, Лёндан, Садбуры; **Нямеччына** — Мюнхэн; **Францыя** — Парыж, Ле Крэзо. Пры тым у трох штатах З.Ш.А. 25. III. быў абвешчаны нацыянальным днём і ў шматлікіх амэрыканскіх газэтах зьявіліся артыкулы аб Беларусі. У гішпанскіх мадрыдзкіх газэтах так-жа апублікована весткі аб Беларусі.

У шматлікіх беларускіх цэнтрах былі так-жа азначаны ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

### Беларуская пэрыядычная прэса на эміграцыі

Доля беларускае прэсы цесна зьвязана з доляю самое эміграцыі. Яна мае свае ўздымы і свае цяжкасьці, свае сьветлыя і цёмныя бакі. Калішняе жыцьцё ў лягэрах стварала вельмі спрыяючыя ўмовы для згуртаваньняў, тады маглі без вялікіх цяжкасьцяў утварацца рэдакцыйныя калегіі і выпускаць на рататары розныя пэрыёдыкі. Але ў большасці такія пэрыёдыкі ня былі даўгавечнымі. Частае перамяшчэньне з лягэра ў лягэр выклікала хуткае зьніканьне пэрыёдыкаў. Дзеля гэтага ня дзіўна, што ад 1946 г. да 1956 г. зьявілася на эміграцыі аж 149 назоваў розных газэтаў і часапісаў, але 19 з іх спынілі свой выхад на першым нумары; 16 на другім; 17 на трэцім; 5 на чацьвёртым; 7 на пятым і т. д. Штогод некалькі пэрыёдыкаў пераставала існаваць і штогод зьяўляліся новыя, але ў меру таго, як расьсеяньне эміграцыі павялічвалася колькасьць пэрыёдыкаў значна зьмяншалася. У цыфрах гэта выглядае так: У 1946 г. выходзіла 28 назоваў розных пэрыёдыкаў пераважна ў Нямеччыне, у 1947 г. — 34, у 1948 г. — 45, у 1949 г. — 39, у 1950 г. — 34, але яны ўжо выходзілі ў Англіі, Аўстраліі, Бэльгіі, З.Ш.А., Італіі, Канадзе, Нямеччыне і Францыі, у 1951 г. — 24, у 1952 г. — 33, у 1953 г. і 1954 г. па 38 у 1955 г. — 28 і сёлета 24. Аднак можна з прыемнасьцю сьцьвердзіць, што зьменшаная колькасьць беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў рэкампэнсуецца іхняю сталасьцю. З тых 24 газэтаў і часапісаў, якія зьявіліся сёлета 2 выходзяць дзесяты год, — 2 дзевяты і 2 — сёмы, іншыя маладзейшыя. Цяпер беларускую нацыянальную прэсу можна знайсьці ўва ўсіх паважнейшых бібліятэках вольнага сьвету.

### Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь»

Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь» мела ўжо пяты з чаргі Тыдзень Студыяў. Адбыўся ён 7-12 ліпеня ў Кэнігштайне (Нямеччына) і быў прысьвечаны праблемам маральнасьці і этыкі ў жыцьці чалавека. Таму, што ад належнага ўпарадкаваньня маральна-этычных суадносінаў у грамадзтве залежыць усё жыцьцё чалавека, так матэрыяльнае, як і духовае, дык агульным клічам Тыдня Студыяў было: За лепшую будучыню. Было прачытана і прадыскутована 8 рэфэратаў: а. Ч. Сіповіч — Прынцыпы хрысьціянскае этыкі, а. Ч. Сіповіч —Асновы маралі ў асьвятленьні некаторых беларускіх аўтараў, а. Л. Гарошка — Духовае жыцьцё на Беларусі ў X.-XIII стагодзьдзях, а. Фр. Чарняўскі — Сужэнства з этычнага гледзішча, А. Надсон — Правы чалавека паводля дэклярацыі А. А. Н., а. Л. Гарошка — Поступ цывілізацыі і праблема маральнасьці, а. Ч. Сіповіч — Чалавек. Рэфэрат апрацаваны паводля матэрыялаў а. д-ра Абрантовіча, а. Л. Гарошка — Рэлігійныя і грамадзкія плыні ў сучасным каталіцкім жыцьці. У вольны ад рэфэратаў час удзельнікі Тыдня пазнаёміліся з усімі рэлігійнымі арганізацыямі, якія месьцяцца ў Кэнігштайне, а так-жа агледзелі недалёкі Франкфурт і мелі свой агульны сход «Руні».

### Новая ўсходне-каталіцкая парахвія

Ужо ад даўна ў Ляйсле недалёка ад Чыкаго пражывае некалькі беларускіх айцоў бэнэдыктынцаў. У мінулым годзе з пачыну а. д-ра Янкі Тарасэвіча зарганізована ў Чыкаго беларускую ўсходне-каталіцкую парахвію імя Сьвятога Спаса. Праф. Мікола Куліковіч зарганізаваў царкоўны хор і цяпер там адбываюцца сталыя багаслужэньні для беларусаў.

### Між беларускіх студэнтаў у Лювэне

У 1956 г. яшчэ двох беларускіх студэнтаў закончылі свае студыі ў Лювэнскім унівэрсытэце: Міхась Саўка-Міхальскі закончыў археалёгію і гісторыю мастацтва, а Юрка Сенькоўскі эканамічныя навукі — абодва атрымалі ліцэнцыят. У тым-жа годзе 30 лістапада Аляксей Арэшка абараніў дакторскую дыссэртацыю і атрымаў навуковы тытул доктара хэмічных навук.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## У ПАЛОНЕ НЯНАВІСЬЦІ

Нядаўна ў выдавецтве Беларускае Цэнтральнае Рады зьявілася кніга І. Касяка **«З гісторыі Праваслаўнай Царквы Беларускага Народу»** Нью-Йорк 1956 г. с. 191. Пісаць рэцэнзію на гэтую кнігу вельмі няпрыемна, бо такога агіднага круцельства і фальшаваньня фактаў, як у гэтай кнізе яшчэ ня было ў нашай гісторыі. Сапраўды выглядае так, быццам Касяк ачмурэў ад дзікае нянавісьці да каталіцызму і выліў сваю злобу на паперу. Немагчыма пакінуць гэткую пісаніну без адказу і без выясьненьня прынамся важнейшых фактаў.

На ўступе аўтар зазначае, што яго праца ёсьць кампіляцыяю, аднак у сапраўдансьці побач кампіляцыі ёсьць нямала і ягонае-ж «творчасьці». Лепш кажучы, ягоная пісаніна займае большую частку кнігі, бо ўвесь пэрыяд ад пачатку хрысьціянства на Беларусі і аж да 1941 г. ён апісвае на 80 старонках, а пэрыяд ад 1941 г. і да нашых дзён — гэта значыць за 15 гадоў у часе, у якім ён актыўна ўдзельнічаў у жыцьці Бел. Прав. Царквы, аж на 108 старонках; відаць, што паводля Касяка гэта найважнейшы пэрыяд.

Між супрацоўнікаў Касяк успамінае людзей, які афіцыяльна запярэчылі ўсякае з ім супрацоўніцтва — др. В. Тумаш.

У часапісным артыкуле немагчыма падаць поўны сьпіс усіх няпраўдзівых, сфальшаваных і перакручаных Касяком фактаў, бо яны аж кішма кішаць у ягонай кнізе. Там сапраўды, як кажа народная мудрасьць, «Хлусьня на хлусьні едзе і круцельствам паганяе», дзеля гэтага неабходна абмежавацца зацемкамі адносна больш годных увагі фактаў.

Дата заснаваньня Полацкага япіскапскага пасаду — 992 г. ёсьць толькі прыпушчальнаю і першы яе япіскап няведамы, а яп. Міна (с. 5) ня мог ім быць, бо быў хіратанізаваны ў 1105 г., вось-жа аж 113 гадоў пасьля заснаваньня япіскапства.

Каталіцтва ў Вялікім Княстве ў сваёй пачаткавай стадыі ня было і не магло быць «магутным палёнізацыйным дзейнікам» (с. 9). У гэтай справе сам аўтар пярэчыць сабе на с. 14, прызнаючы, што каталіцтва спачатку мела «часткава беларускі характар». На гэтую тэму ў папярэднім нумары «Божым шляхам» быў апублікованы вялілікі артыкул і падана шмат фактычнага матэрыялу.

Плянаваньне Ягайлы адносна праваславія ў 1400 г. (с. 12) нельга адносіць да Беларусі ані агулам да Вялікага Княства, бо-ж ад 1392 г. тут кіраваў зусім незалежна ад Ягайлы вялікі князь Вітаўт.

Праўдаю ёсьць, што Сьвідрыгайла ў часе сваіх войнаў зьнішчыў некалькі касьцёлаў на Беларусі, а Жыгімонт І у змаганьні з ім зьнішчыў некалькі праваслаўных цэркваў, але ні адзін ні другі ня зьнішчыў «усіх» (с. 13) сьвятыняў.

Бяз ніякіх доказаў і насупраць фактаў Касяк цьвердзіць, што за часоў вял. кн. а потым караля Казімера «фактычнымі прыгнятальнікамі праваслаўя, як беларускай рэлігіі, былі польскія каталіцкія прэлаты ксяндзы, паны і шляхта» (с. 14). На колькі гэтае цьверджаньне бязглуздае можна бачыць з таго, што на той-жа старонцы некалькі радкоў ніжэй Касяк кажа: «Сам кароль выдаў некалькі грамат на карысьць праваслаўнага мітрапаліта і япіскапаў» (с. 14). Дадайма да гэтага яшчэ і тое, што ад 1462 г. і аж да канца XVII ст. віленскі біскупскі пасад займалі або беларусы, або летувісы.

Для пісаніны Касяка вельмі характэрным ёсьць сьведамае перакручваньне фактаў, часам робіць гэта з бязьлічным нахабствам. Напрыклад на с. 16 ён пераказвае, відаць за Батюшкавым, аб тым, як манахі бэрнардыны ў Вялікім Княстве выступалі супраць палякаў і дамагаліся для сябе асобнага правінцыяла. Батюшкаў, хоць і варожы да каталіцызму, пішучы аб гэтай падзеі ў сваёй кнізе «Бѣлоруссія и Литва» на с. 158-159, сьцьвярджае згодна з гістарычнымі дакумантамі, што на баку беларускіх і летувіскіх бэрнардынаў была «вялікакняжая рада і сам кароль быў на іх баку; папа мусіў прыняць меры для ўцішэньня варажнечы». Дадайма да гэтага, што Тайнэр у сваёй зборцы дакумантаў апублікаваў два лісты караля Жыгімонта Старога да папы ў справе бэрнадынаў Вялікага Княства, у якіх кароль просіць здаволіць іх жаданьні. Касяк-жа піша: «кароль, яго рада і магнаты падтрымоўвалі палякаў» (с. 16). Якою маральнасьцю кіраваўся Касяк, так бесцэрэмонна перакручваючы факты, мусіць ён і сам ня ведае.

На с. 18 Касяк піша, што пасьля Люблінскае вуніі палякі на Беларусі «амаль зьнішчылі праваслаўе», а некалькі радкоў далей, відаць забыўшыся аб тым, што напісаў перш, кажа: «Перахавальнікамі праваслаўя і беларускай нацыянальнасьці засталіся сяляне і мяшчане з часткай нізавога духавенства». Сапраўды дзіўна, як можна гаварыць аб зьнішчэньні, ці хоць-бы «амаль зьнішчэньні» праваславія, калі асталося толькі вернікаў! Больш таго, на с. 19 Касяк кажа, што «праваслаўныя беларусы не цярпелі пасыўна каталіцкіх нападаў» і пры тым пералічае іхню дзейнасьць. Ды нашто-ж была-б рэлігійная Вунія, калі зьнішчылі праваславіе?!

Закранаючы справу рэлігійнае Вуніі, Касяк прышпільвае ёй усе, вытканыя ў Маскве, латкі,

каб зрабіць з яе пудала для беларусаў. Перадусім называе яе «пераходным мастом для пазьнейшага акаталічаньня вуніятаў і апалячаньня» (с. 20). Аб бязглузднасьці такога цьверджаньня ўжо нямала пісалася на старонках «Божым шляхам», але пры гэтай нагодзе варта яшчэ раз прыпомніць, што нашы прадзеды йшлі гэтым мостам 243 гады і ня спольшчыліся, а украінцы, што йдуць ужо больш 300 гадоў дайшлі замест да паляніза-цыі, да такое украінскае нацыянальнае сьведамасьці, якое рэдка можна стрэнуць між іхных праваслаўных суродзічаў. — Гэта адно, а другое — вельмі брыдка чалавеку, які займаецца рэлігійнымі справамі нават ня ведаць тае простае розьніцы, якая ёсьць між рэлігіяю і абрадам. Тое, што папулярна называлася Вуніяю ёсьць ня што іншае, як каталіцкая рэлігія, але не лацінскага а ўсходне-славянскага, ці інакш бізантыйска-славянскага абраду. Каталіцкая Царква ёсьць толькі адна і адзіная, але яна мае аж дзесятак розных абрадаў і вернікі ўсіх абрадаў ёсьць роўнапраўныя католікі, таму ёсьць бязглузьдзем гаварыць аб «акаталічваньні» католікаў.

Апісваючы пашырэньне ўсходняга каталіцызму на Беларусі побач з рознымі абагульненьнямі Касяк часта пярэчыць сам сабе і пры тым, ён звычайна, мяшае самаволю зьдзічэлых панкоў з каталіцызмам наагул.

На с. 26 ён піша: «Пасьля сабору вунія пачала ўводзіцца ў жыцьцё на Беларусі стасуючы гвалты над праваслаўнымі... Вуніяцкія япіскапы захапілі праваслаўныя архірэйскія катэдры, якія яны займалі папярэдне». Як-жа тут гаварыць аб «захапленьні», калі ўсе беларускія япіскапы разам з мітрапалітам і ўсімі сваімі капітуламі перайшлі ў каталіцызм?! Усіх іх аўтар пералічае на с. 24. Зноў-жа што да гвалтаў, дык калі яны былі з боку вуніятаў, то яшчэ больш-ыя былі з боку праваслаўных. Забойства сьв. Язафата і некалькі святароў — ці-ж гэта ня гвалты?! І калі ўжо гаворыцца аб гвалтах, дык неабходна прасачыць усе прычыны і дзейнікі, якія выклікалі гвалты — нічога падобнага Касяк ня робіць.

Далей аўтар піша, што ад праваслаўных сталіся адабраць «усе правы і прывілеі» (с. 26), а на наступнай 27 старонцы пералічае дзейнасьць праваслаўных, адкуль відаць, што нават не ўва ўсіх праваслаўных краінах праваслаўныя маглі-б разьвіваць такую шырокую дзейнасьць, як у той краіне, дзе ад іх забралі «усе правы». І дзіўна, што пераважна гэта была дзейнасьць супрацькаталіцкая ў каталіцкай Рэчыпаспалітай.

Касяк з асаблівым націскам хоча падчыркнуць, што ўсходне-каталіцкая Царква для беларусаў ёсьць быццам зусім чужою. Ён кажа: «Вунію на Беларусі праводзілі чужыя дзейнікі: польскі кароль і рымскі папа» (сь 27). І адно і другое ёсьць недарэчным цьверджаньнем, бо-ж кароль Жыгімонт Ваза ня быў палякам, а шведам. І калі яго палякі выбралі для сябе каралём, дык беларусы адначасна выбралі для сябе вялікім князем, дзеля гэтага ён быў гэткім-жа самым беларускім валадаром, як і польскім, бо быў валадаром супольнае Рэчыпаспалітае. Другое-ж цьверджаньне яшчэ горш бяссэнсовае, бо рымскі папа ёсьць аднолькава блізкі для ўсіх народаў і калі дзе выступае як папа, дык ніколі ня выступае як прыналежны да нейкае нацыі, але як намесьнік Хрыста. Вось-жа, калі Касяк кажа, што папа ёсьць для нас чужы, дык мусіць вырачыся і Хрыста, бо-ж Ён як чалавек ня быў беларусам а жыдам.

У 1624 г. папаю быў ня Урбан III (с. 28), а Урбан VIII.

Кароль Уладыслаў IV ня вызначаў праваслаўным «мітрапаліта і 4-ох япіскапаў» (с. 28), а толькі прызнаў іх пасьля дакананага факту іхняе хіратоніі.

Аб гаспадараваньні маскоўскіх цароў на Беларусі Касяк гаворыць зусім адменнаю моваю, як аб паляках. Напрыклад: «Япіскапы Магілёва павінны былі высьвячацца ў Маскве, як выраз асаблівае ласкі цара» (с. 29). Мусіць ніводзін сьведамы беларус не прачытае гэтага сказу, не дадаўшы: «захавай нас, Божа, ад такое ласкі!», але Касяк ніякае ўвагі не дадае, бо відаць, што напісаў гэта, каб «паказаць» ласкавасьць цароў да беларусаў.

Бясчынствы польскіх магнатаў і асабліва спалянізаванае беларускае шляхты супраць праваслаўя і агулам супраць беларусаў былі вялікія, але ці-ж іх можна атоесамліваць з дзейнасьцю Ватыкану (с. 32)?! У Ватыкане пры розных нагодах рабіліся дакоры палякам за тыя бясчынствы. У гэтай справе быў апублікованы на старонках «Божым шляхам» Нр. Нр. 62-65 вялікі артыкул «Пад знакам польскае і рускае веры».

У справе адносінаў мітр. Мэльхісэдэка Менскага да Маскоўскага міт. Сяргея Касяк кажа, што «няма дадзеных, каб мітр. Мэльхісэдэк прызнаў мітр. Сяргея галавою» (с. 40). У сапраўднасьці такія дадзеныя ёсьць. У «Журн. Моск. Патр.» з 1931 г. Нр. 4 на с. 1 апублікавана «Пастанова» аб скліканьні чарговай сэсіі Сыноду і аб пэрсанальным складзе Сыноду. І там выразна кажацца, што на гэтую сэсію пакліканы між іншымі арх. Мэльхісэдэк (Паеўскі) Краснаярскі.

Гаворачы аб палажэньні Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, Касяк між іншым падае некалькі статыстычных даных, якія пярэчаць самі сабе. Ён кажа, што ў 1918-1926 гадох праваслаўныя беларусы і украінцы мелі 383 цэрквы і з гэтага ліку да 1925 г. палякі адабралі 320 цэркваў (с. 43). Выходзіць, што тады асталося толькі 63 праваслаўныя цэрквы. Між тым як Дарашэнко ў сваёй Гісторыі Прав. Цэрквы падае на с. 48, што ў тым часе ў Польшчы было 1020 парахвій, як бачым розьніца аж надта вялікая, каб на яе не зьвярнуць ўвагі, а яшчэ дзіўней, што пару старонак

далей Касяк падае, што да 1929 г. паводля сэн. Багдановіча мела быць адабрана ад праваслаўных больш за 1.000 цэркваў (с. 52). Выходзіць, што адабралі больш чым іх агулам было. Касяк — на толькі павінен ведаць арытмэтыку, каб прынамся такіх памылак не рабіць!

Насільнае заменьваньне сьвятыняў ці то каталіцкіх у праваслаўныя, ці праваслаўных у каталіцкія ёсьць справаю, якая балюча закранае рэлігійнае пачуцьцё вернікаў. Тымчасам Касяк на яе глядзіць вельмі аднабока; ён абыйшоў моўчанкаю гвалтоўнае пераменьваньне каталіцкіх сьвятынаў у праваслаўныя, якія даконваў царскі ўрад, і шырока расьпісаўся аб тым, як польскі ўрад заменьваў праваслаўныя сьвятыні на каталіцкія, ды стараецца ілюстраваць гэта прыкладамі, у якіх быццам заўсёды праваслаўныя цэркві замяняліся на касьцёлы.

Няма магчымасьці спраўдзіць усе паданыя Касяком прыклады, але некаторыя з іх бязумоўна фальшывыя. Вось яны: Царква ў Жыдомлі, Гарадзенскага пав. (с. 44-45) была пабудована не праваслаўнымі, а каталіцкімі манахамі камэдуламі як каталіцкі касьцёл. Заменены ён быў на царкву пасьля таго, як расейскі ўрад выгнаў манахаў. Таксама царква ў в. Весялуха, Дунілавіцкага пав. (с. 45) была пабудована як касьцёл у 1815 г. Гутаровічам і пераменена на праваслаўную царкву ў 1837 г.

Аб царкве ў Новым Двары, Сакольскага пав. Касяк гаворыць аж тры разы (с. 46, 48, 51) і ўсе тры разы паўтарае гісторыю яе «разбурэньня» быццам з інтэрпэляцыі беларускіх паслоў з 20. VI. 1924 г. Прытым прызнае, што інтэрпэляцыя падзейнічала; справу новадворскае царквы дасьледавала сэймовая камісія і выдала рэзалюцыю адбудаваць царкву. Адначасна з гэтым фактам Касяк падае цэлую кучу хлусьні. Не ўвайходзячы ў далейшую гісторыю гэтае царквы, відаць, што Касяк стараўся згусьціць хварбы выдуманых сэнатарам Багдавонічам фактаў. Як-жа выглядае ў сапраўднасьці справа з царквою ў Новым Двары? Гэтую царкву немцы спрафанавалі ў 1915 г., замяняючы яе на магазын для збожжа і пакінулі яе ў 1919 г. у вельмі апушчаным стане. Рамантаваць яе ня было каму і так яна пуставала, выклікаючы у палякаў жаданьне выкарыстаць яе як будаўнічы матэрыял для школы. Староства дало на гэта дазвол і прывезеныя з Мазоўша работнікі пачалі здымаць дах. Насельніцтва зарэагавала і вось тады ў сэйме была інтэрпэляцыя, пасьля чаго была выслана на мейсца сэймавая камісія, якая выдала пастанову, адбудаваць царкву за дзяржаўны кошт. Усё іншае, як уваход азброенага паліцыянта ў царкву падчас багаслужэньня, спыненьне багаслужэньня, выгнаньне гвалтам вернікаў і закрыцьцё царквы (с. 48) ёсьць выдумкаю, бо багаслужэньні ў царкве не адпраўляліся ўжо ад 1915 г. Няпраўдаю ёсьць так-жа быццам ад Новага Двара «найбліжэйшая праваслаўная царква адлеглая на 18 км.» (с. 51), бо-ж царква ў Ячным адлеглая ад Новага Двара ўсяго 6 км., а Горадня 10 км. У гэтую справу Касяк мяшае такжа і мяйсцовага ксяндза, быццам ён «канчае руйнаваць царкву» (с. 51), але што-ж ён мог руйнаваць, калі перш казаў на старонках 46 і 48, што ўжо царкву разбурылі? Дзіўна аднак чаму Касяк не ўспамінае сапраўднага няпрыяцеля новадворскае царквы — настаяцеля праваслаўнае царквы ў Ячным, які баючыся, каб ня зьменшыліся яго даходы найбольш прычыніўся да таго, што ў 1927 г. ударэмніў намаганьні навадворскіх праваслаўных вернікаў адбудаваць царкву. На гэтым тле было дайшло да паважнага канфлікту — праваслаўныя вернікі байкатавалі ячынскага сьвятара і маліліся ў прыватным доме пад старшынствам аднаго з ініцыятараў адбудовы новадворскае царквы.

Шмат увагі прысьвячае Касяк справе ліквідаваньня праваслаўных прыходаў і ўсю віну за гэта ўскладае на польскі ўрад. Агульна ведама, што палякі адносіліся варожа да ўсяго, што ня было польскае, так было і ў адносінах да Праваслаўнае Царквы, як абаронцы «рускае веры». Дзіўна аднак, што на доказ варожасьці польскага ўраду да праваславія Касяк падае некаторыя зусім фальшывыя факты. Напрыклад ліквідацыя праваслаўнага прыходу ў Далятычах (с. 51) ня ёсьць справаю польскага ўраду, але справаю захланнасьці суседняга настаяцеля праваслаўнага прыходу ў Любчы, які маючы моцныя плечы ў кансісторыі, скарыстаў з перавядзеньня настаяцеля далятыцкага прыходу ў іншы прыход, каб захапіць сабе зямлю далятыцкае парахвіі. Калі-ж у Далятычах, на стараньні вернікаў, зьявіўся усходнекаталіцкі сьвятар, дык па некаторым часе прыслана туды і праваслаўнага сьвятара, (гэта ясна сьведчыць, што ніякага дзяржаўнага скасаваньня прыходу ня было), але таму што ў Далятычах асталося толькі дзьве праваслаўныя сям'і, дык праваслаўны сьвятар асталяваўся ў суседняй вёсцы, а багаслужэньні адпраўляў ў царкве пад Ліпаю. Няпраўда, што пад-Ліпская царква была запячатана (с. 51). Я асабіста, будучы ў Далятычах у 1937 і 1938 гадох, бачыў яе адчыненаю. Няпраўдаю такжа ёсьць быццам далятыцкія вернікі зьвярталіся «да вуніяцкага біскупа ў Львове» (с. 51). Самжа Касяк на с. 56 кажа, што вуніяцкаму Львоўскаму мітр. Шэптыцкаму не дазволена весьці вуніяцкае акцыі па-за абшарам свае епархіі, таму ён ня мог прысляць сьвятара ў Далятычы. Зьвярталіся далятыцкія вернікі да лацінскага Пінскага біскупа Лазінскага і ён прыслаў ім усходне-каталіцкага сьвятара, ня пытаючы ў нікога ніякага дазволу.

Так-жа ёсьць няпраўдаю быццам праваслаўная царква ў Сталовічах была перароблена на касьцёл (с. 51). Я асабіста часта пераязджаў у 1931-1939 гадох праз Сталавічы і пры нагодзе

заходзіў у праваслаўную царкву. Пры тым Касяк не ўспамінае, што гэтая царква — гэта былыя касьцёл. Збудаваў яго Міхал Дамброўскі ў 1740 г., але расейскі ўрад перадаў яго праваслаўным у 1830 г. Ніякае іншае праваслаўнае царквы ў Сталавічах ня будована, але затое каталікі збудавалі сабе новы касьцёл.

Спробу ўвядзеньня календара новага стылю ў 1924 г. Касяк прадстаўляе быццам нейкі выключна польскі наступ на праваслаўе. Пры тым ён заўсёды атоесамлівае польскасьць з каталіцызмам. Тымчасам пачатак увядзеньня новага календара ў жыцьцё Праваслаўнае Царквы дала Фінляндыя ў 1921 г., а шыршы размах гэтай акцыі даў ня хто іншы, як Бізантыйскі Патрыярх — ён увёў новы стыль на абшары ўсяго свайго папрырхату ў 1923 г. і запрапанаваў усім Праваслаўным Цэрквам, ў тым ліку і ў Польшчы (лістам з 25-III-1924) прыняць новы календар у літургічнае жыцьцё. За прыкладам Патрыярха ўведзена новы стыль у Грэцыі 1-IV-1924, у Румыніі I-VIII-1924, таму мітр. Дзяніс спрабаваў яго ўвесьці і ў Польшчы. Вось-жа Касяк мусіць дакараць не якіхсьці польскіх паліцыянтаў за гэтую спробу, але Бізантыйскага Патрыярха, які трымаецца новага календара да сёньня.

Асабліва шмат хлусьні піша Касяк адносна Усходне-каталіцкае Царквы. У сваёй засьлепленай варожасьці ён не рахуецца ані з фактамі, ані з датамі. Усходне-каталіцкая, або як яе папулярна звалі вуніяцкая акцыя распачалася на абшары Зах. Беларусі ў 1923 г. і пачалася зьніву. Касяк-жа цьвердзіць, што «кіраўнікамі вуніяцкае Царквы для Эўропы папа прызначыў ліцьвіна Бучыса, а апостальскім візітатарам — украінца М. Чарнэцкага» (с. 57). Тымчасам першы быў прызначаны толькі ў 1930 г., а другі ў 1931 г., значыць нехта мусіў кіраваць да гэтага часу, але хто?

Зазначаючы з пагардаю аб «мізэрным выніку» (с. 57) вунійнае акцыі за 10 гадоў Касяк нават і словам не заікаецца аб тых прасьледаваньнях, з якімі польская адміністрацыя накідалася на гэтую акцыю.

Быццам для прыкладу вунійнае акцыі Касяк падае жыцьцяпісы некаторых усходне-каталіцкіх сьвятароў. І тут трэба дзіву давацца, як ён можа ўпрост бязьлічна хлусіць і выдумляць, або бяскрытычна паўтараць розныя плёткі. Зачынае ад а. Міхася Маскаліка (с. 57-58). Дзесь чуў, што Маскалік здаваў бяз посьпеху матуральны экзамін ў Вільні, але ня ведае, што ён яго здаў у 1924 г. у Нясьвіжы. З нейкім папрокам зазначае, што Маскалік ня скончыў Віленскага матэматычнага факультэту, «а перайшоў у вунію». Праўда, што ня скончыў таго факультэту, бо ў 1932 г. паехаў разам са Шкуткам у Бэрлінскую палітэхніку (у Шарлётэнбург) як звычайны студэнт і адтуль у 1934 г. пераехаў у Мюнхэн і толькі тут перайшоў у каталіцызм ды пачаў студыяваць багасловію ў Мюнхэнскім унівэрсытэце, жывучы ў калегіі сьв. Андрэя. Касяк многазначна зазначае, што ён быў скіраваны ў Мюнхэн «на нейкія фонды». Каталіцкія рэлігійныя ўстановы ніякіх сакрэтаў з сваіх фондаў ня робяць, і калі-б пішучы сваю «Гісторыю» Касяк меў хоць дрыбінку сумленьня, дык аб самой калегіі сьв. Андрэя і яе фондах, мог-бы знайсьці вычэрпываючыя весткі ў нямецкім часапісе, які калісь гэтая калегія выдавала. Сьвятарскія сьвячаньні а. Маскалік атрымаў толькі ў 1938 г. і толькі тады прыехаў у Вільню. Вось-жа ўжо тады, калі вунійная акцыя была амаль зусім спынена. Працаваў у Вільні толькі адзін год, а паводля Касяка выходзіць, быццам а. Маскалік там быў ад самага пачатку тае акцыі і «кожнае лета езьдзіў у Мюнхэн» — калі ў сапраўднасьці ён як паехаў у 1939 г. дык і астаўся ў Нямеччыне да сёньня.

Наступна апавядае аба мне (с. 58), але так, што за выняткам імя і прозьвішча наагул мала што з таго апавяданьня да мяне адносіцца. У Дубенскай дух. Сэмінарыі мая нават і нага ня была. Сьвятарскія сьвячаньні я атрымаў толькі ў 1937 г. і адразу быў пасланы ня ў Стоўбцы, а ў Любяшоў. У Стоўбцах усходне-каталіцкая парахвія заснавалася ў 1928 г. — вось-жа 9 гадоў да майго сьвячаньня. Перавялі мяне ў Стоўбцы з Гародна ў лістападзе 1938 г. і быў я там ўсяго да 16 траўня 1939 г. у характары вікарнага сьвятара, а настаяцелем прыходу быў украінец а. Юстын Сялецкі. Вось-жа маё шасьцімесячнае прабываньне ў Стоўбцах было мімаходным. Сапраўды тады ў Стоўбцах ува ўсходнекат. парахвіі вернікаў было нямнога, бо іх паадганяў ад прыходу а. Сялецкі сваімі варожымі адносінамі да беларускае мовы. Калі я пачаў весьці душпастырскую працу выключна пабеларуску, меў шмат прыкрасьцяў ад польскае адміністрацыі і ўканцы быў выселены, як «ненадзейны элемэнт». У келіі а. Фабіяна я ніколі ня жыў, бо ўвесь час мае бытнасьці ў Стоўбцах там жыў гімназійны катэхэт. Гісторыя з стаўпецкім магільнікам ня мае ніякага дачыненьня да заснаваньня ўсходне-каталіцкае парахвіі наагул, а да мяне тымбольш, бо я прыехаў туды, калі ўжо даўно ўсё было палагоджана. Уласьціваю прычынаю непаразуменьня было намаганьне ўтварэньня веравызнавальных магільнікаў, якія клісь былі самазразумелым зьявішчам ува ўсіх гарадох Беларусі. І калі ўсходне-каталіцкая капліца на магільніку прычынілася да палагоджаньня спрэчкі за магільнік, дык кожны нармальны чалавек палічыць гэта за заслугу, а Касяк чамусьці за гэта дакарае. Усходне-каталіцкая парахвія ў Стоўбцах была зусім незалежнаю парахвіяю, а не якімсьці «вікарыятам усходняга абраду пры польскай каталіцкай парахвіі» — гэткіх дзівосаў агулам ня было ў Пінскай дыяцэзіі. Усходне-каталіцкія сьвятары ў Стоўбцах запамогу атрымоўвалі ад Пінскага біскупа як і ўсе іншыя каталіцкія

сьвятары, якія ня мелі парахвіяльнае зямлі. Ніякіх датацыяў «з дыспазыцыйнага фонду Навагрудзкага ваяводзтва» ані Стаўпецкі прыход, ані наагул ніводная ўсходне-каталіцкая парахвія не атрымоўвала. Зрэштаю аб тым, як адносіліся да мяне польскія адміністрацыйныя ўлады, могуць сьведчыць такія факты: за адзін 1938 г. мае працы ў Гародне на Палесьсі, польская паліцыя напісала на мяне розных адміністрацыйных караў па 5 і па 10 зл. на агульную суму 200 зл., а ўканцы загадам Навагрудзкага ваяводы з 15-V-1939 г. мяне выселілі з прыгранічнага абшару. Ніякага багаславеньня ад ксяндза паляка-шавініста-беларусажэра я ня толькі ў Стоўбцах, але наагул ніколі ў маім жыцьці не атрымоўваў. Што да адносінаў насельніцтва да мяне ў Стоўбцах, дык я бачыў, што толькі адзін чалавек «з агідай адварочваўся» ад мяне — але ён быў бязбожнік і прылюдна заяўляў аб сваёй бязбожнасьці. Варожа адносіўся так-жа стаўпецкі праваслаўны сьвятар а. Багаткевіч, якога сам-жа Касяк называе русафілам (с. 100 і 140). Аб тымжа як наагул адносіліся стаўпецкія людзі да мяне можна пераканацца з такіх фактаў: падчас маіх багаслужэньняў царква заўсёды была поўная, а калі мяне выселілі, праваслаўныя прыслалі прыхільную карэспандэнцыю ў «Chryścijanskuju Dumku» Nr. 18(202), з 10. VI. 1939 г.

Дзіўна, што Касяк прысьвяціў а. Маскаліку і мне параўнаўча найбольш мейсца між усіх вунійных дзеячоў, калі мы былі найменшымі і наймалодшымі між імі, Ніколаев у сваёй кнізе «Восточный обряд» ні адным словам не ўспамінае аб нас.

Адносна ролі Дэйбнэра і Лесьнабродзкага ў вунійнай акцыі і аб прыйманьні праваслаўных сьвятароў, пакараных іхняю духоўнаю ўладаю за розныя правіны, трэба прызнаць, што гэта паважны мінус у вунійнай акцыі, але адказнасьць за яго нясуць польскія каталіцкія біскупы і іхныя дараднікі. За гэткую дзейнасьць беларусы каталікі абодвых абрадаў іх асуджалі яшчэ больш строга чым праваслаўныя. Напрыклад беларускія айцы Марыяне зусім адмовіліся ўдзельнічаць у гэтай акцыі і былі высланыя аж у Манджурыю.

Пераказваючы пару прыкладаў, дзе паліцыя з нейкіх вынятковых матываў спрыяла ўсходнекаталіцкім сьвятаром, Касяк цьвердзіць: «Паліцыя ўсюды падтрымоўвала вуніятаў» (с. 60). У сапраўднасьці было зусім наадварот; аб гэтым падана шмат фактаў у «Божым шляхам» Нр. 64-65 на стар. 6-12, дык няма хіба-ж патрэбы паўтараць іх, варта аднак дадаць, што ў тайным «Апрацаваньні пытаньня польскага стану ўладаньня ў Навагрудзкім Ваяводзтве» ў красавіку 1939 г. Нр. P. N. III. 81(5)tjn. стар. 51 гаварылася даслоўна: «У сувязі з тым, што сярод праваслаўных пашыралася акцыя вуніі і што ейныя прапагатары карысталіся беларускай, украінскай і расейскай мовамі, польская ўлада ўважала, «што вунійная акцыя ўзмацняе на прасторы ейнае дзейнасьці ўплывы чужыя і рымскія, г. зв. беларускія і украінскія» і дзеля гэтага «у кансэквэнцыі ўлады агульнай адміністрацыі мусілі паставіцца да імкненьняў бізантыйскага (вуніяцкага) касьцёла здэцыдавана нэгатыўна». (Цытую паводля: Я. Найдзюк, Беларусь учора і сяньня. Менск 1943, стар. 209).

Манастыр айцоў Марыянаў у Друі ніколі ня быў усходняга абраду, як гэта цьвердзіць Касяк (с. 61), а толькі лацінскага абраду. Тым самым ёсьць няпраўдаю, што манахі друйскага манастыра «нічым не адрозьніваліся вонкава ад праваслаўных манахаў». Аб далейшай долі манастыра айцоў Марыянаў у Друі Касяк кажа: «Самі беларускія манахі ўгрымлівалі беларускі нацыянальны дух у сваім асяродзьдзі, што не адказвала паляанізацыйным патрэбам польскага ўраду. Таму ўсе манахі былі ў 1938 г. адсюль гвалтам «камандыраваныя» для дзейнасьці ў далёкія іншыя краіны, бо адмовіліся выехаць дабрахвотна. Выдатнейшы з іх а. Фабіян Абрантовіч з групай, быў высланы для місійнай працы ў Харбін, на ўсходзе Азіі» (с. 61). Тут сьведама, ці праз грубае нязнаньне апісаных фактаў зьмешаны дзьве зусім розныя падзеі: місія айцоў Марыянаў у Харбіне з 1928 г. і высяленьне другое групы айцоў марыянаў з Друі ў 1938 г. Пры тым вельмі характэрна для Касяка, што ён насільнае высяленьне палякамі беларускіх каталіцкіх манахаў кпліва называе «камандыраваньнем».

Не падаючы ніякае даты на той-жа с. 61 Касяк неспадзявана прызнае, што «ў гэту пару існавала асобнасьць мэтаў і некаторы разнабой у тактыцы паміж Ватыканам і польскімі палітычнымі дзейнікамі пры праводжаньні імі вуніі», але не падае ніводнага факту гэтага «разнабою». І да якога гэта часу адносіцца?

Няпраўдаю ёсьць быццам «кс. Я. Урбан са Львова літаральна закідваў усе паравслаўныя прыходы Беларусі вуніяцкай літаратурай папольску, рассыланай бясплатна і без запатрабаваньня» (с. 67). Паперщае гэткае літаратуры да 1933 г. наагул ня было, а ад 1933 г. выходзіў усяго адзін двумесячнік «Oriens» і не ў Львове, а ў Кракаве, дзе жыў а. Урбан. Пры тым пасьля першых рэклямовых нумараў часапіс высылаўся толькі падпісчыкам.

Пералічваючы адабраныя ў 1938/39 гадох праваслаўныя цэрквы, Касяк кажа: «Падобна было ў Рубяжэвічах» (с. 71). Вось-жа ў Рубяжэвічах я быў яшчэ вясною 1939 г. і там ніхто не забіраў і ня думаў забіраць праваслаўнае царквы.

Апавядаючы аб нападах палякаў на праваслаўныя цэрквы і аб разбурэньнях т. зв. павуніяцкіх цэркваў, Касяк бяз ніякіх, нават фіктыўных доказаў цьвердзіць: «Душою гэтых нападаў і па-

громаў праваслаўных цэркваў быў паляк, пінскі біскуп Букраба» (с. 71). Дзіўна, якая кароткая памяць у Касяка. Сам-жа ён апавядае, што тыя напады рабілі ці то паліцыянты, ці жаўнеры КОП-у, ці розныя банды пад іх кіраўніцтвам — і ўсе яны мелі сваіх зьверхнікаў, якія ніякім чынам не падлягалі біскупу, дык што мяшаць у гэтую справу людзей бяз дай прычыны. Трэба яшчэ дадаць, што на абшары пінскае дыяцэзіі, дзе ардынарыем быў біск. Букраба, параўнаўча найменш разбурана цэркваў.

Чамусьці Касяк ставіць на адной дошцы баптыстаў і мэтадыстаў і пры тым іх хваліць, бо яны маўляў «карысталіся беларускай мовай у працы сярод беларускага народу, выдавалі сваю літаратуру пабеларуску» (с. 72). Тымчасам гэтае цьверджаньне адказвае праўдзе толькі адносна мэтадыстаў, а баптысты ніякае свае літаратуры ў беларускай мове ня мелі і толькі пару прапаведнікаў карысталася беларускаю мовакаю, наагул-жа карысталіся расейскаю моваю і расейскаю літаратураю.

Шмат мейсца — роўна трэцюю частку кнігі — Касяк прысьвячае рэлігійным падзеям падчас апошняе нямецкае акупацыі. Большая частка паданага там матэрыялу, гэта вытрымкі з розных дакумантаў, і калі яны згодныя з праўдаю, дык гэта адзіная частка кнігі, якая можа мець вартасьць для гісторыі. Аднак, бачучы з папярэдніх апісаньняў, як Касяк бяссумленна адносіцца да фактаў і як іх сьведама фальшуе, каб мець давер нават і да гэтае часткі кнігі, неабходна яе спраўдзіць.

Падчас нямецкае акупацыі загінула шмат беларусаў так ад рукі назістаў, як і ад рук партызанаў. У ліку ахвяраў было нямала духавенства, але ня ўсе гэтыя ахвяры былі беларусамі. Касяк называе шмат імёнаў ахвяраў, але апавядае аб іх вельмі тэндэнцыйна. У гэтай часьці кнігі, як і наагул ува ўсёй пісаніне Касяка відавочная амаль неакелзаная тэндэнцыя абагульніваць паасобныя дробныя факты, хоць яны ў адносінах да агульных падзеяў зьяўляюцца выняткамі.

Відаць па анагёгіі з словам «айцец» і яго скаротам — «а.», Касяк скарочвае так-жа слова «сьвятар», але да гэтага ўжывае агульна прынятыя скарот ад слова «сьвяты» — «сьв.», уводзячы праз гэта лішні балаган.

У пару сказах Касяк гаворыць аб усходнекаталіцкім Экзархаце падчас нямецкае акупацыі (с. 138). Як усюды, так і тут чамусьці ён ня мог абыйсьціся без памылак. Дату заснаваньня Экзархату падае: «красавік 1942 г.» — тымчасам гэта дата прызнаньня Экзархату нямецкімі ўладамі, а ўласьцівая дата заснаваньня ёсьць 1940 г. Экзарх а. Неманцэвіч заўсёды быў беларусам.

Аб рэлігійным жыцьці ў БССР пасьля 1944 г. Касяк гаворыць вельмі павярхоўна і пры тым так-жа не без памылак. Між сьвятарамі, высланымі ў канцэнтрацыйныя лягэры ён успамінае а. Канстанціна Комара (с. 139), тымчасам гэты сьвятар цяпер працуе ў Пінску як настаяцель сабору і нават часам падае зацемкі ў Журн. Моск. Патрыярхіі».

Адразу пасьля заняцьця Беларусі ў Менск быў прысланы не арх. Піцірым (с. 140), але арх. Васілі (Ротміраў).

Апісваючы зусім сьвежыя падзеі з рэлігійнага жыцьця беларускае эміграцыі Аўтар пераказвае шмат плётак і самых бязглуздых выдумак.

Аб Лювэнскім унівэрсытэце Касяк піша быццам аб нейкай найбольш шкоднай для беларусаў установе. І зашто? Затое, што гэта адзіны унівэрсытэт у вольным сьвеце, пры якім для беларускіх студэнтаў створаны найлепшыя магчымасьці для атрыманьня вышэйшае асьветы. Сапраўды, які злочын!!! Чамусьці Касяк ня мае ніводнага слова дакору для ўсіх іншых унівэрсытэтаў, якія маюць без параўнаньня большыя магчымасьці дапамогі, але міма гэтага нічога не зрабілі для беларускіх студэнтаў. Касяк закідае Лювэнскаму унівэрсытэту, што быццам там «студэнты былі падгадзеныя каталіцкай місійнай апрацоўцы» (с. 149) і што там быццам падрыхтоўваюцца кадры для вуніяцтва, а «па сканчэньні навукі гадунцы ўлучаліся ў ватыканскую акцыю» (с. 148). Калі-б сапраўды было так, як кажа Касяк, дык гэта сьведчыла-б непахвальна аб беларускіх студэнтах, якія йдуць у неадпаведны унівэрсытэт, а яшчэ горш аб самым унівэрсытэце, як аб нейкай вузка клерыкальнай установе, калі ў сапраўднасьці ён мае сусьветнае рэнамэ.

Вось ужо 27 беларусаў атрымала ў Лювэне акадэмічную асьвету і ніводзін з іх ня выконвае ніякае «ватыканскае акцыі». Наагул уся пісаніна Касяка аб Лювэнскім унівэрсытэце ёсьць ад пачатку да канца злосным паклёпам. Ува ўсіх унівэрсытэтах на сьвеце ведамае зьявішча, што студэнты з першых курсаў адсейваюцца дзеля самых розных прычынаў. Касяк-жа піша, што з прынятых студэнтаў выключалі тых, «якія не ўкладаліся ў крывіцкія рамы» (с. 148). Вось-жа да гэтага часу з Лювэнскага унівэрсытэту адпала 14 беларусаў з іх выключана двох, а 6 самі пераехалі ў іншыя унівэрсытэты, і між імі ёсьць і «крывічы» і «зарубежнікі». Касяк кажа, што Рыжаму адмовілі стыпэндыю быццам дзеля таго, што зрабіў «закід» а. Робэрту, але ня кажа, што гэты-ж а. Робэрт даў рэкамэндацыю Рыжаму, каб яму прызналі стыпэндыю ў другім цэнтры беларускіх студэнтаў — Мадрыдзе; але і там, калі за тры гады ня скончыў паршага курсу, стыпэндыі больш не далі.

Ужо некалькі разоў на старонках пэрыёдыкаў, што зьбіраюць усякія плёткі, стараліся разьдзьмухаць звычайныя студэнцкія спрэчкі да разьмераў аграмадных гісторыяў і выкарыстоўвалі

дзеля гэтага «гісторыю з пабоямі» В. Кіпеля. Касяк, ведама, не абмінае такое гісторыі, прадстаўляе яе на свой лад. Ужо сам В. Кіпель сказаў свае слова адносна свае вучобы ў Лювэне, але варта зьнярнуць увагу чытачоў на адзін факт. Самая прысутнасьць В. Кіпеля ў Лювэне, ягоныя паводзіны як «зарубежніка», які паводле слоў самога-ж Касяка, іншых студэнтаў называў «крывіцкаю бандаю» і за гэта ня быў выключаны з Лювэну, а нават кончыў унівэрсытэт і атрымаў дактарат, аж лішне выразна пярэчыць цьверджаньню Касяка, што адтуль выключалі ўсіх, што «не ўкладаліся ў крывіцкія рамы».

Касяк шмат прысьвяціў мейсца студ. Арэхве (с. 148-149), але варта толькі ўважна прачытаць гэтую пісаніну, как убачыць, што гэты «студэнт» шукаў у Лювэне ня студыяў, а інтрыгаў.

Часта Касяк сьведама ня хоча разрозьніваць расейскага і беларускага ў рамах праваслаўя. Напрыклад ён шмат расьпісваецца аб тым, што беларускія студэнты не пайшлі на багаслужэньне да сьвятара Грыгаровіча (с. 149), але і словам не заікваецца, што гэта быў расейскі зарубежны сьвятар (сёньня парах расейскае зарубежнае парахвіі ў Пасэйку). Не ўспамінае так-жа, што ад 1950 г. у Лювэне ёсьць прыход Белар. Прав. Аўтак. Царквы, хоць на с. 152 г. між іншым кажа аб якімсьці неазначаным «новапастаўленым сьвятару».

Наагул Касяк піша аб беларускіх лювэнскіх студэнтах так, быццам яны ўсе бяз вынятку былі праваслаўнымі і таму прадстаўляе стварэньне беларускае каталіцкае місіі ў Бэльгіі нібы нейкае заплянаванае душахвацтва. Выглядае так быццам і між беларускімі работнікамі ў Бэльгіі няма каталікоў, тады калі іх ёсьць амаль 30%, а на агульны лік 57 студэнтаў, якія да гэтага часу жылі ў Бел. Студэн. Доме 9 было католікаў. Дык ці-ж духовая апека для іх ёсьць нейкім злочынам?

Адносна студэнтаў, што скончылі Лювэнскі унівэрсытэт, Касяк цьвердзіць, што «яны групуюцца пры вуніяцкім часапісе «Божым шляхам», пры газэце «Бацькаўшчына»... (с. 149). Вось-жа я, як рэдактар «Божым шляхам», ведаю найлепш сваіх супрацоўнікаў і мушу нават з сумам сьцьвердзіць, што між імі няма дaслоўна **ніводнага** абсальвэнта з Лювэну ані праваслаўнага, ані нават католіка!

Усе апісаныя Касяком «мэтады наварочваньня» (с. 150) у Лювэне мелі адбыцца хіба-ж да 1948 г., бо кажа, што ў тым часе іх «зьмянілі» і прыдумалі новыя на саборы ў Констанцы, але тут ізноў-жа Касяк трапляе ў крайняе бязглуздзе, бо-ж не далей як на с. 148 ён кажа, што «да 1948 г. у лювэнскім асяродзьдзі ня было студэнтаў беларусаў» — і гэта праўда, але да якога часу тады адносяцца ўсе тыя «мэтады наварочваньня?»

Што да гісторыі аднаўленьня БАПЦ, дык валею не чапаць яе, але ў імя праўды нельга абыйсьці моўчанкаю такіх фактаў, якія кідаюцца ў вочы кожнаму чалавеку, незалежна ад яго рэлігійнае прыналежнасьці. Касяк цьвердзіць, што «новапастаўлены япіскап (Васілі) зусім ня меў духоўнае асьветы і падрыхтоўкі» (с. 151). Тымчасам агульна ведама, што ён кончыў вольную Укр. Прав. Дух. Акадэмію ў Мюнхене. Але калі-б нават і сапраўды на меў гэтае асьветы, і рабіць яму дзеля гэтага закід, дык перш трэба было-б зрабіць гэткі закід галаве тае Царквы, аб якой расьпісваецца Касяк, — міт. Панцялейману (Ражноўскаму) — быўшаму ваеннаму інжынеру і афіцэру царскае арміі, які да свае ваеннае асьветы дадаў толькі кароткія місіянэрскія курсы (вось-жа шмат менш як яп. Васілі), яшчэ большы закід трэба было-б зрабіць яп. Савве (Советаву), які меў асьвету толькі кадэцкага корпусу і шматлікім іншым япіскапам Рас. Заруб. Прав. Царквы, быўшым афіцэрам расейскае арміі, але для ніводнага з тых афіцэраў-япіскапаў ён ня мае і слова дакору.

Дзівосная лёгіка ў Касяка: на адным мейсцы ён абураўся, што быццам у Лювэне падрыхтоўваліся кадры для вуніятаў, а на с. 152 раптам абураецца за тое, што там не далі стыпэндыі быўшаму студэнту праваслаўнае багасловіі Скабею. Дык якая-ж там была падрыхтоўка вуніяцкіх кадраў, калі сам праваслаўны багаслоў прасіўся ў каталіцкі унівэрсытэт і яго ня прынялі?!

Падаючы выясьненьні былых беларускіх праваслаўных япіскапаў, якія ўвайшлі ў склад Рас. Заруб. Прав. Царквы і апраўдвалі свой крок перад беларускім грамадзтвам рознымі пасланьнямі (с. 152-153), Касяк зусім не зьвяртае ўвагі на супярэчнасьці, якія ёсьць у тых выясьненьнях, і на супярэчнасьці з тым, што ён сам гаворыць у далейшым аб адносінах да іх БЦР і наагул беларускага грамадзтва. На далейшых старонках падаецца амаль поўнасьцю палеміку, якая вялася між яп. Апанасам і прадстаўнікамі ад БЦР. Гэтая палеміка поўная недагавораў і закранае толькі нацыянальнае пытаньне, зусім не закранула самага істотнага ў даным выпадку. Варта прыглянуцца хоць крыху ўважней да тых апраўдваньняў, каб пераканацца, што ўсе, паданыя япіскапамі матывы пераходу ў зарубежную Царкву ёсьць толькі сарамязьлівым прыкрыцьцём іхняга русафільства. Ані выясьненьняў, ані запярэчаньня тых матываў Касяк не падае, быццам прызнаючы ім слушнасьць. Такая маўчанка залішне адказная, дзеля гэтага нават і ў рэцэнзіі варта прыглянуцца бліжэй да тых матываў, каб ацаніць іхную сапраўдную вартасьць.

Крок былых праваслаўных беларускіх япіскапаў быў на толькі не апраўданым для іх-жа самых, што яны ў сваім выясьненьні назвалі яго ў першым пункце «часовым» (с. 153). Тымчасам іхны крок ня ёсьць чымсьці часовым, але поўнаю ліквідацыяю важных здабыткаў на рэлігійным по-

лі і пры тым ліквідацыяю на карысьць варожае для беларусаў установы і да таго ліквідацыяю ў той час, калі для беларускага вызвольнага руху кожная незалежная ўстанова ёсьць паважным крокам да асягненьня свае мэты. Нябось беларусы каталікі, якім Касяк толькі закідае, не зважаючы на сваю невялікую колькасьць нічуць ня зьменшылі сваіх асягненьняў, але яшчэ пабольшылі.

У пункце «б» кажацца, што крок япіскапаў быў выкліканы «патрэбай узмацненьня чыста рэлігійнай працы». Тымчасам практыка паказвае, што сталася наадварот. Усякая беларуская рэлігійная праца ў лоне Рас. Заруб. Царквы сталася немагчымаю. Горш таго: пад пратэктаратам быўшых ерархаў зьявіліся агідныя супрацьбеларускія мапфлеты.

Пункт «в» кажа, што крок ерархаў быў абумоўлены «патрэбай свайго кананічнага афармленьня». Такое цьверджаньне штонайменш недарэчнае, бо самая-ж Рас. Заруб. Царква міма ўсіх стараньняў да гэтага часу ня толькі што кананічна не афармлена, але ад 1934 г. ўся яе ерархія падлягае царкоўнаму суду і знайходзіцца ў стане запрэту. У 1945 г. Маскоўскі Патрыярх паноўна прыпомніў аб гэтай кары. Трэба ведаць, што зарубежныя ерархі прызнаюць сваю лучнасьць з Маскоўскім Патрыярхатам і зусім афіцыяльна адказваючы патрыярху на пагрозы, пісалі 3.V.1946 р., што яны ніколі не разрывалі кананічнае лучнасьці з патрыярхатам. Ды гэта відаць і з іхняе практыкі: яны прызнаюць ня толькі важнасьць хіратоніяў дакананых савецкім патрыярхам ў Маскве (арх. Бэнэдыкт Бапкоўскі і яп. Панцейлейман Рудык у 1941 г.), але так-жа і важнасьць кананічных актаў гэтага патрыярха (мітр. Панцялейман прыняў назначэньне і адкліканьне на становішча экзарха Маскоўскага Патрыярха). Вось-жа калі тыя акты для іх ёсьць важныя, дык важныя і кары, выданыя тою-ж самаю ўстановаю ў Маскве. Гэткім чынам быўшыя беларускія праваслаўныя ерархі, уліўшыся ў Зарубежную Царкву, замест кананічнага афармленьня знайшліся ў стане царкоўных караў, у запрэце.

У пункце «г» кажацца: «патрэбай уваходу ў малітаўнае абшчэньне з усім праваслаўным сьветам» (с. 153). Зразумела, што гэткая патрэба сапраўды неабходная, але з гэтага гледзішча Зарубежная Царква знайходзіцца ў шмат горшым палажэньні чым БАПЦ. Як адносіцца Бізантыйскі Патрыярх да Зарубежнае Царквы відаць з таго, што ён мае свой экзархат для расейцаў у Зах. Эўропе, а Ерузалімскі і Александрыйскі Патрыярхі выразна забаранілі свайму духавенству ўсякую лучнасьць з расейскімі зарубежнымі ерархамі і духавенствам. Ерузалімскі Патрыяхр пайшоў нават так далёка, што не дазваляе зарубежным ерархам служыць у Ерузаліме на сьвятых мейсцах.

Пункт «д» гэта проста дэмагогія разьлічаная на наіўных. У ім кажацца: «патрэбай уваходу ў склад тэй праваслаўнай царквы, на тэрыторыі якое япіскапы апынуліся». Але ці-ж у 1946 г. Зарубежная Царква мела выключнае права над праваслаўнымі вернікамі ў Нямеччыне?! Дык-жа для ўсяе Заходняе Эўропы Бізантыйскі Патрыярх мае свой экзархат і пры тым Белар. Царква лічыць што не Маскоўскі Патрыярхат але Бізантыйскі Патрыярхат ёсьць яе Царквою маткаю. Выходзіць, што ерархі сьведама абмінулі Цакрву-матку і пайшлі да прыблуды.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што цяпер ўсе вышэйпералічаныя матывы дарэшты страцілі сваю вартасьць, аднак ніводзін былы беларускі праваслаўны ерарх не зьмяніў свайго становішча.

Уканцы Касяк гаворыць аб тым, як ён з Ю. Сабалейскім перадаў ліст адносна сабору ў Менску з 1942 г. экзарху Бізантыйскага Патрыярха і з гэтаю падзеяю зьвязвае зьяўленьне закліку савецкага менскага арх. Піцірыма да беларускае эміграцыі (с. 166-167). Тут ужо засьляпленьне Касяка мяжуецца з хвараблівою заразумеласьцю. Да таго закліку бальшавікі падрыхтоўваліся ўжо ад 5. VII. 1953 г., ладзячы ў Менску ўрачыстую хіратонію з нячуванымі да гэтага часу ў бальшавіцкім асяродзьдзі патрыятычнымі прамовамі, а ліст Касяк перадаў толькі 14. IX. 1953 г. Ды ў закліку Піцірым нападае на БАПЦ, якая існуе і дзейнічае на эміграцыі, а не на нейкія камбінацыі Касяка. Заклік зьявіўся 5-XII, і бадай што да гэтага часу арх. Піцірым наагул ня ведаў аб перадачы ліста.

Быўшым праваслаўным ерархам на Беларусі і іхным паводзінам на эміграцыі Касяк прысьвяціў амаль палавіну свае кнігі, спачатку прадстаўляючы іх як адзіную сапраўды беларускую ерархію, а потым безнадзейна дыспутуючы з яп. Апанасам, пасьля дакананага факту зрады. Відаць, што ад імя гэтае зрады нападаў Касяк на каталікаў, мяшаў з балотам усё і ўсіх, хто ня йшоў з ім у сьляпы завулак нацыянальнага і рэлігійнага аганьбленьня.

Характэрна, што кніга Касяка выйшла ў выданьні Беларускае Цэнтральнае Рады. Усё-ж якні-як гэта беларуская ўстанова, якая мае немалыя прэтэнзіі і ўмяшала сябе ў гэткую ганебную пісаніну. З дзейнасьці пазнаецца і самую ўстанову: «Бо ўсякае дрэва пазнаецца на плодзе яго» (Лук. VI, 44).

**а. Л. Гарошка**

---

## ПОШУКІ

Праз Міжнародны Чырвоны Крыж родныя і сваякі шукаюць **Івана Туеўскага** нар. 1897 г. у Полацку, ягоную жонку **Порыну** і іхных чатырох дачок. Весткі просіцца слаць у Deutsches Rote Kreuz, Suchdinst. Blomkamp 51, Hamburg, Allemagne.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur: Abbé L. Horoseo.

# Абразкі з жыцьця

## ЗАЗДРАСЬЦЬ САМА СЯБЕ КАРАЕ

Калісь на аднэй старой вежы ў Мінстэры быў надзвычайна мастацкі гадзіньнік. Аб ім у горадзе быў цікавы пераказ. Калішнія валадары гораду, якія замовілі той гадзіньнік у найлепшага майстра, калі аглянулі гэты мастацкі твор, дык былі так захопленыя ягоным высокім мастацтвам і красою, што не хацелі, каб другі горад у сьвеце мог мець штосьці падобнае і таму пастанавілі асьляпіць майстра, які зрабіў той гадзіньнік. Перад асьляпленьнем майстар выпрасіў у валадароў дазвол глянуць на свой твор і разьвітацца з ім. Атрымаўшы дазвол, ён узыйшоў на вежу, пабыў там хвіліну, вярнуўся ў ніз, дзе яго адразу асьляпілі. Але па некаторым часе гадзіньнік стаў, бо майстар яму штосьці зрабіў. Валадары шукалі новага майстра, які мог-бы паправіць той мастацкі твор, але такога не знайшлося. Так праз заздрасьць зьнішчылі вялікага майстра і ягоны твор.

## ШАХМАТЫ НАВУЧЫЛІ

Старая легэнда кажа, што калісьці ў Вялікай Рымскай Імпэрыі быў якісьці валадар, што любіў іграць у шахматы. Аднойчы, пасьля сканчэньня ігры, ён глядзеў, як слуга паськідаў у каштоўную скрыначку ўсе шахматныя фігуры і фігура караля ляжала ў бязладзьдзі разам з пешкамі. І вось прыйшла думка валадару, што па сьмерці асобы ўсіх валадароў і імпэратараў кідаюцца ў зямлю нароўні з іншымі людзьмі падобна, як шахматныя фігуры ў скрыначку. Ён кінуў свой пасад і рэшту сваіх дзён правёў так, каб надаць унутранны сэнс і вартасьць жыцьцю.

## ПРЫПОВЕСЬЦЬ АБ ЗВОДНЫХ НАЗОВАХ

Аднойчы чотр перапрануўся за крамніка, набраў каштоўнае вопраткі і розных дарагіх аздобаў, прыўшоў на кірмаш, выставіў свой крам і крычыць: Хто хоча купіць ганарлівасьць?! У мяне яе можна дастаць па таннай цане». Людзі прайходзілі міма, ківаючы галовамі і заўважваючы: «Сьцеражы нас Божа, каб грэх купляць». Але вось падыйшла да чорта старая баба і кажа: «Ты, дурны чорце, хто-ж гэта называе дрэныя рэчы іхнымі імёнамі!? Ці-ж ня можна сказаць, што прадаеш прыгажосьць і чыстасьць, тады адразу купцы знойдуцца». Чорт паслухаў бабінае рады і адразу каля яго знайшлася цэлая грамада купцоў і за пару гадзін распрадаў усе свае тавары.

## ЛАГОДНАЯ І НЕПАХІСНАЯ АБАРОНА

Як толькі стаў вольным біскупскі пасад у Пуатье, графіня Н. прыбочная дама францускае каралевы Ганны Аўстрыйскае, захацела прыдбаць яго для свайго сына сьвятара-п'яніцы і распусьніка. Нічога ня кажучы каралеве аб паводзінах свайго сына, графіня выпрасіла ў яе абяцаньне назначыць сына біскупам у Пуатье. Гэта быў час, калі да духоўнае рады францускага караля належаў сьв. Вінцэсь з Паўлё (1581-1660) і яму было даручана напісаць намінацыйную грамату для кандыдата на біскупа. Сьв. Вінцэсь вёдаў добра нягодныя паводзіны таго кандыдата і выказаў ясна сваю думку каралеве. Каралева адразу адклікала сваю абяцанку і даручыла сьв. Вінцэсю паведаміць аб гэтым графіню Н. ды перараканаць яе, каб больш не зьвярталася да каралевы з падобнымі просьбамі. Сьв. Вінцэсь у таварыстве свайго паслушніка неадкладна паехаў да графіні. Калі яна замест спадзяванае весткі аб назначэньні свайго сына біскупам з вуснаў сьвятога пачула адмову, дык пачала яго лаяць з апошніх словаў і нарэшце ў прыступе лютасьці ўхапіла табурэцік і шпурніла яго ў галаву сьв. Вінцэся. Выйшаў сьв. Вінцэсь ад графіні акрываўлены. Паслушнік, які суправаджаў яго, убачыўшы ў такім стане свайго любімага настаўніка і пасланца каралевы, быў кінуўся ў дзьверы, каб пакараць нягодніцу, але сьвяты затрымаў яго кажучы:

— Вы ня маеце тут нічога да гавораньня, мой браце. Ідзем да сябе. — А выходзячы на вуліцу дадаў. — Дзіўна, як далёка можа йсьці чуласьць маткі ў турботах за сына!

Гэта была ўся помста сьвятога за зьнявагу. Так спаткаліся: сьвяты, які непахісна і бясстрашна бараніў годнасьць каталіцкага біскупства і разбэшчаная графіня, якая за ўсякую цану жадала толькі дачаснае славы і пачасьцяў для сябе і для свайго нягоднага сына. Перамога была на баку сьвятога.

## НАСЬМЯЯЎСЯ

У вагоне побач сьвятара сядзеў вольнадумец. Калі сьвятар пачаў адмаўляць свой брэвіяр, вольнадумец захацеў з яго пакпіць.

— Ці вы чулі сяньняшнюю вялікую сэнсацыю? — спытаў ён.

— Не. — Адказаў сьвятар. — Я яшчэ сёньня ня чытаў газэты.

— Як, вы асьвечаны чалавек і гэтага ня чулі? Гэта-ж учора ў Порто Алегрэ д'ябал памёр.

— А-а, вось як — усьміхнуўся сьвятар і пры гэтым ён выцягнуў свой партманэт, дастаў адтуль некалькі манэтаў і зьвярнуўся да субяседніка: — Хоць вы і ў старэйшым веку, але ўсё-ж цяпер вы асталіся сіратою, калі памёр ваш бацька ў Алегрэ. Я заўсёды бедным сіратам вельмі спачуваю, дык вось маеце невялікую запамогу.

# ЗЬМЕСТ